# HOMO HISTORICUS 2024

## The Annual of Antropological History

Edited by Aliaksandr Smalianchuk
Doctor in History

Warsaw
Polackija labirynty
2024

УДК 572+94(476)



Выдаецца пры падтрымцы
*Orsa-Romano Cultural and Educational Foundation Inc.*

**Homo Historicus 2024.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / Пад рэд. д-ра гіст. н. А. Смаленчука. — Варшава : Полацкія лабірынты, 2024. — 328 с.

Homo Historicus 2024 (том 8) працягвае традыцыі папярэдніх тамоў гадавіка з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Апублікаваныя тэксты датычаць суадносін біяграфіі навукі з біяграфіяй навукоўца, асвятляюць важныя старонкі айчыннай гісторыі XII–XX ст., працягваюць вывучэнне праблематыкі краёвай ідэі ды інш. Сярод аўтараў – вядомыя даследчыкі з Беларусі і Польшчы.

**УДК** 572+94(476)

ISSN 2424-5216

# ЗМЕСТ

## НАВУКОВАЕ ЖЫЦЦЁ
## SCIENTIFIC LIFE

### Рэцэнзіі
### Reviews



### Анатацыі
### Annotations

ISSN 2424-5216

# ПРАДМОВА

У 1891 г. паэт Мацей Бурачок задаўся пытаннем месцазнаходжання Беларусі і сам на яго адказаў: Беларусь там, дзе гучыць беларуская мова. Праз трэць стагоддзя Аркадзь Смоліч на беларускай канферэнцыі ў Берліне пераконваў прысутных, што Беларусь там, дзе савецкая ўлада. Тыя, што паверылі і перабраліся ў БССР, пазней загінуць ад катаванняў у турмах НКУС, ад кулі ў Курапатах ці ад голаду і знясілення ў сталінскіх лагерах. Роўна праз сто год пасля Мацея Бурачка беларускія школьнікі на мапе свету ўжо паказвалі дзяржаўныя межы Рэспублікі Беларусь, але праз пэўны час высветлілася, што і гэтая дзяржава не стала домам для беларусаў. Рыхтуючы гэты том гадавіка, падумаў пра актуальнасць даўняга адказу паэта. Мы і сёння можам казаць, што Беларусь там, дзе гучыць беларускае слова, дзе развіваюцца літаратура і мастацтва, музыка і архітэктура, дзе беларускія гісторыкі захоўваюць памяць пра мінулае, філолагі – чысціню і багацце роднай мовы, а этнолагі і этнографы – скарбы народнай культуры. Беларусь там, дзе жыве яе культура.

Чарговы восьмы том гадавіка антрапалагічнай гісторыі *Homo Historicus* пазнаёміць чытача з унікальным помнікам эпіграфікі часоў Полацкага княства «Давыдавым каменем» XII ст. У. Шыпіла распавядае пра арганізацыю дапамогі галадаючым сялянам Магілёўскай і Віцебскай губ. на пачатку XIX ст. У. Іваноў, працягваючы ўжо традыцыйную для часопіса праблематыку краёвай ідэі, прасочвае ідэйны і творчы шлях Алены Цэпрынскай (1880–1930?). Праблематыку краёвасці працягваюць успаміны вядомага беларускага і польскага палітыка і краёўца Рамана Скірмунта пра стрыечную сястру Канстанцыю Скірмунт. Я. Гардзееў аналізуе беларускую праблематыку ў тэкстах польскага гісторыка і палітолага Віктара Сукенніцкага (1901–1983), які ў пасляваенны час быў адным з аўтараў легендарнага польскага часопіса «Культура» (рэдактар Ежы Гедройц). Тэма польскай «Культуры» закранаецца таксама ў раздзеле *Незаваўжныя юбілеі*. Рэдакцыя лічыць важным прыгадаць 25-годдзе выдання беларускай «Культуры» ў фармаце часопіса «Фрагмэнты» (1998, № 2–3, рэдактар Ігар Бабкоў). У тым самым нумары «Культуры»=«Фрагментаў» друкавалася *Беларуская дэклярацыя свабоды*, у якой група беларускіх інтэлектуалаў заявіла пра свой выбар на карысць: *вольнага мысьленьня; інтэлектуальнага й культурнага нон-канфармізму; абароны асноўных каштоўнасьцяў эўрапейскай культуры й цывілізацыі зь іхным вызначальным пасланьнем: СВАБОДА*. Тамсама публікуецца інтэрв'ю з вядомым перакладчыкам і публіцыстам Лявонам Баршчэўскім з нагоды 40-годдзя публікацыі яго першага перакладу і ўспаміны сяброў і калегаў гісторыка Юрыя Туронка (1929–2019).

У рубрыцы *Біяграфія навукі і навукоўца* змешчаны інтэрв'ю з вядомымі гісторыкамі Аляксандрам Краўцэвічам, Нінай Стужынскай, Алегам Латышонкам і Леанідам Смілавіцкім. Стрыжнёвай тэмай гэтых «гісторый гісторыкаў» з'яўляецца пачатак іх навуковага шляху. Інтэрв'ю дапаўняе артыкул Л. Смілавіцкага, прысвечаны постаці даследчыка Афраіма Карпачова (1914–1988). Рубрыка *Гарадзенскі сшытак* утрымлівае артыкул А. Чарнякевіча і І. Соркінай, прысвечаны гісторыі палаца і сядзібы Станіслававa караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У раздзеле *Навуковае жыццё* публікуюцца анатацыі на кніжныя навінкі, рэцэнзіі, а таксама інфармацыя пра падзеі навуковага жыцця.

Вяртаючыся да адказу на першапачатковае пытанне, хачу дадаць, што не можа быць культуры без свабоды. Выбар СВАБОДЫ, пра які ў 1998 г. заявілі беларускія інтэлектуалы, з'яўляецца адзінай магчымай пазіцыяй для людзей навукі, мастацтва і культуры, чыімі намаганнямі жыве і будуецца Беларусь.

Аляксандр Смалянчук

ISSN 2424-5216

# ДАСЛЕДАВАННІ
# STUDIES

## ДАВЫДАЎ КАМЕНЬ XII ст. З ВЁСКІ КАМЕНА ВІЛЕЙСКАГА РАЁНА І ЯГО СУВЯЗЬ З БАРЫСАВЫМІ КАМЯНЯМІ

***Дзмітрый Віцько,***
*кандыдат гіст. навук (Менск)*

***Summary***

*The article considers an epigraphy monument of the 12th century, the princely stone with a cross and inscriptions carved in it, which is located near the bank of the river Viliya in the village of Kamyena, Vilyeyka District, Minsk region. The inscriptions on it haven't been read completely for a long time and therefore nothing specific has been known about the origins of the monument. As a result of the research, the author found out that the inscription on the backside of the stone contains a request for God's help on behalf of Davyd, who should be understood as Izyaslawl and later Polatsk prince Davyd Usyaslavich. The inscription on its front from both sides of the cross can be interpreted in two ways: either as Varatisha cross, it means the cross carved by Varatisha (Varatislau), or as a request to the cross ("Return us, the cross»). Both opinions were expressed in general terms by Yeudakim Ramanau more than one hundred years ago and it's currently difficult to make a choice between them. Moreover, two more inscriptions were revealed: NHKA on the left of the cross (which duplicates a similar inscription above) and another inscription on the back which can be interpreted as a date (6609 Anno Mundi). A similar inscription was revealed by the author on one of the Boris stones which had been lying in the river Dzvina and now is disposed in Moscow. It is therefore assumed that both stones were carved in 1101 during the military campaign of Polatsk princes against the Baltic tribes supposedly against the Semigallians. The appearance of the other Boris stones located along the Dzvina should be associated with the same campaign or the series of campaigns in that time.*

Камяні з надпісамі XII ст., шэраг якіх вядомы ў Паўночнай Беларусі, з'яўляюцца без перабольшання ўнікальнымі помнікамі эпіграфікі часоў Полацкага княства. Сёння яны ўсё яшчэ застаюцца недастаткова вывучанымі. Няма пэўнасці наконт мэты іх стварэння, надпісы на іх расчытаныя не цалкам. Большасць з гэтых камянёў вядомая пад назвай Барысавых, паколькі звязваецца даследчыкамі з асобай полацкага князя Барыса Усяславіча, чыё імя на іх выбіта. Да іх звычайна адносяць і камень з надпісам у вярхоўях р. Вілія, у в. Камена Вілейскага раёна – на падставе тыповай для Барысавых камянёў формулы з просьбай да Бога пра дапамогу, якая, аднак, не была расчытаная поўнасцю[1]. Першым, хто паведаміў пра існаванне гэтага каменя, быў граф Канстанцін Тышкевіч, водная частка экспедыцыі якога па Віліі ў 1857 г. пачыналася ад моста праз раку ў гэтым месцы. Тышкевіч вымераў камень і адзначыў выбіты на ім шасціканцовы крыж[2]. У публікацыі, дзе паведамлялася пра існаванне каменя, пра надпіс на ім нічога не сказана[3]. Таксама не гаворыцца пра гэта ў апісанні падарожжа па Віліі, якое выйшла ўжо пасля смерці графа[4].



*Мал. 1. Выява каменя з кнігі К. Тышкевіча (1867)*

---

[1] Пра Барысавы камяні гл.: А. Сапунов, *Двинские или Борисовы камни,* Витебск 1890; В. П. Таранович, *К вопросу о древних лапидарных памятниках с историческими надписями на территории Белорусской ССР,* «Советская археология», т. VIII, Москва 1946, с. 249–260; А. С. Орлов, *Библиография русских надписей XI–XV вв.,* Москва–Ленинград 1952, с. 53–58, 79, 224; Б. А. Рыбаков, *Русские датированные надписи XI–XIV веков,* Москва 1964, с. 26–27; Л. У. Дучыц, *Барысавы камяні (гістарыяграфічны агляд),* «Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук», 1985, № 4, с. 69–73; І. Л. Калечыц, *Эпіграфіка Беларусі X–XIV стст.,* Мінск 2011, с. 30–35.

[2] K. Tyszkiewicz, *Wilija i jej brzegi: pod względem hydrograficznym, historycznym, archeologicznym i etnograficznym,* Drezno 1871, s. 32–33.

[3] К. П. Тышкевич, *О древних камнях – памятниках Западной Руси и Подляхии,* «Древности. Археологический вестник, издаваемый Московским археологическим обществом», т. 1, Москва 1867, июль–август, с. 159, 192.

[4] K. Tyszkiewicz, *Wilija i jej brzegi...,* s. 32–33.

Наступным, хто даследаваў камень, быў Аляксей Сапуноў, які пабываў там у канцы XIX ст. Ён расчытаў надпіс абапал крыжа, як «І҃С Х҃С НИКА ВОРОТИШИ ХР҃Ь СТ҃Ъ». Акрамя таго, адзначыў, што вакол каменя таксама ідзе надпіс, які ён прызнаў больш чым напалову знішчаным (зробленую ім прамалёўку гл. на мал. 2). Ад другога надпісу ён змог разабраць толькі асобныя літары, якія пералічвае наступным чынам: Н В Н О М Ъ Б Ѹ У… Тым не менш, зыходзячы з атрыманых дадзеных, А. Сапуновым была зроблена наступная высноva: «Як форма крыжа, так і характар літар і надпісу абсалютна такія ж, як і на іншых Барысавых камянях, а таму няма ніякага сумнення, что высяканне крыжа і надпісу на гэтым камені трэба аднесці да пачатку XII стагоддзя, г. зн. да часу полацкага князя Барыса, які памёр у 1128 г.»[1]







Мал. 2. *Прамалёўка крыжа і надпісаў на пярэднім і адваротным баках каменя, зробленая А. Сапуновым*

Пасля Сапунова камень у в. Камена даследаваў таксама іншы знаўца старажытных помнікаў – Еўдакім Раманаў. Даследчык падрабязна яго апісаў, прамаляваў надпісы і сфатаграфаваў камень з абодвух бакоў (магчыма прамаляваў па фотаздымках – пра тэхніку тут дакладна сказаць цяжка, *гл. мал.* 3, 4). На падставе гэтага ён прапанаваў свой варыянт прачытання, заклікааны дапоўніць дадзеныя папярэдніка (Сапунова).



*Мал. 3. Камень на фотаздымку 1910 г. Прамалёўка крыжа і надпісаў на пярэднім баку, зробленая Е. Раманавым*

[1] А. Сапунов, В. Друцкий-Любецкий, *Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии,* Витебск 1896, с. 195–197.



*Мал. 4. Камень на фотаздымку 1910 г. Прамалёўка надпісу на адваротным баку, зробленая Е. Раманавым*

Паводле Раманава, надпісы мусілі чытацца наступным чынам:

| ***Пн-Усх*** | | ***Пн*** | ***Пн-Зах*** | ***Зах*** | ***Пд-Зах*** |
|---|---|---|---|---|---|
| ІС (пад цітлам) | ХС (пад цітлам) | | | | |
| NИ | КА | | | | |
| ВОРО | ТИШИ | NЪ | ГИ ПО | | БОІ СВ О У |
| ХРЪ | СТЪ | | | *штрыхі* | |

Супаставіўшы варыянты двух даследчыкаў, бачым, што Раманаў заўважна прасунуўся ў расчытанні надпісу, дадаўшы да прамалёўкі свайго папярэдніка толькі літару Ъ на канцы слова «ВОРОТИШИNЪ». Па малюнку і расшыфроўцы Сапунова бачна, што той зразумеў яе як В, што не дазволіла яму прачытаць канчатак і слова ў цэлым, а таксама правільна аддзяліць яго ад надпісу на адвароце. Аднак цікава іншае: Сапуноў заўважыў частку надпісу на адвароце, ніжэй пад радком, якую пазней не заўважыў Раманаў, а менавіта літары і групы літар, якія можна зразумець як «М», «МЪ», «(Ч?)ОІ».

З раскрыццём скарачэнняў Раманаў выказаў два меркаванні, як можна зразумець надпіс. Асноўную цяжкасць выклікала прачытанне і разуменне слова ў трэцім радку з пярэдняга (паўночна-ўсходняга) боку. Паводле першага выказанага ім варыянту, надпіс павінен чытацца наступным чынам: «ІИС8СЪ ХРИСТОСЪ NИКА, ВОРОТИШИNЪ. ХРИСТОСЪ (або КРЕСТЪ) СВѦТЪ. ГОСПОДИ, ПО(МОЗИ РА)БЮ СВО...8». У гэтым выпадку, паводле Раманава, крыж і надпіс былі высечаны Вароцьшам або Варацішам, у сувязі з чым помнік названы «Воротишинъ». Паводле другой версіі ён дапускаў, што ў канцы слова мог знаходзіцца яшчэ «тонкі штрых», які потым згладзіўся, і тады надпіс трэба чытаць як «Воротиши ны». У гэтым выпадку Раманаў дапускаў, што «крыж высечаны падчас далёкага і цяжкага паходу», а надпіс трэба разумець як малітву: «(...) ВОРОТИШИ NЫ, ХРИСТОСЪ СВѦТЪ. ГОСПОДИ, ПО(МОЗИ РА)БЮ СВО(ЄМ)8»[1]. Разуменне надпісу ў апошнім радку з пярэ-

[1] Е. Р. Романов, *Древние ляпидарные памятники Западно-Русского края. Вилейский камень,* «Записки Северо-Западного отделения императорского Русского географического общества», кн. 2, Вильно 1911, с. 59–64. У адпаведнасці з тагачаснымі правіламі

дняга боку ў Раманава небездакорнае. Такія скарачэнні (тыпу «ХРИСТОСЪ» як ХРЪ) не зусім тыповыя, ды і нейкія цітлы ці вынасныя элементы тут адсутнічаюць. Што тычыцца Сапунова, то ён не патлумачыў, як разумее гэты радок, але яго перадача – асобна і пад цітламі («ХР҃Ь СТ҃Ъ») – у адрозненне ад іншых разарваных слоў, перададзеных ім злучна, сведчыць, што ён таксама бачыў тут два словы. Аднак з аглядкай на тое, што ў трох першых радках знаходзяцца словы, падзеленыя вертыкальнай лініяй крыжа напалам, можна дапусціць тое самае і ў апошнім радку. Лагічна меркаваць, што ў чацвёртым радку выбіта адно слова – «ХРЪСТЪ», якое абазначае крыж (хрэст). Менавіта так і зразумеў яго Яўхім Карскі[1].

Карскі ў сваім водгуку на артыкул Раманава адзначае, што напісанне перавернутага Ю характэрна больш для паўднёваславянскага пісьменства (а канкрэтна перавернутага Ю на месцы Оу – для сербскага). Аднак ён усё ж сумняваецца, што тут выбіта перавернутае Ю, і дапускае, што гэта «пацярпелае» Оу. Падагульняючы, даследчык усё ж прызнае для надпісаў на камені выразны паўднёваславянскі ўплыў. Па асаблівасцях напісання (И як Н, Ъ у слове «ХРЪСТЪ», магчымае Ю замест Оу) ён аднёс надпіс да XI–XII ст.[2] Карскі не абследаваў помнік самастойна, а карыстаўся прамалёўкамі Раманава і Сапунова; яго заўвагі – гэта каментар філолага. Можна толькі здзіўляцца, што пасля Раманава на працягу больш як ста гадоў не было спробаў расчытання надпісаў на камені спецыялістамі па эпіграфіцы і палеаграфіі, ва ўсялякім разе, звесткі пра гэта адсутнічаюць.

Камень, пра які размова, знаходзіцца ў паўночнай частцы в. Камена, за 90 м ад правага берага р. Вілія. Ён мае звонападобную форму. Вышыня яго 1,9 м, акружнасць 10,8 м. Вышыня выбітага на ім крыжа 1,72 м, шырыня верхняй перакладзіны 0,43 м, ніжняй 0,61 м[3]. На самым версе каменя знаходзяцца чатыры лункі living рознай глыбіні: дзве глыбейшыя і дзве меншыя. Раней адзначаліся

---

расійскай мовы, Раманаў падае сам надпіс малымі літарамі, а пачаткі слоў – вялікімі, што нехарактэрна для надпісу і наогул для часу яго выканання. Таксама ён раскрывае скарачэнні без пазначэння і расстаўляе знакі прыпынку. У круглых дужках у яго – фрагменты, рэканструяваныя па сэнсу. Пры перадачы яго варыянту ўсе малыя літары зноў заменены на вялікія.

1 Е. Ф. Карский, *Отзыв на оттиск раздела «К археологии Северо-Западного края России» [статьи:* Е. Р. Романов, *Древние ляпидарные памятники Западно-Русского края. Вилейский камень;* его же, *По Гродненскому Полесью (из записной книжки археолога)],* «Русский филологический вестник», 1913, № 1 (т. LXIX, вып. 1), с. 255–256.

2 Тамсама; параўн. таксама: Е. Ф. Карский, *Славянская кирилловская палеография,* Москва 1979, с. 205–206 (паходжанне помнікаў з адваротным «Ю»).

3 Л. У. Дучыц, Я. Г. Звяруга, *Варацішын камень* [у:] *Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыклапедыя,* Мінск 1993, с. 113–114.

толькі дзве (глыбейшыя), дыяметрам да 5 см і глыбінёй да 3 см[1]. Паходжанне іх невядомае. Камень абследаваўся намі ў кастрычніку 2022 г. Прыведзены вышэй надпіс з паўночна-ўсходняга боку чытаецца добра, можна толькі ўдакладніць некаторыя дэталі. З іншых бакоў камень месцамі пакрыты лішайнікамі, што часткова ўскладняе пошукі і прачытанне тэксту, аднак усё ж, падаецца, увесь асноўны тэкст быў выяўлены. Найлепей надпісы выяўляюцца навобмацак. Такі кантакт дапамагае адрозніць нават неглыбокія высечаныя раўчукі правільнай формы ад выпадковых паглыбленняў прыроднага рэльефу паверхні. Пасля гэтага выяўленыя знакі ці іх элементы прамалёўваліся крэйдай. Гэта дазваляе візуальна адштурхоўвацца ад ужо знойдзеных літар у пошуку іншых і дапамагае падбіраць варыянты па сэнсе.



*Мал. 5. Камень у в. Камена.*
*Выгляд з паўночна-заходняга боку.*
*Фота Дз. Віцько (2022)*



*Мал. 6. Камень у в. Камена.*
*Выгляд з паўднёвага боку.*
*Фота Дз. Віцько (2022)*

Увесь надпіс з паўночнага боку (паўночна-ўсходняга з заходам на паўночны і паўночна-заходні) выбіты выразна і глыбока. Ніякага «тонкага штрыха» ў канцы слова ў трэцім радку пасля літары Ъ няма, і наўрад ці ён мог там згладзіцца. Хаця, канешне, нельга выключаць магчымасць пэўнага адхілення пры перадачы на пісьме (Ъ на месцы ЪІ)[2], памылкі ці таго, што літара не была выбіта цалкам. Аднак сама форма «ВОРОТИШИ NЪІ» граматычна неадназначная. Для дзеяслова закончанага трывання гэта або прэзанс у значэнні будучага часу (што можна перакласці як «вернеш нас, хрэст»), або давялося б дапусціць, што гэта пажадальны лад, але ў пачатку адсутнічае часціца «да». Цяжка сказаць, ці магло так стацца.

---

1 А. К. Карабанаў, В. Ф. Вінакураў, Л. У. Дучыц, А. П. Зайцаў, І. Я. Клімковіч, *Культавыя і гістарычныя валуны Беларусі,* 3-е выд., Мінск 2023, с. 221.

2 Такая з'ява сапраўды сустракаецца, гл.: В. Л. Янин, А. А. Зализняк, *Новгородские грамоты на бересте (из раскопок 1977–1983 гг.). Комментарии и словоуказатель к берестяным грамотам (из раскопок 1951–1983 гг.),* Москва 1986, с. 110.



*Мал. 7. Надпіс на камені, прамаляваны крэйдай. Выгляд з паўночна-ўсходняга боку. Фота Дз. Віцько (2022)*



*Мал. 8. Надпіс з паўночна-ўсходняга боку (тут і далей прамалёўка наша. – Дз. В.)*



*Мал. 9. Надпіс на камені, прамаляваны крэйдай. Выгляд з паўночна-заходняга боку. Фота Дз. Віцько (2022)*



*Мал. 10. Надпіс з паўночна-заходняга боку*



*Мал. 11. Надпіс з паўночна-заходняга боку, прамаляваны крэйдай (фрагмент-1). Фота Дз. Віцько (2022)*



*Мал. 12. Надпіс з паўночна-заходняга боку (фрагмент-1)*



*Мал. 13. Надпіс з усходняга боку, прамаляваны крэйдай. Фота Дз. Віцько (2022)*



*Мал. 14. Надпіс з усходняга боку*



*Мал. 15. Надпіс з заходняга боку, прамаляваны крэйдай. Фота Дз. Віцько (2022)*



*Мал. 16. Надпіс з заходняга боку*



*Мал. 17. Надпіс з паўднёвага боку, прамаляваны крэйдай. Фота Дз. Віцько (2022)*



*Мал. 18. Надпіс з паўднёвага боку*



*Мал. 19. Надпіс з паўднёва-заходняга боку, прамаляваны крэйдай (фрагмент). Фота Дз. Віцько (2022)*



*Мал. 20. Надпіс з паўднёва-заходняга боку (фрагмент)*



*Мал. 21. Надпіс з паўночна-заходняга боку, прамаляваны крэйдай (фрагмент-2). Фота Дз. Віцько (2022)*



*Мал. 22. Надпіс з паўночна-заходняга боку (фрагмент-2)*



*Мал. 23. Надпіс з паўднёвага боку, прамаляваны крэйдай (фрагмент). Фота Дз. Віцько (2022)*



*Мал. 24. Надпіс з паўднёвага боку (фрагмент)*

Калі разглядаць «ВОРОТИШИѸЪ» як прыметнік, утвораны ад імя, то першы з прапанаваных Раманавым варыянтаў, хутчэй за ўсё, правільны. Хаця такое імя – Варацiша – у крыніцах невядомае, але цалкам магчыма, што гэта памяншальная форма ад імя Варацiслаў. Сярод вядомых носьбітаў такога імя – баяры і тысяцкія, г. зн. прадстаўнікі вайскова-палітычнай эліты; геаграфія пашырэння – Ноўгарад і паўднёварускія землі, г. зн. можна меркаваць пра ўсю ўсходнеславянскую тэрыторыю[1].

У той жа час можна сумнявацца ў прачытанні тут літары Ш: хаця Раманаў прамаляваў яе вельмі выразна, у сапраўднасці там адсутнічае правая ніжняя папярэчка, пасярэдзіне прысутнічае невялікі хвосцік і правая мачта выбіта не цалкам (*гл. мал.* 11–12). Бліжэй за ўсё гэта нагадвае спалучэнне «ЦІ». Але цяжкасці з інтэрпрэтацыяй слова ў такім выпадку наводзяць на думку, што гэта можа быць і літара Щ у яе звычайным у той час напісанні (з хвосцікам пасярэдзіне). Можна заўважыць, што яна цалкам упісана ў радок (аснова вышэй за ніжні край)[2]. У такім выпадку гэтае слова чыталася б сёння як «Варацішчын» (а зыходнае імя тады было б «Варацішча»). Зрэшты, у старажытнарускім варыянце з такім кароткім хвосцікам пісалася і Ш (прычым з асновай, прыпаднятай над ніжнім краем радка), а Щ часта ўжывалася з доўгім хвастом, які выходзіў за радок. У нашым варыянце напісанне гэтых дзвюх літар збліжаецца, і ўпэўнена сказаць, якая з іх выбіта, складана[3]. Магчымасць інтэрпрэтацыі імя як памяншальнага кажа, хутчэй, на карысць першай версіі. Пытанні выклікаюць таксама шматлікія неглыбока выбітыя закругленні побач з літарамі. Прынамсі частку з іх (напрыклад, каля літар Р і И) адназначна трэба разумець як дэкаратыўныя элементы. Аднак іх шчыльнасць далей прымушае задумацца, ці не магла тут быць нейкая вязь (а таксама ўверсе, магчыма, абрысы надрадковага знака). Але паколькі перабор варыянтаў нічога не дае, варта

---

1 Гл.: Н. М. Тупиков, *Словарь древнерусских личных собственных имен,* Санкт-Петербург 1903, с. 96, 509 (прыведзены чатыры прыклады з розных зямель); *Галицко-Волынская летопись: текст, комментарий, исследование,* под ред. Н. Ф. Котляра, Санкт-Петербург 2005, с. 82, 95. Пра памяншальныя формы на -ша (тыпу Святаслаў – Святоша) гл.: А. Ф. Литвина, Ф. Б. Успенский, *Выбор имени у русских князей в X–XVI вв.: династическая история сквозь призму антропонимики,* Москва 2006, с. 132–134. Мяркуючы па наўгародскім матэрыяле, такія формы былі даволі распаўсюджаныя, параўн.: Богша, Судзіша, Станіша, Жыроша і інш. (А. А. Зализняк, *Древненовгородский диалект,* 2-е изд., Москва 2004, с. 835–836). У полацкай гісторыі вядомае імя аўтара крыжа Еўфрасінні Полацкай Лазара-Богшы.

2 Параўн., напрыклад, часам у паўднёваславянскіх помніках: Е. Ф. Карский, *Славянская кирилловская палеография,* с. 201–202.

3 Гл.: Высоцкий С. А. *Средневековые надписи Софии Киевской (по материалам граффити XI–XII вв.),* Киев 1976, с. 169–173, 182–183, 233–235.

спыніцца на дэкаратыўных элементах, тым больш, што вязь з'яўляецца толькі ў XIII ст.[1]

Яшчэ адзін кароткі надпіс («NHKA») маецца на бакавой паверхні злева ад асноўнага надпісу з пярэдняга боку. Літара K у ім не выбіта да канца, а літары N і H, як і ў другім радку першага надпісу, выбіты злітна (*гл. мал.* 13–14).

Надпіс на адваротным баку ў першым радку чытаецца цалкам упэўнена, і можна толькі выказаць здзіўленне, што ён не быў расчытаны поўнасцю падчас ранейшых спробаў: ГЙ ПОМОΖИ РАБОI СВОЄ. Канчатак апошняга слова (М0у) пры гэтым перанесены на наступны радок і таксама чытаецца добра.

Пасля гэтага ў другім радку ідзе слова «С8МЪNЄОIЧ{Є}ОI» (*гл. мал.* 19–20). Пры гэтым ёсць розніца ў выкананні літар. Асобныя з іх (С, 8, N, два Є) толькі назначаныя, але не выбітыя на такую глыбіню, як астатнія. Пры гэтым С і 8 прасочваюцца выразна, а N і два Є – схематычна (літара Є на помніку мае рознае напісанне, апошняя блізкая да сучаснага Е, але з нахільнымі папярэчкамі). Частка літар з гэтага слова (МЪ, Ч, ОI) ёсць на прамалёўцы Сапунова. Звяртае на сябе ўвагу, што літара Ч выбіта са зрушэннем управа, не там, дзе была назначана. Канцоўка слова, відаць, «расцягвалася», каб замест назначанага «С8МЪNЄОIЧЄ...» (недапісанае «С8МЪNЄОIЧЄМ8»?) атрымалася «С8МЪNЄОIЧОI». Г. зн., у выніковым варыянце другая Є, толькі назначаная (пададзена вышэй у фігурных дужках), не павінна выступаць – на яе «напаўзае» Ч, перанесенае і выбітае правей, чым планавалася.

Сёння вядомыя сотні старажытнарускіх надпісаў XI–XIII стст. з просьбай да Госпада пра дапамогу. Большасць з іх стандартныя, амаль усюды пасля слова «рабу» ідзе імя таго, хто звяртаецца (часам яшчэ нейкія дапаўненні). Аднак пошукі імя далей ці непасрэдна ўнізе пад гэтымі двума радкамі нічога не далі. Урэшце яно было знойдзена на трэцім радку, але перасунутым бліжэй да пярэдняга боку, верагодна, каб размясціць у больш пачэсным і бачным месцы. Замест чаканага Барыса аказалася, што просьба скіраваная ад Давыда («ДАВЪIД8»). Відавочна, маецца на ўвазе князь Давыд Усяславіч, брат Барыса. Слова выбіта неглыбока. Магчыма, яно было толькі назначана, і яго, як і ў цэлым канцоўку надпісу, не высеклі добра – магчыма, праз недахоп часу. Імя выбіта меншымі літарамі і крыху іншым шрыфтам, чым увесь надпіс. Яно ў большай ступені аздоблена дэкаратыўнымі элементамі (*гл. мал.* 21–22)[2].

---

[1] Гл., напрыклад: А. А. Турилов, *Чара великого князя Владимира Давыдовича – памятник русской культуры XIV столетия* [у:] *Московский Кремль XIV столетия: древние святыни и исторические памятники*, отв. ред.: С. А. Беляев, И. А. Воротникова, Москва 2009, с. 395.

[2] Ніжэй пад словам «С8МЪNЄОIЧОI» можна заўважыць абрысы літары А, выбітай даволі выразна. Верагодна, тут таксама планавалася нешта выбіць (імя князя, якое вырашылі перанесці?).

Перад імем зверху маюцца два невялікія значкі, непадобныя на літары. Можна не сумнявацца, што перад намі асабістыя знакі. Другі знак мае форму, якая нагадвае трызуб[1]. Такі ж знак, выбіты неглыбока, маецца на адным з дзвінскіх камянёў, які сёння знаходзіцца ў музеі-запаведніку «Каломенскае» ў Маскве. Верагодна, аднак, што першы знак – гэта таксама варыянт трызуба, толькі перавернуты. Парныя княжацкія знакі часам сустракаюцца на розных прадметах. Найбліжэйшы прыклад – кісцень XI ст. з раскопак Менска, знакі на якім дакладна не атрыбутаваныя[2]. Вядомыя таксама падвескі давераных прадстаўнікоў князёў кіеўскай дынастыі X–XI стст. з парнымі знакамі на розных баках. Паводле Савы Міхеева, такія пары складалі знакі сына і бацькі. Так, знак Яраслава на адным баку такой падвескі і Уладзіміра на другім адпавядалі імені і імені па-бацьку Яраслава Уладзіміравіча[3]. У дадзеным выпадку, па ана-

Выкарыстанне розных шрыфтоў можа навесці на думку пра розначасовасць надпісаў. Аднак два розныя шрыфты, адзін з якіх дэкаратыўны (хаця іншы, чым тут), ужыты таксама на друйскім Барысавым камені. Па-другое, кампазіцыя «вілейскага» каменя (шасціканцовы крыж / надпіс пра дапамогу з імем) у агульных рысах адпавядае кампазіцыі Барысавых камянёў, адносна якіх такіх сумненняў не ўзнікае. Да таго ж, імя таго, хто звяртаўся, у такіх выпадках указвалася амаль заўсёды, у гэтым і быў сэнс надпісу.

1 Падобны знак з двайным контурам маецца на кісцяні з Берасця, знойдзеным у слоі XIII ст. Гл.: П. Ф. Лысенко, *Берестье,* Минск 1985, с. 219, 283; верагодная прамалёўка: Ш. И. Бектинеев, *Булавы и кистени XI–XIV вв. на территории Беларуси* [у:] *Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі,* пад рэд. В. М. Ляўко, Мінск 1993, с. 100.

2 В. Р. Тарасенко, *Древний Минск* [в:] *Материалы по археологии БССР,* ред.: Е. И. Корнейчик, К. М. Поликарпович, т. 1, Минск 1957, с. 243–245, рис. 45; Э. М. Загорульский, *Возникновение Минска,* Минск 1982, с. 141, рис. 69; С. В. Белецкий, *Знаки Рюриковичей,* ч. I. *X–XI вв.,* Санкт-Петербург 2000, с. 96–101 (*Исследования и музеефикация древностей Северо-Запада,* вып. 2). Думкі наконт прыналежнасці кісцяня маюць гіпатэтычны характар.

3 С. В. Михеев, *Двусторонние подвески со знаками Рюриковичей* [в:] *Единство гуманитарного знания: новый синтез,* [редкол.: М. Ф. Румянцева и др.], Москва 2007, с. 227–230; ён жа, *К проблеме атрибуции знаков Рюриковичей,* «Древняя Русь», 2014, № 4, с. 58 (прим. 45), 59. Аўтар заўважыў, што структурна яны адпавядаюць найбольш распаўсюджанай групе пячатак з двума святымі, дзе на адвароце паказваўся апякун бацькі. Таксама ў якасці магчымай паралелі ім называюцца пломбы – як з двума святымі, так і з двума княжацкімі знакамі, якія маглі ўспрымацца «як перадача імя і імя па-бацьку» (гіпотэза В. Яніна). Што тычыцца падвесак з парнымі знакамі, то не ўсе з іх паддаюцца інтэрпрэтацыі, але таксама не ўсе маюць афіцыйны характар – частка была перайманнямі-ўпрыгожаннямі, гл.: Тамсама; падрабязней: О. Колибенко, О. Колибенко, Д. Тетеря, О. Юрченко, *Підвіска зі знаком Рюриковичів з Переяславщини та деякі роздуми з приводу інтерпретації геральдичних підвісок,* «Наукові записки з української історії», вип. 20, 2008, с. 268–289. Таксама знакі на кісцянях не аба-

логіі, калі першы – гэта знак Давыда, то другім можа быць знак яго бацькі, Усяслава. Такая версія падаецца прыярытэтнай (другі знак тут бліжэйшы да зыходнага трызуба[1]). Хаця магчымыя і іншыя варыянты ды інтэрпрэтацыі – не выклікае толькі сумнення, што адзін з іх належаў Давыду.

Што тычыцца самога надпісу, можна прыгадаць яшчэ раз сумненні Я. Карскага наконт перавернутага Ю. Яно тут ужываецца тры разы. Як заўважаў даследчык, у рускім пісьменстве таго часу яно сустракаецца ў асобных помніках зрэдку[2]. Аднак яго развагі пра паўднёваславянскі ўплыў сёння, хутчэй, ужо неактуальныя. З таго часу быў сабраны вялікі матэрыял, які паказвае, што названыя паўднёва- ці стараславянскія рысы (Ъ на месцы галосных, И як Н) – тыповыя для старажытнарускай пісьменнасці XI–XII стст. Што тычыцца знака ў выглядзе адваротнага Ю – ён таксама часам сустракаецца, хоць і не так часта. У сувязі з гэтым выклікае цікавасць пячатка, якая атрыбутуецца як пячатка ўладзіміра-валынскага і тураўскага князя Яраполка Ізяславіча. У змешчаным на ёй стандартным надпісе з просьбай пра дапамогу падобны знак сустракаецца таксама тройчы (у т. л. у слове «РАБ ОІ»). Паводле М. Ліхачова, гэта злітнае напісанне літары Оу, у якой сумешчаны два элементы (што супадае, увогуле, з першай версіяй Карскага)[3]. Аднак трэба заўважыць, што прынамсі аднойчы ў нашым выпадку ён ужываецца дакладна як Ю (першы раз у слове «С8МЪNЄОІЧ ОІ»), прычым зверху ў яго стаіць, магчыма, дадатковая рыса. Таксама можна звярнуць увагу на літару Ю (неперавернутую) ў слове «РАБЮ» на адным з Барысавых камянёў (1-м, паводле Сапунова, які размяшчаўся бліжэй да Полацка і сёння знаходзіцца ў самім горадзе)[4]. Што было прычынай ужывання гэтага знака і ці не мог ён тут, прынамсі, у некаторых выпадках, азначаць Оу, сказаць цяжка. Аднак гэта не так прынцыпова ў кантэксце вызначэння паходжання аўтара ці крыніцы натхнення пры стварэнні надпісу. Так, на пячатках Уладзіміра Манамаха ў гэты час у такіх жа надпісах з просьбай пра дапамогу прысутнічае моцны разнабой ва ўжыванні літар і графемаў Ю, ОІ, Оу, 8 – яны тут адносна свабодна ўжываліся на месцы адна

вязкова могуць інтэрпрэтавацца такім чынам. Яны маглі абазначаць змену ўласніка, параўн.: С. В. Белецкий, *Знаки Рюриковичей*, ч. I, с. 101–105 (і іншыя яго працы). У нашым выпадку, як і на падвесках і пломбах, размова дакладна ідзе пра знакі, нанесеныя адначасова.

1 Што тычыцца такога знака на камені, вывезеным у Маскву, то можна дапусціць, што гэтым знакам карыстаўся і Барыс, сын Усяслава (пра гэты камень гл. далей).

2 Е. Ф. Карский, *Славянская кирилловская палеография*, с. 206.

3 Н. П. Лихачев, *Материалы для истории византийской и русской сфрагистики*, Ленинград 1928, вып. I, с. 110.

4 А. Сапунов, *Двинские или Борисовы камни*, с. 19.

адной[1]. Вызначэнне таго, што было прычынай гэтай з'явы, выходзіць за рамкі дадзенага даследавання, тут варта толькі звярнуць увагу на яе існаванне і магчымыя паралелі. Верагодна, аднак, тут усюды ўжываецца Ю (люстэркавае), а разнабой ёсць толькі паміж Оу і 8.

Таксама на адваротным баку каменя, пасля другога радка (на паўрадка ніжэй за яго), ідуць сімвалы «ХѲ.*τ.ε.*(...:)» (*гл. мал.* 23–24). Другі знак выбіты менш выразна. Верагодна, апошнія літары суправаджаюцца кропкамі, сэнс якіх не зусім зразумелы. У канцы, магчыма, ішоў яшчэ адзін сімвал і двукроп'е, але сцвярджаць гэта цяжка. Кропкі і двукроп'і ўжываліся для вылучэння лічбаў, але малыя знакі ў канцы надпісу патлумачыць як лічбы складана. Падобны надпіс («ХѲ»), але значна меншых памераў і без дадатковых літар у канцы, выяўлены намі таксама на камені ў музеі-запаведніку «Каломенскае». Наяўнасць у канцы некалькіх знакаў складае праблему. Гэтыя знакі меншых памераў і маюць нахільнае напісанне. Малыя пісаныя літары ў кірыліцы тады не ўжываліся, таму можна дапусціць, што перад намі грэцкія *τ* і *ε*, якія мелі такое напісанне (хаця малыя грэцкія ва ўрачыстых надпісах таксама не ўжываліся, тым не менш, з імі маецца найбольшае падабенства). Пошук сярод тагачасных скарачэнняў дакладных вынікаў не прынёс[2].

Між тым, цітла наводзіць на думку, што гэта можа быць лік (ХѲ – 609), а дакладней – дата. Можна дапусціць, што тут адсутнічае катэгорыя тысяч, пачатковае ҂Ѕ (6000), і, такім чынам, меўся на ўвазе 6609 год ад стварэння свету (умоўна 1101 г., хаця ў залежнасці ад стылю мог быць і папярэдні, і наступны). Пры спробе прывязаць помнік да гістарычных падзей у такім выпадку высвятляецца, што бліжэйшая з іх па часе – паход Барыса на яцвягаў, вядомы з працы Васіля Тацішчава і аднесены ім да 1102 г.[3] Аднак з увагі на ненадзейнасць Тацішчава (пра што ніжэй) гэта застаецца няпэўным. Да таго ж, застаецца пытанне знакаў, якія ідуць далей. Знешне гэта вельмі нагадвае літарны канчатак даты, але прачытанне яго пакуль няяснае.

---

1 Гл.: Н. П. Лихачев, *Материалы для истории…*, вып. I, с. 106–108.

2 Тэарэтычна гэта можна было б інтэрпрэтаваць, напрыклад, як «Х[ριστέ], Θ[εέ]» («Хрысце, Божа») ці «Х[ριστέ], Θ[εο]τ[όκ]ε» («Хрысце, Багародзіца»). Але гэта нетыповыя скарачэнні. Зварот да Багародзіцы («Θεοτόκε») сустракаецца ў візантыйскіх і старажытнарускіх помніках, дзе ў грэцкім аналагу вядомай формулы «Κύριε βοηθεῖ τῷ σῷ δούλῳ» («Господи, помози раб8 своєм8») стаіць замест «Κύριε» («Господи»). Як правіла, у гэтых надпісах (а таксама на манетах візантыйскіх імператараў у гэты перыяд) у клічным склоне выступае скарачэнне «ΘΚΕ». Гл.: Н. П. Лихачев, *Материалы для истории…*, вып. I, с. 103–106, 125, 132, 138 і інш. У назоўным склоне «Багародзіца» звычайна скарачалася як «ΘΚΣ» (або, па аналогіі, «БЦА»), хаця зрэдку сустракаецца і форма на дзве асновы: ΘΤ. Можна было б разглядаць такі зварот як дадатак да асноўнага звароту і надпісу, аднак мінусам тут – нетыповыя спалучэнне і скарачэнне.

3 В. Н. Татищев, *История российская*, т. 2, Москва 1963, с. 123.

У цэлым на помніку маюцца чатыры асобныя надпісы (знакі, выбітыя выразна, вылучаны тлустым, менш выразна ці толькі пазначаныя – звычайным шрыфтам):

*Надпіс 1 (Пн-Усх і Пн)*
**ІС҃ ХС҃**
**NНКА**
**ВОРОТИШИNЪ**
**ХРЪСТЪ**

*Надпіс 2 (Пд-Усх)*
**NНКА**

*Надпіс 3 (Пн, Пн-Зах, Зах, Пд-Зах і Пд)*
**ГЙ ПОМОⱫИ РАБОІ СВОЄ**
**МОу** С8**МЪ**NЄ**ОІЧОІ**
ДАВЪІД8

*Надпіс 4 (Пд-Зах)*
**ХѲ҃**.τ.ε.(...:)

У розных месцах ёсць таксама назначаныя, але не выбітыя літары (ці выбітыя ў іншым месцы). Акрамя ўжо адзначаных, гэта першы Ъ у слове «ХРЪСТЪ» (які, відаць, спачатку меркавалася выбіць бліжэй да мачты крыжа, але быў абраны больш сіметрычны варыянт), а таксама некаторыя іншыя малазаўважныя знакі. Можна адзначыць таксама, што слова «ХРЪСТЪ» было, мабыць, пазней некім перароблена ў «ХВЪСТЪ», верагодна, з хуліганскіх меркаванняў[1].

Канешне, цікава было б паспрабаваць датаваць помнік па асаблівасцях пісьма. Найлепш на сёння распрацаваным з'яўляецца метад Залізняка, г. зв. пазастратыграфічны (ці параметрычны)[2]. Ён распрацоўваўся пераважна для наўгародскіх берасцяных грамат, але прымяняецца і для датавання іншых помнікаў, як у Ноўгарадзе і ваколіцах, так і ў больш аддаленых рэгіёнах. Зразумела, яго надзейнасць для іншых зямель спрэчная, але альтэрнатыўнага інструменту пакуль няма. Да таго ж, ён дазваляе правесці падрабязны палеаграфічны аналіз помнікаў. Сам аўтар, правяраючы эфектыўнасць метаду на неберасцяных і пераважна ненаўгародскіх помніках, дата якіх вядомая, атрымаў

1 Тут можна яшчэ заўважыць, што канцоўка папярэдняга радка з улікам дэкору выглядае як «ѰИNЪ», г. зн. у выніку атрымалася ўвогуле «ѰИNЪ ХВЪСТЪ» («Псін хвост»).

2 А. А. Зализняк, *Палеография берестяных грамот и их внестратиграфическое датирование* [в:] В. Л. Янин, А. А. Зализняк, *Новгородские грамоты на бересте (из раскопок 1990–1996 гг.)*, т. X, Москва 2000, с. 134–429; з удакладненнямі, у нашым выпадку істотнымі: А. А. Зализняк, *Коррективы к таблицам внестратиграфического датирования* [в:] В. Л. Янин, А. А. Зализняк, А. А. Гиппиус, *Новгородские грамоты на бересте (из раскопок 2001–2014 гг.)*, т. XII, Москва 2015, с. 276–278.

наступныя вынікі: пяць надпісаў з выбраных сямі кладуцца ў вызначаны пры дапамозе гэтага метаду дыяпазон, яшчэ ў двух адхіленне складае 9 і 22 гады. Аўтар адзначае ў дадзеным выпадку эфект лёгкага спазнення метаду і хаця не схільны рабіць з гэтага нейкія абагульненні[1], гэта варта мець на ўвазе. Магчымае і большае адхіленне. Так, графіці 1077 г. з кіеўскага Сафійскага сабора пра выплату «ругі» Святаславам Яраславічам дадзеным метадам было датавана на 1100–1120 гг. Гэта звязваецца з недакладнасцю ацэнкі па краях храналагічнай шкалы, у тым ліку ў яе пачатку (для XI – першых дзесяцігоддзяў XII ст.), што, зрэшты, адзначалася і аўтарам метаду[2].

У працэсе пабудовы датавальнай матрыцы для Давыдава каменя выявілася, што для часткі літар у палеаграфічных табліцах берасцяных грамат няма адпаведных узораў, для іншых ёсць толькі прыблізныя. Пры гэтым асобныя рысы, на аснове якіх і праводзіцца датаванне, прысутнічаюць дастаткова шырока, але складана з іх канкрэтнымі спалучэннямі. У такой сітуацыі поўныя ці даволі блізкія супадзенні літар з палеаграфічнымі ўзорамі заслугоўваюць на асаблівую увагу. Перадусім гэта датычыць яскрава выражаных узораў, якія сустракаюцца на невялікім храналагічным адрэзку і адсутнічаюць увесь астатні час. Таму было вырашана ўвесці яшчэ адзін параметр – адпаведнасць узорам, г. зн. абрысам літары цалкам, ва ўсіх дэталях. Чорнымі трохкутнікамі паказана поўная ці амаль поўная адпаведнасць, белымі – даволі блізкае падабенства (асновамі ўніз – узорам літар з іншых помнікаў эпіграфікі, не берасцяных грамат). На нашу думку, такім чынам можна яшчэ больш удакладніць датаванне. Сапраўды, невідавочна, што трэба аднолькава ўлічваць увесь храналагічны шэраг, на якім была прадстаўлена пэўная прыкмета, калі на большай яго частцы літара пісалася іначай і супадае толькі адна рыса (напрыклад, хвост). Для нагляднасці прыводзім матрыцу ў двух варыянтах: без узораў і з узорамі.

---

[1] А. А. Зализняк, *К изучению древнерусских надписей* [в:] В. Л. Янин, А. А. Зализняк, А. А. Гиппиус, *Новгородские грамоты на бересте (из раскопок 1997–2000 гг.)*, т. XI, Москва 2004, с. 239. Між тым, эфект спазнення ў некаторых выпадках можа быць заканамерны, паколькі пазастратыграфічнае датаванне берасцяных грамат у аснове сваёй мае стратыграфічнае датаванне (гл.: А. А. Зализняк, *Палеография берестяных грамот…*, с. 135–136). Стратыграфія адлюстроўвае час патраплядння граматы ў зямлю, а не час яе стварэння: яны могуць супадаць, а могуць і не супадаць. У апошнім выпадку час патраплядння, а значыць і датавання, заканамерна, будзе пазнейшы. Могуць быць і іншыя прычыны: напрыклад, малады ўзрост аўтара ды інш. (Тамсама, с. 423–424, 427–429). Цікава і тое, што спробы вузкага датавання ненаўгародскіх грамат у трох з сямі выпадкаў даюць крыху пазнейшы вынік адносна стратыграфіі (Тамсама, с. 429).

[2] А. А. Гиппиус, М. В. Дробышева, *«Пришествие Святослава»: киевское граффито № 9 и его исторический контекст,* «Российская история», 2022, № 5, с. 10. У гэтым выпадку аўтары артыкула дапускаюць пашырэнне датавання, атрыманага такім шляхам, на ўвесь пачатковы «цёмны» перыяд, уключаючы XI ст.

## Датавальная матрыца
## для Давыдава каменя
## (варыянт-1)

| | 1100 · 1200 · 1300 · 1400 | |
|---|---|---|
| Графіка: ꙋ | · ·( )· · · · | |
| Графіка: ь → ъ | )· · ) | 1× |
| А Іа Асноўны від (вострыя) | | |
| В ІІа Пералом пры мачце | )· · · · · )· · · | |
| В ІІб Пералом, не дакранаецца мачты | )· · · ) | 1/3 |
| В 2 Пятля выступае пад радок | ) · · | 1/3 |
| В 3б Верх шырэйшы за ніз | · · ) · · ) | 1/3 |
| Є ІІІ Леванахільныя | · | |
| Є ІІ Е-падобныя | · · · · · · · · · · · · · ) · | |
| Ꙁ ІІа Вертыкальныя (пералом) | )· · · · | 1× |
| Ꙁ 3 Пераломхваста | · · ( · · · · · ) · · · | 1× |
| Ꙁ 4 Хвост мала выступае з радка | ( )· · · · · | 1× |
| И 2б Ніжнія засечкі (кароткія) | · ( )· · | 1/4 ! |
| N 1а Верхнія засечкі (доўгія) | )· ) · | 1/2 |
| Р Іа Акруглая пятля (прамая мачта) | )· · ) | 1/3 |
| Р 11 Літара цалкам у радку | · ·( )· · · · ) | 1/3 |
| Р Іб Акруглая пятля (сагнутая мачта) | · · · · · · · · · · · · · · · | ≈ |
| Р 4 Маленькая галоўка | )· · ) | |
| Р 6 S-падобная мачта | · · · · · ) | 1/3 |
| У (у складзе Оу) Іа Простыя | | 1× |
| Оу Іб Звычайнае О (О і у зблiжаныя) | ) · · · [· · ] | 1× ≈ |
| ꙋ ІІІ Унізе два заломы | [ ]( · · · ) [ –] | |
| Х 1 Толькі дзве верхнія засечкі | · | 1× |
| Х 5 Нажніцы | · · · · · · · · ) · · | 1× ? |
| Ч ІІб Расколіна (У-падобныя) | · ( · · · · · | 1× ! |
| Ш ІІ Платформа прыпаднятая | · ) · · · · · · · ) · | 1× |
| Ш 1 Выступ уніз | · · · · · · · · · · · · · | 1× |
| Ъ ІІа Пятля з заломам (нахільная мачта) | | |
| Ы Іа Высокая перамычка | )· · · · · ) | 1× |
| Ы 1 Малаточак | )· · · · | 1× |
| Ю 1 Люстэркавыя | · · · · · · · ) | |
| Мова: рэдукаваныя захаваныя | ) · | |

## Датавальная матрыца для Давыдава каменя (варыянт-2)

| | 1100 | 1200 | 1300 | 1400 | |
|---|---|---|---|---|---|
| Графіка: 8 | | | | | |
| Графіка: ь → ъ | | | | | 1× |
| А Іа Асноўны від (вострыя) | | | | | |
| В ІІа Пералом пры мачце | | | | | |
| В ІІб Пералом, не дакранаецца мачты | | | | | 1/3 |
| В 2 Пятля выступае пад радок | | | | | 1/3 |
| В 3б Верх шырэйшы за ніз | | | | | 1/3 |
| Є ІІІ Леванахільныя | | | | | |
| Є ІІ Е-падобныя | | | | | |
| Ꙁ ІІа Вертыкальныя (пералом) | | | | | 1× |
| Ꙁ 3 Пералом хваста | | | | | 1× |
| Ꙁ 4 Хвост мала выступае з радка | | | | | 1× |
| И 2б Ніжнія засечкі (кароткія) | | | | | 1/4 ! |
| N 1а Верхнія засечкі (доўгія) | | | | | 1/2 |
| Р Іа Акруглая пятля (прамая мачта) | | | | | 1/3 |
| Р 11 Літара цалкам у радку | | | | | 1/3 |
| Р Іб Акруглая пятля (сагнутая мачта) | | | | | ≈ |
| Р 4 Маленькая галоўка | | | | | |
| Р 6 S-падобная мачта | | | | | 1/3 |
| У (у складзе Оу) Іа Простыя | | | | | 1× |
| Оу Іб Звычайнае О (О і у збліжаныя) | | | | | 1× ≈ |
| 8 ІІІ Унізе два заломы | | | | | |
| Х 1 Толькі дзве верхнія засечкі | | | | | 1× |
| Х 5 Нажніцы | | | | | 1× ? |
| Ч ІІб Расколіна (У-падобныя) | | | | | 1× ! |
| Ш ІІ Платформа прыпаднятая | | | | | 1× |
| Ш 1 Выступ уніз | | | | | 1× |
| Ъ ІІа Пятля з заломам (нахільная мачта) | | | | | |
| Ы Іа Высокая перамычка | | | | | 1× |
| Ѣ 1 Малаточак | | | | | 1× |
| Ю 1 Люстэркавыя | | | | | |
| Мова: рэдукаваныя захаваныя | | | | | |

**Заўвагі:** Першыя два радкі надпісу 1, надпісы 2 і 4 не ўлічваюцца.

Літара А ў слове «РАБѠ» прыблізна адпавядае ўзору 40–50-х гг. XII ст. з палеаграфічных табліц берасцяных грамат.

Для двух падобных літар Д у слове «ДАВЫД8» няма адпаведных узораў.

Літара Є прадстаўлена ў трох варыянтах, адзін з якіх стандартны, а яшчэ два, леванахільныя Е-падобныя, толькі назначаны. Для гэтых двух апошніх няма дакладных узораў, але адзіная леванахільная Е-падобная Є сустракаецца ў 20–30-я гг. XII ст.

Для літары Ζ сярод берасцяных грамат няма дакладнага ўзору, які сумяшчаў бы ўсе прыкметы. Аднак такі ўзор ёсць на ноўгарадскім краціры Брацілы, які датуецца 1132–1134 гг.[1] Падобны прыклад ёсць і на другім дзвінскім Барысавым камені.

Адна ніжняя засечка ў И (у адным з чатырох выпадкаў) у разлік не прымаецца – хутчэй за ўсё, яна насіла дэкаратыўны характар. Як правіла, з ніжнімі засечкамі рэгулярна выступалі і верхнія.

Першая N з кароткай правай ножкай, магчыма, не была выбіта да канца, таму незразумела, як яе інтэрпрэтаваць: як з дыяганаллю ці як з паўдыяганаллю (абодва варыянты сустракаюцца ўвесь час, на датаванне гэта не ўплывае). Калі гэта канчатковы варыянт і кароткая ножка пакінута свядома, то дакладны ўзор для яе адсутнічае, аднак можна заўважыць, што нечым падобны варыянт ёсць у 20–30-я гг. XII ст., хаця праванахільны і з доўгімі верхнімі засечкамі. Ён больш адпавядае другому N, толькі пазначанаму, якое і ўнесена ў матрыцу.

У (у складзе Оу) па абрысах прыблізна нагадвае ўзор з 40–50-х гг. XII ст., хаця верхняя засечка на спінцы ўказвае на XI – пач. XII ст.

Для абодвух варыянтаў 8 дакладныя ўзоры адсутнічаюць (няма вусоў адпаведнай формы).

Ъ, мяркуючы па гарбатай спінцы (у чатырох выпадках, уключаючы левую частку літары ЪІ) рэпрэзентуе ўзор XI ст., аднак з характэрнай шырокай асновай 20–50-х гг. XII ст. У адным выпадку спінка плаўна выгнутая, што характэрна для тых жа часоў (з вузкай асновай, хутчэй, для XI ст.), аднак вертыкальнае яе завяршэнне не выяўлена[2].

---

[1] Б. А. Рыбаков, *Русские датированные надписи…* Табл. III–IV, XXVI. Не пералічваючы ўсю шматлікую літаратуру пра гэты крацір (і другі падобны), спашлемся толькі на апошнюю работу А. Гіпіуса, дзе ён пераканаўча асвятляе абставіны яго стварэння: А. А. Гиппиус, *О происхождении новгородских кратиров и иконы «Богоматерь Знаменье»*, «Новгородский исторический сборник», вып. 9(19), 2003, с. 77–93.

[2] Можна паспрабаваць зрабіць пэўныя назіранні за асобнымі літарамі, каб, прынамсі, часткова патлумачаць іх шырокую варыятыўнасць (можна нават сказаць, што большасць літар, якія паўтараюцца, акрамя хіба што стандартых Т і И, пішуцца кожны раз неяк іначай). Так, графема Оу сустракаецца толькі ў слове «СВОЄМОу» ў складзе формулы «Г[ОСПОД]И ПОМОΖИ РАБѠ СВОЄМОу», тады як 8 выступае ў рэшце надпісу. Для параўнання, на друйскім Барысавым камені ў формуле маем ужо абодва варыянты, а далей толькі 8 (хаця на 1-м дзісенскім усё наадварот). Таксама ў дадзенай формуле выступае стандартнае Є, тады як у рэшце надпісу маем два Е-падобныя варыянты. Дакладны ўзор для літары В з гэтай формулы, з пераломам, які не кранаецца мачты, і пятлёй, якая выступае пад радок, у берасцяных граматах – у XI ст.

З матрыцы бачна, што тут праблемны выпадак, калі «моцныя» дужкі стаяць спінамі адна да адной, таму для расстаноўкі датавальных рамак былі прыменены інструкцыі, змешчаныя дробным шрыфтам у працы А. Залізняка на с. 286–287. Адзін радок (Ч IIб) быў прызнаны анамальным і ў разлік не прымаецца. У выніку датавальны інтэрвал, які атрымаўся, абмяжоўваецца 60–70-мі гг. XII ст. Прычым ён абведзены тонкай рамкай, менш надзейнай; вызначыць больш дакладны інтэрвал па «слабых» дужках нельга. З іншага боку мы бачым шчыльную вобласць, дзе размешчаны канкрэтныя ўзоры літар (XI – 50-я гг. XII ст.). Іх шматлікасць, выразная верхняя мяжа і раўнамернае запаўненне рубрык не дазваляюць прызнаць гэта выпадковасцю. Прычым ніводзін з гэтых узораў не патрапляе ў рамку.

Як адзначае А. Залізняк, «датавальны інтэрвал, атрыманы з дапамогай рамак, – гэта яшчэ не поўны адказ наконт датавання, а толькі яго аснова». Для поўнага адказу аўтар метаду заклікае выкарыстоўваць нефармальны аналіз усёй інфармацыі, якая ўтрымліваецца ў датавальнай матрыцы, у залежнасці ад чаго датаванне, якое сімвалізуюць рамкі, можа звужацца або карэктавацца: зрушвацца ў той ці іншы бок[1]. Падаецца, улік канкрэтных узораў таксама можа быць падставай для такога нефармальнага аналізу. Можна таксама заўважыць, што дзве адкрывальныя слабыя дужкі не ахопліваюць адпаведныя ўзоры для літар. То бок, з улікам гэтага пачатак інтэрвалу, які яны абазначаюць, варта было б падкарэктаваць. Таксама ўзнікае пытанне, ці можна вызначаць ніжнюю мяжу, асабліва такога складанага і нетыповага помніка, па адной толькі рысе, заломах унізе 8 (і пры адсутнасці «страхавальных» моцных дужак на суседняй вертыкалі і далей)? У выніку ніжняя мяжа ў такой матрыцы выглядае вельмі няпэўна. Тут трэба памятаць і пра магчымую недакладнасць метаду для ненаўгародскіх помнікаў, асабліва ў пачатку шкалы. Заўважым, што датаванне па канкрэтных узорах (XI – 50-х гг. XII ст.) усё ж больш адпавядае перыяду жыцця і дзейнасці Давыда Усяславіча. Можна, канешне, аб'яднаць гэтыя два інтэрвалы, але тое, што яны не перасякаюцца (ніводнага ўзору ўнутры рамкі), паказвае, хутчэй, на неабходнасць выбару.

Варта прыглядзецца бліжэй да асобы князя Давыда, з якой звязана з'яўленне помніка. У гісторыі гэты князь з'яўляецца чатыры разы. У 1003 г. бярэ ўдзел разам з паўднёварускімі князямі у паходзе на палаўцаў. У 1104 г. паўднёварускія князі ўжо пасылаюць войскі на Менск, дзе ўладарыў Глеб Усяславіч, прычым ноўгарад-северскі князь Алег Святаславіч, як сказана, «поемъше» з сабою і Давыда. У 1027 г., падчас вайны кааліцыі рускіх князёў супраць Полацкага княства, ужо наўпрост засведчана, што ён княжыць у Полацку, і гэтага княжання яго пазбаўляюць палачане, каб спыніць навалу. Нарэшце, у 1129 г. ён разам з іншымі полацкімі князямі быў высланы ў Візантыю па рашэнні

[1] А. А. Зализняк, *Палеография берестяных грамот…*, с. 287, 422.

кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча за адмову ўдзельнічаць у паходзе на полаўцаў[1].

На першы погляд, імя на «вілейскім» камені магло б ажывіць даўнюю дыскусію пра тое, хто быў полацкім князем пасля Усяслава, паколькі частка даследчыкаў лічыла, што ім быў акурат Давыд. Іншая частка трымалася думкі, што гэтым князем быў Барыс Усяславіч. Не пералічваючы ўсіх, хто хоць неяк ускосна закранаў гэтае пытанне ў сваіх працах, згадаем тут толькі тых, хто адмыслова займаўся гэтым перыядам у гісторыі Полацкай зямлі. Так, лічыў Давыда наступным полацкім князем Мітрафан Доўнар-Запольскі[2]. Пазней такую ж думку агучыў Леанід Аляксееў[3]. Часам такі падыход сустракаецца і цяпер[4]. Аднак ужо Васіль Данілевіч у сваёй грунтоўнай манаграфіі, прысвечанай Полацкай зямлі, якая не страціла свайго значэння і сёння, запярэчыў, звяртаючы ўвагу на Барысавы камяні і лагічна пытаючы: калі Барыс не княжыў у Полацку, то як яны апынуліся каля Полацка і на захад ад яго?[5] Таксама Уладзімір Пічэта лічыў, што пераемнікам Усяслава стаў Барыс, Глеб атрымаў Менск, а Давыд апынуўся без удзела і толькі пазней стаў полацкім князем[6]. Падобнай думкі трымаўся і Алег Рапаў, які паход на Менск 1104 г. звязвае са спробай адстаяць уладальніцкія правы Давыда[7]. Гэтыя думкі таксама былі не новыя:

1 ПСРЛ, т. I, вып. 1, Ленинград 1926, стб. 277; вып. 2, Ленинград 1927, стб. 299; Т. II, Санкт-Петербург 1908, стб. 256; т. VII, Санкт-Петербург 1856, с. 28–29.

2 М. Довнар-Запольский, *Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия*, Киев 1891, с. 91.

3 Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля (очерки истории Северной Белоруссии в IX–XIII вв.)*, Москва 1966, с. 252–253; ён жа, *Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры*, кн. 2, Москва 2006, с. 10–11.

4 Гл. напрыклад: Л. Войтович, *Княжа доба на Русі: портрети еліти*, Біла Церква 2006, с. 282–283. Таксама нядаўна з'явіўся артыкул Марыі Самонавай, якая падтрымала гэтую думку: М. Н. Самонова, *К проблеме о старшинстве Всеславичей* [в:] *Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі*, уклад. Т. У. Явіч, Полацк 2022, с. 243–257. У асноўным гэта трымаецца на аўтарытэце Л. Аляксеева, чыя праца не страціла значэння і сёння, аднак трэба заўважыць, што палітычны нарыс у яго кнізе дадзены, хутчэй, сцісла – з падрабязным разборам адных сюжэтаў і з павярхоўным ці нават пропускам іншых.

5 В. Е. Данилевич, *Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия*, Киев 1896, с. 72.

6 В. И. Пичета, *Полоцко-Минское княжество* [в:] *Очерки истории СССР. Период феодализма. IX–XV вв.:* в 2-х ч., ч. I. *Древняя Русь. Феодальная раздробленность. IX–XIII вв.*, под ред. Б. Д. Грекова, Л. В. Черепнина, В. Т. Пашуто, Москва 1953, с. 384–386.

7 О. М. Рапов, *Княжеские владения на Руси в X – первой половине XIII в.*, Москва 1977, с. 54–55.

яшчэ ў 60-я гг. XIX ст. Іван Бяляеў яркімі фарбамі намаляваў карціну міжусобіцы ў Полацкай зямлі пасля смерці Усяслава, падчас якой Барыс і Глеб нібыта пазбавілі ўладанняў Рамана і Давыда і вымусілі іх ратавацца на выгнанні ў Алега Святаславіча ў Чарнігаўскай зямлі[1]. Падзяляў меркаванне, што Барыс быў полацкім князем, і Мікола Ермаловіч, які акцэнтаваў увагу на звестках Васіля Тацішчава пра паход гэтага князя на яцвягаў у 1102 г. і заснаванне ім Барысава. Адносна Давыда ён развіваў думку папярэднікаў (у прыватнасці, І. Бяляева) і лічыў, што яму першапачаткова дастаўся Менск, адкуль пасля паходу на полаўцаў ён быў выгнаны братамі, устрывожанымі яго збліжэннем з паўднёварускімі князямі. Пасля гэтага там стаў княжыць Глеб, а Давыд спрабаваў вярнуць Менск сілай з дапамогай саюзнікаў[2]. Бачыў Барыса полацкім князем аж да самай смерці таго ў 1128 г. і Эдуард Загарульскі (толькі пасля гэтага нібыта трон заняў Давыд, у сувязі з чым і сама вайна рускіх князёў супраць Полацкага княства была ім аднесена да 1128 г.)[3].

Дадзенае пытанне непасрэдна звязана з пытаннем старшынства Усяславічаў. Падрабязна спыняцца на ўсіх меркаваннях, якія выказваліся ў гістарыяграфіі, у рамках дадзенай працы няма сэнсу. Да нядаўняга часу яны знаходзіліся ў залежнасці ад вырашэння пытання пераемнасці ўлады: як правіла, каго з братоў даследчыкі лічылі старэйшым, той і быў наступнікам Усяслава. Асобна гэтае пытанне разгледзелі Ганна Літвіна і Фёдар Успенскі. Першай праблемай тут з'яўляецца пытанне існавання Рагвалода Усяславіча, якога аўтары (як і шэраг ранейшых даследчыкаў) лічылі старэйшым сынам, які, аднак, не перажыў бацьку. Гэтая думка грунтуецца на згадцы сярод князёў, сасланых у Візантыю ў 1129 г., Васіля і Івана Рагвалодавічаў[4]. На гэта нібыта наводзіць упамінанне іх пасля сыноў Усяслава (Давыда, Расціслава і Святаслава). Аднак іх бацькам мог быць і Рагвалод Барысавіч, які ў 1127 г. стаў полацкім князем. Князь Барыс памёр у даволі сталым узросце, і ў яго ўжо відавочна маглі быць унукі. Не пярэчыць гэтаму і ўзрост Рагвалода Барысавіча, які памёр паміж

---

[1] И. Д. Беляев, *Очерк истории Северо-Западного края России*, Вильна 1867, с. 25.

[2] М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь: полацкі і новагародскі перыяд*, Мінск 1990, с. 152–157.

[3] Э. М. Загорульский, *Генеалогия полоцких князей Изяславичей*, Минск 1994, с. 6–10; ён жа, *Заходняя Русь. IX–XIII стст.*, Мінск 1998, с. 80–83. Пашыранае ў гістарыяграфіі датаванне нашэсця на Полацкую зямлю 1128 г. з апорай на Іпацьеўскі летапіс – памылковае, гл.: Н. Г. Бережков, *Хронология русского летописания*, Москва 1963, с. 133; А. В. Рукавишников, *Почему полоцкие князья были сосланы в Византию: свидетельства источников*, «Древняя Русь: вопросы медиевистики», 2003, № 2, с. 101–102.

[4] А. Ф. Литвина, Ф. Б. Успенский, *Выбор имени...*, с. 269, 272–276, 594–595; Л. В. Ляўшун, *Полоцкий князь Борис Всеславич*, Москва 2020, с. 15 (тамсама агляд прац аўтараў, якія трымаліся такога ж меркавання).

1171 і 1180 гг. Як заўважыў Антон Увядзенскі, полацкія князі былі высланыя ў Візантыю з жонкамі і дзецьмі на трох ладдзях, што адпавядае тром згаданым сынам Усяслава. Двое ж Рагвалодавічаў, відаць, былі малалетнія і яшчэ не мелі сваіх сем'яў і дзяцей, таму для іх асобныя караблі не спатрэбіліся. Зыходзячы з узросту, наўрад ці гэта былі дзеці кагосьці са старэйшых сыноў Усяслава – хіба што ўнукі, г. зн. дзеці Рагвалода Барысавіча[1]. Таму, хутчэй за ўсё, Рагвалода Усяславіча проста не існавала.

У любым выпадку, пасля смерці Усяслава вядомыя шэсць яго сыноў. Згодна з трапнымі назіраннямі Г. Літвіной і Ф. Успенскага, Усяслаў двух з іх назваў у гонар святых Барыса і Глеба (NB. братоў яго дзеда Ізяслава), а яшчэ двух – хроснымі імёнамі гэтых святых: Раман і Давыд. Самым малодшым быў Георгій, бацька Еўфрасінні Полацкай (як засведчана ў яе *Жыціі*), які звычайна суадносіцца са Святаславам ці, радзей, з Расціславам[2]. Амаль поўная адсутнасць двух апошніх, г. зн. Святаслава і Расціслава, на старонках летапісаў і незаангажаванасць у палітычнае жыццё, відаць, сапраўды вынікалі з іх маладога ўзросту, адсутнасці ўдзелаў і прэтэнзій на полацкі трон. Вядома, што яны перажылі як мінімум трох іншых братоў (Рамана, Глеба і Барыса).

Што да высвятлення старшынства чатырох першых Усяславічаў (як і таго, хто з іх пачаў княжыць у Полацку), тут на дапамогу прыходзіць спіс старэйшых рускіх князёў у «Хаджэнні ігумена Данііла» (датуецца рознымі гадамі ў прамежку ад 1104 да 1108 г.). Як паказаў Валянцін Янін, сярод жывых на той час рускіх князёў, якія валодалі найбольш значнымі ўдзеламі, з полацкіх у ім называюцца (у самым канцы спісу) два: Барыс Усяславіч і Глеб Менскі. У той жа час пад князем Давыдам (які фігуруе ў частцы спісаў як Усяславіч, у частцы – як Святаславіч і ў асобных – як Ігаравіч), паводле яго месца ў спісе, на пачатку пераліку чарнігаўскіх Святаславічаў, павінен разумецца старэйшы з іх, Давыд Святаславіч. З гэтага вынікае, што князь Барыс як старэйшы з братоў княжыў у Полацку, а наступны за ім Глеб – у Менску (апошняе добра вядома і з летапісаў)[3]. Такім чынам, у дадзеным выпадку мы маем паслядоўнае называнне ў гонар святых (пачынаючы з іх свецкіх імёнаў), і можна меркаваць, што двое наступных братоў атрымалі імёны тым жа парадкам. Згодна з гэтай логікай, Давыд быў чацвёртым сынам Усяслава. А. Увядзенскі, які робіць такую

[1] А. М. Введенский, *Сыновья Всеслава Брячиславича. Стратегия и порядок имянаречения*, «Slověne», 2022, Vol. 11, № 2, с. 268.

[2] А. Ф. Литвина, Ф. Б. Успенский, *Выбор имени...*, с. 114, 271, 481, 522–523, 527–528, 596, 600, 607.

[3] В. Л. Янин, *Междукняжеские отношения в эпоху Мономаха и «Хождение игумена Даниила»*, «Труды Отдела древнерусской литературы Института русской литературы», т. XVI, Москва–Ленинград 1960, с. 123–131. Аўтар памылкова атаясамліваў князёў Барыса і Рамана Усяславічаў.

выснову, праводзіць паралелі паміж сітуацыяй у сям'і Усяслава Брачыславіча і называннем сыноў у той жа час і ў такім жа парадку ў сям'і чарнігаўскага, потым кіеўскага князя Святаслава Яраславіча. Там таксама вядомыя Глеб, Раман і Давыд (даследчык рэканструюе іх старшынства акурат такім чынам, пасля чаго дапускае, што старэйшы, Барыс, мог проста памерці малалетнім, у сувязі з чым не патрапіў на старонкі летапісаў)[1].

Думка, што пераемнікам Усяслава быў Барыс, сёння пераважае ў гістарыяграфіі. Акрамя прыведзеных аргументаў, пра гэта сведчаць Барысавы камяні і звесткі з *Жыція* Еўфрасінні Полацкай (што было вядома, але ігнаравалася даследчыкамі, якія мелі іншае меркаванне). Таксама можна ўзгадаць Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр пад Полацкам, магчыма, у княжацкай рэзідэнцыі. Ён меў патранальныя функцыі, і будаўніцтва яго звязваецца з Барысам Усяславічам[2]. На нашу думку, прыведзеных аргументаў дастаткова, і пераглядаць гэтую думку няма патрэбы[3].

---

1 А. М. Введенский, *Сыновья Всеслава Брячиславича...*, с. 273–275.

2 И. М. Хозеров, *Белорусское и смоленское зодчество XI–XIII вв.*, Мінск 1994, с. 71, 78; Н. Н. Воронин, *Бельчицкие руины*, «Архитектурное наследство», 1956, № 6, с. 3–20; А. Трусаў, *Бельчыцкі манастыр*, «Беларускі гістарычны часопіс», 1993, № 1, с. 43–50; А. А. Трусаў, *Бельчыцкія храмы* [у:] *Археалогія і нумізматыка Беларусі*: энцыклапедыя, Мінск 1993, с. 84–86; А. В. Трушникова, *Пятницкая церковь Бельчицкого монастыря в контексте полоцкого зодчества конца XI – первой трети XII в.*, «Исторические, философские, политические и юридические науки, культурология и искусствоведение. Вопросы теории и практики», 2016, № 11, ч. 1, с. 166–170. Г. Літвіна і Ф. Успенскі дапускаюць, што святыя Барыс і Глеб маглі быць патронамі не толькі для князёў, што насілі іх імёны, але і для князёў, названых іх хроснымі імёнамі (А. Ф. Литвина, Ф. Б. Успенский, *Выбор имени...*, с. 172), але падаецца, што ў дадзеным выпадку заснаванне Барысаглебскага манастыра больш верагоднае непасрэдна носьбітамі імён Барыс і Глеб у гонар сваіх патронаў (калі больш дакладна, ініцыятыва звязваецца з Барысам).

3 У прыватнасці, такая спроба робіцца ў нядаўнім артыкуле: М. Н. Самонова, *К проблеме о старшинстве Всеславичей…* Даследчыца звяртае ўвагу на звесткі з *Жыція* Еўфрасінні Полацкай, дзе князь Барыс пацвярджае перадачу ёй епіскапам месца для заснавання манастыра. На думку аўтаркі, у ім князь прадстаўлены як «отец сестры», г. зн. бацька яе стрыечнай сястры і паплечніцы Звеніславы. Але тут выкарыстаны спіс *Жыція* са *Степенной книги*, які адносіцца да больш позняй рэдакцыі (гл.: А. Мельнікаў, *З неапублікаванай спадчыны*, Мінск 2005, с. 128–129, 136, 138, 160; параўн.: Е. М. Воронова, *Житие Евфросинии Полоцкой* [в:] *Словарь книжников и книжности Древней Руси*, вып. 1, Ленинград 1987, с. 147–148; яна ж, *Проблемы текстологического изучения «Жития Евфросинии Полоцкой»* [в:] *К 1125-летию Полоцка: конференция «История и археология Полоцка и Полоцкой земли»*, Полоцк 1987, с. 15; М. Б. Клосс, *Житие Евфросинии Полоцкой: проблемы изучения и издания* [у:] *Асветніцтва і гуманістычныя каштоўнасці Беларусі ў рэтраспектыве часу*, рэд. У. Я. Калаткоў, Мінск 2002, с. 13; нумарацыя рэдакцый ва ўсіх

Што тычыцца Давыда, то першыя летапісныя згадкі пра яго можна зразумець і такім чынам, што ў яго былі нейкія сувязі з паўднёварускімі князямі, і ён браў удзел у іх мерапрыемствах як адзін з полацкіх князёў. Аднак няма звестак, што ён быў менскім князем, а паведамленне 1104 г. пра яго ўдзел у паходзе на Менск можна інтэрпрэтаваць і такім чынам, што яго далучылі па дарозе ці змусілі да паходу. Дзе мог быць яго ўдзел? Падчас вайны 1127 г. згадваецца ізяслаўскі князь Брачыслаў, які, як сказана, спяшаўся на дапамогу свайму бацьку з Ізяслаўля, але на палове шляху выращыў здацца швагру, курскаму князю Ізяславу Мсціславічу, які дзейнічаў супраць Лагожска. На гэтай падставе ўзнікла версія, што бацькам Брачыслава быў Давыд. В. Данілевіч прытрымліваецца яе, зыходзячы з кантэксту падзеяў і мяркуючы, што Брачыслаў спяшаўся ў Полацк. Падзяляе яе Мікалай Баўмгартэн. Дапускае такое сваяцтва і Л. Аляксееў. Упэўнена гаворыць пра гэта А. Рапаў. Аднак адмаўляе такую магчымасць М. Ермаловіч, на думку якога, не названы па імені князь, бацька Брачыслава, кіраваў у Лагожску, і якраз туды на дапамогу спяшаўся Брачыслаў. Такую версію раскрытыкаваў Ю. Заяц, паводле якога Ермаловіч не разумеў парадак размеркавання ўдзелаў і не зразумеў у гэтым месцы тэкст летапісу. Сам даследчык лічыў Брачыслава сынам Давыда, а Ізяслаўль, дзе ён княжыў, – самым значным на той час удзельным горадам Полацкай зямлі пасля страты Менска[1].

гэтых працах у дэталях адрозніваецца, але высновы пра сувязь такія ж). У той жа час у публікацыях тэксту паводле 1-й рэдакцыі замест «отца сестры» стаіць «стрыа», г. зн. дзядзькі па бацьку (*Кніга жыцій і хаджэнняў*, уклад. А. А. Мельнікаў, Мінск 1994, с. 31; *Рэлігійнае пісьменства кірылічнай традыцыі XI–XV ст.*, уклад. Л. В. Ляўшун, Мінск 2013, с. 195; Л. В. Левшун, *Евфросиния Полоцкая: имя в истории*, Москва 2022, с. 327, 346, 365; *Житие преподобной Евфросинии, игуменьи Полоцкой*, подгот. О. В. Лицкевич [в:] *Fontes historiae Magni Ducatus Lithuaniae*. [online] http://starbel.by/dok/d158.htm, [дата доступу: 29.05.2023]). Паколькі гэтая рэдакцыя больш ранняя, а рэдакцыя *Степенной книги* да яе ўзыходзіць, то, відавочна, перапісчык вырашыў проста замяніць слова і патлумачыць яго з улікам таго, што ён ужо ведаў і прачытаў далей па тэксце. Увогуле ж, Звеніслава яшчэ не была паплечніцай Еўфрасінні і пастрыглася пазней, таму бацька яе там прысутнічаў не ў сувязі з гэтым. Даследчыца адзначыла шэраг недакладнасцей у працы В. Яніна, прысвечанай *Хаджэнню ігумена Даніїла*, але асноўны тэзіс (пра адсутнасць там Давыда і наяўнасць Барыса і Глеба) застаецца неаспрэчаным. Што тычыцца вызначэння ўзросту Глеба на падставе ўзросту яго жонкі Анастасіі (і на гэтай падставе аднясення яго да сярэдніх сыноў), то гэта даволі хісткі падыход, паколькі гэта магла быць не першая жонка Глеба (Гл.: А. В. Назаренко, Древняя Русь и славяне, Москва 2009, с. 153–154).

[1] В. Е. Данилевич, *Очерк истории Полоцкой земли...*, с. 77; N. de Baumgarten, *Généalogies et mariages occidentaux des Rurikides russes du Xe au XIIIe siècle, Roma 1927, p. 32; Л. В. Алексеев, Полоцкая земля...*, с. 260; О. М. Рапов, *Княжеские владения...*, с. 59; М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь...*, с. 177; Ю. А. Заяц, *Заславль в эпоху феодализма*, Минск 1995, с. 117–118; А. Ф. Литвина, Ф. Б. Успенский, *Выбор имени...*, с. 269 (тамсама агляд іншых аўтараў); гл. таксама: Э. М. Загорульский, *Генеалогия полоцких князей…*, с. 13.

Усё ж пераважае думка пра тое, што Брачыслаў быў сынам Давыда. Спрэчка ж паміж Зайцам і Ермаловічам вынікае з інтэрпрэтацыі таго, ці мінуў Брачыслаў ужо Лагожск на той момант, калі вырашыў здацца (акрамя Ермаловіча з гэтым не пагаджаўся і Данілевіч). Летапіснае паведамленне сапраўды ў гэтым месцы заблытанае, і да яго яшчэ вернемся[1]. Але незалежна ад гэтага, усё адно больш лагічна выглядае выснова, што гэта быў сын Давыда. Сапраўды, двое іншых Усяславічаў (Раман і Глеб) на той час ужо памерлі, Барыс ўжо не быў полацкім князем і наўрад ці мог кіраваць войскам, а двое малодшых, хутчэй за ўсё, былі безудзельнымі[2]. Акрамя таго, пішучы, што Брачыслаў ішоў на дапамогу бацьку, не згадваючы яго па імені, летапісец лічыў, што і так вядома, пра каго гаворка.

Вядома таксама, што ў 1158 г. Ізяслаўль быў вернуты Брачыславу як яго «отчина» (гэта значыць, быў княжаннем яшчэ яго бацькі). У наступным годзе разам з ім згадваецца таксама Валодша, верагодна, яго малодшы брат. У літаратуры яны часта фігуруюць як сыны Васількі Святаславіча, унука Усяслава, – праз атаясамленне першага з іх з Брачыславам Васількавічам, віцебскім князем у пач. 80-х гг. XII ст., якое ідзе яшчэ ад М. Доўнар-Запольскага[3]. Ад-

---

1 Гл.: ПСРЛ, т. I, стб. 298.

2 Так, бацька Еўфрасінні, як гэта можна зразумець з *Жыція* святой, жыў з сям'ёй у Полацку. У раннім пролажным (кароткім) варыянце наогул прамым тэкстам сказана, што Еўфрасіння там нарадзілася і была выхавана: *Рэлігійнае пісьменства кірылічнай традыцыі...*, с. 430. Пашыраныя ў гістарыяграфіі спробы прыпісаць Святаславу Віцебск на падставе таго, што яго ўнук быў віцебскім князем, – занадта рызыкоўная рэтраспекцыя. Мы нават не ведаем, ці меў удзел яго сын Васілька. З'яўленне апошняга на полацкім троне ў 1132 г. тлумачыцца, відавочна, высылкай старэйшых князёў у Візантыю. Пасля гэтага на палітычнай арэне Полаччыны з'яўляюцца Васількавічы. Дапушчэнне, што ў 1127 г. князем Ізяслаўля быў сын кагосьці з малодшых Усяславічаў, выглядае надзвычай малаверагодным.

3 М. Довнар-Запольский, *Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель...*, с. 152–153; В. Е. Данилевич, *Очерк истории Полоцкой земли...*, с. 89; Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля...*, с. 280; О. М. Рапов, *Княжеские владения...*, с. 61–62; Л. Войтович, *Княжа доба...*, с. 291 і інш. Л. Аляксееў абмінуў гэты сюжэт пры разглядзе падзеяў 1158–1159 гг. на Полаччыне, толькі ўскосна вяртаючыся да яго пры апісанні барацьбы за Друцк у 1180 г., якую ён трактуе паводле Данілевіча. Ад яго ў Аляксеева таксама перастаноўкі ў спісе ўдзельнікаў кааліцыі супраць Друцка, якія парушаюць родасныя сувязі і заблытваюць сітуацыю. Так, Данілевіч, убачыўшы ў канцы спісу Васільку Брачыславіча, перанёс яго ў сярэдзіну, палічыўшы сынам віцебскага князя Брачыслава Васількавіча. Аляксееў назваў Васільку ізяслаўскім князем (дапускаючы, што яго бацька, Брачыслаў Васількавіч, валодаў раней Ізяслаўлем), аднак у тэксце летапісу такіх звестак няма. Тут відавочная блытаніна, паколькі Васілька стаіць у канцы спісу побач з зусім іншымі князямі: «Андрѣи Володьшичь. и с(ы)новець єго Изѧславъ. и Василко Брѧцьславичь». Прычым усе князі названыя з удзеламі, толькі трое апош-

нак больш лагічна выглядае яго суаднясенне з ужо вядомым Брачыславам, які княжыў тут у 1120-я гг.[1] Прынамсі, пра яго вядома, што ён быў раней ізяслаўскім князем, у той час як пра Брачыслава Васількавіча ці яго бацьку такой інфармацыі няма. Да таго ж незразумела, чаму ён тады праз пару дзесяцігоддзяў апынуўся ў Віцебску. Праўдападобна, гэта зусім іншы князь з іншага пакалення. Гэтым жа можа быць патлумачаны факт, які неаднойчы звяртаў на сябе ўвагу даследчыкаў: у кампаніі 1127 г. большасць аддзелаў рускіх князёў была скіраваная на Ізяслаўль. Папросту Ізяслаўль, калі лічыць, што гэта былы ўдзел Давыда і «отчина» яго сына, разглядаўся як іх асноўная база і апорны пункт, таму на яго і быў скіраваны галоўны ўдар. Паводле Ю. Зайца, новы замак Ізяслаўля замест старога (Рагнеды–Ізяслава) быў збудаваны на тым месцы, дзе знаходзіцца і зараз, у канцы XI ці на мяжы XI–XII ст. Ён жа дапускае, што дадзенае будаўніцтва было звязана з выдзяленнем Ізяслаўскай воласці ва ўдзельнае княства[2].

У Давыда таксама быў брат Раман, які памёр у 1116 г. (па пазнейшых звестках, у Разані). Калі гэта старэйшы брат Давыда, то ў яго напэўна быў удзел, прычым не менш значны. З буйных гарадоў, якія неўзабаве выступаюць як цэнтры ўдзелаў, застаецца Друцк. У 1116 г. у ходзе вайны супраць Глеба ён быў узяты рускімі князямі і знішчаны, а жыхары выведзены ў палон. М. Самонава звяртае ўвагу, што гэта адбылося ў той жа год, што і смерць Рамана. Таксама яна праводзіць паралель паміж гэтымі падзеямі і смерцю ў палоне князя Глеба ў 1119 г., пасля адной з наступных кампаній. На гэтай падставе

---

ніх – без удзелаў. Цалкам лагічна, што Андрэй Валодшыч – гэта сын Валодшы (брата ізяслаўскага князя Брачыслава), Ізяслаў – пляменнік Андрэя, Васілька Брачыславіч – стрыечны брат (сын згаданага Брачыслава), а ўвогуле ўсе яны – ізяслаўскія князі, пададзеныя разам у канцы спісу. У В. Тацішчава Брачыславічамі і «сыноўцамі» Андрэя названыя Ізяслаў і Васілька (В. Н. Татищев, *История российская*, т. 3, Москва 1963, с. 125). Аднак, падаецца, тут размова не пра нейкія яго «ўнікальныя звесткі», хутчэй, гэта не зусім уважлівая перадача тэксту летапісу ці недакладнае яго разуменне, паколькі ў арыгінале імя па бацьку і слова «с(ы)новець» стаяць у адзіночным ліку і адносяцца да Ізяслава. У гэтым жа паведамленні ў яго полацкі князь Усяслаў названы Святаславам, а Андрэй Валодшыч (Валодзьшыч) – Валодзічам. Варта яшчэ адзначыць інтанацыйную адбіўку кропкай у арыгінале паміж Ізяславам і Васількам.

[1] Такое дапушчэнне зрабіў М. Ермаловіч (які, аднак, не лічыў яго сынам Давыда) (М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь...*, с. 218–219. Крытыкуючы яго, Ю. Заяц пісаў, што згаданыя князі не суадносяцца між сабой па ўзросце (Ю. А. Заяц, *Заславль в эпоху феодализма*, с. 178). Аднак пра ўзрост у абодвух выпадках нічога не вядома. У першым выпадку можна здагадвацца, што перад намі, магчыма, маладая асоба, што разгубілася ў крытычнай сітуацыі («острашивъся, не мога поити ни семо, ни онамо») і вырашыла здацца.

[2] Ю. А. Заяц, *Заславль в эпоху феодализма*, с. 113 і інш.

выказваецца меркаванне, што Раман да 1116 г. мог валодаць Друцкам, быць саюзнікам Глеба і трапіць у палон (дзе і памёр)[1]. Паколькі гэта супадае і з нашымі меркаваннямі, можам такую думку асцярожна падтрымаць (зразумела, гэта гіпатэтычныя разважанні, нешта дакладнае сцвярджаць тут складана).

М. Ермаловіч выказваў здагадку, што Барыс перастаў быць полацкім князем пасля няўдалага паходу на земгалаў 1106 г., пасля чаго яго месца заняў Давыд[2]. Але гэта нічым не падмацавана. Па-першае, ён наўрад ці мог заняць трон пры наяўнасці некалькіх стрэйшых братоў. Па-другое, гэта не стасуецца з іншымі тагачаснымі падзеямі. Вядома, што ўдава Рамана Усяславіча прыняла пострыг, а пазней ужо сама пастрыгла Ефрасінню Полацкую, як гэта вынікае з *Жыція* апошняй (г. зн. падзеі адбываюцца пасля 1116 г.). Пасля гэтага Ефрасіння пэўны час жыла звычайным жыццём манахіні, затым яшчэ нейкі час займалася перапісваннем кніг пры Сафійскім саборы, потым, як вядома, заснавала жаночы манастыр у Сяльцы. Прычым апошняе было адобрана Барысам (відавочна, як полацкім князем)[3]. Як бачым, ад смерці Рамана да заснавання манастыра прайшло дастакова шмат часу, таму можна меркаваць, што змена ўлады ў Полацку, якая адбылася ўжо пасля гэтага, мела месца ўжо ў 20-я гады. У той жа час можна ўзяць пад сумненне і версію Э. Загарульскага, што гэта адбылося ў год, калі пачалася вайна, г. зн. у 1127 (1128, паводле аўтара). Сын Давыда, неаднойчы ўжо згаданы ізяслаўскі князь Брачыслаў, быў жанаты

---

1 М. Н. Самонова, *К проблеме о старшинстве Всеславичей…*, с. 253. Такія здагадкі выказваліся і раней, але без неабходнай аргументацыі. Звычайна Друцк фігуруе як падпарадкаваны Глебу, аднак у крыніцах пра гэта нічога не сказана. Верагоднасць саюза Глеба з Друцкам разглядаў і Л. Аляксееў (праўда, ён там бачыў князем Барыса) (Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля...*, с. 256).

2 М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь...*, с. 162.

3 *Кніга жыцій і хаджэнняў...* С. 28–41; *Житие преподобной Евфросинии...*; Л. В. Левшун, *Евфросиния Полоцкая...*, с. 72–89 і інш. Аўтарка апошняй кнігі звяртае ўвагу, што пасля пастрыжэння Еўфрасінні мусіў прайсці яшчэ выпрабавальны тэрмін у 3–4 гады і наўрад ці раней яна магла б заснаваць манастыр і стаць ігуменняй, тым больш, што яе пастрыжэнне адбылося раней, чым гэта дазвалялася канонамі. Аднак гэта ж аўтарка лічыць, што дадзеныя падзеі (смерць Рамана, пострыг яго ўдавы, пострыг Еўфрасінні) адбыліся непасрэдна адна за адной на працягу года, што нельга даказаць. Уладзімір Сараб'янаў меркаваў, што манастыр у Сяльцы быў заснаваны каля 1125 г. (В. Д. Сарабьянов, *Спасская церковь Евфросиниевского монастыря в Полоцке*, 3-е изд., Полоцк 2016, с. 19). Паводле апошніх дадзеных, мураваная царква манастыра пачала будавацца ў 1124 г. (М. Ярмохін, А. Вітас, І. Калечыц, *Дэндрахраналагічнае датаванне будаўніцтва Полацкай Спаса-Праабражэнскай царквы*, «Беларускі гістарычны часопіс», 2016, № 8, с. 13–17), а гэта значыць, што манастыр быў заснаваны напярэдадні. З улікам вышэйсказанага, гэта адбылося дзесьці паміж 1120-м і 1124-м гг., і ў гэты час мы маем пісьмовае сведчанне пра княжанне Барыса ў Полацку.

з Ксеніяй, дачкой кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча[1]. Адбылося гэта яшчэ да вайны, паколькі ў Ізяслаўлі згадваецца яе маёмасць, ледзьве не разрабаваная пасля здачы горада. Мсціслаў вядомы тым, што праводзіў вельмі прадуманую матрыманіяльную палітыку: яго дочкі былі выдадзены замуж за ўплывовых ўладароў Еўропы і Візантыі, за іх дзяцей або за ўплывовых рускіх князёў. Сумнеўна, каб адна з іх была выдадзена за сына другараднага ўдзельнага князя полацкага дому. Верагодна, бацька маладога ўжо быў на той час полацкім князем. Сумнеўна таксама, што гэта адбылося непасрэдна перад пачаткам вайны, у першай палове года.

Якім чынам Давыд мог стаць полацкім князем пры жывым папярэдніку, Барысе? Тут варта звярнуць увагу на адзін момант: калі палачане скідаюць ў 1127 г. Давыда, яны прапануюць замест яго не Барыса, яшчэ на той час жывога (памірае ў наступным годзе), а яго сына Рагвалода. Відаць, існавала нейкая перашкода для заняцця ім трона. Цалкам магчыма, мае рацыю Э. Загарульскі, калі разглядае верагоднасць таго, што ён быў ужо стары і цяжка хворы, таму не мог выконваць свае функцыі[2]. Правы Давыда як наступніка былі законныя, паколькі двое яго старэйшых братоў ужо памерлі[3]. Пры ім княству ў 1127 г. быў нанесены сакрушальны ўдар, які прывёў да адхілення яго ад улады палачанамі і перадачы яе Рагвалоду Барысавічу, каб пазбегнуць захопу Полацка (на такі варыянт даў згоду кіеўскі князь Мсціслаў)[4]. Парушэнне ўмоваў пагаднення прывяло ў 1129 г. да высылкі полацкіх князёў у Візантыю. У ліку высланых быў і Давыд. Пасля гэтага звесткі пра яго губляюцца. Магчыма, ён

[1] N. de Baumgarten, *Généalogies et marriages…*, p. 32; Ю. А. Заяц, *Заславль в эпоху феодализма*, с. 117; А. Ф. Литвина, Ф. Б. Успенский, *Выбор имени...*, с. 269–270.

[2] Э. М. Загарульскі, *Заходняя Русь...*, с. 81. Па падліках аўтара, яму было не менш за 70 гадоў. Сапраўды, калі дапусціць, што Барыс як адзін з двух старэйшых паўналетніх сыноў Усяслава быў разам з бацькам захоплены Яраславічамі пад Оршай у 1067 г., то ў 1127 г. яму было не менш за 72 гады. Існуе пашыраная ў літаратуры версія, што Рагвалод і Барыс у 1027 г. – гэта адна і тая ж асоба пад рознымі імёнамі (свецкім і хросным), якую разглядае і аўтар. Пасля працы Г. Літвіной і Ф. Успенскага гэтую версію можна адкінуць як беспадстаўную. Як паказалі даследчыкі, у той час існавала ўвогуле строгая забарона называць сына па імені жывога бацькі. Адпаведна, у Рагвалода Барысавіча не магло быць бацькі з іменем Рагвалод (А. Ф. Литвина, Ф. Б. Успенский, *Выбор имени...*, с. 269–276).

[3] Э. М. Загарульскі, *Заходняя Русь...*, с. 82–83.

[4] Прычыны гэтай вайны дыскусійныя. Маецца цьмяная згадка В. Тацішчава, што гэта было выклікана нейкай «няпраўдай» з боку Давыда. Пашырана версія, якая ўзыходзіць да другой рэдакцыі працы таго ж Тацішчава, што полацкія князі нападалі на землі залежных ад Кіева князёў. Аднак А. Рукавішнікаў адкідае гэта як пазнейшую ўстаўку, якой не было ў першай рэдакцыі «Гісторыі расійскай» (А. В. Рукавишников, *Почему полоцкие князья…*, с. 100–101). Ды і сведчанні Тацішчава выклікаюць скепсіс.

там і памёр, бо далей на арэну выходзіць ужо наступнае пакаленне Усяславічаў.

Ацэньваючы кампазіцыю на Давыдавым камені ў вярхоўях Віліі, падобную ў цэлым да Барысавых камянёў, варта звярнуцца да вытокаў гэтай з'явы ў эпіграфіцы. Формула «Господи, помози рабꙋ своємꙋ *(імя)*» была пашырана ў надпісах-графіці на сценах храмаў, на пячатках, ювелірных вырабах, прадметах культу, у якасці прыпісак перапісчыкаў у кнігах і г. д.[1] Ёсць яна і на знака-

[1] І. Л. Калечыц, *Эпіграфіка Беларусі...*, с. 40, 50, 54, 61, 71, 134–137; яна ж, *Корпус граффити Полоцкой Спасо-Преображенской церкви: южная келья*, Минск 2020, с. 208–209; яна ж, *Малітоўныя надпісы-прашэнні ў алтары Полацкай Спаса-Прэабражэнскай царквы*, «Беларускі гістарычны часопіс», 2011, № 8, с. 31–36; яна ж, *Граффити жертвенника Спасо-Преображенской церкви г. Полоцка*, «Софія Київська: Візантія. Русь. Україна», вып. IV, Київ 2014, с. 353–355; яна ж, *Граффити алтаря Спасо-Преображенской церкви города Полоцка*, «Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны», вып. 10, Мінск 2015, с. 214; яна ж, *Граффити кельи Евдокии в Спасо-Преображенской церкви Полоцка*, «Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны», 2016, вып. 11, с. 212; яна ж, *Графіці XII–XVIII ст. з паўночна-ўсходняга слупа Спаса-Прэабражэнскай царквы г. Полацка: праблемы вывучэння і інтэрпрэтацыі*, «Беларуская даўніна», 2015, вып. 1, с. 17, 26; яна ж, *Графіці наоса Полацкай Спаса-Прэабражэнскай царквы: спроба абагульнення і інтэрпрэтацыі* [в:] *Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі*, уклад. Т. У. Явіч, Полацк 2022, с. 111–112; яна ж, *Графіці паўднёва-ўсходняга слупа Полацкай Спаса-Прэабражэнскай царквы*, «Весці БДПУ», 2022, сер. 2, № 4, с. 21; И. З. Залилов, *Граффити Спасо-Преображенской церкви в Полоцке XII–XVII вв.*, Полоцк 2014, № 88сп[х]; Н. П. Лихачев, *Материалы для истории...*, 1928, вып. I, с. 103–134; Б. А. Рыбаков, *Русские датированные надписи…*, с. 16–44; С. А. Высоцкий, *Древнерусские надписи Софии Киевской XI–XIV вв.*, вып. I, Киев 1966, с. 57, 62, 73, 80–87, 96, 100–102, 112; ён жа, *Средневековые надписи Софии Киевской...*, с. 25, 30–31, 47–60, 75, 81, 83–96, 108–109, 119–123; ён жа, *Киевские граффити XI–XVII вв.*, Киев 1985, с. 11–15, 31–34, 49, 75, 87–88, 93–96 (гл. таксама крытыку і выпраўленні апошніх прац: А. А. Зализняк, *К изучению древнерусских надписей...*, с. 233–286; а таксама пазнейшую публікацыю: В.В. Корнієнко, *Корпус графіті Софії Київської (XI – початок XVIII ст.)*, ч. I–VII, Київ 2009–2017); В.В. Корнієнко, *Корпус графіті церкви Спаса на Берестові*, Київ 2013, с. 16, 45, 48–49, 54; В.В. Корнієнко, *Епіграфіка сакральних пам'яток Галича (XII–XIX ст.)*, Галич 2017, с. 215; А. А. Медынцева, *Древнерусские надписи Новгородского Софийского собора XI–XIV века*, Москва 1978, с. 35, 63, 67–68, 79, 81, 82, 87, 90, 106–109, 111–112, 125, 127, 150, 153, 156, 159, 161–162, 164, 171; яна ж, *Подписные шедевры древнерусского ремесла: очерки эпиграфики XI–XII стст.*, Москва 1991, с. 96, 110, 128–129, 138; Т. В. Рождественская, *Древнерусские надписи на стенах храмов: новые источники XI–XV вв.*, Санкт-Петербург 1992, с. 67, 69, 74, 85, 87–88, 96–98, 106; яна ж, *Новонайденные древнерусские надписи-граффити Марьтирьевской паперти Новгородского Софийского собора*, «Труды Отдела древнерусской литературы», т. LV, Санкт-Петербург 2004, с. 538–539, 541–542; С. М. Михеев, *22 древнерусских глаголических надписи-граффити XI–XII веков из Новгорода*, «Slovo», 2012, sv. 62, s. 76; ён жа, *Заметки о надписях-граффити*

мітым крыжы Ефрасінні Полацкай, яе пячатках[1] і, магчыма, была на пячатках полацкіх князёў, пра што будзе сказана ніжэй. Вядомая яна і сёння ў малітве перад пачаткам справы. Іна Калечыц адносіць яе да групы надпісаў – малітоўных прашэнняў (акрамя звароту з «помози», сюды ж адносяцца, на яе думку, пазнейшыя выразы са «спаси» і «помилуй», якія яго замяняюць)[2].

Мікалай Ліхачоў, які даследаваў надпісы са зваротам пра дапамогу да Бога, адзначае, што гэта з'ява прыйшла на Русь з Візантыі, дзе выкарыстоўвалася на пячатках і манетах, пачынаючы з VII ст. Асабліва шырокае выкарыстанне надпісаў з просьбай пра дапамогу прыпадае на іканаборчы перыяд (VIII–IX стст.) у сувязі са знікненнем на пячатках выяваў святых. У IX–X стст. пашыраюцца пячаткі з крыжам і кругавым надпісам, прычым імя ўладальніка (у давальным склоне) пераносілася на другі бок. У X–XI стст. «з'яўляюцца пячаткі са свяшчэннымі іканапіснымі выявамі з аднаго боку і формулай на другім баку», пасля якой ішло імя ўладальніка[3]. Што тычыцца распаўсюджання гэтых ты-

---

*новгородского Софийского собора,* ч. I, «Древняя Русь», 2010, № 2, с. 99; ён жа, *Заметки о надписях-граффити новгородского Софийского собора,* ч. II, «Древняя Русь», 2010, № 3, с. 76, 80; А. А. Гиппиус, С. М. Михеев, *Заметки о надписях-граффити новгородского Софийского собора,* ч. III, «Древняя Русь», 2011, № 2, с. 45; яны ж, *Древние надписи на стенах собора Рождества Богородицы Антониева монастыря* [в:] *Собор Рождества Богородицы Антониева монастыря в Великом Новгороде: к 900-летию основания,* науч. ред. Т. Ю. Царевская, Великий Новгород 2019, с. 227–228, 230; яны ж, *Несколько древних надписей на фасадах Спасского собора в Переславле-Залесском,* «Graphosphaera», 2021, т. 1, с. 205, 207; яны ж, *Ольтарь пламънъ, а цьркы ледъна – чьто же то?* [в:] *Слова, конструкции и тексты в истории русской письменности: сб. статей к 70-летию акад. А. М. Молдована,* ред. А. А. Пичхадзе, И. С. Юрьева, Санкт-Петербург–Москва 2021, с. 392–402; рэдка ў берасцяных граматах: А. В. Арциховский, В. И. Борковский, *Новгородские грамоты на бересте (из раскопок 1956–1957 гг.),* Москва 1963, с. 23–25; А. В. Арциховский, *Новгородские грамоты на бересте (из раскопок 1958–1961 гг.),* Москва 1963, с. 17–18.

1 Гл., напрыклад, апошнія знаходкі: Д. Дук, І. Калечыц, А. Коц, *Пячатка Еўфрасінні Полацкай,* «Беларускі гістарычны часопіс», 2015, № 7, с. 13–18; Д. Дук, І. Калечыц, А. Коц, Я. Торшын, *Парадная пячатка Еўфрасінні Полацкай,* «Беларускі гістарычны часопіс», 2017, № 9, с. 4–8.

2 И. Л. Калечиц, *Корпус граффити...,* с. 7; І.Л. Калечыц, *Графіці паўднёва-ўсходняга слупа…,* с. 21.

3 Н. П. Лихачев, *Материалы для истории…,* вып. I, с. 103–104. Параўн.: Н. П. Лихачев, *Маливдовулы греческого Востока,* Москва 1991. Табл. LVIII, № 1–10; параўн.: И. В. Соколова, *Монеты и печати византийского Херсона,* Ленинград 1983, с. 96–102, 163, схема X. Аўтарка апошняй працы лічыць, што пячаткі з шасціканцовым крыжам, пачаткам надпісу з аднаго боку і завяршэннем з другога існавалі да другой паловы X – першай паловы XI ст. Праўда, размова ідзе толькі пра асобныя экзэмпляры.

паў на Русі, то тут справа выглядала наступным чынам: «Марна было б шукаць тыпы іканаборчага перыяду; тып, які іх змяніў, з крыжам на прыступках і праквітнелым крыжам, з надпісам кругам «Господи, помози рабу своему» – таксама адсутнічае. Перададзены быў толькі праквітнелы крыж без кругавога надпісу. Затое атрымаў шырокае распаўсюджанне таксама запазычаны з Візантыі тып з выявай святых з аднаго боку і формулай «Господи помози рабу своему…» з другога)[1].

М. Ліхачоў таксама ў агульных рысах адзначыў падабенства надпісаў на Барысавых камянях з надпісамі на пячатках[2]. Сапраўды, кампазіцыя на камянях складаецца з двух элементаў, якія сустракаюцца таксама і на пячатках (шасціканцовы крыж з надпісамі, просьба пра дапамогу з імем). Дапусціўшы, што ўзор для камянёў браўся з пячатак, мы, аднак, трапілі б на перашкоду ў выглядзе адсутнасці ў той час адпаведнага іх тыпу. Давялося б або дапусціць, што гэта была камбінацыя двух тыпаў (тыпы 7 і 12, па Яніну[3]), або суаднесці іх з больш ранімі візантыйскімі пячаткамі VIII–X стст., што з пэўных прычын праблематычна. Акрамя аддаленасці ў часе, надпіс тут пераважна не кругавы (за выключэннем двух камянёў, як можна меркаваць, больш позніх), па-другое, ён кірылічны. Акурат у гэты час (кан. XI – пач. XII ст.) на старажытнарускіх пячатках кірылічны надпіс змяняе грэцкі, таму лагічна было б зыходзіць з больш блізкага матэрыялу. В. Янін звязвае гэтую замену з асобай і часам Уладзіміра Манамаха[4].

Магчыма, пячаткі полацкіх князёў таксама змяшчалі такі ці падобны надпіс, аднак гэтае пытанне дыскусійнае, паколькі ёсць цяжкасці з іх атрыбуцыяй. Наогул, полацкая сфрагістыка таго часу вывучана недастаткова. Так, маюцца пячаткі з Віцебска, Мінска і Гродна з выявай св. Барыса ці Глеба на адным баку і праквітнелым шасціканцовым крыжам на другім. Дапускаецца, што такая пячатка з Мінска належала Глебу Усяславічу або яго брату Барысу[5]. Адзін з тыпаў такіх пячатак, з выявай св. Глеба, атаясаміў з Глебам Усяславічам і В. Янін[6]. Аднак выказваюцца сумненні ў такой атрыбуцыі, паколькі гэта не

1 Н. П. Лихачев, *Материалы для истории…*, вып. I, с. 6–7.

2 Тамсама, с. 123.

3 Тып 7 – княжацкія і пасадніцкія пячаткі з формулай «Господи, помози»; тып 12 – булы з выявай Хрыста ці яго сімвалаў, у т. л. сюды аднесены выявы шасціканцовага крыжа (В. Л. Янин, *Актовые печати Древней Руси X–XV вв.*, т. I, с. 155).

4 Тамсама, с. 68–70, 156.

5 І. А. Цішкін, Г. В. Штыхаў, *Пячатка* [у:] *Археалогія Беларусі*: энцыклапедыя, т. 1, Мінск 2009, с. 241.

6 В. Л. Янин, *Актовые печати Древней Руси X–XV вв.*, т. I, с. 225, 320; В. Л. Янин, П. Г. Гайдуков, *Актовые печати Древней Руси X–XV вв.*, т. III. *Печати, зарегистрированные в 1970–1996 гг.* Москва 1998, с. 61, 154, 274, 370.

адзіны вядомы на той час Глеб, а тапаграфія іх знаходак (Кіеў, Гродна) можа ўказваць на гарадзенскага князя Глеба Усеваладавіча[1]. Публікацыі пячатак можна падзяліць на навуковыя і калекцыянерскія (хаця мяжу не заўсёды можна правесці). У апошнім выпадку абмяркоўваецца вялікая колькасць пячатак і пломбаў, якія атрыбутуюцца як Барысавы, але ўсе яны паходзяць з прыватных ананімных калекцый ці інтэрнэт-форумаў, што ўскладняе іх верыфікацыю. Аднак, як паказвае прыклад Еўфрасінні Полацкай, нельга выключаць у будучым і магчымасць надзейнай атрыбуцыі пячатак, звязаных з іншымі прадстаўнікамі полацкай княжацкай дынастыі.

Другім вялікім «блокам» надпісаў з просьбай пра дапамогу з'яўляюцца шматлікія графіці на сценах храмаў, сярод якіх знаходзім прамыя аналогіі для полацкіх камянёў. Так, на сценах Кіеўскага Сафійскага сабора ёсць пяць графіці з выявай шасціканцовага крыжа і падобным надпісам. На двух з іх праквітнелы крыж. Абапал крыжа ў чатырох выпадках няма надпісаў «ІС ХС» і «NHKA», у адным – толькі першы: «ИС …». Тым не менш, перад намі тая ж кампазіцыя. Графіці належалі Фёдару, Васілю, Іону, Пятрыле і Варнаве, а таксама Іллі, Мацвею і Георгію – у асноўным, відаць, асобам някняжацкага паходжання. Адно з іх датуецца XII–XIII ст., другое – не пазней за XIII ст., трэцяе – XII – пач. XIII ст.[2] Размова пра помнікі, хутчэй за ўсё, пазнейшыя за з'яўленне камянёў або ім сінхронныя (хаця датаванне тут умоўнае). У Полацкай Спаса-Прэабражэнскай царкве пры шасціканцовым крыжы з надпісам «NHKA» ёсць надпіс «ГО ПОМОẔ», хаця і цяжка сказаць упэўнена, ці

---

1 А. В. Кузьмин, *Глеб Всеславич* [в:] *Православная энциклопедия*, т. XI, Москва 2006, с. 569; гл. таксама агляд меркаванняў: А. Кібінь, *Ад Ятвязі да Літвы. Палітычныя і сацыякультурныя транфармацыі ў басейне Верхняга Нёмана ў IX–XIII стагоддзях*, «Arche», 2016, № 5, с. 130–131.

2 С. А. Высоцкий, *Средневековые надписи Софии Киевской...*, с. 84, 95–96, 119, 123, 352–351, 370–371, 412–413, 420–421; С. А. Высоцкий, *Киевские граффити…*, с. 31. Падобная да іх кампазіцыя з крыжам, дзе пасярэдзіне дададзены «парасонік»: А. А. Медынцева, *Древнерусские надписи Новгородского Софийского собора…*, с. 269 (датаванае па адной прыкмеце на XI–XII стст.). Ёсць варыянты з чатырохканцовым крыжам: С. А. Высоцкий, *Средневековые надписи Софии Киевской...*, с. 314–315, 354–355, 368–369, 372–373 (у т. л. з «парасонікам»: Тамсама, с. 48, 302–303); А. А. Медынцева, *Древнерусские надписи Новгородского Софийского собора…*, с. 245, 266, 268–269, 292; Т. В. Рождественская, *Новонайденные древнерусские надписи-граффити...*, с. 541. Таксама падобны да названых варыянт з шасціканцовым крыжам і двума чатырохканцовымі, дзе замест «ГИ ПОМОЗИ» ідзе формула «ГИ СПСИ» (графіці Лазара, Ігнація і Канстанціна з Ноўгарадскага Сафійскага сабора, датуецца 1120–1280 гг., найлепш да 1200 г.): А. А. Гиппиус, С. М. Михеев, *Заметки о надписях-граффити новгородского Софийского собора*, ч. III, с. 47–49 (крыжы, відаць, пазнейшыя, бо перакрываюць надпіс, але ці не тых жа асобаў?).

ствараюць яны адну кампазіцыю. Падобны надпіс (без апошняй літары) маецца ў іншым месцы, пры выяве чатырохканцовага крыжа. Тут ужо можна казаць упэўнена, што яны складаюць адно цэлае. Магчыма, абодва надпісы зроблены адной рукой[1]. Там жа яшчэ адзін чатырохканцовы крыж з надпісам «ГИ ПОМОZИ Р. ..»[2]. Як бачым, існавала пэўная традыцыя камбінаваць крыж з надпісам, хаця і не сказаць, каб моцна пашыраная. Магчыма, пэўныя элементы рэлігійнай культуры, якія бытавалі асобна, маглі спалучацца між сабой эпізадычна, таму ўсе паралелі, дзе яны прысутнічаюць асобна, таксама не варта скідваць з рахункаў.

Цікава, што кампазіцыя надпісу на Давыдавым камені двухбаковая, што адрозніваe яго ад усіх астатніх і ў нейкім сэнсе прыпадабняе да пячатак. У той жа час асаблівасць надпісу з просьбай пра дапамогу, у якім ідзе размова пра сумненні, хутчэй, выводзіць пячаткі з ліку ўзораў для капіявання (прынамсі, для гэтага каменя), паколькі гэта ўжо надпіс іншага тыпу. Па назіраннях, усе тагачасныя надпісы з просьбай пра дапамогу да Бога можна падзяліць на тры тыпы: канкрэтная просьба пра дапамогу ў нейкай справе/сітуацыі, просьба пра дапамогу ў нейкай справе/занятку (напрыклад, у рамястве) і наогул абстрактныя просьбы дапамагаць, так бы мовіць, па жыцці («дабразычлівы» надпіс). У нашым выпадку гэта будзе, трэба думаць, першы варыянт. Як ужо адзначалася, надпіс на адвароце адрозніваецца ад стандартнай формулы і ўказвае на канкрэтную сітуацыю, якая суправаджалася сумненнямі[3].

Напярэдадні чаго мог «сȣмънѣтисѧ» князь і звяртацца па дапамогу да Бога? Перш чым адказаць на гэта пытанне, варта звярнуцца да іншых падобных помнікаў – Барысавых камянёў. Сёння выказана шмат версій іх узнікнення[4]. Адзначым толькі некаторыя найбольш вядомыя. Так, адна з найбольш пашыраных, аўтарства Барыса Рыбакова, тлумачыць іх устаноўку барацьбой з голадам праз зварот да Бога і асвячэнне камянёў як аб'ектаў пакланення. Вынікае яна з памылковага атаясамлення Барыса з Рагвалодам у 1127 г. і памылковага вызначэння часу яго княжання кароткім прамежкам ад нібыта ўзыходжання на трон у тым жа годзе да смерці ў наступным. Аўтарам былі знойдзены звесткі пра неўраджай і голад у гэты час у Ноўгарадзе і зроблена дапушчэнне, што

---

1 І. Калечыц, *Малітоўныя надпісы-прашэнні…*, с. 33.

2 И. Калечиц, *Граффити жертвенника…*, с. 354.

3 Трэба адзначыць, што слова «сумненне» ў той час мела шэраг адценняў, у т. л. абазначала стан вагання, няўпэўненасці. Гл.: И. И. Срезневский, *Материалы для словаря древнерусского языка по письменным памятникам*, т. 3, Санкт-Петербург 1912, с. 619; *Словарь старославянского языка*, т. 4, Санкт-Петербург 2006 (Рэпр.: *Slovník jazyka staroslověnského*, s. IV, Praha 1997), с. 405–407.

4 Агляд іх гл., напрыклад: Л. У. Дучыц, *Барысавы камяні...*, с. 70–73; І.Л. Калечыц, *Эпіграфіка Беларусі X–XIV стст.*, Мінск 2011, с. 34–35.

такі ж голад быў у Полацку[1]. Паколькі ўсё гэта (акрамя голаду ў Ноўгарадзе) не пацвярджаецца, то версію паходжання і датавання можна адкінуць. Да таго ж гэтая версія не тлумачыць размяшчэння Барысавых камянёў па Дзвіне ўніз ад Полацка. Версія Мікалая Вароніна наконт нанясення надпісаў і выяваў як «лоцманскіх знакаў» для пазначэння небяспечных месцаў на рацэ таксама неправаканаўчая, бо не зразумела, як гэта звязана з дапамогай Барысу[2]. Нарэшце, дзвінскія Барысавы камяні былі суаднесены М. Ермаловічам з паходам Усяславічаў на земгалаў у 1106 г.[3] Варта адзначыць, што ўсе іншыя версіі, акрамя гэтай, сапраўды ніяк не тлумачаць размяшчэнне камянёў ад Полацка па Дзвіне да межаў сучаснай Латвіі. Чамусьці гэта асаблівасць не бралася раней пад увагу. Зрэшты, і тлумачэнне, прапанаванае Ермаловічам, не знайшло належнага водгуку ў літаратуры, але па сутнасці, гэта адзіная на сёння несупярэчлівая версія іх узнікнення.

Версію М. Ермаловіча пацвярджае яшчэ адзін з дзвінскіх камянёў, чыя прыналежнасць да Барысавых звычайна ставіцца пад сумненне, паколькі імя князя на ім не было выяўлена. Размова пра камень, які ляжаў раней пры ўпадзенні р. Вянужка ў р. Дзвіну, а сёння знаходзіцца ў Музеі-запаведніку «Каломенскае» ў Маскве. Надпіс на ім чытаўся як «С8ЛИБОРЬ ХРЬСТЪ», у сувязі з чым былі спробы прыпісаць яго гіпатэтычнаму Сулібору[4]. Аднак першая частка там падзелена на два радкі: «С8ЛИ | БОРЬ». Ні з чаго не вынікае, што гэта адно слова. На нашу думку, там меркавалася выбіць «С8ЛИ БОРЬС0у ХРЬСТЪ», але надпіс не быў скончаны (магчыма, літары С0у былі толькі назначаны)[5]. Такім чынам, гэты помнік можна вызначыць як адзін з Барысавых камянёў, а сэнс яго – у звароце да крыжа з просьбай. Прычым паказальна, што надпіс перадае тут просьбу не проста пра дапамогу, а пра ўдачу ў пэўным рызыкоўным мерапрыемстве. Зрэшты, падобную канструкцыю – зварот з просьбай да крыжа – можна было б падазраваць і ў надпісе на Давыдавым

---

1 Б. А. Рыбаков, *Русские датированные надписи…*, с. 26–27.

2 Н. Н. Воронин, *Средства и пути сообщения* [в:] *История культуры Древней Руси. Домонгольский период,* под ред. Б. Д. Грекова и М. И. Артамонова, т. I. *Материальная культура,* под ред. Н. Н. Воронина и др. Москва–Ленинград 1951, с. 295–298. Гл. крытыку: І.Л. Калечыц, *Эпіграфіка Беларусі...*, с. 34.

3 М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь...*, с. 159–162.

4 А. Сапунов, *Двинские или Борисовы камни*, с. 24–26; И. Шляпкин, *Двинской камень № 4,* «Записки императорского Русского археологического общества», т. XII, вып. I–II, Санкт-Петербург 1901, с. 342–343; І.Л. Калечыц, *Эпіграфіка Беларусі...*, с. 33.

5 Падобнае напісанне («БОРЪС8») выяўлена намі на друйскім Барысавым камені. Рэдукаваная галосная Ь абазначала ультракароткі гук [і]. На пісьме часам магла мяняцца на Ъ (г. зв. «аднаернае» пісьмо), як бачым гэта, напрыклад, на Давыдавым камені ў слове «ХРЪСТЪ».

камені, аднак граматычна яна тут, як ужо адзначалася, небездакорная, і давялося б рабіць шэраг дапушчэнняў для такога прачытання.

Варта разгледзець і «вайсковую» версію з'яўлення Давыдава каменя. Версія пра сувязь каменя з ваенным паходам таксама не новая. Як ужо адзначалася, не ўдакладняючы магчымых мэты і напрамку, такую здагадку выказаў Е. Раманаў. Таксама можна адзначыць, што надпіс «NHKA» на бакавой паверхні «вілейскага» каменя быў прадубляваны, відаць, невыпадкова[1]. Можна заўважыць, што ён змешчаны сіметрычна з імем князя (адносна крыжа і па баках слова «ХРЪСТЪ») і выкананы літарамі прыблізна такога ж памеру. Ускосным чынам можна звярнуць увагу і на этымалогію імя Вараціслаў верагоднага выканаўцы надпісу, звязаную з вайсковай справай. Можна лічыць, што носьбіт такога імя належаў да ваярскага саслоўя[2]. М. Ермаловіч звязаў стварэнне гэтага помніка з паходам Барыса на яцвягаў у 1102 г. (лічачы яго адным з Барысавых камянёў). Праблема, аднак, у тым, што дадзены паход вядомы толькі з працы В. Тацішчава. Калі не браць пад увагу дыскусію адносна верагоднасці звестак Тацішчава, такая версія выглядае даволі праўдападобнай, паколькі ўлічвае напрамак руху з Полацка на паўднёвы захад, праз вярхоўі Віліі ў напрамку Нёмана[3]. Можна дапусціць, што ў паходзе на яцвягаў, як і пазней на земгалаў, браў удзел не толькі сам Барыс, але і іншыя Усяславічы. Такім чынам тут мог апынуцца і Давыд.

Аднак дыскусію вакол Тацішчава абмінуць не выпадае, паколькі неаднаразова выказваліся думкі, што большасць ці нават усе яго ўнікальныя звесткі – плён уласнай фантазіі аўтара або выдумкі, якія паходзілі з кола яго інфарматараў[4]. У сувязі з гісторыяй Полаччыны звычайна аналізуюцца два найбольш разгорнутыя паведамленні Тацішчава: 1216 ці 1217 г. пра полацкую княгіню

---

[1] Увогуле, гэта частка стандартнага надпісу, размешчанага вакол крыжа, які абазначаў перамогу хрысціянства («Ісус Хрыстос перамагае», гл.: Н. М. Бутырский, *Ника* [в:] *Православная энциклопедия*, т. XLIX, Москва 2018, с. 372–373). І хаця яго паходжанне звязана з ваенным трыумфам (перамога Канстанціна над Максенцыем), само па сабе яго з'яўленне на камянях яшчэ не азначала сувязі з ваеннай тэматыкай. Аднак, падаецца, значэнне гэтага слова разумелася, і ў гэтым аспекце яму маглі надаваць увагу як двухсэнсоўнаму. З гэтым магло быць звязана паўтарэнне гэтага слова асобна ад крыжа.

[2] Так, напрыклад, звалі тысяцкага ўладзіміра-валынскага князя Андрэя Уладзіміравіча, які ўдзельнічаў у аблозе Ізяслаўля ў 1127 г. Вядома, мы не лічым, што гэта адна і тая ж асоба.

[3] М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь...*, с. 159–160.

[4] Гл.: А. Толочко, «История Российская» Василия Татищева: источники и известия, Москва–Киев 2005; А. В. Горовенко, *Василий Татищев и «древние летописи»: домонгольская Русь глазами первого русского историка*, Санкт-Петербург 2019.

Святохну і 1182 г. пра барацьбу за Берасце з удзелам менскага князя Уладзіміра. Менавіта пра гэтыя звесткі аўтар зазначае, што яны паходзяць з Полацкага летапісу[1]. Знаёмства як з тэкстам *Гісторыі*, так і з рознымі меркаваннямі прымушае скептычна паставіцца да магчымасці выкарыстання Тацішчавым Полацкага летапісу. Разам з тым маюцца і нявырашаныя пытанні адносна канструявання ім гэтых паведамленняў (як, зрэшты, і іншых яго «ўнікальных» звестак)[2]. Акрамя таго, ёсць і больш дробныя паведамленні і адхіленні ад тэкстаў вядомых летапісаў, якія не суправаджаюцца заўвагамі наконт іх паходжання. Асобныя з іх аналізаваліся[3]. Падаецца, не зашкодзіў бы комплексны аналіз усіх яго полацкіх паведамленняў. Разам з тым, выказвалася меркаванне, што паведамленне пра заснаванне Барысава магло быць узята Тацішчавым з вядомай яму *Хронікі* Мацея Стрыйкоўскага[4]. Гэта цалкам магчыма, хаця ў Стрыйкоўскага нічога і не сказана пра паход на яцвягаў і няма даты заснавання горада[5]. Пытанне з'яўлення такога кшталту падрабязнасцей у Тацішчава цьмянае. Калі дапусціць іх канструяванне, то матывацыя ў яго не заўсёды зразумелая. Магчыма, Тацішчаў проста паставіў год, адштурхоўваючыся ад пачатку кіравання Барыса – першы пасля таго, як ён стаў князем, але пытанне з яцвягамі застаецца.

---

[1] Гл.: Ю. А. Заяц, *К вопросу о достоверности татищевского рассказа о Святохне*, «Гістарычна-археалагічны зборнік», 2000, № 15, с. 106–115; А. В. Майоров, *Борьба за Берестье в 1182 г. по сведениям Полоцкой летописи В. Н. Татищева и польских средневековых хроник* [в:] *Исследования по истории Средневековой Руси: к 80-летию Ю. Г. Алексеева*, отв. ред. А. Ю. Дворниченко, сост. С. В. Стрельников. Москва–Санкт-Петербург 2006; А. В. Майоров, *О Полоцкой летописи В. Н. Татищева*, «Труды отдела древнерусской литературы Института русской литературы Российской академии наук», т. 57, Санкт-Петербург 2005, с. 331–335 ды інш. працы аўтара; А. В. Горовенко, *Меч Романа Галицкого: князь Роман Мстиславич в истории, эпосе и легендах*, Санкт-Петербург 2010, с. 271–273; А. Кібінь, *Ад Ятвязі да Літвы...*, с. 143–147.

[2] Аповесць пра Святохну нагадвае памфлет на Ганну Іванаўну, Бірона і засілле немцаў у Расіі (Н.П. Лыжин, *Два памфлета времен Анны Иоанновны*, «Известия Императорской Академии наук по Отделению русского языка и словесности», т. VII, вып. 1, 1858, стб. 49–64; Ю. А. Заяц, *К вопросу о достоверности…* Аднак тут відавочная паралель з невядомай Тацішчаву Хронікай Генрыха Латвійскага, якая цяжка паддаецца тлумачэнню.

[3] Гл., напрыклад: А. В. Рукавишников, *Почему полоцкие князья…*, с. 100–101.

[4] А. М. Введенский, Рец. на кн.: Л. В. Левшун, *Полоцкий князь Борис Всеславич*, Москва 2020, «Studia Historica Europae Orientalis», вып. 14, Мінск 2021, с. 184.

[5] M. Stryjkowski, *Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiey Rusi*, Królewiec 1582, s. 274. Звесткі пра заснаванне горада Стрыйкоўскі, у сваю чаргу, запазычыў з беларуска-літоўскіх летапісаў. У шасці з іх сюжэт пра Барыса выглядае амаль аднолькава (ПСРЛ, т. XXXII, с. 130; т. XXXV, с. 130, 147, 175, 195, 216).

Калі казаць дакладна, то паход і заснаванне горада ў Тацішчава аднесены да 6610 г. Перавод гэтай даты ў сучаснае летазлічэнне як 1102 г. у яго ўмоўны. Як вядома, Тацішчаў трымаўся ў сваёй працы падыходу, што ўсе даты, каб унікнуць разнабою, трэба захоўваць з крыніц, без карэктавання ў залежнасці ад стылю. Без ускосных дадзеных у такіх выпадках сёння вызначыць стыль і пацвердзіць перавод у сучаснае летазлічэнне немагчыма. Згаданая падзея магла прыпадаць на перыяд ад сакавіка 1101 да лютага 1103 г. У такім выпадку дата не пярэчыла б імавернай даце на на камені. Праўда, мы таксама не ведаем, які стыль мог ужывацца тут, а тры стылі разам для 6609 г. даюць перыяд ад сакавіка 1100 г. да лютага 1102 г. Улічваючы, што справа адбывалася пасля смерці Усяслава, атрымаем прамежак ад красавіка 1101 да лютага 1102 г. Можна паспрабаваць яшчэ больш яго звузіць. Зімовыя паходы таго часу не былі рэдкасцю, але апрацоўка каменя і асабліва заснаванне горада ў два апошнія зімовыя месяцы выглядаюць малаімаверна, таму стварэнне помніка і заснаванне Барысава можна было б аднесці да 1101 г. Але ўсе гэтыя развагі справядлівыя пры дзвюх умовах: па-першае, пры інтэрпрэтацыі надпісу як даты і, па-другое, пры ўмове сапраўднасці паведамлення Тацішчава. А паколькі другая ўмова пад сумненнем, тое самае датычыць і версіі паходу на яцвягаў.

У кантэксце нашых разважанняў нельга абмінуць і яшчэ адзін момант – камень у вёсцы знаходзіцца дакладна на тым месцы, дзе да XIX ст. быў мост праз Вілію. Прычым гэта быў мост на апошнім адрэзку старажытнага Даўгінаўскага тракту – паміж Крайскам і Даўгінавам. Яго размяшчэнне на такім месцы нельга лічыць выпадковым, і гэта дае падставы меркаваць пра наяўнасць такога шляху з Менска ў паўночным напрамку ўжо ў тыя часы. Значэнне яго ў разгляданы час заключалася, відаць, у тым, што ён абыходзіў з захаду вялікія лясныя масівы і вёў далей на Полацк. Верагодна, ад гэтага месца ён ішоў далей уздоўж Віліі, праз вярхоўі Бярэзіны і Ушачы[1]. Так, ужо ў 2 км адсюль пры дарозе ўверх па Віліі знаходзіцца курганны могільнік X–XI стст.[2], а ў 7 км – сяло са старажытнай назвай Пагост. Яшчэ адзін вялікі курганны могільнік XIII–XIV стст. знаходзіцца на паўночна-заходняй ускраіне самой в. Камена[3]. Шлях з Полацка на Менск быў, відаць, адначасова і шляхам на Ізяслаўль, дзесьці напрыканцы было яго разгалінаванне. Калі ён існаваў у больш раннія часы (гарадзішча на Менцы), то лагічна выглядала б яго пракладанне ў той час на Менск праз Ізяслаўль. Адначасова гэта патлумачыла б, чаму землі па дарозе належалі Ізяслаўлю. Л. Аляксееў вызначаў сухапутны шлях з Полацка на Менск праз тэрыторыю сённяшняга Бярэзінскага запаведніка. У агульных

---

[1] Магчыма, тут разгаліноўваўся, і другая дарога ішла на Даўгінава–Крывічы–Мядзел.

[2] Я. Г. Звяруга, *Камена* [у:] *Археалогія Беларусі*: энцыклапедыя, т. 1, Мінск 2009, с. 403–404.

[3] Тамсама, с. 404.

рысах гэтая дарога паўтарала рэканструяваны ім водны шлях з волакам з Ушачы ў Бярэзіну і далей па Гайне да Лагожска. Такі шлях, калі ён існаваў, быў бы крыху карацейшы, але і больш складаны для праходжання[1]. Больш зручным быў той, які абыходзіў лясныя масівы.

Ці мог гэты камень быць памежным знакам княства Давыда? Межы Ізяслаўскага ўдзельнага княства невядомыя. Вядзецца толькі дыскусія пра ўваходжанне ў яго склад Лагожска. Яна вынікае з інтэрпрэтацыі ўсё таго ж супярэчлівага паведамлення летапісу пра падзеі 1127 г. у раёне Лагожска і Ізяслаўля. З гэтага ўрыўка можна зрабіць выснову, што ізяслаўскі князь Брачыслаў вёў з сабою да бацькі таксама частку лагажан, разам з якімі здаўся ў палон («и логожаны приведе, иже бѧше велъ из Логожьска»). Менавіта так разумеў гэтую фразу М. Доўнар-Запольскі. Відаць, у сувязі з гэтым Л. Аляксееў называе Брачыслава князем то Лагожска, то Ізяслаўля. З другога боку, гэта фраза магла адносіцца да Ізяслава Мсціславіча, пра якога згадвалася раней і які перад гэтым узяў палон у Лагожску і вёў яго да Ізяслаўля. Менавіта так разумелі гэта М. Ермаловіч і Ю. Заяц. Апошні дадаткова адзначае, што нават пры першым тлумачэнні гэтага недастаткова, каб аднесці Лагожск да ўладанняў Брачыслава[2]. Аднак пры ўсёй цьмянасці паведамлення і адкідаць такую верагоднасць нельга. Ва ўмовах страты Менска канцэнтрацыя ў адных руках (сына полацкага князя)

---

[1] Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля...*, с. 85, 87–88, 93. Аляксееў, улічваючы цяжкую праходнасць такога шляху і адсутнасць дарог ніжэй упадзення р. Сергуч у Бярэзіну, паспрабаваў прасачыць сухапутны яго працяг далей ад ракі сухадолам. Пры гэтым ён арыентаваўся на яшчэ адзін рэканструяваны ім волак з Бярэзіны ў р. Цна (прыток Гайны), які мусіў весці далей у Вілію. Гэтае меркаванне грунтавалася на існаванні ў гэтым месцы в. Валокі (Барысаўскі раён; у Аляксеева – Волок). З гэтай вёскі сухапутны шлях вёў нібыта на Смаляры, Зембін і Лагойск. Аднак, відавочна, этымалогія назвы Валокі іншая, і волака тут не было. Сухапутны шлях верагодна быў, на што ўказваюць пэўныя тапанімічныя маркеры. Міжрэччам Бярэзіны і Сергуча і далей па ўказаным Аляксеевым маршруце ён ішоў, трэба думаць, праз адзначаныя ім Пуцілкавічы (курганна-жальнічы могільнік XII–XIV стст.), засценак і фальварак Масцішча (Узмосце), Домжарыцы (архаічная тапанімія, курганна-жальнічы могільнік), Пераходцы, паўз засценак Крайцы (магчыма пазнейшы, але паказальнае яго размяшчэнне на былой мяжы Полацкага і Менскага ваяводстваў, а таксама, верагодна, ранейшых валасцей па Бярэзіне – параўн. згаданы намі Крайск на іншым шляху), Брод (брод праз Бярэзіну), Мсціж і Пуста-Мсціж (архаічная тапанімія – замест суседніх, але размешчаных крыху ўбаку ад дарогі і пазнейшых Валок і Смаляроў; у першым з іх, Мсціжы, – курганны могільнік), адзначаны ім Зембін, нарэшце, два Масцішчы па абодва берагі Цны і Гасцілавічы на гэтай жа дарозе непасрэдна перад Лагойскам. Сумнеўна, праўда, што гэта была дарога, зручная для пастаяннага карыстання.

[2] Гл.: ПСРЛ, т. I, стб. 298; М. Довнар-Запольский, *Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель...*, с. 94; М. Ермаловіч, *Старажытная Беларусь...*, с. 177; Ю. А. Заяц, *Заславль в эпоху феодализма*, с. 115–117; Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля...*, с. 260.

двух суседніх памежных умацаванняў не выглядае нечым немагчымым (але, зноў жа, гэта яшчэ не значыць, што так было першапачаткова). Калі кіравацца метадам рэканструкцыі валасцей па канцэнтрацыі курганных могільнікаў, то можна заўважыць, што Ізяслаўль і Лагожск кладуцца ў адзін пас, хаця пазней яны дакладна складалі розныя валасці (удзелы)[1].

Вядома, гэта дастаткова ўмоўныя разважанні. Але нават без уліку Лагожска межы княства на поўначы маглі дасягаць Віліі[2]. Ва ўсялякім разе, зважаючы на яго ролю ў тагачасных падзеях, наўрад ці княства было такім ужо мізэрным, як яго часам паказваюць на картах. Ю. Заяц заўважае, што рэканструяваная ім паводле пісьмовых і археалагічных дадзеных тэрыторыя Менскай зямлі (з улікам пазнейшага падпарадкавання Ізяслаўскага і Лагожскага ўдзелаў Глебавічам) практычна цалкам адпавядае будучаму Менскаму павету, утворанаму ў XVI ст.[3] А паўночная мяжа павета, як вядома, ішла па Віліі.

Па-другое, ёсць дастаткова аргументаваныя версіі пра памежны характар двух іншых камянёў: Барысава каменя ў в. Вялікі Гарадзец Талачынскага раёна (на мяжы Друцкай і Лукомскай валасцей) і Рагвалодава каменя каля в. Дзятлава Аршанскага раёна (на мяжы Друцкай і Аршанскай валасцей)[4]. Прычым можна заўважыць, што ляжалі яны на асноўных шляхах паміж цэнтрамі валасцей.

Аднак ёсць і дзве перашкоды лічыць, што камень у в. Камена быў усталяваны менавіта як памежны. Па-першае, гэтаму пярэчыць характар надпісу. Па-другое, камень знаходзіцца на правым беразе ракі, хаця ў выпадку праходжання па ёй мяжы больш лагічна было б, калі б ён стаяў на левым.

Узяўшы пад увагу ўсё вышэйсказанае, можна выказаць наступныя меркаванні наконт абставін узнікнення гэтага помніка. Па-першае, паколькі на камені з вусця р. Вянужка паўтараюцца пэўныя элементы з гэтага каменя (надпіс «Х͞Ѳ», другі княжацкі знак), то лагічна дапусціць сінхроннасць іх узнікнення, аднёсшы апрацоўку абодвух да аднаго і таго ж часу і аднаго мерапрыемства (паходу). Прычым гэта не «тацішчаўскі» паход на яцвягаў, а паход Барыса ўніз па Дзвіне з удзелам таксама іншых полацкіх князёў. Што тычыцца Давыда, то ён загадаў апрацаваць камень на Віліі – выбіць на ім адпаведную просьбу, пакідаючы з наяўнымі сіламі межы свайго княства (Ізяслаўскага). Калі інтэрпрэтаваць надпіс «Х͞Ѳ» як дату, то гэты паход трэба аднесці да

---

1 Л. В. Алексеев, *Полоцкая земля...*, рис. 5 (карта-ўклейка).

2 У гэтым кантэксце невыпадковай можа быць і назва в. Крайск на згаданым шляху, у 6 км ад в. Камена, якая паказвае на яе размяшчэнне на ўскраіне нейкага абшару.

3 Ю. Заяц, Менская зямля: этапы фарміравання, «Беларускі гістарычны часопіс», 1993, № 4, с. 14.

4 Гл.: В. Л. Насевіч, *Лукомль і Лукомльская воласць,* «Гістарычна-археалагічны зборнік», 1994, № 4, с. 176–177; А. А. Мяцельскі, *Орша ў XII*–XIII стст.: *паміж Полацкам і Смаленскам,* «Гістарычна-археалагічны зборнік», 1996, № 6, с. 217–220.

1101 г. (тры стылі разам даюць перыяд з сакавіка 1100 г. да лютага 1102 г., пры звужэнні якога атрымліваем 1101 г.). Такі паход у Ніжняе Падзвінне з летапісных крыніц невядомы. Вядомы толькі вялікі паход на земгалаў 1106 г. Але гэта не значыць, што яго не магло быць – полацкая гісторыя асветленая ў летапісах слаба і фрагментарна.

Цікава адзначыць, што побач з вусцем р. Вянужка ляжалі фактычна два Барысавы камяні, адзін з якіх моцна адрозніваецца ад іншых камянёў гэтага князя, але дэманструе падабенства па адзначаных элементах з «вілейскім» Давыдавым каменем. Магчыма, у сувязі з гэтым, што было некалькі паходаў у згаданым напрамку, першы з якіх – у 1101 г. (а другі Барысаў камень, як і астатнія дзвінскія, адносіцца да іншага, пазнейшага, похода). Прычым мы не ведаем, колькі усяго было паходаў уніз па Дзвіне. Іншыя Барысавы камяні, з аднолькавым «фармулярам», у такім выпадку маглі быць апрацаваныя як у 1106, так і ў іншым годзе.

Нельга выключаць таксама, што надпісы на пярэднім баку і адвароце Давыдава каменя былі нанесеныя ў розны час. Гэта тлумачыла б рознапланавасць кампазіцыі і тое, чаму на пярэднім плане выбіта не просьба ад імя князя і не само яго імя[1]. Тады выява крыжа з надпісам абапал яго была б асабістай ініцыятывай Варацішы (калі чытаць гэта слова як імя), падхопленай затым Усяславічамі. У такім выпадку зыходная кампазіцыя (крыж з першым надпісам) магла быць нанесеная як у 1101 г., перад выкананнем надпісу на адвароце каменя, так і раней. Далей магчымыя два варыянты: а) незалежна ад таго, калі яна была выбітая, у 1101 г. гэты камень быў апрацаваны з адваротнага боку, як і камень з вусця Вянужкі, а рэшта Барысавых камянёў – пазней, у час іншага паходу Барыса; б) гэты камень, прынамсі з адвароту, і ўсе Барысавы камяні былі апрацаваныя ў адзін паход – 1101 г. Калі не бачыць там імя выканаўцы, а чытаць першы надпіс як зварот да крыжа з просьбай, што таксама нагадвала б камень з вусця Вянужкі, то давялося б прыняць адначасовасць апрацоўкі «вілейскага» каменя з абодвух бакоў. Далей таксама магчымыя варыянты: а) стварэнне абодвух камянёў можна было б аднесці да аднаго часу – 1101 г., а рэшты Барысавых – да пазнейшага часу і паходу; б) усе камяні адносяцца да аднаго паходу – 1101 г. (надпіс на адвароце тут адпавядае іншым Барысавым камяням).

Зрабіць канчатковы выбар пры такой колькасці варыянтаў складана. Нам усё ж падаецца больш верагоднай першая версія з апрацоўкай дадзенага каменя (прынамсі на адвароце) і аднаго з Барысавых у 1101 г., а рэшты камянёў на Дзвіне – у іншы паход. У любым выпадку, гэты камень, відаць, быў прыняты за

[1] Форма Р, часткова таксама В і Ъ з пярэдняга і адваротнага боку адрозніваецца, рэшта літар мае стандартнае напісанне або не паўтараецца; аднак гэтых параўнанняў мала, каб зрабіць канчатковую выснову.

ўзор пры стварэнні Барысавых камянёў, на што ўказвае паслядоўнасць збораў і руху войск, паўтор выбітых на ім двух элементаў на адным з Барысавых камянёў на Дзвіне, а таксама паўтор на дзвінскіх камянях стандартнай формулы, змешчанай тут на адвароце. Версія з паходам на яцвягаў, якая ўзыходзіць да Тацішчава, падаецца у сувязі з гэтым менш верагоднай, асабліва з улікам скептычнага стаўлення да яго звестак.

Калі камень на Віліі стаяў на паўночных рубяжах Ізяслаўскага княства, то, апрацаваны пры нагодзе, з часам ён мог пачаць успрымацца як памежны і ўжо ў гэтай якасці, як памежнага, паслужыць прыкладам для ўсталявання двух камянёў на межах валасцей на паўднёвым усходзе Полаччыны, пра якія казалася вышэй (па шэрагу прыкметаў, больш позніх). М. Ермаловіч лічыў «вілейскі» камень храналагічна першым з Барысавых камянёў. І такая храналогія сапраўды верагодная, хаця атрыбуцыя яго як Барысава не пацвярджаецца. Трэба адзначыць двухбаковы характар кампазіцыі на гэтым камені (падобнай у гэтым сэнсе да пячатак, але не абавязкова з імі звязанай) – пазней жа, на Барысавых камянях, магло адбыцца яе сумяшчэнне. Не будзе лішнім узгадаць шчыльныя стасункі Давыда з паўднёварускімі князямі на пачатковым этапе яго біяграфіі (зрэшты, як і пазней), адкуль маглі пранікаць і пэўныя ўзоры тагачаснай культуры.

Камень, пра які вялася гаворка, уяўляе сабой дастаткова складаны помнік. Ён заўважна адрозніваецца ад больш позніх як па змесце, так і па размяшчэнні надпісаў, якіх тут налічваецца чатыры. На дадзены момант гэта адзіны вядомы камень з надпісамі XII ст., што захаваўся на сваім пачатковым месцы. Таксама гэта адзін з двух помнікаў, на якіх захаваліся княжацкія знакі, якія можна суаднесці з канкрэтнымі князямі полацкай дынастыі. Яго апрацоўка, хутчэй за ўсё, была звязана з вайсковым паходам з удзелам князя Давыда Усяславіча на прыбалтыйскія землі, які адбыўся ў пачатку XII ст. Пытанне, звязанае з канчатковай інтэрпрэтацыяй апошняга з чатырох змешчаных на камені надпісаў яшчэ патрабуе адказу, аднак у цэлым помнік дастаткова добра ўпісваецца ў гістарычны кантэкст.

ISSN 2424-5216

# ДАПАМОГА ПАЦЯРПЕЛЫМ АД НЕЎРАДЖАЮ Ў ВІЦЕБСКАЙ І МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБ. У 1822–1823 ГГ.

***Уладзімір Шыпіла***
*магістр гісторыі (Варшава)*

***Summary***

*The tragic phenomenon of the 1821–1823 crop failure affected vast areas of the Russian Empire of its north-east (Viciebsk, Pskoй and Mahiloй provinces) and its more southern regions (Chernihiv province). It was caused by the crisis of the grain reserve system, the abuses of provincial officials, from whom the central authorities of the empire hardly obtained reports concerning crops and the nutritional status, and also the difficult situation of the peasants of these provinces.*

*To prevent famine among the population and to improve the bread supply system Special Committee had been created with the Minister of Internal Affairs Viktor Kochubey on its head. In April 1823 the tsarist government approved certain resolutions of the Committee, which included the postponement of underpayments and the temporary abolishment of taxes in the affected regions, as well as in the remission of duties. Food commissions subordinated to the governor were established in all provinces. The purpose of the commissions was to monitor the volume of harvested crops, the state of nutrition and predict the state of productivity for the next year.*

*The Ministry of Religious Affairs and Public Education headed by prince Alexander Golitsyn, with the participation of some secular persons-donors, as well as with the hierarchs of the Catholic clergy of both rites, the Roman Catholic Metropolitan Stanisłaй Bohuš-Siestrancevič and the Uniate Metropolitan Jazafat Bułhak, had organized collection of funds for the benefit of the affected residents of Belarusan provinces.*

На пачатку 1820-х гадоў на тэрыторыі Расійскай імперыі адбываліся трагічныя падзеі, звязаныя з неўраджаем. Быў відавочным крызіс дзяржаўнай сістэмы забеспячэння збожжам. Геаграфія голаду мела разлеглыя абшары: ад «беларускіх» Віцебскай і Магілёўскай губ. да Смаленскай і Пскоўскай на паўночным усходзе і Чарнігаўскай на поўдні. У той трагічнай сітуацыі дапамогу галадаючым жыхарам беларускіх губерняў аказвала ўніяцкае і рымска-каталіцкае духавенства, а таксама цывільныя асобы і дзяржаўныя арганізацыйі. Гэтая дабрачынная дзейнасць і стала галоўным аб’ектам даследавання ў дадзеным артыкуле.

## *Стан забеспячэння збожжам беларускіх губерняў Расійскай імперыі ў першай чвэрці XIX ст.*

Урад Аляксандра I пасля сканчэння спусташальнай вайны 1812 г. зразумеў небяспеку неўраджаяў. Але ў 1816–1819 гг. падчас абмеркавання пытання забяспечанасці насельніцтва збожжам урад памылкова палічыў нормы збожжавых рэзерваў завышанымі[1]. Афіцыйны падлік збораў ураджаяў у Расійскай імперыі да 70-х гг. XIX ст. грунтаваўся на матэрыялах штогадовых губернскіх справаздач[2]. На падставе дадзеных па губернях за 1811–1819 гг. чыноўнікі падлічылі, што насельніцтва 35 губерняў заўсёды будзе забяспечана збожжам уласнага ўраджаю. Дванаццаці губерням у сітуацыі моцнага неўраджаю давядзецца дакупляць збожжа, а шэсць губерняў наогул не здолеюць забяспечыць збожжам насельніцтва на працягу года. Зыходзячы з гэтай інфармацыі, урад палічыў, што паўсюднага адчувальнага неўраджаю і голаду ў імперыі быць не можа[3]. Аднак разлікі і прагнозы царскага ўрада пра здавальняючае забеспячэнне імперыі хлебам аказаліся недакладнымі. Расійскі гісторык Руслан Суворын на прыкладзе *хлебароднай* Тамбоўскай губ. адзначыў, што нягледзячы на ўрадлівыя глебы, сельскагаспадарчая вытворчасць у Расіі ў першай палове XIX ст. давала збоі ў неспрыяльныя ў кліматычным плане гады[4].

---

1 П. Котов, *Формирование системы хлебных и денежных запасов на случай неурожаев в законодательстве России XVIII – первой половины XIX века*, «Исторические, философские, политические и юридические науки, культурология и искусствоведение. Вопросы теории и практики», 2013, № 2 (28), ч. I, с. 92.

2 А. Нифонтов, *Статистика урожаев в России XIX в. (по материалам губернаторских отчетов)*, «Исторические записки», 1968, № 81, с. 216.

3 П. Николаенко, *МВД и борьба с голодом в начале 1820-х годов*, «Вестник Московского университета МВД России. Актуальные проблемы теории государства и права. Юридические науки», 2011, № 6, с. 90.

4 Р. Суворин, *Влияние стихийных бедствий на повседневную жизнь аграрного общества первой половины XIX в. (по материалам Тамбовской губернии)*, диссертация ... кандидата исторических наук: 07.00.02, «Тамбовский государственный университет им. Г. Р. Державина», 2015, с. 53–54.

Як сцвердзіў іншы расійскі гісторык Ігар Кузняцоў, справаздачы губернскіх улад не ўплывалі на існуючую сістэму інфармавання пра ўраджайнасць губерняў. Губернская канцылярыя ў першай палове XIX ст. штогод у кастрычніку загадвала ніжэйшым земскім судам збіраць звесткі і дасылаць інфармацыю пра стан ўраджаю ў павеце. Аднак мясцовыя чыноўнікі не спяшаліся выконваць загад. Звесткі прыходзілі пасля паўторнага нагадвання і пагроз штрафаў. З гэтай інфармацыі складвалася агульная губернская ведамасць, якая ў лістападзе накіроўвалася ў Міністэрства ўнутраных спраў (МУС). У 1810–1819 гг. яна таксама перасылалася ў існуючае тады Міністэрства паліцыі. Губернатараў абавязвалі дасылаць у МУС звесткі пра стан пасеваў і рост збожжавых культур ад пачатку вясны да збору ўраджаю два разы на месяц, 1 і 15 дня[1]. Арганізацыя забеспячэння губерняў збожжам у 1820-я гг. выглядала наступным чынам: утрыманне збожжавых запасаў у прыватнаўласніцкіх уладаннях ускладалася на іх уладальнікаў і кіраўнікоў расійскага дваранства, у дзяржаўных пасяленнях – на дзяржаўныя палаты. Дзяржаўныя капіталы складваліся непасрэдна з харчовага збору з кожнай рэвізскай душы жыхароў усіх катэгорый і знаходзіліся ва ўласнасці не асобных населеных пунктаў, а губерні ў цэлым. Агульны нагляд за збожжанарыхтовачнымі складамі і капіталамі ажыццяўлялі з 1822 г. камісіі харчавання[2].

Звернемся да падзей 1822 г. у суседняй з Віцебскай Пскоўскай губ. Некаторыя памешчыкі Порхаўскага пав. нават у святочныя дні маглі дазволіць сабе стравы толькі з бульбы і зрэдку з іншай гародніны. Памешчыкам даводзілася купляць хлеб у іншых расійскіх губернях. У сялян не было такой магчымасці, таму на пачатку 1820-х гг. на фоне неўраджаю павялічвалася запазычанасць сялянства перад запаснымі складамі (*хлебными магазинами*)[3].

У 1822 г. праблемы з харчаваннем пачаліся ў Віцебскай і Магілёўскай губ., насельніцтва якіх у той час складала адпаведна 602 тыс. і 678 тыс. чал.[4] Кіраўнік МУС Віктар Качубей прапанаваў выдаваць пацярпелым жыхарам пазыку 25 руб. на душу з растэрміноўкай выплаты на працягу 8 гадоў. Дадзеная прапанова была прынята Кабінетам міністраў, аднак гэта мера аказалася недастатковай[5]. Наступствы неўраджаю і голаду асабліва цяжка адбіліся на

---

1 И. Кузнецов, *Становление государственной системы сбора сведений об урожаях в России (XVIII – первая половина XIX веков)*, «Новый исторический вестник», 2023, № 75 (1), с. 16, 26.

2 А. Рогожина, *Проблема голода и продовольственная политика Российской империи в конце XIX – начале XX веков*, «Научный диалог», 2021, № 4, с. 425.

3 В. Кошельков, *Проблемы историографии и история становления запасных хлебных магазинов в первой половине XIX века (на примере Псковской губернии)*, «Вестник Рязанского государственного университета имени С. А. Есенина», 2021, № 4 (73), с. 19.

4 Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей – РДГА), ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 18, 24.

5 П. Николаенко, *МВД и борьба с голодом в начале 1820-х годов…* с. 93.

сялянстве. Але ад яго таксама моцна пацярпелі гараджане і дробная шляхта. Нярэдкімі былі выпадкі, калі прадстаўнікі розных падатковых саслоўяў ішлі жабраваць. Узімку 1822 г. у віцебскай багадзельні кожную ноч ад хвароб паміралі тры-чатыры чалавекі, бо даводзілася спаць на земляной падлозе, пад моцнымі скразнякамі[1]. В. Качубей зрабіў запыт на дапамогу ў 5 тыс. руб. у Віцебскі прыказ грамадскай апекі для жабракоў, каб утрымліваць іх да часу вяртання на месцы жыхарства[2].

Неабходнасць неадкладнага ўмяшальніцтва ў справу дапамогі беларускім і пскоўскім сялянам зразумеў імператар Аляксандр I, які яшчэ ў 1822 г. вяртаўся праз гэтыя землі з замежнага падарожжа[3]. Перад яго вачамі паўстала карціна сялянскай галечы, бо не ставала хлеба, палі былі слаба засеяныя з-за недахопу збожжа, большая частка жыхароў не мела жывёлы, і паўсюль сустракалася вялікая колькасць жабракоў[4]. Аднак толькі праз шэсць гадоў, у 1829 г., улады ўсё гэта назвалі голадам[5].

Падчас высвятлення прычын неўраджаю губернскія чыноўнікі, падобна да адміністрацыі Чарнігаўскай губ. у 1821 г.[6], характарызавалі беларускіх сялян як лянівых і схільных да празмернага ўжывання алкаголю. Іншай важнай прычынай былі яўрэі, якія нібыта аказвалі негатыўны ўплыў на працаздольнасць беларускіх сялян: «Повсеместно испытано уже, что белорусские крестьяне вообще наклонны к лености, а в особенности к пьянству, от которого помещики при самом строгом наблюдении не могут их воздержать, единственно потому, что проживающие в деревнях евреи и управляющиеся токмо одно продажею вина совершенно их развращают, развозя по деревням вино и выменивая на оное хлеб, доводят их до того, что по уборке хлеба в течении одного или двух месяцев весь крестьянский хлеб переходит к евреям; и таким образом крестьянин, обращаясь в пьянства, упускает удобное к работе время, лишается пропитания»[7]. Губернскія кіраўнікі дваранства таксама звярталі ўвагу на цяжкасці з набыццём і ўжываннем солі сялянамі ў беларускіх губернях. Продаж солі адбываўся праз вольнапрамыслоўцаў, якія завышалі яе кошт. У выніку ў некаторых паветах пуд солі каштаваў ад 5 да

1 Е. Аврутин, *Велижское дело. Ритуальное убийство в одном русском городе*, Петербург 2020, с. 56.

2 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 31.

3 Ibidem, арк. 121.

4 К. Трояновский, *Политика Российской империи в отношении беспоместной шляхты Западных губерний. 1795–1870 гг.*, диссертация … кандидата исторических наук, Санкт-Петербургский государственный университет, 2018, с. 54.

5 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 241.

6 П. Николаенко, *МВД и борьба с голодом в начале 1820-х годов…* с. 92.

7 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 26 адв., 27.

6 руб., у выніку чаго сяляне «употребляют пищу совсем без соли, и чрез то лишаются многие здоровья, а некоторым сие стоило и самой жизни»[1].

У 1822 г. у час моцнага неўраджаю ўрад якраз распачаў дзяржаўную рэформу па пераадоленні наступстваў крызісу з забеспячэннем збожжам у найбольш пацярпелых губернях. Распрацоўка праекта новых правіл аб сельскіх складах была ўскладзена на кіраўніка МУС В. Качубея. 22 лютага 1822 г. ён прадставіў ва ўрад праект пастановы пра асновы народнага харчавання ў імперыі, дадатковыя правілы, цыркулярнае прадпісанне грамадзянскім губернатарам з распараджэннямі, узоры розных форм звестак і справаздач[2]. У выніку ў 1822 г. былі зацверджаны акты, якія распачалі новы этап развіцця заканадаўства ў справе барацьбы з голадам. Пастанова ад 14 красавіка і распараджэнне Сената ад 30 красавіка 1822 г. сталі зместам закона аб народным харчаванні. Ва ўсіх губернях былі створаны камісіі народнага харчавання. Старшынёй камісіі быў губернатар, а ў яе склад уваходзілі 6–8 чыноўнікаў ад губерні. Галоўнай функцыяй было выяўленне аб'ёму сабранага ўраджаю ў канцы сельскагаспадарчага года, запасаў збожжа ў губерні з улікам прывазнога і становішча тых губерняў, адкуль ён быў прывезены. Рабіліся ацэнкі магчымай нястачы харчавання для жыхароў губерні на наступны год. У выпадку неўраджаю і голаду, як гэта было ў 1821–1823 гг., законам прадпісвалася выдача і размеркаванне пазык. Такім чынам, стварэнне камісіі народнага харчавання ставіла дзейнасць губернатара па размеркаванні харчовых запасаў пад кантроль[3]. Павятовыя кіраўнікі дваранства звярталі ўвагу на гаротны і безнадзейны стан беларускіх сялян, якія «оставляя свои селения, целыми семействами выходят в пограничные губернии, и в оных находят для себя пристанодержательство». Адначасна яны казалі пра неабходнасць затрымліваць беглых сялян, а за іх укрывальніцтва вызначалі такі ж штраф, як за беглага рэкрута. Палову штрафу павінен быў атрымаць уладальнік уцекача, а палову – дзяржава[4].

### *Арганізацыя дапамогі пацярпелым ад неўраджаю жыхарам беларускіх губерняў у 1822–1823 гг.*

Яшчэ ў 1822 г. па выніках інспекцыйнага агляду становішча беларускіх губерняў сенатарам Д. Баранавым, які праводзіў рэвізію дзяржаўнай вёскі ў Магілёўскай і Віцебскай губ.[5] і якому імператар Аляксандр I даручыў вызначыць памер

[1] Ibidem, арк. 28.

[2] П. Николаенко, *МВД и борьба с голодом в начале 1820-х годов…* с. 90–91.

[3] И. Кузнецов, *Становление государственной системы…* с. 17–18.

[4] РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 29 адв. – 30.

[5] *Гісторыя сялянства Беларусі:* у 3 т. Т. 1. *Гісторыя сялянства Беларусі ад старажытнасці да 1861 г.*, Мінск 1997, с. 288.

дапамогі пацярпелым жыхарам, было перададзена ў якасці дапамогі 50 тыс. руб.[1]. Таксама пастановай расійскага ўрада ад 5 лютага 1823 г. быў заснаваны Асобны камітэт, у які ўваходзілі В. Качубей, Д. Гур'еў, А. Аракчэеў і начальнік Галоўнага штаба П. Валконскі. Мэтай камітэта было неадкладнае папаўненне збожжавых запасаў сельскіх жыхароў беларускіх губерняў. На падставе сабраных звестак ад губернатараў і шляхты Віцебскай, Магілёўскай і Пскоўскай губ. гэты камітэт распрацаваў меры неадкладнай дапамогі пацярпелым ад неўраджаю[2].

Далейшыя захады расійскіх чыноўнікаў па аказанні дапамогі пацярпелым ад неўраджаю жыхарам беларускіх губерняў распачаліся ў лютым–сакавіку 1823 г. На пасяджэнні 15 лютага паведамлялася пра змест загада імператара аб заахвочванні і запрашэнні свецкіх і духоўных асоб да ўдзелу ў дапамозе пацярпелым. Адным з найбольш важных пытанняў была ацэнка стану харчавання і неабходнай падтрымкі жыхарам беларускіх губерняў. На пасяджэнні 5 сакавіка прысутнічаў упаўнаважаны дваранства Віцебскай губ., на пасяджэнні 21 сакавіка – магілёўскі і віцебскі губернскія маршалкі[3]. Асобным камітэтам былі распрацаваны мерапрыемствы па паляпшэнні эканамічнага стану беларускіх сялян. Урад станоўча паставіўся да гэтых прапаноў, удакладніўшы некаторыя з іх. У красавіку 1823 г. яны былі зацверджаны Аляксандрам I[4].

14 красавіка 1823 г. з дзяржаўнага скарбу Расійскай імперыі дзеля падтрымкі жыхароў беларускіх губерняў былі накіраваныя грошы для набыцця збожжа, на харчаванне і пасяўную[5]. 11 красавіка 1823 г. імператар загадаў: «Для вящаго же облегчения жителей белорусских, при настоящем расстроенном их состоянии Всемилостивейше соизволяю подлежащие с них подушныя подати и пошлину за право винокурения на следующие четыре года, начиная с 1824 года, уменшить в половину ныне взимаемых; сверх того, всех людей, кои окажутся умершими после ревизии, исключить из счёта ревизских душ и никаких податей за них впредь не требовать»[6]. Прадугледжвалася, па-першае, адтэрмінаваць выплату падаткаў бягучага 1823 г. і былых недаплат, за выключэннем земскіх павіннасцей, у той ступені, якую камітэт прызнаў магчымым. Па-другое, паколькі многія ўладальнікі не ажыццяўлялі ў сваіх маёнтках «вінакурэння», а абавязаны былі плаціць за гэта па два рублі з душы, было пастаноўлена браць з іх толькі палову сумы. Па-трэцяе, працягнуць казённым сялянам атрыманне пашпартоў на адзін год без аплаты і пашырыць гэта права

1 К. Трояновский, *Политика Российской империи…* с. 55.

2 П. Николаенко, *МВД и борьба с голодом в начале 1820-х годов…* с. 93–94.

3 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 16, 17.

4 П. Николаенко, *МВД и борьба с голодом в начале 1820-х годов…* с. 94.

5 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 90.

6 Ibidem, арк. 6 – 6 адв.

на духоўных, універсітэцкіх, удзельных і памешчыцкіх сялян. Агулам сялянам было выдадзена пашпартоў на суму 20 766 руб. Наконт памешчыцкіх сялян хадайнічалі дваране Невельскага пав., а сенатар Д. Баранаў падтрымаў прапанову з дадаткам пра важнасць інфармавання ўласнікаў. Па-чацвёртае, прадставіць губернатарам права прызначаць земскіх выканаўцаў для збору дакладных звестак пра ўраджай, а таксама для выканання гэтага закона. Яшчэ адзін пункт датычыў продажу сялянам солі. Было вырашана «учредить продажу казенной соли по тем ценам, по коим может обойтись казне, с доставкою на места»[1].

Такім чынам, падаткі за 1823 г. і падатак за права вінакурэння жыхароў беларускіх губерняў растэрміноўваліся на 10 гадоў, а з 1825 г. выплачваць іх трэба было без пені і працэнтаў. Мяшчанам і ўсім сялянам бясплатна выдаваліся пашпарты на 1823 г. Яўрэям забаранялася ў беларускіх губернях утрымліваць корчмы, заезныя двары і прадаваць у вёсках алкагольныя вырабы, а да 1825 г. яны былі абавязаны перасяліцца ў гарады і мястэчкі. Тым жа з іх, хто захацеў бы стаць хлебаробам, дазвалялася пасяліцца на вольных памешчыцкіх землях са згоды ўладальнікаў, але не там, дзе жылі сяляне[2]. Галоўнай мерай палёгкі жыхарам беларускіх губерняў была адтэрміноўка недаплат і падаткаў. Колькасць жыхароў (душ) у беларускіх губернях, якія плацілі падаткі на 1823 г., ацэньвалася ў 663 111 чал.[3].

У красавіку 1823 г. ва ўрадзе таксама разглядалася пытанне дапамогі дробнай шляхце з Віцебскай і Магілёўскай губ. разам з прыцягненнем найбольш лаяльных яе прадстаўнікоў да службы. 14 красавіка 1823 г. Аляксандр I зацвердзіў і гэты праект[4]. Для забеспячэння азімых пасеваў выдаткоўвалася 700 тыс. руб. Каб забяспечыць вясновы засеў вольных палёў яравымі культурамі, В. Качубей прапанаваў дапамагчы насеннем памешчыцкім гаспадаркам напярэдадні пасяўных прац. Адказнасць за выкананне была ўскладзена на камісію па харчаванні і дваранскіх маршалкаў[5]. У жніўні 1823 г. міністр унутраных спраў папрасіў Аляксандра I выдаткаваць на дапамогу дробнай шляхце Віцебскай і Магілёўскай губ. па 100 тыс. руб. для кожнай. Падчас падарожжа імператара праз Віцебск у кастрычніку 1823 г. генерал-губернатар Мікалай Хаванскі перадаў яму адмысловы зварот наконт дапамогі шляхце беларускіх

---

1 Ibidem, арк. 28, 33, 33 адв., 34, 44.

2 П. Николаенко, *МВД и борьба с голодом в начале 1820-х годов…* с. 93–94.

3 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 35 адв.

4 В. Макарэвіч, *Праект генерал-губернатара Мікалая Хаванскага аб разборы і ўладкаванні беларускай шляхты*, «Працы гістарычнага факультэта БДУ: навуковы зборнік», 2016, вып. 11, с. 64–65.

5 П. Николаенко, *МВД и борьба с голодом в начале 1820-х годов…* с. 93–94.

губерняў[1]. Пастановы Сената ад 14 красавіка 1823 г. не вырашалі праблему харчовага забеспячэння насельніцтва ў неўраджайныя гады, але знялі перашкоды для транспарціроўкі і ўнутранага вольнага гандлю збожжам[2].

Камісія народнага харчавання разам з запрошанымі губернскімі чыноўнікамі і павятовымі маршалкамі разгледзела звесткі пра стан харчавання жыхароў Магілёўскай губ. і выслала запыт аб выдачы са сховішча жытняга збожжа 15 тыс. чвэрцяў для пасеваў у г. Орша. Такая ж колькасць збожжа прызначалася жыхарам Мсціслава і Чэрыкава. Збожжа з гэтых запасаў планавалася выкарыстаць у выпадку крайняй неабходнасці для падтрымкі харчавання жыхароў найбольш пацярпелых паветаў Магілёўскай губ.: Бабінавіцкага, Сенненскага, Аршанскага, Капыскага (Копыскага), Чавускага, Чэрыкаўскага, Мсціслаўскага і Клімавіцкага. Таксама грамадзянскі губернатар адзначыў, што некаторыя сяляне з найбольш пацярпелых ад неўраджаю паветаў Магілёўскай губ. не маюць уласнага збожжа і ўтрымліваюцца з фальваркаў памешчыкаў, арандатараў і з дзяржаўных нарыхтовак мінулага ўраджаю[3]. У губерню было адпраўлена 30 тыс. чвэрцяў збожжа[4].

Камісія народнага харчавання ў Віцебскай губ. вызначыла менш пацярпелыя (паўночна-заходнія) паветы, якія не патрабавалі тэрміновай дапамогі: Дынабургскі, Себежскі, Рэжыцкі, Люцынскі і Дрысенскі, – і тыя (паўночна-ўсходнія), што патрабавалі яе неадкладна, сярод іх былі Віцебскі, Суражскі, Веліжскі, Гарадоцкі, Лепельскі, Полацкі і Невельскі[5].

Каб сяляне былі засяроджаны толькі на пасяўной або на зборы ўраджаю, было вырашана ўвесну і ўвосень не выкарыстоўваць іх для такіх дадатковых цяжкіх прац, як, напрыклад, рамонт паштовых дарог. Выказвалася прапанова ўраўняць земскія павіннасці беларускіх губерняў з вялікарасійскімі губернямі[6]. З мэтай барацьбы з «негатыўным яўрэйскім уплывам на беларускіх сялян» было прапанавана: «[…] чтобы Правительство или совсем удалило евреев из Белоруссии, или предоставило им заниматься продажею вина в самих только городах и местечках»[7]. Гэтыя захады былі рэалізаваны. Па стане на 1 студзеня 1824 г. з Магілёўскай губ. было выдалена 12 804 яўрэяў, з Ві-

1 В. Макарэвіч, *Расійскія праекты «разбору» шляхты беларуска-літоўскіх губерняў у 1823–1831 гг.*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2014, nr 41, s. 49.

2 П. Николаенко, *МВД и борьба с голодом в начале 1820-х годов…* с. 91.

3 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 18, 19, 19 адв., 20.

4 Ibidem, арк. 20 адв., 21.

5 Ibidem, арк. 25 адв., 26.

6 Ibidem, арк. 28.

7 Ibidem, арк. 26 адв., 27.

цебскай – 7 651. Але такая мера паспрыяла яшчэ большай перанаселенасці гарадоў. Апрача яўрэяў, у гарады ішлі натоўпы галодных сялян. Пры гэтым яўрэі прасілі дазволіць ім вярнуцца ў сельскую мясцовасць і працаваць там у майстэрнях, кузнях і на будоўлях дарог і каналаў[1].

Расійскія чыноўнікі звярталі ўвагу на праблему ўцёкаў збяднелых беларускіх сялян у суседнія губерні ў пошуку лепшай долі і спрабавалі супрацьдзейнічаць гэтаму працэсу: «[…] известно при том, что крестьяне Белорусских губерний и доныне в немалом числе находят себе работы казенныя, вне своих губерний. Отлучка их из жилищ едва ли не сопряжена с упадком хозяйства, а посему правительство поощрением таковых отлучек, для временных работ, отрывая людей от настоящаго их занятия, еще более могло бы способствовать к упадку хлебопашеств». Памешчыкам раілі звяртаць увагу на стан і дабрабыт сялян. Даведзеныя да галечы, у пошуках ежы падчас неўраджаю яны ўцякалі ў іншыя губерні[2].

## *Рымска-каталіцкае і грэка-каталіцкае духавенства ў справе дапамогі пацярпелым ад неўраджаю жыхарам беларускіх губерняў*

Захады каталіцкага духавенства ў справе дапамогі беларускім сялянам галоўным чынам былі накіраваны на збор грашовых ахвяраванняў на працягу 1823–1824 гг. і заахвочванне да ўдзелу ў ахвяраваннях сваіх прадстаўнікоў. У той час існавала Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы, за дзейнасць якога з 1817 да 1824 г. адказваў былы обер-пракурор Св. Сінода князь Аляксандр Галіцын. Міністэрства складалася з дэпартамента духоўных спраў, дэпартамента народнай асветы і галоўнага кіраўніцтва вучылішч. Заканчэнне збору ахвяраванняў выпала на рэструктурызацыю і аднаўленне былых структур Міністэрства народнай асветы і Галоўнага кіраўніцтва духоўных справаў замежных вызнанняў, якое ачоліў адмірал Аляксандр Шышкоў[3]. Да духоўных улад хрысціянскіх канфесій у сітуацыі неўраджаю царская адміністрацыя накіравала адпаведныя інструкцыі. Між іншым загадвалася, каб святары штодня «с коленопреклонением при Богослужении молились об отвращении голода и о хлебородии». Таксама гаворка ішла пра стварэнне Дабрачыннага камітэта «из духовных и светских лиц для сбора [средств] на покупку хлеба» ды інш.[4]

---

1 Е. Аврутин, *Велижское дело…* с. 57.

2 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 71, 72, 72 адв.

3 М. Приходько, *Синод и Министерство духовных дел и народного просвещения в 1817–1824 гг.*, «Вестник исторического общества Санкт-Петербургской духовной академии», 2021, № 1(6), с. 195.

4 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 2, 2 адв, 3.

Непасрэдныя кантакты з прадстаўнікамі каталіцкага духавенства наконт арганізацыі збору сродкаў пацярпелым распачаў кіраўнік Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы князь А. Галіцын. У сваім лісце да часова адказнага за Полацкае ўніяцкае архіепіскапства Якава Мартусевіча міністр зазначыў: «[…] как голод есть наказание Божие; то Его Императорскому Величеству благоугодно, дабы во всех Белорусских греко-униатских церквах ведомства Вашего Преосвященства ежедневно с коленопреклонением при Богослужении производимы были молебствия об отвращении голода и о хлебородии»[1].

Міністр Галіцын звярнуўся да рымска-каталіцкага мітрапаліта Станіслава Богуша-Сестранцэвіча з прапановай прыцягнуць духавенства да ахвяраванняў. Як было адзначана чыноўнікам, «духовенство в нуждах своих имеет право на вспоможение от собратий одного с ним исповедания, когда сии последние имеют избыточные доходы. Такова была мысль Вашего Высокопреосвященства при учреждении вспомогательнаго капитала, – мысль, утвержденная Его Императорским Величеством. В сей капитал коллегия определила сбор только с белаго духовенства, начав оный с нынешняго года. Соображая раскладку по сему предмету сделанную, я нахожу, что по большой части назначена самая малая сумма, как то со ста рублей чистаго дохода два и даже меньше онаго рубля»[2]. А. М. Галіцын падкрэсліў: «Я предполагаю отнести к Преосвященным епископам и администраторам епархий обоих обрядов [рымска-каталіцкага і ўніяцкага – У. Ш. ], дабы они внушили подведомому духовенству и начальству монастырей таковую их обязанность и склоняли их оказать милосердие и помощь не только от избытков своих, но даже с ограничением издержек на собственныя нужды по всей возможности[3].

У духоўным дэпартаменце Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы знаходзіліся звесткі пра фундушы некаторых кляштараў, з якіх маглі быць зроблены ахвяраванні на карысць пацярпелых жыхароў беларускіх губерняў. Там фігуравалі кармеліцкі кляштар у Глыбокім Мінскай губ., у валоданні якога было больш за 1 700 душ сялян, а капітал складаў каля 10 тыс. руб. срэбрам. Кляштар утрымліваў 10 манахаў і некалькі клірыкаў. Было вызначана, што гэты кляштар мог ахвяраваць 1 тыс. руб. срэбрам. Картэзіянскі кляштар у Бярозе Гродзенскай губ., у якога сялян было больш за 1 200 душ, а фундушавы капітал складаў 60 тыс. руб. срэбрам, утрымліваў трох іераманахаў і некалькіх клірыкаў. Кляштар мог ахвяраваць 2 тыс. руб. срэбрам. Бенедыктынскі жаночы кляштар у Нясвіжы меў 1043 душ і фундуш у 26 255 руб. срэбрам. На ўтрыманні былі 32 манахіні. Ахвяра з кляштара была вызначана на суму больш за 1 тыс. руб. срэбрам. Бенедыкцінскі жаночы кляштар у Вільні ва-

[1] Ibidem, арк. 9.

[2] Ibidem, арк. 75 адв.

[3] Ibidem, арк. 76.

лодаў 1368 душамі і фундушавым капіталам ў памеры 34 тыс. руб. срэбрам. У кляштары жылі 32 манахіні і 22 выхаванкі. Вызначаная ахвяра з кляштара складала 500 руб. срэбрам.[1]. На жаль, архіўныя крыніцы не паведамляюць пра тое, ці былі ахвяраванні здзейсненыя. Затое вядома, што яны паступалі з дыяцэзій, дзе знаходзіліся некаторыя з гэтых кляштараў.

Апрача згаданых рымска-каталіцкіх і базыльянскага кляштара дзейнічалі шмат іншых, якія, на думку чыноўнікаў, маглі дапамагчы пацярпелым ад голаду. Пры гэтым прадстаўнікі духоўнага дэпартамента спасылаліся на словы рымска-каталіцкага мітрапаліта Богуша-Сестранцэвіча, які «о весьма многих монастырях заметил, что общества их ныне весьма умалились, а фундуши остаются все те же»[2]. Сам мітрапаліт, гаворачы пра ахвяраванні, спасылаўся на патрабаванне зацверджанага імператарам Рэгламента ад 11 снежня 1800 г. «Аб кіраванні Рыма-каталіцкім духавенствам у Расіі»[3]: «Епархиальным архиереям смотреть, дабы доходы белаго духовенства и именно прелатов, каноников, плебанов и прочих не на великолепие и излишества обращались, но по предписанию церковных прав на необходимыя надобности были употребляемы»[4]. Не менш важным чыннікам дапамогі быў загад да рымска-каталіцкай духоўнай калегіі: «[...] дабы она [коллегия] положила намер, каким образом от избыточных доходов некоторых церквей и монастырей составить общую сумму, процентами коей были бы удовлетворяемы необходимыя нужды других недостаточных церквей и монастырей с духовенством и поддерживаемы состоящия в духовном ведомстве общеполезныя заведения»[5]. Таксама чыноўнікі духоўнага дэпартамента звярнулі ўвагу, што ў беларускіх губернях ў 1823 г. жыло каля 25 тыс. сялян мужчынскага полу рымска-каталіцкага веравызнання. У 1822 г. на дапамогу частцы гэтых сялян было прызначана 55 тыс. рублёў, якіх аказалася недастаткова. У духоўным дэпартаменце прызналі карысным вызначыць у кожнай дыяцэзіі меру ахвяраванняў.

Міністр Галіцын у сваім праекце згадваў дапаможны капітал, створаны па загадзе Аляксандра I. Ён складаўся са збораў з белага духавенства за 1823 г. Міністр наракаў, што кляштары аніякіх сродкаў у гэты капітал не накіравалі, маючы пры гэтым багатыя фундушы, а таксама прапанаваў патрабаваць ад біскупаў і адміністратараў «епархий обоих обрядов [рымска-каталіцкіх і ўніяц-

---

1 Ibidem, арк. 77 адв., 78.

2 Ibidem, арк. 78 адв.

3 С. Лукьянов, А. Удодов, *К вопросу о государственно-правовом регулировании деятельности Римско-католической церкви в России*, «Государственная служба и кадры», 2018, № 2, с. 33.

4 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 79.

5 Ibidem, арк. 80.

кіх – У. Ш. ], дабы они внушили подведомому им духовенству и начальнику монастырей таковую их обязанность, и склоняли их оказать милосердие и помощь не только от избытков своих»[1]. Паводле праекта Галіцына, усе ахвяраванні павінны былі накіроўвацца да грамадзянскіх губернатараў, якія пазней перанакіроўвалі б сабраныя сродкі ва ўстаноўчы камітэт, якім кіраваў генерал-губернатар[2].

Дыскусіі прадстаўнікоў духоўнага дэпартамента і мітрапаліта С. Богуша-Сестранцэвіча ў справе дапамогі пацярпелым ад неўраджаю 1822–1823 гг. адбываліся ў атмасферы ўзаемнага недаверу. Урад праз міністра Галіцына стараўся давесці мітрапаліту, што прадстаўленыя ім звесткі пра даходы кляштараў, у тым ліку ад бенефіцыяў, могуць павялічыць ахвяраванні жыхарам пацярпелых губерняў. Мітрапаліт адмаўляўся, сцвярджаючы, што перадача такой інфармацыі можа выклікаць незадаволенасць духавенства, асабліва калі гаворка ідзе пра крыніцы даходаў. Ён намагаўся прытрымлівацца царкоўных і дзяржаўных законаў і прапанаваў, каб міністр узяў за аснову тыя звесткі пра духоўныя ўладанні і капіталы, якія былі ў распараджэнні духоўнага дэпартамента. Адначасова Богуш-Сестранцэвіч паведаміў, што са свайго боку гатовы перадаць для ахвяраванняў сродкі з уласных даходаў[3]. Варта адзначыць, што ў 1817 г. у складзе духоўнага дэпартамента была створана камісія па наглядзе за рымска-каталіцкім духавенствам і яго маёмасцю[4]. С. Богуш-Сестранцэвіч не хацеў пашырэння паўнамоцтваў гэтай камісіі.

Урэшце духоўны дэпартамент прапанаваў абмежавацца лістамі да тых духоўных асоб, ад якіх можна было чакаць значных ахвяраванняў, а ў гэтых лістах старацца пераканаць адрасатаў аказаць усю магчымую дапамогу пацярпелым і іх адзінаверцам, а таксама залежным ад іх сялянам[5]. 7 ліпеня 1823 г. міністр Галіцын накіраваў запрашэнне да каталіцкага духавенства абодвух абрадаў прыняць удзел у ахвяраваннях на карысць пацярпелых жыхароў беларускіх губерняў. Сярод адрасатаў згадваюцца: князь Юзаф Гедройць, біскуп жамойцкі; князь Шыман Гедройць, біскуп адраміцкі; Тадэвуш Кундзіч, біскуп анастасіупальскі; Адам Касакоўскі, біскуп лімірскі; Францішак Мацкевіч, біскуп камянецкі; Лявонці Яваpоўскі, уніяцкі епіскап уладзімірскі; Адрыян Галаўня, уніяцкі епіскап аршанскі; Якаў Мартусевіч, уніяцкі епіскап луцкі; Каспер Казімір Цецішоўскі, біскуп луцкі; Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, мітрапаліт Расіі; Язафат Булгак, уніяцкі мітрапаліт Расіі; Ігнацы Гедройць, ты-

[1] Ibidem, арк. 81 – 81 адв.

[2] Ibidem, арк. 88 адв. – 89.

[3] Ibidem, арк. 91 – 92 адв.

[4] М. Приходько, *Синод и Министерство духовных дел…* с. 196.

[5] РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 94.

тулярны біскуп[1] цэзіскі; Ян Падгарадзенскі, біскуп-суфраган луцкі; Матэвуш Ліпскі, тытулярны біскуп аўрэлёпальскі; Валеры Камёнка, біскуп-суфраган кіеўскі; Юзаф Камінскі, афіцыял Мінскай кансісторыі[2].

У лісце Галіцына ад 24 ліпеня 1823 г. да луцкага епіскапа Якава Мартусевіча, які ў той час кіраваў Полацкім уніяцкім архіепіскапствам, паведамлялася, што інфармацыя аб заахвочванні да ахвяраванняў была даведзена да ўсяго белага і манаскага духавенства ўніяцкага Полацкага архіепіскапства. Разам з тым ён пісаў, што не спадзяецца атрымаць вялікія сродкі, бо духавенства збяднела, як і іншыя пацярпелыя жыхары беларускіх губерняў[3].

Як адзначыў 3 жніўня 1823 г. брэсцкі прэлат Антоні Тупальскі ў звароце да духавенства Брэсцкай уніяцкай дыяцэзіі, «касательно же для белорусскаго духовенства и подлежащих оному крестьян определено, чтобы духовный сан сам собою ответственную своему милосердию и возможности принёс жертву, дабы по сему определению светские обыватели светским, а духовные духовенству преподали помощную десницу [...]»[4]. Уніяцкі мітрапаліт Язафат Булгак у сваім лісце да міністра духоўных спраў і народнай асветы ад 10 жніўня 1823 г. інфармаваў, што запрасіў да ўдзелу ў ахвяраванні ўсіх епархіяльных і вікарных епіскапаў, а таксама кансісторыі і правінцыялаў базыльянскага ордэна па ўсёй імперыі[5]. У інфармаванні прадстаўнікоў рымска-каталіцкага духавенства ўдзельнічаў афіцыял Мінскай рымска-каталіцкай кансісторыі біскуп Юзаф Камінскі[6]. У лісце да князя А. Галіцына ад 28 жніўня 1823 г. біскуп Адрыян Галаўня паведамляў, што паклапаціўся давесці інфармацыю наконт дапамогі да ўсіх вернікаў, «чтобы не токмо священно- и церковнослужители, но весь народ христианский попечился сколь возможность позволит»[7].

Першыя сумы ахвяраванняў ад каталіцкага духавенства пачалі паступаць з сярэдзіны лета 1823 г. Уладзімірскі біскуп, суфраган брэсцкі і архімандрыт Супрасльскага базыльянскага кляштара Лявонці Яваровскі ў сваім лісце да

[1] Пасада тытулярнага біскупа была ўведзена ў раннім Сярэднявечччы ў сувязі з захопам арабамі ў VII–VIII стст. Паўночнай Афрыкі, Іспаніі і іншых тэрыторый, населеных хрысціянамі. Тытулярнымі станавіліся біскупы ўжо неіснуючых дыяцэзій, якіх пераводзілі ў іншае месца, дзе яны выконвалі дапаможныя абавязкі. Гл.: Ks. Józef Wroceński, *Biskupi tytularni w prawie Kościoła Łacińskiego*, «Prawo Kanoniczne» 2021, nr 61, nr 1, ss. 83, 86.

[2] РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 102 адв. – 103.

[3] Ibidem, арк. 110 – 110 адв.

[4] Ibidem, арк. 128 – 128 адв.

[5] Ibidem, арк. 112.

[6] Ibidem, арк. 119.

[7] Ibidem, арк. 137.

А. Галіцына ад 21 жніўня 1823 г. паведамляў, што з падуладных яму базыльянскіх кляштараў Беластоцкай вобл. – Кузніцкага, Драгічынскага і Супрасльскага – былі атрыманы невялікія сумы ахвяраванняў з прычыны іх беднасці. Першыя два далі па 25 руб. асігнацыямі, а Супрасльскі – 50. Сам жа аўтар ліста паведаміў, што да пералічаных сум ахвяраванняў далучыў уласных 400 руб. асігнацыямі. Усяго асігнацыямі паступіла 500 руб.[1]

***Табліца 1. Ахвяраванні ад духоўных асоб на карысць пацярпелых ад неўраджаю 1822–1823 гг. жыхароў беларускіх губерняў***

| Дата | Ахвярадаўцы | Сума асігн. | Сума срэбр. |
|---|---|---|---|
| **1823** | | | |
| 21.08. | Лявонці Явароўскі, уніяцкі епіскап уладзімірскі | 400 руб. | |
| 21.08. | базыльянскія кляштары Кузніцкі, Драгічынскі, Супрасльскі | 100 руб. | |
| 27.08. | Грыгоры Закаран, архіепіскап бесарабскіх армян | 200 руб. | |
| | Давідоўскі, вінніцкі дэкан, канонік | 48 руб. 5 кап. | |
| 30.11. | Францішак Мацкевіч, біскуп камянецкі | 120 руб. | 30 руб. |
| 1.12. | духавенства Камянецкай дыяцэзіі (Каменец-Падольскі) | 10 руб. | 132 руб. |
| 8.12. | Каспер Казімір Цецішоўскі, біскуп луцкі | 3150 руб. | |
| 16.12. | Цэзары Каменскі, літоўскі базыльянскі правінцыял | 505 руб. | |
| 21.12. | Юзаф Гедройць, біскуп жамойцкі | 2010 руб. | 10 кап. |
| **1824** | | | |
| 19.01. | Лявонці Дзямковіч, афіцыял базыльянаў Рускай правінцыі | 640 руб. | |
| 23.03. | Ян Падгарадзенскі, біскуп-суфраган луцкі | 295 руб. 3 кап. | 50 кап. |
| 04.04. | Віленская рымска-каталіцкая кансісторыя | 355 руб. | 42 руб. 63 кап. |
| 05.09. | Юзаф Камінскі, афіцыял Мінскай рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыі | 200 руб. | 1 галандскі чырвонец |
| **РАЗАМ:** | | **8033 руб. 8 кап.** | **205 руб. 23 кап., 1 гал. чырв.** |

Крыніцы: РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 170, 176, 183, 191, 192 адв., 195, 200, 201, 207, 214, 217, 231, 231 адв., 236, 236 адв., 241.

З табліцы 1 вынікае невялікая колькасць ахвярадаўцаў пераважна з рымска-каталіцкіх дыяцэзій украінскіх і беларускіх земляў Расійскай імперыі. Таксама ахвяраванні паступалі ад прадстаўнікоў уніяцкага кліру і ордэна базыльянаў розных правінцый (Літоўская, Руская) і кляштараў, што знаходзіліся на Беласточчыне і Падляшшы. Пераважная частка ахвяраванняў была ў асігнацыях. Незвычайным бачыцца ўдзел у ахвяраваннях бесарабскага архіепіскапа Армянскай апостальскай царквы Грыгорыя Закарана (1812–1827)[2]. Гэта было ахвяраванне ад іерарха новапаўсталай епархіі. Для прыблізнай ацэнкі

[1] Ibidem, арк. 126, 126 адв., 153.

[2] Г. Погосян (Хахбакян), *Памятники армянской архитектуры и топонимики в Молдове*, «Регион и мир», 2018, № 4, с. 44. Епархія ААЦ у Бесарабіі была заснавана ў 1809 г. у Ясах, а ў 1812 г. пераведзена ў Кішынёў.

сумы, сабранай на карысць пацярпелых жыхароў беларускіх губерняў, варта адзначыць, што кошт селяніна (*ревизской души мужского пола 5 класса*) у беларускіх губернях у 1822 г. складаў прыблізна 250 руб.[1]

### Свецкія ахвярадаўцы

Важнай крыніцай дапамогі пацярпелым жыхарам Віцебскай і Магілёўскай губ. былі прыватныя ахвяраванні прадстаўнікоў расійскага дваранства, купецтва і гараджан. Ахвяраванні паступалі ў Віцебск, у прыказ грамадскай апекі, дзе імі распараджаўся грамадзянскі губернатар. Міністр А.М. Галіцын у сакавіку 1823 г. напісаў шэраг лістоў да прадстаўнікоў расійскага дваранства, у якіх заахвочваў далучацца да дапамогі пацярпелым ад неўраджаю ў Магілёўскай і Віцебскай губ. Сярод адрасатаў былі граф П. К. Разумоўскі, граф Ю. П. Літэ, граф Г. І. Чарнышоў, графіня А. В. Браніцкая, графіня Г. А. Арлоўская-Часменская, граф Д. М. Шарамецьеў, князь А. Г. Куракін, князь А. А. Чартарыйскі, граф Г. П. Румянцаў, княгіня К. І. Лабанава-Растоўская, князь Б. А. Куракін, граф А. Г. Кушалеў-Безбародка, князь С. Н. Салтыкоў, Г. В. Румін, А. І. Якаўлеў, граф Н. П. Варанцоў[2]. Але толькі невялікая частка згаданых асоб далучылася да ахвярадаўцаў.

***Табліца 2. Ахвяраванні на патрэбы пацярпелых ад неўраджаю 1822–1823 гг.***

| Дата | Ахвярадаўцы | Сума асігн. | Сума срэбр. |
|---|---|---|---|
| **1823** | | | |
| 28.07. | сакрэтны дарадца Зіноўеў і невядомыя асобы, Пецярбург | 1014 руб. 85 кап. | |
| 21.08. | карнет Якаўлеў | 2000 руб. | |
| 22.08. | граф Шарамецьеў | 1000 руб. | |
| 30.08. | графіня Г. А. Арлова-Часменская | 500 руб. | |
| 5.09. | жыхары г. Араніенбаум | 18 руб. | 30 кап. |
| 13.09. | калежскі дарадца Румін | 300 руб. | |
| 26.09. | чыстапальскі гараднічы | | 15 руб. 10 кап. |
| 16.10. | граф Кушалеў-Безбародка | 300 руб. | |
| - | паручык Станкевіч, Санкт-Пецярбург | 100 руб. | |
| - | жыхары Чыстапальскага і Царовакакшайскага пав. Казанскай губ. | | 5 руб. |
| - | жыхары Керанскага павета Пензенскай губ. | 15 руб. | |
| - | жыхары Тамбоўскай губ. і | 45 руб. | 25 кап. |
| - | жыхары г. Шлісельбург | 65 руб. | |
| - | купянскі земскі ісправнік (Слабодска-Украінская губ.) | | 24 руб. 60 кап. |
| - | жыхары Слабодска-Украінскай губ. | 102 руб. | |
| - | жыхары Табольскай губ. | 8 руб. 40 кап. | |

1 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 69.

2 Ibidem, арк. 113, 114.

| | | | |
|---|---|---|---|
| - | жыхары Казанскай губ. | 11 руб. 30 кап. | |
| - | жыхары г. Белгарад (Курская губ.) | 118 руб. 65 кап. | |
| 22.12. | жыхары г. Ахтырка, а таксама Ваўчанскага і Волкаўскага пав. Слабодска-Украінскай губ. | | 25 руб. |
| 26.12. | жыхары г. Чабаксары Казанскай губ. | | 6 руб. 50 кап., 15 кап. мед. |
| **1824** | | | |
| 8.01. | жыхары гарадоў Аланец, Выцягра і Пудаж (Аланецкая губ.) | 108 руб. 48 кап. | 90 кап. |
| 08.02. | жыхары г. Кашына (Цвярская губ.) | 35 руб. | 1 руб. 15 кап./ 2 кап. мед. |
| 08.03. | слабодска-ўкраінскі губернатар В. Г. Муратаў | | 100 руб. |
| - | жыхары Карчава (Цвярская губ.) | 18 руб. 36,5 кап. | |
| - | жыхары Слабодска-Украінскай губ. | 202 руб. | 23 руб. 35 кап. |
| - | жыхары Спаскага павета Казанскай губ. | 22 руб. 22 кап. | |
| - | жыхары гарадоў Арлоў, Слабадскі, Налінск, Вятка (Вяцкая губ.) | 135 руб. 13 кап. | |
| - | жыхары Вяцкага, Яранскага, Налінскага, Сарапульскага паветаў (Вяцкая губ.) | | 174 руб. |
| - | жыхары гарадоў Іркуцк і Верхнеудзінск (Іркуцкая губ.) | 80 руб. | |
| - | жыхары Кіеўскай губ. | 40 руб. | 13 руб. |
| - | рамесная ўправа расійскіх цэхаў (Санкт-Пецярбург) | 902 руб. 90 кап. | |
| - | жыхары Слабодска-Украінскай губ. | | 36 руб. 50 кап. |
| - | сумскі гараднічы | | 8 руб. |
| **РАЗАМ:** | | **6 940 руб. 29 кап.** | **411 руб. 75 кап., 17 кап. мед.** |

Крыніцы: РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 142, 151 адв., 156, 157, 166 адв., 169, 175, 185, 193, 193 адв., 194, 200, 204, 208, 211, 212, 216, 218, 219 адв., 220, 222, 227 адв., 229 адв., 237 адв.

Звяртае на сябе ўвагу, што ў перыяд з 22 чэрвеня да 14 ліпеня 1823 г. невядомыя асобы з Пецярбурга і дарадца Зіноўеў ахвяравалі 1014 руб. 85 кап.[1] Граф Д. М. Шарамецьеў, які ахвяраваў тысячу рублёў, у лісце да А. Галіцына адзначыў, што не можа даць больш з прычыны голаду ва ўласных уладаннях у Цвярской губ. Там пражывала каля 8 тыс. мужчын і 16 тыс. жанчын. Да таго ж сяляне галадалі таксама ў іншых губернях, дзе памешчыкі ўтрымлівалі іх за ўласны кошт[2]. Графіня Г. Арлова-Часменская ахвяравала 500 рублёў, паведамляючы, што не можа ахвяраваць болей у сувязі з пажарамі, якія абярнуліся выдаткамі ў памеры 300 тыс. руб. на аднаўленне сялянскіх гаспадарак[3]. Значная частка ахвяраванняў паступіла ад жыхароў Украінска-Слабодскай, а таксама больш аддаленых Табольскай, Казанскай, Вяцкай і Іркуцкай губ. Ахвяраван-

[1] Ibidem, арк. 107.

[2] Ibidem, арк. 115 – 115 адв.

[3] Ibidem, арк. 131.

ні былі таксама ў срэбных рублях. Самымі шчодрымі ахвярадаўцамі аказаліся прыватныя асобы. Некаторыя супольнасці, да якіх звяртаўся Аляксандр Галіцын, пакінулі просьбы пра ахвяраванні без адказу. Так, у 1823 г. ён звяртаўся да пецярбургскага купецтва, прадстаўнікоў управы нямецкіх цэхаў, а таксама да асоб, якія выйгралі ў першай у Расійскай імперыі дзяржаўнай латарэі «Варатынец», але яны не прынялі ўдзел у дабрачыннай справе[1].

Трэба адзначыць, што сумарныя лічбы ахвяраванняў з абедзвюх табліц не супадаюць з тымі лічбамі, якія Аляксандр Галіцын прадставіў у МУС. Агульная сума, паводле Галіцына, на студзень 1824 г. склала 8 590 руб. асігнацыямі ад свецкіх і духоўных асоб і інстытуцый[2]. Пры гэтым у дакументах фігуравала сума ў 8 845 руб. асігнацыямі, з якіх Галіцын накіраваў генерал-губернатару беларускіх губерняў 8590 руб. Яшчэ 255 руб. у 1824 г. былі перададзены ў дэпартамент духовных спраў[3]. Па звестках Галіцына, сума 8845 р. асігнацыямі, якая паступіла са жніўня 1823 да студзеня 1824 г., склалася з ахвяраванняў ад архіепіскапа бесарабскіх армян (200 р.), карнета Якаўлева (2000 р.), графа Шарамецьева (1000 р.), графіні Арловай-Часменскай (500 р.), калежскага дарадцы Руміна (300 р.), графа Кушалева-Безбародкі (300 р.), уніяцкага мітрапаліта Язафата Булгака (505 р. і 640 р.), рымска-каталіцкага луцкага біскупа Каспара Цецішоўскага (3145 р.)[4]. Як бачым, гэтыя сумы адрозніваюцца ад тых, што прадстаўлены ў табліцы 1. З невядомых прычын Галіцын не дадаў да агульнай сумы ахвяраванні ў срэбры. Пры гэтым «згубіліся» ахвяраванні базыльянскіх кляштараў Кузніцкага, Драгічынскага, Супрасльскага і ўладзімірскага біскупа Лявонція Явароўскага, Камянецкай дыяцэзіі і яе біскупа Францішка Мацкевіча, значныя ахвяраванні жамойцкага біскупа Юзафа Гедройця. З боку свецкіх ахвярадаўцаў Галіцын не згадаў ахвяраванні гараджан, жыхароў Слабодска-Украінскай, Вяцкай і Іркуцкай губ. і такіх прыватных асоб, як паручык Станкевіч і дарадца Зіноўеў.

Паводле справаздачы, за 1824 г. было сабрана ахвяраванняў на суму 1 358 руб. 2 кап. асігнацыямі, 2 руб. 35 кап. срэбрам і 1 галандскі чырвонец. Сродкі былі перададзены на захоўванне скарбніку камісіі духоўных вучылішчаў[5]. Таксама ў звестках пра ахвяраванні ў 1824 г. запісаны толькі некаторыя ахвярадаўцы: рамесная ўправа Пецярбурга (кіраўнік Кулаў) – 902 руб. асігнацыямі і 90 кап.; рымска-каталіцкая духоўная кансісторыя (афіцыял Ц. Камінскі) – 200 руб. асігнацыямі і 1 галандскі чырвонец; Дэпартамент рымска-каталіцкай духоўнай ка-

1 Ibidem, арк. 173, 178, 240.

2 Ibidem, арк. 200.

3 Ibidem, арк. 200, 241.

4 Ibidem, арк. 201.

5 Ibidem, арк. 241.

легіі – 2 руб. 35 кап. і 12 кап. меддзю[1]. У пераліку духоўных асоб былі ўказаны ахвяраванні з Віленскай рымска-каталіцкай кансісторыі. Сярод свецкіх ахвярадаўцаў не пазначаны ахвяраванні з розных гарадоў і паветаў імперыі.

Цяжка сказаць, чаму міністр падаў няпоўныя звесткі. Няма магчымасці даведацца, што сталася са сродкамі, якія не былі ўключаны ў дзве згаданыя сумы і перададзены ў Віцебскі прыказ грамадскай апекі. У дадзеным артыкуле не ставіцца за мэту высвятленне прычын знікнення сродкаў. Аднак можна зрабіць выснову, што са (з) задачай збору ахвяраванняў пацярпелым жыхарам Віцебскай і Магілёўскай губ. у 1823–1824 гг. Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы, а потым Галоўнае кіраўніцтва духоўных спраў замежных вызнанняў не справіліся.

Ад пачатку гаворка ішла таксама пра дапамогу сялянам Пскоўскай губ., але пазней абмежаваліся толькі дапамогай сялянам дзвюх беларускіх губерняў, «как наиболее претерпевающих нужду от долголетняго неурожая»[2]. Па стане на 7 кастрычніка 1823 г. ахвяраванняў на карысць пацярпелых жыхароў Пскоўскай губерні было сабрана толькі 40 рублёў асігнацыямі, якія былі скіраваны ў Пскоўскі прыказ грамадскай апекі «для употребления на богоугодныя заведении»[3]. Пры гэтым звесткі пра наступствы неўраджаю ў паветах Пскоўскай губ. не даюць падстаў меркаваць, што сітуацыя там была лепшая, чым у беларускіх. Чыноўнікі таксама пацярпелі фіяска ў справе арганізацыі адмысловага дабрачыннага камітэта па зборы ахвяраванняў на карысць пацярпелых. Сумы паступалі невялікія, а Галіцын у студзені 1824 г. у лісце кіраўніку МУС заявіў, што стварэнне такога камітэту дапамогі перавышае яго паўнамоцтвы[4].

У той жа час можна сцвярджаць, што каталіцкія іерархі з задачай інфармавання духавенства і збору ахвяраванняў справіліся. Гэта пацвярджаюць сумы, сабраныя духавенствам з дыяцэзій, кляштараў і правінцый ордэна базыльянаў. Асабліва ўражвае прыклад прадстаўнікоў луцкага каталіцкага духавенства. У лісце да міністра духоўных спраў і народнай асветы ад 8 снежня 1823 г. луцкі біскуп Каспер Цецішоўскі паведаміў, што прадстаўнікі духавенства «много претерпели от большаго вылева в нынешнем году воды, которая залела весь хлеб на поле; другие же состоят в недостатке чрез неполучание своего дохода с аннуат[5], и процентов от сумм, обеспеченных на помещичьих имениях, по

---

1 Ibidem, арк. 243.

2 Ibidem, арк. 121–121 адв.

3 Ibidem, арк. 152.

4 Ibidem, арк. 203.

5 Ануата – працэнты з «капітальнага» фундуша, што звычайна знаходзіўся на захаванні ў кляштары альбо ў яўрэйскім кагале (гл. Д. Лісейчыкаў, *Штодзёнае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839 гг.,* Мінск 2011, *с.* 76).

поводу малой очень цены»[1]. Пры гэтым яны сабралі 3 145 руб. асігнацыямі[2]. Гэта найбольшае ахвяраванне з боку духоўных асоб.

Таксама значны ўнёсак зрабілі свецкія ахвярадаўцы – прадстаўнікі расійскага дваранства, жыхары гарадоў і паветаў Іркуцкай, Вяцкай, Слабодска-Украінскай і Казанскай губ. З іншага боку, як ужо згадвалася вышэй, невядома, на якія патрэбы пайшлі сродкі, перададзеныя ў Віцебскі прыказ грамадскай апекі, і ці былі яны выкарыстаны для набыцця хлеба. Адзначу таксама, што частка грошай на дапамогу пацярпелым жыхарам беларускіх губерняў была сабрана са спазненнем[3].

Чыноўнікі тлумачылі, што ахвяраванні на карысць пацярпелых ад неўраджаю жыхароў Магілёўскай і Віцебскай губ. збіраюцца аналагічна ранейшым зборам дзеля дапамогі грэкам[4]. Справа ў тым, што ў 1821 г. у Грэцыі пачалося паўстанне супраць турэцкага панавання. Для грэкаў гэтыя падзеі мелі цяжкія наступствы, да якіх урад і расійскае грамадства не засталіся абыякавымі. У 1821 г. на выкуп палонных грэкаў расійскі ўрад выдзеліў 520 тыс. рублёў, а ў 1823 г. ужо па ўсёй Расійскай імперыі збіраліся сродкі на карысць палонных паўстанцаў. Як адзначыла даследчыца Алена Кудраўцава, гэтай дапамогі было недастаткова[5]. Голад у Магілёўскай і Віцебскай губ. і паўстанне ў Грэцыі адбываліся практычна ў адзін час, але знешнепалітычны фактар – падтрымка грэчаскіх паўстанцаў – аказаўся больш важным.

### *Заключэнне*

Неўраджай 1820-х гг. у беларускіх губернях быў абцяжараны кепскім станам сістэмы забеспячэння збожжам ва ўсёй Расійскай імперыі і абярнуўся голадам у некаторых паветах Віцебскай і Магілёўскай губ. Рэзка павялічылася колькасць жабракоў, пачаўся заняпад прыватнаўласніцкіх і дзяржаўных гаспадарак. Антыяўрэйскія мерапрыемствы расійскіх улад, якія прымусілі яўрэяў пакінуць сельскую мясцовасць і перасяліцца ў гарады, не палепшылі агульны стан. Урад у лютым–красавіку 1823 г. ажыццявіў шэраг захадаў па недапушчэнні пагаршэння сітуацыі. Пад наглядам чыноўнікаў у кожнай губерні былі створаны камісіі народнага харчавання па кантролі і прагназаванні стану забяспечанасці збожжам. Для жыхароў найбольш пацярпелых паветаў Віцебскай і Магілёўскай губ. былі адтэрмінаваны выплаты падаткаў, выдзяляліся грошы на дапамогу і засяванне, бясплатна выдаваліся пашпарты.

---

1 Ibidem, арк. 186.

2 РДГА, ф. 797, воп. 2, спр. 6567, арк. 186 – 186 адв.

3 Ibidem, арк. 241 адв.

4 Ibidem, арк. 240.

5 Е. Кудрявцева, *Греческая революция 1821 г. и политика России в Восточном вопросе*, «Вестник МГИМО-Университета», 2021, № 14 (1), с. 37.

Таксама ўрад абвясціў збор дабрачынных ахвяраванняў на карысць пацярпелых жыхароў беларускіх губерняў. Кіраваў гэтым міністр духоўных спраў і народнай асветы А. Галіцын (да вясны 1824 г.). Ён наўпрост кантактаваў з каталіцкімі іерархамі: рымска-каталіцкім мітрапалітам Станіславам Богушам-Сестранцэвічам, уніяцкім мітрапалітам Язафатам Булгакам, намеснікам Полацкага ўніяцкага архіепіскапства Якавам Мартусевічам. Аляксандр Галіцын таксама звярнуўся да свецкіх асоб, ад графа Адама Чартарыйскага да прадстаўнікоў купецтва.

Прадстаўнікі каталіцкага і грэка-каталіцкага духавенства сабралі больш сродкаў на ахвяраванні, чым свецкія асобы. Пры гэтым яны перажывалі не лепшыя часы. Асабліва значны ўдзел у дабрачыннай справе прынялі прадстаўнікі рымска-каталіцкага духавенства Луцкай і Камянецкай дыяцэзій, аддаленых ад беларускіх губерняў. У абедзвюх губернях жыло толькі каля 25 тыс. асоб рымска-каталіцкага веравызнання, большасць жыхароў, асабліва ў вёсках, былі ўніятамі. Прадстаўнікі ўніяцкага духавенства таксама прынялі актыўны ўдзел у дапамозе пацярпелым. Уладзімірскі епіскап Лявонці Явароўскі паклапаціўся аб зборы ахвяраванняў з кляштараў Беласточчыны і Падляшша. Яго падтрымалі правінцыялы базыльянаў Рускай і Літоўскай правінцый. У інфармаванні і перадачы сабраных ад духавенства сродкаў найперш удзельнічалі мітрапаліты Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч і Язафат Булгак.

Кіраўнікі міністэрстваў А. Галіцын і А. Шышкоў па невядомых прычынах не перадалі ўсе сабраныя ахвяраванні ў Віцебскі прыказ грамадскай апекі. Адсутнасць сродкаў перашкодзіла стварэнню дабрачыннага камітэта, што было адным з пунктаў урадавай праграмы дапамогі пацярпелым. Тым не менш, пэўная дапамога была аказаная. Сапраўдныя маштабы голаду і яго наступствы ў Віцебскай і Магілёўскай губ. у 1820-х гг. патрабуюць далейшага навуковага вывучэння.

ISSN 2424-5216

# ЗАБЫТАЯ КРАЁЎКА: ІДЭЙНЫ І ТВОРЧЫ ШЛЯХ АЛЕНЫ ЦЭПРЫНСКАЙ (КАЛЯ 1880 – КАЛЯ 1930)

***Уладзіслаў Іваноў***
*PhD (Вільня)*

***Summary***

*Based on the analysis of the Belarusian, Polish and Lithuanian press of the beginning of the 20th century, the author offers the results of the investigation and reconstruction of the creative and civil heritage of one of the most little-studied and mysterious representatives of the Krajowcy movement – Alena Ceprynskaja. The portrait of a multilingual writer and civil activist is supplemented by archival documents. This is another attempt to shed some light on the forgotten member of the Krajowcy movement, which was known in three different linguistic incarnations: Алена Цэпрынская, Helena Cepryńska and Alena Ceprinskaitė.*

Краёўства як ідэйная і палітычная плыня першага дваццацігодзьдзя XX ст. у Беларусі і Летуве, грунтоўна і міждысцыплінарна дасьледаваная навукоўцамі розных краінаў: Беларусі[1] (А. Смалянчук, А. Латышонак, Я. Запруднік,

[1] А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г.*, Санкт-Пецярбург 2004; ён жа, *«Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі*, Мінск 2017; ён жа, *Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю*, Мінск 2018; А. Латышонак, *Краёвасьць і «западноруссизм». Ідэалягізаваная тутэйшасьць*, [у:] *Нацыянальнасьць – беларус*, Вільня-Беласток 2009, с. 521–525; Я. Запруднік, *Палітычнае змаганне за Беларусь у царскіх Дзяржаўных думах (1906–1917 гг.)*, «ARCHE», 2009, № 1/2. с. 43–217; А. Унучак, *«Заходнерусізм» і «краёвасць»: гістарыяграфія пытання*, «Российские и славянские исследования», 2010, № 5, с. 243–252.

А. Унучак ды інш.), Польшчы[1] (П. Вандыч, К. Бухоўскі, Ю. Бардах, Я. Юркевіч, Р. Юркоўскі, Д. Шпопэр), Летувы[2] (Р. Мікніс, Д. Сталюнас, А. Кулакаўскас, В. Масьцяніца). Да вывучэньня краёўства таксама спрычыніліся Ц. Снайдэр[3], Дж. Нюбаўэр[4], М. Хаясака[5] ды інш.

Дасьледнікамі ахопленыя асноўныя палітычныя і ідэйныя плыні краёўства, улічаная нацыянальная, моўная і рэлігійная спэцыфікі плыняў, прааналізаваныя праграмы і статуты, багатая журналісцкая, эпісталярная, дзёньнікавая спадчына розных прадстаўнікоў/цаў моцнага на пачатку XX ст. краёвага руху. Але ж дасюль некаторыя прадстаўнікі руху дасьледаваныя лепш, іншыя горш. Да ўсяго ў гісторыі краёўства застаюцца і зусім таямнічыя і маладасьледаваныя асобы.

Да такой таямнічай асобы належыць Алена Цэпрынская, шматмоўная беларуская і летувіская паэтка, пісьменьніца, драматургіня і забытая мысьлярка краёўства. Часта яна апісваецца як польская пісьменьніца, хаця тут варта асобна патлумачыць складанасьць сытуацыі. На маю думку, яна была хутчэй польскамоўнай пісьменьніцай, але сама вызначалася як тутэйшая, часта як бе-

1 P. Wandycz, *The lands of partitioned Poland, 1795–1918. A History of East Central Europe*. Washington 1974, vol. 7; K. Buchowski, *Litwomani i polonizatorzy: mity, wzajemne postrzeganie i stereotypy w stosunkach polsko-litewskich w pierwszej połowie XX wieku*, Białystok 2006; Ю. Бардах, *Пра краёўцаў, краёвасць і лакальны патрыятызм – некалі і сёння*, «Homo Historicus» 2019, с. 51–76; J. Jurkiewicz, *Rozwój polskiej myśli politycznej na Litwie i Bialorusi w latach 1905–1922*, Poznań 1983; R. Jurkowski, *Sukcesy i porażki. Ziemiaństwo polskie Ziem Zabranych w wyborach do Dumy Państwowej i Rady Państwa 1906–1913*, Olsztyn 2009; D. Szpoper, *Gente Lithuana, Natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt (1851–1934)*, Gdańsk 2009.

2 R. Miknys, *Stosunki polsko-litewskie w wizji politycznej krajowców*, «Zeszyty historyczne», Paryż 1993. s. 123–129; D. Staliūnas, *Making Russians. Meaning and Practice of Russification in Lithuania and Belarus after 1863*, Amsterdam–New York 2007; A. Kulakauskas, *Lietuvių ir lenkų santykiai XX a. pradžioje*, «Gimtoji istorija: Nuo 7 iki 12 klasės», Vilnius 2002; O. Mastianica, *Bajorija lietuvių tautiniame projekte (XIX a. pabaiga – XX a. pradžia)*, Vilnius 2016.

3 T. Snyder, *The reconstruction of nations: Poland, Ukraine, Lithuania, Belarus, 1569–1999*, Yale 2004.

4 J. Neubauer, W. Bolecki, *Two Regionalists of the Interwar Period: Józef Mackiewicz and Mária Berde*, [у:] M. Cornis-Pope, J. Neubauer, *History of the Literary Cultures of East-Central Europe: Junctures and disjunctures in the 19th and 20th centuries. Comparative History of Literatures in European Languages*, Amsterdam 2010, vol. 4.

5 M. Хаясака, *Краёвая ідэя ў гістарычнай рэфлексіі. Параўнаўчы аналіз*, «Homo Historicus», Вільня 2012, с. 351–379.

ларуская і/ці летувіская[1] пісьменьніца. Варта таксама прыгадаць і ейную крытычнасьць у дачыненьні да Польшчы і асабліва да палітыкі палянізацыі краю. Часта яна падаецца як летувіская дзяячка, прыклад летуанізаванай беларускі[2]. Пэўны час яна сама лічыла сябе летувіскай. Пазьней яна актыўна ўключылася ў працу беларускага руху і лічыла сябе беларускай патрыёткай. У пэўныя пэрыяды адна нацыянальна-моўная тоеснасьць дамінавала ў пісьменьніцы, але ж прыгэтым яна ніколі не адмаўлялася ад польскамоўнасьці і тутэйшасьці. Такое мажліва было хіба ў час краёўства, у час сапраўднага «этнічнага карнавалу»[3].



*Алена Цэпрынская. 1910 г.*

Калярытная постаць першых дзесяцігодзьдзяў XX ст. Алена Цэпрынская дасюль застаецца маладасьледаванай дзяячкай краёўства. Няма сумневу, што менавіта непаўторнасьць, шматслойная ідэнтычнасьць і складанасьць ейнай постаці абумовілі цяжкасць у яе аднясеньні да пэўнага лягеру, што стала прычынай ейнай невядомасьці. Дадаткова няведаньне і недаацэнка краёўкі тлумачыц-

[1] Згодна з тарашкевіцкай дыяспарнай моўнай традыцыяй, у працы ўжываюцца паняткі «летувіскі», «летувіская», «летувіс», «летувіска» як вытворныя ад назвы «Летува», якая азначае цяперашнюю Летувіскую Рэспубліку. У афіцыйнай беларускай мове ўжываюцца наступныя варыянты: «літоўскі», «літоўская», «літовец», «літоўка» і «Літва». Традыцыя тарашкевіцы базуецца перадусім на саманазьве «Lietuva», то бок улічваецца арыгінальная саманазва. Падобнае мы назіраем у іншых сытуацыях: «Сіям» замест ці нароўні з формай «Тайлянд», «Ніпон» замест ці нароўні з формай «Японія» і г. д. Паняткі «летувіскі», «летувіская», «летувіс», «летувіска», «Летува» фіксуюцца ў беларускай мове пасьля Другой сусьветнай вайны ў тэкстах, рукапісах і лістах Льва Гарошкі, Чэслава Сіповіча, Аляксандра Надсана, Сяргея Хмары ды іншых дыяспарнікаў. Апрача таго, што ў тарашкевіцы ўлічваецца і паважаецца саманазва «Lietuva», існуе яшчэ адна прычына ўжываньня дадзенага панятку. Гаворка пра тэрміналягічнае адрозьненьне гістарычнай Літвы ад сучаснай Летувы. Дарэчы, падобнае тэрміналягічнае адрозьненьне існуе ў францускай мове: Lithuanie з «h» азначае гістарычную Літву і ВКЛ, тады як варыянт Lituanie без «h» – сучасную Летуву.

[2] «Draugas», 1910, nr 47, p. 514.

[3] А. Смалянчук, *«Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі: зборнік навуковых артыкулаў*, Мінск 2017, с. 52.

ца да ўсяго гендарным чыньнікам, недаацэньваньнем жанчынаў і жаночага ўнёску ў гісторыю, у прыватнасьці ў гісторыю ідэяў. Лічыцца, што яна нічым асаблівым не вылучалася, была паэткай, публіцысткай, перакладніцай, але не мысьляркай. З гэтым зьвязанае яшчэ адно недаацэньваньне забытай краёўкі, нібыта яна пакінула толькі літаратурную спадчыну, малакарысную для разуменьня краёўства. Памылкова лічацца вартымі толькі публіцыстычна-палітычныя тэксты краёўцаў, аднак якраз у літаратурных тэкстах часта прысутнічае моцнае ідэйнае пасланьне, якое дапамагае лепш зразумець зьяву краёўства. Наагул аналіз тагачаснай літаратуры выяўляе цікавыя элемэнты, факты, тэндэнцыі, якія ўзбагачаюць агульную карціну. На прыкладзе забыцьця Алены Цэпрынскай бачна, як недаацэньваўся аналіз мастацкай літаратуры ў разуменьні грамадзка-палітычнага жыцьця. Таму вяртаньне імя забытай краёўкі актуалізуе пытаньне крыніцаў, якія не абмяжоўваюцца выключна навуковым і публіцыстычным вымярэньнем. Такое недаацэньваньне – паверхнасны падыход, бо хавае ад нас спадчыну А. Цэпрынскай і стварае вузкі вобраз дзяячкі.

Зрэшты, да краёўства яе зазвычай не адносілі праз моцную летувіскую тоеснасьць, якую яна падкрэсьлівала, калі супрацоўнічала з выданьнямі «Litwa» (1908–1914) і «Lud» (1912–1914). Аднак аналіз дзейнасьці Алены Цэпрынскай на працягу ўсяго вядомага жыцьця і ейныя тоеснасныя і моўныя трансфармацыі сьведчаць якраз аб сьціслай повязі публіцысткі і пісьменьніцы з краёўствам. Таксама пры аналізе выданьняў «Litwa» і «Lud» іх ідэйны і ідэалягічны спэктар часам успрымаецца досыць вузка. Між тым, выданьні не зьяўляліся трыбунай краёўства, а былі хутчэй летувіскімі польскамоўнымі галасамі. Часопісы супрацоўнічалі з краёўцамі (як кансэрватарамі, так і дэмакратамі), друкавалі тэксты Канстанцыі Скірмунт, Тадэвуша Урублеўскага, Міхала Ромэра[1]. Больш за тое, зь першых нумароў рэдакцыя «Litwa» заявіла аб супрацы з г. зв. «летувісамі-грамадзянамі», панятак, які падразумяваў краёўцаў сярод летувісаў у разуменьні галоўнага рэдактара часопісу Мячыслава Давойны-Сыльвэстровіча[2].

Наагул цікавую палітызаваную клясыфікацыю летувісаў і сымпатызантаў летувіскай справе прапанаваў рэдактар часопісу М. Давойна-Сыльвэстровіч у артыкуле «Litwini» за 1908 год[3]:

- *«летувісы-нацыяналісты»*: то бок летувісамоўныя летувісы;
- *«летувісы-патрыёты»*: польскамоўныя ці беларускамоўныя летувісы, якія лічаць сябе летувісамі і падтрымліваюць летувіскі нацыянальны рух;
- *«летувісы-грамадзяне»*: тыя, хто лічаць сябе палякамі ці беларусамі, але

[1] O. Mastianica, *Bajorija lietuvių tautiniame projekte (XIX a. pabaiga – XX a. pradžia)*, Vilnius 2016, p. 141–142.

[2] Ibidem, p. 142.

[3] M.D.S. (M. Davainis-Silvestraitis), *Litwini*, «Litwa», 1908, nr 4, p. 49–50.

жадаюць жыць у згодзе з летувісамі і працаваць дзяля культурнага і эканамічнага дабрабыту краю[1].

Прыгэтым М. Давойна-Сыльвэстровіч выкарыстоўваў і панятак «краёўцы», але ў дачыненьні да палякаў. Ён выразна адрозьніваў дзьве палітычныя польскія групоўкі – нацыянальных дэмакратаў і краёўцаў[2]. Такім парадкам, паводле М. Давойны-Сільвэстровіча існавалі два варыянты краёўства: польскага і летувіскага. Беларускага ж краёўства ў канцэпцыі рэдактара не падразумявалася, бо беларускі рух часта мінімізаваўся і недаацэньваўся як рэдактарам, так і рэдакцыяй у цэлым. Клясыфікацыю М. Давойны-Сільвэстровіча цікава прааналізаваць праз іх прызму тоеснасьці адной з чаліцаў рэдкалегіі Алены Цэпрынскай. Тоеснасьць А. Цэпрынскай месьцілася недзе паміж катэгорыяй «летувіска-патрыётка» і «летувіска-грамадзянка» (то бок краёўка). Якраз крытыка ў ейны бок з боку «летувісаў-нацыяналістаў» (то бок летувісамоўных летувісаў) і кпіны зь ейнай няідэальнай спачатку летувіскай мовы даводзяць, што летувіскай яна не была ў вачох саміх летувісаў. Хоць сама яна пэўны час адносіла сябе якраз да катэгорыі сапраўдных летувісаў, што ў клясыфікацыі М. Давойны-Сільвэстровіча адпавядала катэгорыі *«летувісы-нацыяналісты»*[3].

Алена Цэпрынская друкавалася ў шматлікіх газэтах і часопісах па-польску, па-беларуску і па-летувіску. Але ж асабліва папулярнай яна стала падчас супрацы з польскамоўным часопісам «Litwa» (1908-1914) і польскамоўнай газэтай «Lud» (1912-1914), якія выходзілі ў Вільні перадусім для польскамоўнага насельніцтва, зпалянізаванай летувіскай шляхты і ў пэўнай ступені для збеларусізаваных летувісаў[4]. Алена Цэпрынская сталася найбольш актыўнай аўтаркай узгаданых выданьняў, якія агучвалі альтэрнатыўную пераходную ад нацыянальнай летувіскай да краёўскай пазыцыі, што мела на мэце аб'яднаць перадусім летувісаў.

Так, рэдактар выданьняў «Litwa» і «Lud» Мячыслаў Давойна-Сыльвэстровіч і ягоны калектыў (у які ўваходзіла ў тым ліку Алена Цэпрынская) выразна падкрэсьлівалі свае патрыятычныя летувіскія памкненьні і ўсяляк супрацьстаялі палянізацыі і русіфікацыі краю. Цікава пазначыць, што ўнутры рэдакцыі выданьняў Алена Цэпрынская адрозьнівалася ад астатніх калегаў. Калі Мячыслаў Давойна-Сыльвэстровіч ды іншыя летувісы сымпатызавалі краёўству, але прыгэтым стаялі на нацыяльнай летувіскай пазыцыі, то пазыцыя Алены Цэпрынскай, родам са Случчыны зь беларускай зпалянізаванай шляхты, вы-

[1] Ibidem.

[2] N. Downar (M. Davainis-Silvestraitis), *Litwini obywateli i nacjonaliści*, «Litwa», 1908, nr 4, p. 50–51.

[3] M.D.S. (M. Davainis-Silvestraitis), *Litwini*, «Litwa», 1908, nr 4, p. 49–50.

[4] M.D.S. (M. Davainis-Silvestraitis), *Zgoda co do języków*, «Litwa», 1908, nr 1, p. 1.

разна вылучалася. У Вільні на пачатку XX стагодзьзя літаратарка стала на шлях летуанізацыі. Спачатку яна лічыла сябе зпалянізаванай і збеларусізаванай летувіскай. Прыгэтым пэўны час падзяляла погляды рэдакцыяў Litwa» і «Lud», асабліва галоўнага рэдактара М. Давойны-Сыльвэстровіча, наконт зваяванасьці беларусаў летувісамі ў гістарычныя часы. Гэта дазваляла абедзьвум рэдакцыям не прызнаваць беларускага этнічнага чыньніку ў гісторыі і будучыні Віленскага краю[1]. Але ж пасьля Першай сусьветнай вайны павялічалася колькасьць беларускіх тэкстаў пісьменьніцы, і ў 1920-я гг. яна стала на шлях беларусізацыі.

З улікам усіх гэтых пошукаў і наслаеньняў Алена Цэпрынская прадэманстравала сябе як сапраўдная краёўка дэмакратычнага кірунку. Яна аддана падзяляла ідэю нацыі палітычнага ці грамадзянскага тыпу, пазначала важнасьць ідэі аўтаноміі Краю, агульнасьць культуры жыхароў Краю, не зважаючы на этнічную, моўную ці рэлігійную адрознасьць, важнасьць такога гістарычнага і палітычнага арыентыру для ўсіх, як ВКЛ, супольнай гісторыі летувісаў і беларусаў, а таксама яе адрозьнівала пэўная палітычная антыпольскасьць. Алена Цэпрынская ўспрымала беларускія і летувіскія землі як адзінае цэлае, якое мецьме і агульную палітычную будучыню, за што пастаянна крытыкавалася нацыянальным летувіскім рухам, асабліва кансэрватыўнай, хрысьціянскай тэндэнцыі (напрыклад, А. Якштасам-Дамбраўскасам[2], а пазьней і прадстаўнікамі летувіскага лібэральнага руху: Г. Ландсбэргісам-Жямкальнісам, К. Прапуоленісам[3] ды інш.).

У моўным пляне асабліва яскрава праяўлялася краёўства рэдакцыі часопіса «Litwa» і газэты «Lud», у тым ліку Алены Цэпрынскай. Тут мова не ўспрымалася як адзіны і вырашальны чыннік у вызначэньні краёўскай тоеснасьці. Рэдакцыя падзяляла думку галоўнага рэдактара Мячыслава Давойны-Сыльвэстровіча наконт таго, што нацыянальнасць павінна вызначацца не па падставе мовы, а перадусім на падставе адданасьці і ляяльнасьці дзяржаве, Краю[4]. Прыгэтым краёвым мовам – летувіскай, польскай і беларускай – надаваўся прыярытэтны статус. Усе чальцы рэдакцыі выступалі ў падтрымку набажэнстваў па-летувіску і па-беларуску і ўсяляк асуджалі палянізацыю касьцельнага і грамадзкага жыцьця[5].

---

1 M.D.S. (M. Davainis-Silvestraitis), *Tutejsi, mówiący po prostemu*, «Litwa», 1909, nr 22, p. 315.

2 O. Mastianica, *Bajorija lietuvių tautiniame projekte (XIX a. pabaiga – XX a. pradžia)*, Vilnius 2016, p. 129.

3 O. Mastianica-Stankevič, *Mečislovas Davainis-Silvestraitis ir jo Dienoraštis*, [y:] J. Venckienė, *Dienoraštis 1904–1912*, Vilnius 2020, p. 62.

4 Ibidem, p. 61.

5 Przyjaciel, *Uczie dzieci po litewsu*, «Lud», 1913, nr 2, s. 10–11; *Odezwa. Litwini katolicy miasta Wilna!*, «Lud», 1913, nr 3, s. 18–19.

Насамрэч, як гісторыю выданьняў «Litwa» і «Lud», так і асабісты шлях Алены Цэпрынскай можна ахапіць ёмкім апісаньнем, прапанаваным беларускім гісторыкам і галоўным беларускім дасьледнікам краёўства Аляксандрам Смаленчуком у сваёй вядомай кнізе «Паміж краёвасьцю і нацыянальнай ідэяй»[1]. Менавіта паміж краёвасьцю і пошукам нацыянальнай ідэі пастаянна знаходзілася беларуска-летувіская літаратарка. Прыгэтым пад уплывам геапалітычных падзеяў, якія усё менш спрыялі краёўству (Першая сусьветная вайна і новы падзел Краю паміж імпэрыямі і новымі дзяржавамі, узмацненьне нацыянальных тэндэнцыяў), Алена Цэпрынская спалучала краёўства з пошукамі сябе як беларускі, а таксама і летувіскі.

Праўда, зьнікненьне ў літаральным значэньні Алены Цэпрынскай у канцы 1920-х гг. і няведаньне дасюль ейнага далейшага лёсу не дазваляюць цалкам прааналізаваць ідэйны шлях пісьменьніцы. Тым ня менш, нават вядомы кавалак гісторыі забытай краёўкі ўвасабляе надзвычайны інтарэс і дэманструе нятыповую эвалюцыю ўнікальнай літаратаркі і жанчыны, якая лёгка шукала і выбірала ідэнтычнасьці. Зрэшты, гісторыя імя пісьменьніцы таксама дапаўняе агульную ідэалягічную карціну таго часу і застаецца актуальнай і павучальнай дасюль. Не зважаючы на тоеснасныя пошукі і летуанізацыю, пісьменьніца захавала сваё беларускае імя – Алена. Так, у летувіскай традыцыі пры жыцьці ёй удавалася захаваць форму Alena. Не зусім зразумелае і хутчэй рамантызаванае тлумачэньне гэтаму знаходзім у лісьце ад 28 кастрычніка 1912 г., які пісьменьніца напісала па-летувіску рэдакцыі газэты «Viltis» (*Надзея*): *P.S. Prašau likti iki mirties «Alena» o ne «Elena» – nes mane taip pavadina pirmasis lietuvis, kuris į mano paraše – pirma lietuvišką laišką – o labai maldžiu ne permainyti to mano varda. Trokštu likti ant visados «Alena»*[2]. І, сапраўды, пэўны час летувіская прэса паважала выбар пісьменьніцы, але ж паступова пурысцкая тэндэнцыя перамагла, і часам замест Alena пачала сустракацца форма Elena Ceprinskaitė. Так, газэта летувісаў ЗША «Vienybė Lietuvninkų» (*Летувіская Еднасьць*) ужо ў 1912 г. пачала мяняць імя пісьменьніцы на Elena[3]. Важнасьць захаваць сваё беларускае імя, а таксама пастаянны інтарэс да беларускай тэмы разам з летувіскай актыўнасьцю, прынцыповае карыстаньне краёвымі мовамі – польскай, беларускай і летувіскай – сьведчаць на карысьць выразнай краёўскай тоеснасьці літаратаркі.

---

1 А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г.*, 2-е выд., Санкт-Пецярбург 2004.

2 *P.S. Прашу пакінуць да сьмерці «Alena», а не «Elena», бо так назваў мяне першы летувіс, які даслаў мне першы ліст па-летувіску, вельмі прашу не мяняць таго імя. Жадаю пакінуць назаўжды «Alena»*. Пераклад аўтара. Бібліятэка імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы, F 96-301, *«Vilties» laiškai – A. Ceprinskaitės (1)*, Spalio 28 d. 1912.

3 «Vienybė Lietuvninkų», Rugpjučio 1912, nr 33, p. 3.

Каб паўней ахапіць і зразумець постаць забытай краёўкі, варта падрабязьней спыніцца на трох моўных іпастасях літаратаркі і творчай ідэалягіні краёўства: польскамоўная іпастась – Helena Cepryńska, беларуская іпастась – Алена Цэпрынская (псэўданім Алена ці Алёна) і летувіская іпастась – Alena Ceprinskaitė.

## *Helena Cepryńska*

Па-польску Алена Цэпрынская вядомая як паэтка, пісьменьніца, публіцыстка, драматургіня, перакладніца і эпісталярніца. На гэтай мове літаратарка пакінула найбольшую колькасьць твораў, пачаўшы друкавацца ў лютым 1907 г. у газэце «Dziennik Wileński[1]". Аднак з гэтай мовай у Алены былі дзіўныя сяброўска-варожыя адносіны. Першая, па ўсім відаць, родная мова, нароўні зь беларускай, польская мова не задавальняла пісьменьніцу перадусім ідэалягічна таму, што яна не давала доўгі час разьвівацца іншым краёвым мовам – летувіскай і беларускай. У адным з сваіх летувісафільскіх лістоў пісьменьніца пазначыла, што гатовая ўзненавідзець і адмовіцца ад прыгожай польскай мовы на карысьць каханай летувіскай мовы[2]. Няма сумневу, што гэта было эмацыйнае выказваньне, якое часам памылкова і пасьпешліва трактуецца як палёнафобія ці нават летувіскі шавінізм[3]. Палёнафобкай яна не была, бо працягвала пісаць па-польску і наагул да моваў ставілася вельмі адкрыта, карысталася віленскім і краёвым шматмоўем. Дарэчы, многія польскія дасьледнікі ня бачылі ў ёй палёнафобкі, а ставілі хутчэй іншае пытаньне: ці была яна польскай ці летувіскай пісьменьніцай?[4] У дачыненьні да краёўкі Алены Цэпрынскай такое пытаньне зьяўляецца не зусім этычным ці прынамсі не зусім поўным. Варта пашырыць яго, дадаўшы, што да ўсяго яна была беларускай пісьменьніцай.

Трэба адзначыць, што толькі па-польску раскрыўся драматургічны талент А. Цэпрынскай: у многіх нумарах «Litwy'ы» і «Lud'у» друкаваліся п'есы пісьменьніцы. Нароўні з п'есамі публікаваліся вершы, замалёўкі, артыкулы, пераклады і навэлі. Прыгэтым польскамоўныя тэксты літаратаркі зьяўляліся таксама

1 «Dziennik Wileński», 1907, nr 33, s. 2.

2 O. Mastianica-Stankevič, *Mečislovas Davainis-Silvestraitis ir jo Dienoraštis,* [у:] J. Venckienė, *Dienoraštis 1904–1912,* Vilnius 2020, p. 58.

3 R. Daniłowicz, *Polsko-litewskie pomieszanie,* «Polityka», 24 grudnia 2010 [online], https://www.polityka.pl/tygodnikpolityka/historia/1511308,1,polsko-litewskie-pomieszanie.read [доступ: 01.02.2023].

4 O. Mastianica-Stankevič, *Review Beata Kalęba, Rozdroże. Literatura polska w kręgu litewskiego odrodzenia narodowego, Kraków 2016,* «Lithuanian historical studies», Vilnius 2018, p. 196–201.

ў Львове і Варшаве[1]. Асобнай кнігай у 1907 г. выйшаў зборнік вершаў паэткі *Poezje*, які быў досыць прыхільна прыняты віленскімі крытыкамі. Сама паэтка вызначалася як аптымістка і ідэалістка, якая апявала любоў да роднага Краю[2].

Аналізуючы ідэйную спадчыну пісьменьніцы праз прызму краёўства, варта асаблівую ўвагу спыніць на адным тэксьце – п'есе 1909 г. *Odstępca* (*Адступнік*)[3]. Невялікая п'еса А. Цэпрынскай удала рэзюмуе ідэйны шлях аўтаркі і пошукі ідэнтычнасьці. У назьве п'есы закадаваны гэты шлях – *адступніцтва*, адыход ад польскай тоеснасьці да тутэйшай: беларускай і летувіскай. Адступцам называюць таго, хто адыходзіць ад сваёй веры і нацыі, і звычайна гэты панятак мае нэгатыўнае значэньне. У творы ж А. Цэпрынскай мова йдзе пра пазытыўнае, вызвольнае адступніцтва, выпраўленьне хібаў мінулага, вяртаньне да сапраўднага сябе. Такім парадкам, нібы простая п'еса становіцца палітычным тэкстам, своеасаблівым краёўскім памфлетам, няхай часам і занадта рамантызаваным і летувісафільскім.

Таксама па-польску яна актыўна зьвярталася да «братоў-летувісаў»[4] і да «родных беларусаў у Менску Літоўскім»[5] са сваім краёўскім пасланьнем, якое яна звычайна афармляла ў рамантызаваных, часам патэтычных і ідэалізаваных формах, у «вершаванай публіцыстыцы»[6]. Таксама па-польску на старонках «Litwa'ы» і «Lud'у» разам з калегамі яна разважала пра беларускі нацыяльны рух, патрабавала правa ў тым ліку для беларускай мовы ў касьцёлах і ўсяляк асуджала палітыку як русіфікацыі, так і палянізацыі краю.

Польскамоўная спадчына пісьменьніцы даволі багатая і плённая, тым ня менш, яна ўвесь час спрабавала ўцячы ў летувіскую і беларускую мовы, на якіх актыўна працавала цягам ўсяго жыцьця. Алена Цэпрынская нібыта спрабавала цэнзураваць сябе і сваю пальшчызну праз пераканаpreviewньне, што Польшча спрычынілася раней да маргіналізацыі беларускай і летувіскай культураў. Яна працягвала пісаць у тым ліку і па-польску, але з пастаяннымі публічнымі выказваньнямі шкадаваньня і вінаватасьці. У мастацкіх тэкстах па-летувіску, у прыватнасьці ў апавяданьні *Alenytė*, ёй удасца асабліва добра і моцна ахапіць гэтую тэму. Раўназначным польскамоўным тэкстам апавяданьню *Alenytė* можна лічыць узгаданую вышэй п'есу *Odstępca*.

[1] Z. Winnicki, *Patriotycznospołeczna działalność kobiet Polek na dalszych Kresach. Cz. 2*, «Magazyn Polski», 2019, № (159), s. 14.

[2] A. Slepowron, *Bibljografja*, «Litwa», 1910, nr 15(44), s. 237–238.

[3] H. Cepryńska, *Odstępca. Obrazek dramatyczny*, Wilno 1909.

[4] «Lud», 1913, nr 3 (27), s. 13.

[5] H. Cepryńska, *Drużynie Artystów*, «Litwa», 1910, 15 Maja, s. 1.

[6] Z. Winnicki, *Patriotycznospołeczna działalność kobiet Polek na dalszych Kresach. Cz. 2*, «Magazyn Polski», 2019, nr 159, s. 14.

## ***Алена Цэпрынская***

У беларускім друку Алена Цэпрынская дэбютавала ў 1907 г. як перакладніца верша Максіма Горкага *Песьня астрожніка*[1]. Такім парадкам пачалася наагул ейная літаратурная кар'ера. У гэтым жа годзе пісьменьніца дэбютуе па-польску, а ў 1910 г. – па-летувіску[2]. У беларускай літаратуры Алена Цэпрынская вядомая як паэтка і перакладніца, у меншай ступені як празаіца. У 1912–1914 гг. супрацоўнічала з «Нашай Нівай». Пасьля Першай сусьветнай вайны супрацоўнічала зь беларускімі віленскімі выданьнямі: «Сялянская ніва», «Kryniсa», «Bielaruskaja kryniсa». Таксама паэтка пісала вершы ў сатырычным жанры для часопіса «Авадзень». У канцы 1920-х гг. яна зьнікла з публічнага жыцьця і дасюль літаратуразнаўцы гадаюць, як і дзе завяршылася жыцьцё загадковай краёўкі.

У XXI ст. літаратарку часткова вярнулі зь нябыту – ейнае імя ў крыху зьмененым варыянце – Цапрынская замест Цэпрынская – увайшло ў анталёгію беларускай жаночай паэзіі міжваеннага пэрыяду[3]. Тым ня менш, у беларускім друку пачатку XX ст. яна падпісвалася і была вядомая як Цэпрынская ці проста Алена, часам Алёна, таму ёсьць усе падставы пакінуць за ёй прозьвішча, якім яна падпісвалася сама.

Хоць па-беларуску пісьменьніца вядомая пераважна з творчага боку і як паэтка, тым ня менш, ейныя вершы часам дапамагаюць зразумець, раскрыць ейную ідэйнасьць і нават ідэалягічнасьць. У рамантычнай і ўзьнёслай манеры пісьма літаратаркі і ў паэзіі наагул заўсёды прысутнічае сацыяльнае пасланьне, уздымаюцца такія праблемы, як галота, п'янства, гвалт, нядоля беларуса, а часьцей беларускі. Так, у вершах 1925 г. – «Што ёсьць, а чаго няма», «Кахаю Беларусь» і «Праўда аб Беларусі» – выразна і моцна прасочваецца беларускае незалежніцкае пасланьне:

*...І не люблю мацней узрыва вулканічнага*
*Я Беларусь як служку розных слуг*[4].

Цікавая эвалюцыя паэткі-краёўкі, якая з 1907 г. шмат пісала па-польску, а з 1910 г. – па-летувіску пра важнасьць краёўства, але ж і летувіскай тоеснасьці. У 1920-я гг. на старонках беларускай прэсы Вільні А. Цэпрынская паўстала

[1] Alena, *Pieśnia astrožnika*, «Nasza Niva», 1907, № 4, с. 3; *Бліскавіцы: анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду*, уклад., камент. А. Данільчык, В. Жыбуля, Мінск 2017, с. 249.

[2] «Lietuva», 1910, 25 d. lapkričio, p. 1.

[3] *Бліскавіцы: анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду*, с. 249.

[4] Тамсама, с. 254.

як актыўная беларуская патрыётка і змагарка[1]. Супраца зь беларускімі выданьнямі markrознага ідэалягічнага натхненьня (з правацэнтрысцкімі «Krynica», «Bielaruskaja krynica» і левацэнтрысцкімі «Наша Ніва» і «Авадзень») дэманструюць, што для пісьменьніцы перадусім была важная беларушчына, а не пэўная палітычная ідэалёгія.

## *Alena Ceprinskaitė*

Летувіская іпастась Алены Цэпрынскай – Alena Ceprinskaitė. Па-летувіску яна дэбютавала ў 1910 г. у газэце летувісаў Рыгі – «Rygos Garsas» (*Рыскі гук*)[2]. На летувіскай мове яна пісала пераважна вершы і апавяданьні ў наступных выданьнях: «Rygos Garsas», «Šaltinis» (*Крыніца*), «Draugas» (*Сябра*). Яна – адна з рэдкіх краёвак польскамоўнага беларускага паходжаньня, якая выбрала шлях летуанізацыі і досыць пасьпяхова прайшла яго. У 1910 г. летувіская прэса ЗША паведамляла пра стрыманы пачатак паэткі Алены Цэпрынскайце (Цэпрынскай) і ейныя паступовыя посьпехі на ніве летувіскай мовы і літаратуры, а па хуткім часе у газэце «Draugas» (*Сябра*) яна прыводзілася ўжо як удалы прыклад летуанізаванай польскамоўнай беларускі[3]. У лістах па-польску і па-летувіску, у сваіх мастацкіх тэкстах яна бязупынку апявала страчаную прыгажосьць летувіскай мовы і рамантычна падкрэсьлівала важнасьць вывучыць і ведаць «родную забытую летувіскую мову». Так, у сваім невялікім аўтабіяграфічным апавяданьні *Alenytė* (*Аленка*) яна надзвычай рамантызавана апісала, як з дзяцінства яна зразумела, як ёй не хапала летувіскай мовы, якую ад яе хавалі дарослыя, і яна вырашыла, што зробіць усё, каб авалодаць забытай роднай мовай. Рэдкі і ў пэўнай ступені ідэалісцкі пагляд пісьменьніцы ўпісваецца ў пастулят краёўства – разьвіваць усе краёвыя мовы і ідэнтычнасьці. Але да гэтага паэтка падыйшла самастойна без усякага патрабаваньня з боку паплечнікаў па пяры. Раней ужо пазначалася, як літаратарка імкнулася захаваць беларусізаваную форму свайго імя Алена (Alena) і ў летувіскай мове, хоць паводле самой рамантычнай Алены Цэпрынскай, Alena – гэта таксама летувіскае імя. На практыцы ж усё сталася інакш. Шматлікія летувіскія выданьні летуанізавалі ейнае імя (Elena) насупор ейным просьбам. У XX–XXI стст. у летувіскіх бібліяграфічных даведніках і бібліятэчных пошукавіках яна таксама вядомая пераважна як Elena Ceprinskaitė.

Варта адзначыць, што не зважаючы на агульны рамантычны тон, уласьцівы ўсім тэкстам пісьменьніцы на ўсіх мовах, на якіх яна пісала, ейнае пісьмо па-летувіску, тым ня менш, адрозьніваецца патэтычнасьцю, пэўнай наіўна-

[1] Z. Winnicki, *Patriotycznospołeczna działalność kobiet Polek na dalszych Kresach*, s. 14.

[2] «Lietuva», 1910, 25 d. lapkričio, p. 1.

[3] «Draugas», 1910, nr 47, p. 514.

сьцю і надзвычайнай ўзьнёсласьцю, а таксама выбарам сэнтымэнтальных тэмаў. Дасюль невядома, ці пісала Алена па-летувіску (дарэчы, як і па-польску) у 1920-я гады, бо апошні вядомы пэрыяд пісьменьніцы да зьнікненьня ў канцы тых гадоў багаты на тэксты па-беларуску.

***

Постаць Алены Цэпрынскай хоць і ўпісваецца ў рух краёўства па сваіх ідэйных пасланьнях і ідэалягічных пастулятах, застаецца, тым ня менш, на маргінэзе ў зьвязку з індывідуальнай непаўторнай творчай, эстэтычнай і палітычнай спэцыфікай публіцысткі і шматмоўнай пісьменьніцы. Нават выданьні «Litwa'ы» і «Lud'у» займалі спэцыфічную, мінарытарную нішу на мяжы краёўства і летувіскага нацыянальнага руху. Алена Цэпрынская ўнутры рэдакцыі была яшчэ больш дзівоснай і непаўторнай, бо паходзіла яна зь беларускай зпалянізаванай шляхты, а выбрала цягам пэўнага часу шлях летуанізацыі.

Цікава, што рэдакцыя польскамоўных летувіскіх «Litwa'ы» і «Lud'у» прапагандавала памяркоўны моўны шлях для зпалянізаваных і збеларусізаваных летувісаў і ўсяляк пазьбягала моўнага прымусу і адкрытай крытыкі ў бок тых, хто марудна ці зусім не летуанізаваўся. У той час, як асабіста Алена выбрала інтэнсіўны курс летуанізацыі, які пасьпяхова прайшла і прадэманстравала, што ўсё мажліва ў пытаньні выбару тоеснасьці. Зрэшты, апрача ўдалай летуанізацыі ў 1910-я гады, пазьней яна прадэманстравала выдатныя вынікі ў сфэры беларусізацыі. У 1920-я гг., калі краёўства паступова губляла вагу на тле ўзмацьненьня нацыяльных і нацыяналісцкіх тэндэнцыяў, паэтка далучылася да беларускай справы. Але і гэты выбар не азначаў, што слуцка-віленская дзяячка адмовілася ад краёўства.

Зьнікненьне паэткі і няведаньне ейнага лёсу пасьля 1930 г. не дазваляюць нам зрабіць канчатковых высноваў. Ясна адно: гэта была таленавітая шматмоўная пісьменьніца, якая сваімі тэкстамі па-беларуску, па-польску і па-летувіску лепей за ўсіх даводзіла актуальнасьць і важнасьць краёвых ідэалаў. Галоўнае палітычна-грамадзкае пасланьне Алены Цэпрынскай добра чытаецца ў ейных мастацкіх тэкстах, асабліва ў беларускіх вершах, польскамоўнай п'есе *Odstępca* і апавяданьні па-летувіску *Alenytė*. Аналіз ейнай грамадзкай і літаратурнай дзейнасьці дазваляе сьцвярджаць, што Алена Цэпрынская ў першыя дзесяцігодзьдзі XX ст. належала да альтэрнатыўнай летувіска-беларускай дэмакратычнай плыні краёўства, узбагаціўшы гэты рух рамантычным, ідэалізаваным і максімалісцкім бачаньнем разьвіцьця краю з дамешкам моцнай крытыкі палянізацыі і асаблівай падтрымкай летувісаў і беларусаў усяго Краю.

© HOMO HISTORICUS 2024
ISSN 2424-5216

# БЕЛАРУСЬ У ПОЛІ ЗРОКУ ВІКТАРА СУКЕННІЦКАГА (1901–1983)

***Ян Гардзееў,***
*магістр гісторыі (Кракаў)*

***Summary***

*This article is devoted to the Belarusian subject matter undertaken by the Polish émigré intellectual, historian and sovietologist Wiktor Sukiennicki in his post-war journalistic and academic activities. Included are articles in the pages of the Parisian journal „Kultura", in which Sukiennicki described the activities and peculiarities of the Belarusian émigrés and left his reflections and historical-worldview analyses. A separate theme included is his posthumously published monograph „East Central Europe during World War I. From foreign domination to national independence", in which Sukienicki, as a historian, presented the Belarussian movement as one of the elements of the described part of Europe during a period of increased activity of national movements combined with a desire for independence and an authorial emphasis on the former Grand Duchy of Lithuania, which he considered his homeland.*

Герой гэтага артыкула нарадзіўся ў першы год XX стагоддзя на польска-літоўскім культурным памежжы ў Расійскай імперыі. Стагоддзе, якое на старонках гісторыі пакінула след як эпоха таталітарных сістэм, у значнай ступені паўплывала на лёс радзімы будучага навукоўца. Магчыма, якраз таму сваё прафесійнае жыццё Віктар Сукенніцкі прысвяціў даследаванню адной з таталітарных сістэм, у кіпцюры якой трапіў, а таксама вывучэнню гісторыі краін і народаў, якія сфарміраваліся на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага.

Закранаючы пытанне аб прафесійных якасцях віленскага даследчыка права і гісторыі, варта прыгадаць яго ўласнае

меркаванне, у якім ён прызнаваўся ў імкненні да аб'ектыўнасці і стрыманасці, пазбяганні маральнай і палітычнай ацэнкі, згадваў даследчыкаў прыроды і матэматыкі. Магчыма, такі падыход сфарміраваўся пад уплывам нарматывізму і пазітывізму. Таксама трэба згадаць, што навуковец усведамляў неабходнасць раскрыцця «актуальных і гістарычна блізкіх» пытанняў, якія выклікалі эмоцыі[1]. Гэтая ўвага вельмі істотная з улікам яго асабістага жыццёвага досведу. Тут прыгадваецца моладзевы канфлікт з земляком і пазнейшым міністрам замежных спраў Літвы Стасісам Лазарайцісам, пасля якога ў Віктара застаўся фізічны след на ўсё жыццё, канфлікт з сястрой, якая літуанізавалася і парвала кантакты з сям'ёй, абвінавачанні ў прапагандзе камунізму ў 1930-я гг. і дыяметральна супрацьлеглыя закіды ў антыкамунізме ў пасляваенны час[2]. У эміграцыі ўсё мацней праяўляліся сентыменты да радзімы, але даследчык імкнуўся да аб'ектыўнасці[3]. Яшчэ пры жыцці Сукенніцкі стаў прызнаным аўтарытэтам у даследаваннях міжнароднага права, а таксама вядомым саветолагам, навуковая спадчына якога заслугоўвае грунтоўнага вывучэння[4].

Спадчына польскай эміграцыйнай думкі, яе ўяўленні аб узаемасувязях з суседнімі народамі адносіцца да шматгранных тэм, таму нікога не павінна здзіўляць, што і сёння засталося дастаткова праблем, якія чакаюць разгляду. У гэтым шэрагу дзейнасць і постаць Віктара Сукенніцкага не з'яўляецца выключэннем. Праблема заключаецца ў абыходжанні ўвагай яго біяграфіі. Яна не з'яўляецца ўнікальнай у кантэксце лёсу людзей, якія ў часы Другой сусветнай вайны і ў пасляваенны перыяд былі вымушаны эміграваць, але ўяўляе цікавасць як прыклад спалучэння жыццёвага шляху і даследчыцкіх інтарэсаў. У дадзеным артыкуле будзе зроблена спроба аналізу беларускай праблематыкі ў артыкулах Сукенніцкага на старонках польскага эміграцыйнага часопіса «Культура» і яго манаграфіі *East Central Europe during World War I. From foreign domination to national independence* (1984). Паспрабую адказаць на наступныя пытанні: чым была абумоўлена зацікаўленасць Сукенніцкага «беларускім пытаннем»? Якія аспекты беларускай тэматыкі найбольш цікавілі даследчыка? Як паўплывалі яго публікацыі на польскую эміграцыйную і беларускую думку? Ці можна казаць пра ўнёсак Сукенніцкага ў фарміраванне вядомай канцэпцыі УЛБ (Украіна-Літва-Беларусь), створанай у рэдакцыі часопіса «Культура»?

---

1 M. Kornat, *Polska szkoła sowietologiczna*, Kraków 2003, s. 57.

2 Ibidem, s. 59; M. Siekierski, *Wspomnienia o Wiktorze Sukiennickim*, „Przegląd Wschodni", 2017, nr 3(55), s. 646–647; W. Sukiennicki, W *połowie drogi*, „Kultura", 1950, nr 4/30, s. 39.

3 L. Zasztowt, *Profesor Wiktor Sukiennicki jakim go pamiętam*, [w:] *Początki sowietologii: Instytut Naukowo-Badawczy Europy Wschodniej w Wilnie (1930–1939). Idee – ludzie – dziedzictwo*, Warszawa 2021, s. 179, 188–193.

4 M. Kornat, *Polska szkoła sowietologiczna…*, s. 54.

Віктар Сукенніцкі нарадзіўся 25 ліпеня 1901 г. у мясцовасці Аляксота (сёння Коўна) Марыямпальскага пав. Сувалкаўскай губ. У 1918 г. ён далучыўся да Польскай вайсковай арганізацыі (Polska Organizacja Wojskowa), а праз год пачаў працу ў Грамадзянскім упраўленні Усходніх земляў (Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich). У кастрычніку 1919 г. паступіў на факультэт права і сацыяльных навук Віленскага ўніверсітэта Стэфана Баторыя (УСБ), дзе вучыўся з перапынкам, выкліканым польска-савецкай вайной. Дабраахвотнікам пайшоў у польскае войска. Ва ўніверсітэт вярнуўся ў 1922 г. Пасля заканчэння абараніў доктарскую працу, прысвечаную каланіяльнай палітыцы Прусіі на польскіх землях пасля 1886 г.[1] Дзякуючы грашовай дапамозе Міністэрства асветы, паступіў у аспірантуру факультэта права Універсітэта Сарбона ў Парыжы, а ў 1926 г. ужо там атрымаў ступень доктара палітычных і эканамічных навук. За абароненую дысертацыю, прысвечаную асвятленню пытання дзяржаўнага суверэнітэту ў сучаснай прававой думцы, Сукенніцкі атрымаў сарбонскую ўзнагароду. У працы *Дзяржаўны суверэнітэт у сучасным міжнародным праве* (*La souveraineté des états en droit international moderne*) даследчык выкарыстаў прыклад суіснавання народаў у былой Рэчы Паспалітай. Кніга прыцягнула ўвагу і выклікала дыскусіі. У пазнейшы перыяд ён выкладаў у Акадэміі міжнароднага права ў Гаазе, а ў 1929 г. вярнуўся ў Польшчу. У тым самым годзе ва УСБ абараніў габілітацыю *Podstawa obowiązywania prawa narodów. Studium prawne* і працягнуў навуковую кар'еру ў Вільні[2].

Па меры аслаблення палітычнай вагі Лігі Нацыі, няўстойлівасці дэмакратычных рэжымаў і станаўлення аўтарытарных і таталітарных сістэм, Віктар Сукенніцкі пачаў выказваць сумненні ў эфектыўнасці міжнароднага права. Дынамічныя палітычныя змены абумовілі яго цікавасць да СССР. У 1930 г. ён пачаў працу ў гісторыка-юрыдычнай секцыі Навукова-даследчага інстытута Усходняй Еўропы (Instytut Naukowo-Badawczy Europy Wschodniej) у Вільні, адначасова чытаючы лекцыі пра палітычнае ўладкаванне савецкай дзяржавы. У сакавіку-красавіку 1934 г. даследчык наведаў Савецкі Саюз з мэтай наладзіць навуковыя стасункі, аднак зрабіць гэта не атрымалася[3]. У 1938 г. у Вільні выйшаў першы том яго працы, прысвечанай эвалюцыі савецкага дзяржаўнага ладу[4]. Таксама варта прыгадаць яго артыкулы, у якіх асвятляўся працэс калектывізацыі ў гады першай пяцігодкі, аналізавалася марксісцка-ленінская тэорыя права і характарызавалася канстытуцыя 1937 г.

1 W. Sukiennicki, *Pruska polityka kolonizacyjna na ziemiach polskich 1886–1919: zarys pruskiego ustawodawstwa rentowego*, z przedmową W. Staniewicza, Warszawa 1931.

2 M. Kornat, *Sukiennicki Wiktor* [w:] Polski Słownik Biograficzny, t. 45, Warszawa-Kraków 2007, s. 396–397.

3 Ibidem, s. 397.

4 W. Sukiennicki, *Ewolucja ustroju Związku Socjalistycznych Republik Radzieckich w świetle oficjalnych publikacji władzy radzieckiej*, cz. 1, Wilno 1938.



*Віктар Сукенніцкі.*
*З матэрыялаў інтэрнету*

За выключэннем эпізоду, звязанага з парламенцкімі выбарамі 1922 г. і партыяй *Polskie Stronnictwo Ludowe «Wyzwolenie»* Сукенніцкі не прымаў актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці. Разам з тым, яго голас быў чутны ў Віленскім універсітэце, калі ўздымалася тэма абароны правоў нацыянальных меншасцей украінцаў, беларусаў і яўрэяў, што адпавядала яго ліберальным і дэмакратычным поглядам[1]. Аналагічнае крытычнае стаўленне да нацыянальнай палітыкі санацыйных уладаў выказвала асяроддзе віленскай Школы палітычных навук[2]. Нягледзячы на тое, што пасля травеньскага перавароту 1926 г. Сукенніцкі разышоўся з лагерам пілсудчыкаў, ён, тым не менш, застаўся прыхільнікам ужо неактуальных федэралістычных планаў Пілсудскага. У 1938 г. пасля аднаўлення польска-літоўскіх дыпламатычных адносін Сукенніцкі падпісаў дэкларацыю аб супрацоўніцтве дзвюх краін, якая была вынікам дамовы Дэмакратычнага клуба ў Вільні з Літоўскім нацыянальным камітэтам[3]. Пагадненне прадугледжвала магчымасць адукацыі на роднай мове, стварэння нацыянальных арганізацый і доступу да дзяржаўных пасадаў літоўцаў у Польшчы, а палякаў – у Літве[4].

Пасля савецкай анексіі Літвы В. Сукенніцкі застаўся ў Вільні. Ён быў арыштаваны і сасланы ў лагер Рэшоты Краснаярскага края. На волю выйшаў ў выніку падпісання ў 1941 г. «пагаднення Сікорскі-Майскі», згодна з якім аднаўляліся польска-савецкія дыпламатычныя адносіны і пачалося вызваленне польскіх грамадзян з савецкіх лагераў. Сукенніцкі ўладкаваўся на працу ў амбасаду Польшчы ў Куйбышаве, дзе займаўся пошукам зняволеных польскіх грамадзян. У лютым 1943 г. ім быў падрыхтаваны рапарт пра польска-савецкія адносіны для польскіх улад у Лондане (Ministerstwo Prac Kongresowych). Таксама ён быў аўтарам мемарандума ў справе Катынскага злачынства з мэтай яго прэзентацыі на Нюрнбергскім працэсе, а таксама рапарта пра лёс польскіх ваеннапалонных у СССР[5].

1 M. Kornat, *Wiktor Sukiennicki (1901–1983) – prawnik, sowietolog, historyk*, „Zeszyty Historyczne”, 2001, nr 137, s. 40.

2 Ibidem, s. 61.

3 M. Kornat, *Sukiennicki Wiktor..., s.* 397–398.

4 B. Makowski, *Zmiany w położeniu ludności litewskiej w Polsce w latach 1935–1939*, „Rocznik Białostocki”, 1991, t. 16, s. 444–445.

5 M. Kornat, *Sukiennicki Wiktor…*, s. 398–399.

Навуковую дзейнасць Віктар Сукенніцкі працягваў у эміграцыі. У 1945–1947 гг. ён быў дэканам г. зв. польскага факультэта права ў Оксфардскім універсітэце, пазней супрацоўнічаў з радыё «Вольная Еўропа». У 1959 г. выехаў у ЗША, дзе працаваў у вядомым амерыканскім цэнтры саветалогіі – Інстытуце Гувера пры Стэнфардскім універсітэце. Сфера яго навуковых інтарэсаў пашырылася, ахапіўшы гісторыю краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы. З 1950 г. актыўна супрацоўнічаў з рэдакцыяй парыжскай «Культуры». Паводле гісторыка Марка Корната, В. Сукенніцкі істотна паўплываў на фарміраванне гістарычнай канцэпцыі рэдакцыі. У 1981 г. ад рэдакцыі «Культуры» ён атрымаў ўзнагароду імя Юліюша Мерашэўскага (у галіне публіцыстыкі). У прадмове да яго кнігі *East Central Europe during World War I:..* Чэслаў Мілаш трапна назваў яго працу эпілогам да гісторыі страчанай радзімы – Вялікага Княства Літоўскага[1]. Аўтар не дачакаўся выдання гэтай кнігі. Ён памёр 10 красавіка 1983 г. у Маўнтэн В'ю (Mountain View) у Каліфорніі. Яго навуковая спадчына дазваляе лічыць даследчыка адным з пачынальнікаў польскай саветалагічнай думкі.

У эміграцыі Сукенніцкі пачаў цікавіцца тэмай палітычных і нацыянальных адносін на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, будучы дэ-факта першым польскім гісторыкам, які выкарыстоўваў архівы Інстытута Гувера[2]. Акрамя «Культуры», яго тэксты, прысвечаныя, між іншым, беларускай гісторыі і гістарыяграфіі, публікаваліся на старонках часопіса «Zeszyty Historyczne», што заслугоўвае асобнага разгляду. Абодва згаданыя вышэй часопісы выдаваліся Літаратурным інстытутам, заснаваным у 1946 г. у Рыме. Гэта было польскае выдавецтва, якое аб'ядноўвала пераважна польскіх эміграцыйных інтэлектуалаў. Часам пад псеўданімамі там публікаваліся тэксты аўтараў, якія заставаліся з усходняга боку жалезнай заслоны. «Культура» была адной з найбольш вядомых праяваў польскай інтэлектуальнай актыўнасці ў замежжы.

Менавіта ў інтэлектуальным асяроддзі інстытута і на старонках «Культуры» ўзнікла і развівалася канцэпцыя УЛБ. Фактычна гэта была новая праграма польскай г. зв. усходняй палітыкі. Польскі бок адмаўляўся ад тэрытарыяльных прэтэнзій у дачыненні да краін, землі якіх уваходзілі ў склад міжваеннай польскай дзяржавы, і тым самым прызнаваў пасляваенны тэрытарыяльны *status quo.* Падкрэслівалася неабходнасць дасягнення незалежнасці не толькі Польшчы, але таксама Украіны, Літвы і Беларусі, важнасць супрацоўніцтва з імі і ўлагоджвання гістарычных канфліктаў паміж суседзямі. На гэтым шляху істотным было наладжванне кантактаў паміж інтэлектуаламі гэтых народаў.

Часопіс «Культура» пачаў выходзіць у 1947 г. у Рыме як выданне Літара-

---

1 Ibidem, s. 399.

2 M. Kornat, *Wiktor Sukiennicki (1901–1983) – prawnik…*, s. 69.

турнага інстытута. Праз год інстытут пераехаў у Парыж, дзе свет пабачыў другі нумар часопіса. Там ён і выдаваўся да канца свайго існавання ў 2000 г. Часопіс стаў платформай свабоднага выказвання думак, ён пранікаў за жалезную заслону і тым самым уплываў на грамадскую думку ў ПНР, не абмяжоўваючыся польскай тэматыкай і польскімі аўтарамі. Важным у разуменні спецыфікі інстытута з'яўляецца той факт, што ён не быў звязаны з нейкім канкрэтным палітычным асяроддзем польскай эміграцыі[1]. Гэта абумоўлівала даволі шырокі ідэйны спектр публікацый Літаратурнага інстытута, у т. л. пэўную крытыку палітычных пазіцый эміграцыйных колаў.

Адным з заснавальнікаў Інстытута і галоўным рэдактарам «Культуры» быў Ежы Гедройц, які нарадзіўся ў Менску ў 1906 г. і быў нашчадкам старалітоўскага роду. Магчыма менавіта месца нараджэння абумовіла цікавасць будучага заснавальніка «Культуры» да Усходняй Еўропы. Першую сусветную вайну і палітычныя перамены ў Расіі ён перажыў яшчэ школьнікам. Напярэдадні пераезду сям'і ў Варшаву ў 1919 г. Ежы Гедройц на кароткі час вярнуўся ў родны Менск. Якраз тут ён упершыню пачуў пра Юзафа Пілсудскага, які стаўся для яго палітычным і ідэйным узорам на ўсё жыццё[2]. Е. Гедройц закончыў Варшаўскі ўніверсітэт, у якім вывучаў права і гісторыю. Кар'еру ў дзяржаўных органах Польшчы Гедройц пачаў яшчэ ва ўніверсітэцкія часы, калі уладкаваўся на працу ў прэс-бюро Рады Міністраў. Адначасова актыўна ўдзельнічаў у жыцці розных палітычных арганізацый і нефармальных клубаў, рэдагаваў часопіс «Bunt Młodych». Яго погляды адпавядалі ідэалогіі пілсудчыкаў і неакансерватараў[3].

Пачынаючы з міжваеннага часу, Ежы Гедройц папулярызаваў канцэпцыі, блізкія федэралістычнай, засяродзіўшыся на ўкраінскай праблематыцы[4]. Ён рабіў гэта, нягледзячы на тое, што ўкраінская тэма страціла актуальнасць пасля польска-савецкай вайны і Рыжскага міру. Да таго ж у 1930-я гг. польскія ўлады ўзмацнілі асіміляцыйную палітыку. Гедройц быў суаўтарам праграмы *Польская імперская ідэя* (*Polska idea imperialna*), апублікаванай у 1938 г. у часопісе «Polityka» (раней «Bunt Młodych»). У праграме сцвярджалася, што каталіцкі светапогляд супярэчыць нацыянальнаму эгаізму, а Польшча будавала сваю магутнасць менавіта дзякуючы рэлігійнай і нацыянальнай талеранцыі. Адпаведна прапанавалася імкнуцца да суіснавання народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы на падставе хрысціянства і нацыянальнага паразумення[5].

1 A. Kowalczyk, *Giedroyc i „Kultura"*, Wrocław 1999, s. 69.

2 Ibidem, s. 6–7, 17.

3 Ibidem, s. 24.

4 Ibidem, s. 26–30.

5 *Polska idea imperialna*, Warszawa 1938, s. 12–14.

У раздзеле аб нацыянальных меншасцях аўтары крытыкавалі польскі шавінізм, прапануючы пашырэнне культурных і грамадзянскіх свабод.

На пачатку Другой сусветнай вайны яго лёсам стала эміграцыя, дыпламатычная праца і праца ў бюро прапаганды II польскага корпуса, дзе Гедройц пазнаёміўся з многімі будучымі супрацоўнікамі «Культуры»[1]. Пазней ён успамінаў, што стваральнікі часопіса мелі намер паўплываць як на ўнутраную сітуацыю ў Польшчы, так і на эміграцыю, але дыяпазон уплыву аказаўся больш шырокім[2]. Пазіцыя Гедройца характэрызавалася спалучэннем рэалізму і цвярозага бачання палітычнага *status quo* з пашырэннем ідэй, якія ў перспектыве іпрадугледжвалі змену палітычнай сітуацыі. Рэдакцыйная палітыка выглядала як пэўная альтэрнатыва пазіцыі лонданскага эміграцыйнага асяроддзя. Для «Культуры» на першым плане была не іерархія, а рацыянальны і ўзважаны падыход да аналізу той ці іншай праблемы. Таксама рэдактар выдатна ўсведамляў, што гарантам выдавецкай свабоды з'яўляецца фінансавая незалежнасць рэдакцыі, пра якую ён увесь час клапаціўся.

Матэрыялы часопіса мелі шырокі тэматычны спектр, аднак адной з найбольш актуальных тэм з цягам часу стала праблематыка УЛБ. Узаемапаразуменне новых краін абшару былой Рэчы Паспалітай было адной з галоўных мэтаў рэдактара[3]. Можна сцвярджаць, што ідэйны дыскурс даваенных часопісаў „Bunt Młodych" і „Polityka" знайшоў свой працяг на старонках парыжскай «Культуры». Даследчыкі Анджэй Кавальчык і Івона Гофман лічаць, што да шырокага абмеркавання праблематыкі УЛБ спрычыніўся зварот аднаго з чытачоў, які выклікаў гарачыя дыскусіі[4]. У 1952 г. на старонках «Культуры» быў апублікаваны ліст ксяндза Юзафа Маеўскага, які заклікаў забыць пра вяртанне ў склад Польшчы «крэсаў усходніх». На яго думку, такі крок дазволіў бы пашырыць супрацоўніцтва з Украінай і Літвой і тым самым наблізіў стварэнне федэрацыі краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы[5]. У асяроддзі польскай эміграцыі падобныя заявы, асабліва ў першыя пасляваенныя гады, успрымаліся як недапушчальныя[6].

На фарміраванне канцэпцыі УЛБ таксама паўплываў Дэмакратычны маніфест 1951 г. аўтарства дамініканца, філосафа і саветолага Юзафа Бахэньскага. Антыкамуністычная, па сутнасці, праграма выканала ролю ідэалагічнага

---

1 A. Kowalczyk, *Giedroyc i „Kultura"*, s. 55–66.

2 I. Hofman, *Ukraina, Litwa, Białoruś w publicystyce paryskiej „Kultura"*, Poznań 2003, s. 27.

3 Ibidem, s. 29.

4 A. Kowalczyk, *Giedroyc i „Kultura"*, s. 149–150; I. Hofman, *Ukraina, Litwa, Białoruś…*, s. 28.

5 *List ks. Józefa Z. Majewskiego z St. John Vianney's Seminary do redakcji*, „Kultura", 1952, nr 11/61, s. 157–158.

6 I. Hofman, *Ukraina, Litwa, Białoruś…, s.* 36.

падмурку дзейнасці Літаратурнага інстытута. Аўтар, напрыклад, супрацьпастаўляў еўрапейскую дэмакратычную традыцыю расійскай традыцыі, разважаючы аб неабходнасці агульнаеўрапейскай інтэграцыі[1]. Адначасна існаванне жалезнай заслоны, якая падзяляла Еўропу, прымушала польскіх інтэлектуалаў да перафарматавання сваіх поглядаў і разважання над праектам федэрацыі краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы[2]. Яго прапанаваў Юліюш Мерашэўскі, які публікаваўся пад псеўданімам Londyńczyk[3]. Менавіта Мерашэўскі лічыцца галоўным аўтарам канцэпцыі УЛБ, хаця да яе фарміравання таксама спрычыніліся іншыя інтэлектуалы. Федэралістычны праект Пілсудскага ён лічыў «музейным», а сярод фактараў, якія маглі б стварыць раўнавагу ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе, называў адыход ад палітыкі польскага рэвізіянізму на карысць супрацоўніцтва з „паняволенымі народамі», аслабленне пазіцыі Расіі, прыязнае стаўленне да Польшчы з боку суседзяў і польскую падтрымку нацыянальна-вызвольных рухаў у рэгіёне УЛБ[4].

Заўважым, што ўпершыню гэтае скарачэнне з'явілася ў 1974 г. у артыкуле Мерашэўскага, дзе разглядаўся расійскі комплекс адносна Польшчы і палякаў, а таксама яго ўплыў на лёс рэгіёну УЛБ[5]. Аўтар сцвярджаў, што польскае і расійскае суперніцтва ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе мела ўсе праявы імперыялізму. Ён заклікаў задумацца над варыянтамі польскага супрацоўніцтва з украінцамі, літоўцамі і беларусамі. Мерашэўскі памёр у 1976 г., аднак яго канцэпцыя атрымала развіццё і пэўную рэалізацыю на старонках «Культуры».

Беларускай тэматыкай займаліся такія аўтары як Анджэй Вінцэнз, Уладзімір Брылеўскі, Эдмунд Якубоўскі і Юзаф Дарскі. Да гэтай групы належаў і Віктар Сукенніцкі, які публікаваўся на старонках парыжскага часопіса, пачынаючы з 1950 г. Першы яго артыкул у «Культуры» ўтрымліваў крытыку заходнееўрапейскай інтэлектуальнай апалагетыкі савецкай сістэмы і камуністычнай ідэалогіі[6]. Тэксты даследчыка і публіцыста можна падзяліць на некалькі тэматычных груп. Адна з іх непасрэдна датычыла яго прафесійнай дзейнасці і ўтрымлівала аналіз камуністычнай ідэалогіі і савецкага палітычнага ладу на шырокім гістарычным фоне з улікам спецыфікі Расіі[7]. Да гэтай групы можна

---

1 A. Kowalczyk, *Giedroyć i „Kultura”*, s. 132–135.

2 Ibidem, s. 125–126.

3 I. Hofman, *Ukraina, Litwa, Białoruś…*, s. 30.

4 Ibidem, s. 43–44.

5 J. Mieroszewski, *Rosyjski „kompleks polski” i obszar ULB*, „Kultura”, 1974, nr 9/324, s. 3–14.

6 W. Sukiennicki, W *połowie drogi*, „Kultura”, 1950, nr 4/30, s. 31–56.

7 Гл., напрыклад: W. Sukiennicki, *„Komunizm” sowiecki*, „Kultura”, 1957, nr 4/114, s. 3–17.

аднесці і рэцэнзіі гістарычных прац. У часопісе з'явіліся яго рэцэнзіі на кнігі *The communist party of the soviet union* гісторыка Леанарда Шапіры і *Neither War Nor Peace: The Struggle For Power In The Postwar World* Х'ю Сэтан-Ватсана. Не абмінуў ён сваёй увагай зборнік крыніц *Documents on Polish-soviet Relations, 1939–1945, Volume I: 1939–1943*. Таксама на старонках «Культуры» была апублікавана рэцэнзія на кнігу *Wspomnienia z przeżyć w niewoli sowieckiej* Уладзіслава Вяльгорскага, якую Сукенніцкі напісаў за пару месяцаў да смерці аўтара ўспамінаў[1]. Варта адзначыць падабенства лёсаў Вяльгорскага і Сукенніцкага. Першы з іх таксама быў саветолагам, працаваў у вышэйзгаданым віленскім Інстытуце Усходняй Еўропы. Абодва былі арыштаваны савецкімі ўладамі ў Вільні і дэпартаваны на ўсход СССР, а пазней апынуліся ў эміграцыі.

У 1950–1960-я гг. даследчык толькі мімаходзь закранаў беларускую праблематыку. Так было з артыкулам, прысвечаным пісьменніку і журналісту Казіміру Лечыцкаму, які нарадзіўся ў вёсцы Кавалёўка Барысаўскага пав. (паводле іншых звестак, Ігуменскага пав.)[2]. З аўтарам твора *Brat z tamtej strony,* прысвечанага трагедыям, звязаным з Рыжскай мяжой, Сукенніцкі пазнаёміўся яшчэ ў Вільні. Лечыцкі быў арыштаваны і памёр у савецкай няволі.

У 1972 г. у артыкуле *Rara avis*[3] Сукенніцкі закрануў праблему польскамоўных жыхароў гістарычнай Літвы, г. зв. літвінаў. Ён лічыў, што трансфармацыя ідэнтычнасці жыхароў ВКЛ пачалася ў XVII ст. У якасці прыкладу згадаў асобу Януша Радзівіла (1579–1620), які ў адным з лістоў да брата Крыштафа пісаў пра ўласную «літвінскую» ідэнтычнасць. Яе важным элементам было выкарыстанне польскай мовы, якая ў той час ужо пашырылася ў Літве. Хоць галоўным стрыжнем артыкула было супрацьстаянне мадэрных польскага і літоўскага нацыянальных праектаў, аднак у ім прысутнічаў таксама беларускі акцэнт і зварот да канцэпцыі УЛБ. Сукенніцкі спасылаўся на разважанні аўтара, які схаваўся пад псеўданімам J. Wężyk, у брашуры якога дэкларавалася стварэнне «Вялікай Літвы», дзе дзяржаўнымі былі б мовы трох народаў палякаў, літоўцаў і беларусаў[4]. Аўтар брашуры ўсведамляў нерэальнасць такога плану, але выказваў спадзяванні на палітычныя змены ў рэгіёне ў выпадку аслаблення «савецкай Расіі». Сукенніцкі адзначыў, што ў Вялікім Княстве

[1] W. Sukiennicki, *Historia Sowieckiej Partii Komunistycznej*, „Kultura", 1961, nr 3/161, s. 165–167; idem, *„Ani wojna, ani pokój"*, „Kultura", 1961, nr 5/163, s. 143–146; idem, *Dokumenty o stosunkach polsko-sowieckich*, „Kultura", 1962, nr 3/173, s. 115–143; idem, *Psychologia więzienia*, „Kultura", 1967, nr 6/236, s. 144–147.

[2] W. Sukiennicki, *„Sztubak"*, „Kultura", 1950, nr 9/35, s. 31–42.

[3] *Белы крумкач (лац.)*. Гэтым тэрмінам называюць рэдкія выданні, якія пабачылі свет да 1.01.1500 г.

[4] W. Sukiennicki, *„Rara avis» czyli o Litwinach mówiących po polsku*, „Kultura" 1972 nr 12/303, s. 54.

Літоўскім шырока ўжывалася беларуская мова, якой маглі валодаць Тадэвуш Касцюшка і Адам Міцкевіч. Гэту мову ён назваў «рускай (беларускай)»[1]. Даследчык таксама засяродзіў увагу на канцэпцыі аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага, сцвярджаючы, што адмова польскіх дыпламатаў ад Менску падчас перамоваў у Рызе ў 1920 г. перакрэсліла гэту канцэпцыю[2]. Даследчык наогул лічыў Рыжскі мір трагедыяй, якая перакрэсліла ідэю аднаўлення Рэчы Паспалітай, і разглядаў яго як палітычную паразу Ю. Пілсудскага[3].

Аўтарству Сукенніцкага належыць шэраг артыкулаў пра беларускія эміграцыйныя навуковыя часопісы, у якіх прысутнічалі цікавыя разважанні наконт беларускага руху. Так, разглядаючы змест перыядычнага выдання «Запісы Беларускага інстытуту навукі і мастацтва», што выходзіў у Нью-Ёрку, аўтар канстатаваў факт актывізацыі беларускай грамадскай думкі на розных кантынентах, сцвярджаючы, што беларускі нацыянальна-культурны рух дасягнуў значнага прагрэсу. Зрэшты, падобную думку ён выказваў неаднойчы[4].

Разважаючы пра беларуска-польскія адносіны, Сукенніцкі ўзгадаў беларусаў-“андэрсаўцаў» і са здзіўленнем канстатаваў аслабленне іх кантактаў з польскімі саслужыўцамі. Ён адзначыў блізкасць светапогляду палякаў і беларусаў, якія амаль не маюць моўнага бар’еру, разам святкуюць гадавіны Каліноўскага, Касцюшкі і Міцкевіча, радуюцца з перамог Вольгі Корбут і аднолькава негатыўна ставяцца да саветаў і маскоўскага імперыялізму. Адначасна не мог зразумець, чаму беларусы праваслаўнага веравызнання не бачаць асаблівай розніцы паміж палякамі і «маскалямі». Апошняе, на думку Сукенніцкага, магло ўмацаваць пазіцыі Расіі[5]. Стаўленне даследчыка да зместу публікацый беларускіх эміграцыйных аўтараў часта было даволі крытычным. Непрыемнае пачуццё пакінула ў яго заўвага аднаго з беларускіх аўтараў аб тым, што суадносіны колькасці касцёлаў і цэркваў у Вільні перад Першай сусветнай вайной нагадвалі становішча з пачатку XVI ст.[6] У падсумаванні сваіх разважанняў Сукенніцкі сцвердзіў, што сярэднестатыстычны беларус ведае больш пра польскія справы, чым паляк – пра беларускія. Навіны пра беларускія навуковыя перыёдыкі на старонках «Культуры» ён лічыў чымсьці незвычайным,

1 Ibidem, s. 48.

2 Ibidem, s. 51.

3 S. Swianiewicz, *Wspomnienia o Wiktorze Sukiennickim*, „Zeszyty Historyczne”, 1983, z. 66, s. 68.

4 Гл., напрыклад: В. Сукенніцкі, *Аб водгуку ў сэрцы*, [online] https://abdziralovic.com/viktar-sukennicki-ab-vodguku-u-sercy/, [доступ: 18.03.2024].

5 W. Sukiennicki, *Kronika białoruska. Białoruskie czasopisma naukowe na Zachodzie (1)*, „Kultura”, 1974, nr 10/325, s. 95.

6 Ibidem, s. 96–97.

падскрэліваючы адсутнасць цікавасці да іх з польскага боку. У іншым артыкуле, прысвечаным агляду беларускіх перыядычных выданняў, Сукенніцкі закрануў дзейнасць Англа-беларускага таварыства і беларускай школы з інтэрнатам пры царкве св. Кірыла ў Лондане, а таксама двухмесячніка «Божым шляхам». Ён адзначыў высокі навуковы ўзровень *The Journal of Byelorussian Studies* і зацікавіўся штогадовымі справаздачамі Оўбэрэна Герберта (Auberon Herbert) аб беларускай інтэлектуальнай выдавецкай дзейнасці[1]. У поле яго зроку таксама траплялі матэрыялы па беларускай тэматыцы ў такіх выданнях як «Times» і «Daily Telegraph».

Прадметам разгляду стаў часопіс «Litva» Вацлава Пануцэвіча, гістарычныя погляды якога даследчык акрэсліў як «арыгінальныя». Гаворка ішла пра абвінавачванні суседзяў у фальсіфікацыі гісторыі і крадзяжы імі назвы краіны (Літва), а таксама пра «гоцкі» пачатак беларускай ці, дакладней, «літвінскай гісторыі». Пры гэтым Сукенніцкі адзначыў станоўчыя рысы, а менавіта выкарыстанне аўтарам гістарычных крыніц і высокі ўзровень ведаў у параўнанні з некаторымі суайчыннікамі, крытыкаванымі тым жа Пануцэвічам[2]. Пераказ зместу перыядычных выданняў Віктар Сукенніцкі заканчваў лаканічным і крытычным падсумаваннем, не пазбаўленым асабістых суб'ектыўных ацэнак. Яго крытыка не зважала на статус аўтараў. Ён заахвочваў чытача да роздуму і самастойнага аналізу.

Матэрыялы аб беларускіх часопісах сапраўды знайшлі зацікаўленага чытача. У рэдакцыю «Культуры» пачалі дасылаць іншыя беларускія выданні, якія траплялі ў агляды Сукенніцкага. Сярод іх былі такія перыёдыкі, як нью-ёркскі «Беларус», канадскі «Беларускі голас», праваслаўны часопіс «Званіца», які выдаваўся ў Вялікабрытаніі, квартальнік «Зважай» Аб'яднання беларускіх ветэранаў і «Веча» (пазней «Вялітва»)[3]. Разгляд прэсы часам абарочваўся вострай палемікай з беларускімі аўтарамі. Сукенніцкі быў змушаны адказаць на крытыку, змешчаную на старонках «Беларуса», які абвяргаў інфармацыю аб перадачы органамі БНР паўнамоцтваў БССР у 1925 г. Саветолаг адказаў, што ніколі не падзяляў «савецкай хлусні», выкарыстаўшы ў польскім тэксце беларускае слова хлусня. Яно ж прысутнічала ў яго адказе на крытыку аднаго з аўтараў «Беларускага голаса», які заявіў пра спрыянне Польшчы «маскоўскаму заняволенню» беларусаў[4]. У 1975 г. даследчык выказаў кры-

1 W. Sukiennicki, *Kronika białoruska. Białoruskie czasopisma naukowe na Zachodzie (2)*, „Kultura", 1975, nr 1/328–2/329, s. 110–115.

2 Idem, *Białoruskie czasopisma naukowe na Zachodzie (3)*, „Kultura", 1975, nr 7/334–8/335, s. 135–140.

3 Idem, *Białoruskie pokłosie*, „Kultura", 1976, nr 1/340–2/341, s. 150–153.

4 Ibidem, s. 153–154.

тычныя заўвагі ў адрас айца Аляксандра Надсана, палічыўшы яго рэцэнзію на кнігу Івана Любачкі *Belorussia under Soviet Rule, 1917–1957* (1972) занадта станоўчай. На думку Сукенніцкага, калі выдаліць з кнігі сцвярджэнні, выказаныя не на падставе фактаў, то там «засталіся б толькі, як кажуць беларусы, «рожкі ды ножкі»“[1]. Ён адказваў на вострыя пытанні, уступаў у палеміку, не пакідаў без адказу нават дробныя заўвагі. Пры гэтым публіцыст падкрэсліваў сваю польскую самаідэнтыфікацыю, пазбягаючы тым самым спекуляцый, як гэта было ў выпадку з Чэславам Мілашам[2].

Публіцыстычная дзейнасць Сукенніцкага выклікала цікавасць беларускіх эміграцыйных выданняў. Магчыма, штуршком да прыцягнення ўвагі паслужыў яго артыкул, апублікаваны ў 1975 г., у якім той закрануў пытанне расколу беларусаў. Даследчык адзначыў розныя праявы гэтага расколу ад культурніцкіх (напрыклад, выкарыстанне лацінкі і кірыліцы) да рэлігійных (каталікі, уніяты і праваслаўныя) і палітычных (БЦР, БНР, БССР). Апошняй праблеме ён прысвяціў агляд беларускай палітычнай гісторыі ад Першага ўсебеларускага з’езду да пасляваенных часоў і эміграцыі. Сукенніцкі знаёміў чытача з такімі гістарычнымі постацямі, як Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Ларыса Геніюш, Янка Серада, Пётр Крачэўскі, Васіль Захарка і Раман Скірмунт. На прыкладзе Радаслава Астроўскага і Вінцэнта Гадлеўскага ён паспрабаваў ахарактарызаваць палітычны выбар беларускіх дзеячаў у гады Другой сусветнай вайны і іх актыўнасць у пасляваенныя гады, засяродзіўшы ўвагу на дзейнасці Беларускай цэнтральнай рады[3]. Даследчык сцвярджаў, што „беларусам у часы Другой сусветнай вайны і акупацыі было цяжка не супрацоўнічаць з немцамі»[4]. Ён выдатна ўсведамляў рэчаіснасць часоў акупацыі і акалічнасці, якія схілялі беларускія палітычныя сілы да супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі. Пры гэтым прагучала думка, што роспуск БЦР можа паспрыяць аб’яднанню беларускага руху ў эміграцыі. Асобны матэрыял Сукенніцкі прысвяціў біяграфіі і дзейнасці Сяргея Хмары, імкнучыся вызначыць г. зв. трэцюю сілу беларускага эміграцыйнага руху ў апазіцыі да БНР і БЦР[5].

Відавочна, што гэты цыкл публікацый быў спробай прадставіць чытачам «Культуры» палітычнае і культурнае жыццё беларусаў у эміграцыі. У 1976 г. у адным з нумароў часопіса Сукенніцкі быў вымушаны зноў адказаць на крытычныя заўвагі ў свой бок. Ён адзначыў, што ў рамках канцэпцыі УЛБ усведамляў цяжкасць агляду беларускіх выданняў, тым больш, што гісторыя Бе-

---

1 Ibidem, s. 113-115.

2 M. Siekierski, *Wspomnienia o Wiktorze Sukiennickim...*, s. 646.

3 W. Sukienicki, *„Białoruskie rozbicie i „legalizm” (2)*, „Kultura”, 1975, nr 4/331, s. 95–101.

4 Ibidem, s. 95.

5 Idem, *Białoruskie rozbicie – trzecia siła*, „Kultura”, 1975, nr 4/331, s. 95–101.

ларусі яшчэ недастаткова распрацавана. На яго думку, развіццю беларускага руху ў эміграцыі больш спрыяе развянчанне гістарычных міфаў, а не іх пашырэнне. Як прыклад такога міфа ён прыгадаў сцвярджэнне, што нібыта Першы ўсебеларускі з'езд (1917) збіраўся абвясціць дэкларацыю незалежнасці Беларусі. Ён спасылаўся на змест артыкула, апублікаванага ў «Бацькаўшчыне» ў 1958 г., а таксама на пашыранасць падобнай думкі ў эміграцыйных асяродках[1]. Падкрэсліваючы фактаграфічную дакладнасць сваіх тэзісаў, Сукенніцкі раз-пораз адзначаў, што мае доступ да матэрыялаў, невядомых нават лідарам беларускага руху. Ён трапіў у вір унутрыбеларускіх спрэчак, што, дарэчы, стварала магчымасці наладжвання беларуска-польскіх кантактаў.

Асобную публікацыю Сукенніцкі прысвяціў беларускаму асяродку манахаў-марыянаў у Лондане, які знаходзіўся пад апекай біскупа Чэслава Сіповіча. Аўтар не скупіўся на кампліменты, ацэньваючы бібліятэчную калекцыю, якая, на яго погляд, знаходзілася ў лепшым стане, чым польская бібліятэка ў Лондане. Таксама ён распавёў пра архіў, школу з інтэрнатам, выдавецтва «Божым Шляхам», музей «фальклярыстычнага характару» і навуковую дзейнасць Англа-беларускага таварыства. Размовы на гістарычныя тэмы не выклікалі напружання і пакідалі добрае ўражанне, але яго прамова падчас вячэры, вытрыманая ў духу колішняй краёвай ідэі, не атрымала станоўчай рэакцыі. Таксама Сукенніцкі адзначыў, што многія яго суразмоўцы не валодалі беларускай мовай на добрым узроўні[2].

У канцы 1970-х гг. даследчык вярнуўся да навуковых тэкстаў на гістарычныя тэмы. Так, у 1979 г. быў апублікаваны артыкул, прысвечаны тэме інтэграцыі народаў былой Рэчы Паспалітай. В. Сукенніцкі згадаў пра беларускі элемент у паўстанні 1863–1864 гг., прыгадаўшы асобу «Костуся» Каліноўскага, які лічыўся беларускім нацыянальным героем, і працытаваўшы вядомы фрагмент з *Лістоў з-пад шыбеніцы*, у якім той заклікаў працягваць барацьбу супраць «маскалей» разам з «братамі з-пад Варшавы». Таксама сцвярджаў, што на пачатку XX ст. насельніцтва Усходняй Беларусі хоць і забылася польскую мову, але дакладна памятала, дзе праходзіла мяжа Рэчы Паспалітай[3]. Савецкія рэспублікі міжваеннага перыяду Сукенніцкі лічыў савецкімі «пасткамі» для нацыянальных эліт, звярнуўшы ўвагу на сталінскія рэпрэсіі. Параўноўваючы сітуацыю беларусаў у міжваеннай БССР і на ўсходзе тагачаснай польскай дзяржавы, ён сцвердзіў значна меншыя маштабы дэнацыяналізацыі ў апошнім выпадку і прыгадаў трагічны лёс Антона Луцкевіча, арыштаванага супрацоўнікамі НКУС у верасні 1939 г. Паводле даследчыка, у міжваеннай Поль-

1 Idem, *Białoruskie pokłosie*, „Kultura", 1976, nr 5/344, s. 98–99.

2 W. Sukiennicki, *W białoruskim Londynie*, „Kultura", 1976, nr 10/349, s. 100.

3 Idem, *O „integracii", „denacionalizacii" i innych sprawach*, „Kultura", 1979, nr 11/386, s. 10–12.

шчы ў пэўнай ступені жыла ідэя інтэграцыі народаў як элемент спадчыны Рэчы Паспалітай. Сукенніцкі быў перакананы, што час нацыянальных дзяржаваў мінае, і выказаў спадзяванне, што свабодная і незалежная Польшча, як і яе суседзі, будзе будаваць дзяржаву на прынцыпе шматкультурнасці. Гэта дапамагло б пазбегнуць верагодных крывавых канфліктаў. Відавочна, што ён прыняў існаванне мадэрных нацый і спадзяваўся на адраджэнне сувязяў народаў і дзяржаў былой Рэчы Паспалітай. Пры гэтым рэзка асуджаў праявы радыкальнага нацыяналізму, у т. л. у беларускім руху. Так, погляды Кастуся Акулы (сапр. Аляксандр Качан) на беларуска-польскія адносіны, яго варожасць да палякаў, адлюстраваныя у кнізе *Змагарныя дарогі*, гісторык і публіцыст назваў «шызафрынічным нацыянальным вар’яцтвам»[1].

У 1979 г. на старонках «Культуры» з’явілася адна з апошніх публікацый Сукенніцкага на беларускую тэму. Нагодай да напісання артыкула *За глухім мурам* паслужыў артыкул Янкі Запрудніка пра іншадумства ў Беларусі, апублікаваны на старонках мюнхенскага ўкраінскага часопіса «Сучасність». Віктар Сукенніцкі выказаў думку, што адной з прычын адсутнасці даверу і з’яўлення псіхалагічных бар’ераў паміж людзьмі стала павелічэнне расійскага насельніцтва ў Беларусі і актывізацыя працэсаў русіфікацыі, якія таксама закранулі заходнія вобласці БССР[2]. Спасылаючыся на працы Я. Запрудніка, ён прызнаў існаванне іншадумства ў Беларусі. У якасці прыкладаў назваў паэму *Мост* Анатоля Сербантовіча, у якой распавядалася гісторыя самазабойства амерыканскага хлопца з-за прымусу вывучаць чужую мову. Зразумела, што гэта была скрытая метафара адносна сітуацыі ў Беларусі. Таксама Сукенніцкі прыгадаў Міхаіла Кукабаку і яго асуджэнне русіфікацыі, дысідэнта Сяргея Ханжанкова і петыцыю студэнтаў БДУ (1970) з патрабаваннем ўвядзення беларускай мовы ў навучальны працэс. Ён таксама адзначаў больш неспрыяльныя умовы для развіцця дысідэнцкага руху ў Беларусі, чым ва Украіне, Літве ці Грузіі, і выказваў занепакоенасць адсутнасцю беларускамоўных праграм «Голаса Амерыкі», адзначыўшы, што лісты з просьбамі трансляцый на беларускай мове прыходзілі ў рэдакцыю радыё з Менску ды іншых беларускіх гарадоў[3].

Публіцыстыку і навуковыя тэксты В. Сукенніцкага датычна «беларускага пытання» на старонках «Культуры» можна падзяліць на тры тэматычныя групы. Першая тычылася асвятлення беларускіх эміграцкіх навуковых часопісаў і аналізу выбраных артыкулаў. Другую групу складалі кароткія аналітычныя агляды становішча ў эміграцыйных беларускіх колах, а таксама адказы на крытыку ці заўвагі з беларускага боку. Трэцяя складалася з нарысаў,

---

1 Idem, O *geopolityce Res Publicae*, „Kultura”, 1980, nr 7/399–8/395, s. 53.

2 Idem, *Za głuchym murem*, „Kultura”, 1979, nr 12/387, s. 78–79.

3 Ibidem, s. 80–81.

прысвечаных найноўшаму перыяду гісторыі Беларусі. Гэтыя тэксты ўтрымлівалі шмат цікавых думак і разважанняў. Аднак беларускі кантэкст там ужо не дамінаваў.

Іншы характар мела *opus magnum* Сукенніцкага, а менавіта яго двухтомная праца *East Central Europe during World War I: From Foreign Domination to National Independence.* У цэнтры ўвагі даследчыка апынуліся нацыянальныя працэсы і палітычныя падзеі перыяду Першай сусветнай вайны, якія закраналі землі і народы былога Вялікага Княства Літоўскага і ўсёй колішняй Рэчы Паспалітай. Беларускаму нацыянальнаму руху было адведзена значнае месца. Яго гісторыя разглядалася ў кантэксце ваенна-палітычных змен на тэрыторыі Расійскай імперыі з улікам ацэнкі і разумення «беларускага пытання» палітыкамі Польшчы і Германіі, а таксама ў параўнанні з польскім і літоўскім рухамі. В. Сукенніцкі ўлічваў падзеленасць беларускага руху і параўноўваў дзейнасць яго арганізацый і партый з розных бакоў той лініі фронту, якая ўвосень 1915 г. перарэзала беларускія землі.

Ва ўступнай частцы, разважаючы пра польскае і расійскае ўспрыманне «новых нацый», аўтар прыгадаў асобу Адама Міцкевіча, якога назваў выдатным польскім паэтам, чыя творчасць уключала элементы беларускай і літоўскай культурных традыцый. Асоба Міцкевіча фігуравала як своеасаблівы сімвал беларуска-літоўска-польскага паяднання. Таксама Сукенніцкі адзначыў дзейнасць польскіх навукоўцаў, якія не толькі збіралі этнаграфічныя матэрыялы на літоўскай, украінскай і беларускай мовах, але ў пэўны момант пачалі ствараць тэксты на гэтых мовах[1]. Ён прыгадаў, што творы Францішка Багушэвіча выдаваліся з польскай дапамогай, што, на яго думку, сведчыла пра пэўную залежнасць беларусаў ад польскай падтрымкі[2]. Галоўнай праблемай беларускага руху даследчык лічыў адсутнасць культурных цэнтраў па-за межамі Расіі і слабасць нацыянальнай ідэнтычнасці. Не засталася па-за ўвагай аўтара і «канцэпцыя трыадзінства рускага народу», паводле якой беларусы і ўкраінцы лічыліся яго часткамі. Сукенніцкі быў перакананы, што без глыбокага асэнсавання расійскай палітычнай думкі немагчыма зразумець сутнасць палітычных працэсаў ва Усходняй Еўропе.

Перыяд Першай сусветнай вайны і нямецкай акупацыі прыцягваў увагу Сукенніцкага таксама з прычыны спробы беларускіх, літоўскіх, польскіх і яўрэйскіх дзеячаў адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае ў новай канфедэратыўнай форме[3]. Гаворка ішла пра адну з апошніх спроб рэалізацыі краёвай ідэі ў варыянце Міхала Ромэра, якая сцвярджала непадзельнасць земляў бы-

---

1 W. Sukiennicki, *East Central Europe during World War I. From foreign domination to national independence*, New York 1984, s. 33.

2 Ibidem, s. 37–38.

3 Ibidem, *s.* 130.

лога ВКЛ[1]. Таксама ён ахарактарызаваў польскія праекты аднаўлення сувязі паміж Каронай і Вялікім Княствам Літоўскім і стаўлення да іх прыхільнікаў інкарпарацыі і федэралістаў[2].

Адзін з першых беларускіх сюжэтаў кнігі датычыў школьніцтва. Аўтар адзначыў, што ў 1915 г. віленскія беларусы не мелі кадравага рэсурса кваліфікаваных выкладчыкаў, адсутнічалі беларускія гімназіі і сярэднія школы, а сетка пачатковых школ была невялікай, хоць і павялічылася ў апошнія гады вайны дзякуючы дазволу нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. Апошняе ён тлумачыў прагматычным падыходам акупантаў і рэалізацыяй курса *divide et impera*[3]. Нямецкая палітыка ў адносінах да народаў былога ВКЛ заняла прыкметнае месца ў даследаванні. Сукенніцкі працытаваў фрагмент успамінаў генерала Эрыха Людэндорфа, які размясціў «краіну беларусаў» на поўдзень ад лініі Дзвінск-Вільня-Аліта-Сувалкі і адзначыў польскае дамінаванне на гэтай тэрыторыі. Таксама генерал выказваў думку аб магчымасці збліжэння беларусаў з паўночных раёнаў з літоўцамі, што магло б паспрыяць іх збліжэнню з Германіяй[4].

Відавочна, што немцы ў пачатковай фазе акупацыі цьмяна ўяўлялі нацыянальную і моўную сітуацыю ў рэгіёне. Гэтая частка Еўропы для іх была *terra incognita*. Так, аўтары рапарта, падрыхтаванага на патрэбы міністэрства замежных спраў Германіі пасля наведвання ў верасні 1915 г. занятых нямецкімі войскамі земляў Расійскай імперыі, сцвердзілі, што беларусы – гэта «інструмент польскай і расійскай палітыкі, пад моцным уплывам якіх пачалося фарміраванне і развіццё беларускай свядомасці»[5]. В. Сукенніцкі ў сваёй кнізе крытычна ацаніў вынікі нямецкага перапісу насельніцтва Вільні 1916 г., адзначыўшы, што многія літоўцы і беларусы былі запісаны палякамі[6]. Таксама ён адзначыў актыўнасць дзеячаў літоўскага руху, якія ў адрасаваным нямецкай адміністрацыі чэрвеньскім мемарандуме 1916 г. сцвярджалі, што беларускамоўныя жыхары раёнаў Трок, Вільні, Свянцян і Ліды на самой справе з'яўляюцца асіміляванымі літоўцамі, якія абралі беларускую мову з-за боязі расійскага праследу і дзеля магчымасці паразумення з палякамі і расійцамі[7].

---

1 Ibidem, s. 132, 134–136.

2 Ibidem, s. 280.

3 Гл. таксама: V. Volkava, *Ziemie białoruskie pod niemiecką okupacją w okresie I wojny światowej* [w:] *Pierwsza niemiecka okupacja: Królestwo Polskie i kresy wschodnie pod okupacją mocarstw centralnych 1914–1918*, red. G. Kucharczyk, Warszawa 2018, s. 677.

4 W. Sukiennicki, *East Central Europe..., s.* 346–349.

5 V. Volkava, *Ziemie białoruskie...*, s. 676.

6 W. Sukiennicki, *East Central Europe..., s.* 161.

7 Ibidem, s. 170.

У раздзеле *Сакавік 1917. Рэвалюцыя* Сукенніцкі прадставіў сітуацыю беларускага руху на ўсход ад лініі фронту. Яго актывізацыю гісторык звязваў са З'ездам беларускіх нацыянальных арганізацый 25 сакавіка 1917 г., які выказаўся за аўтаномію Беларусі ў межах дэмакратычнай Расіі і стварыў Беларускі нацыянальны камітэт. Даследчык адзначыў нібыта шырокае прадстаўніцтва беларускіх арганізацый у гэтым камітэце: «ад расійскіх сацыялістаў да польскіх памешчыкаў, ад рымска-каталіцкага духавенства да жыдоўскага Бунда, ад вучоных і творчых асоб да чыгуначнікаў і сялян»[1]. На самой справе камітэт быў амаль цалкам сфарміраваны з дзеячаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Адзіным выключэннем быў яго старшыня Раман Скірмунт. В. Сукенніцкі таксама ахарактарызаваў іншую палітычную сілу – бальшавіцкі Савет народных камісараў[2] на чале з армянінам Мясніковым, які насамрэч уладарыў у Беларусі. Даследчык заявіў пра чужароднасць палітычнай улады бальшавікоў як «імпартаванага элементу»[3]. Пасяджэнні Першага Усебеларускага з'езду аўтар аналізаваў у раздзеле, прысвечаным савецкім формам дзяржаўнасці. Ён быў упэўнены, што з'езд прызнаў савецкую ўладу і саюз Беларусі з Масквой, хоць і знаходзіўся ў апазіцыі да мясцовай бальшавіцкай адміністрацыі[4]. Сукенніцкі прыгадаў аргументацыю Льва Троцкага, які апраўдваў разгон з'езду небяспекай сялянскай дыктатуры, супраць якой, паводле Троцкага, выступалі «Great, Little, and Belorussians»[5].

Характарызуючы дзейнасць беларускіх арганізацый на захад ад лініі фронту, Сукенніцкі прыгадаў пратэст супраць заявы варшаўскай Часовай Дзяржаўнай Рады (Tymczasowa Rada Stanu), якая звярнулася да ўрадаў Германіі і Аўстра-Венгрыі з просьбай пашырыць яе ўладу на тэрыторыю гістарычнай Літвы. Беларуская віленская газета «Гоман» 20 красавіка 1917 г. пратэставала супраць гэтых тэрытарыяльных прэтэнзій, адзначыўцы, што «наша краіна» ніколі не належала Польшчы, а ў супольнай дзяржаве Вялікае Княства Літоўскае і Карона мелі роўныя правы[6]. Сярод іншых важных палітычных падзей 1917 г. аўтар назваў яшчэ адзін беларускі пратэст, скіраваны ўжо супраць літоўскіх палітыкаў. Ён быў выкліканы недастатковым беларускім прадстаўніцтвам у рамках сфарміраванай Тарыбы[7]. Аналагічнае незадавальненне выказвалі таксама дзеячы польскага руху і яўрэйскія палітыкі.

---

1 Ibidem, s. 310–311.

2 Гаворка ішла пра Абласны выканаўчы камітэт Заходняй вобласці і фронту.

3 W. Sukiennicki, *East Central Europe...*, s. 473–474.

4 Ibidem, s. 475.

5 Ibidem, s. 592.

6 Ibidem, s. 343–352.

7 Ibidem, s. 379–380.

Паводле меркавання В. Сукенніцкага, у 1917 г. міжнародная супольнасць яшчэ не дапускала думкі аб «незалежнасці нерасійскіх нацый ва Усходняй Еўропе». Выключэннем былі толькі Польшча і Фінляндыя. Антанту не пераканалі намаганні Ігната Падэрэўскага з яго ідэяй новай Рэчы Паспалітай. Маецца на ўвазе праект будучага прэм'ер-міністра аб стварэнні Злучаных Штатаў Польшчы, прадстаўлены прэзідэнту ЗША Томасу Вудру Уільсану. Падэрэўскі прапанаваў стварэнне федэрацыі каралеўстваў польскага, літоўскага, палескага і галіцкага[1].

Шмат увагі Сукенніцкі надаў актывізацыі беларускага руху ў Менску пасля адступлення бальшавікоў. Ён прывёў тэкст тэлеграфнага паведамлення Язэпа Варонкі, у якім той заклікаў насельніцтва Беларусі гуртавацца вакол беларускіх дэмакратычных арганізацый, прыгадаў заяву Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага з'езда ад 19 лютага 1918 г. аб тым, што ўлада ў Менску пераходзіць у яго рукі. Сукенніцкі падмеціў змену палітычных настрояў, адзначыўшы, што «Варонка і яго калегі былі прыкметна менш прарасійскія, чым месяцам таму». Паводле аўтара, гэта сведчыла аб змене палітычнага вектара. Таксама гісторык згадаў з'яўленне Першай Устаўной граматы ад 21 лютага, якую акрэсліў «маніфестам». Гэтую актыўнасць Сукенніцкі звязваў з дзейнасцю Рады Украіны, чый прыклад паўплываў на паводзіны менскіх беларусаў. На думку даследчыка, згаданы маніфест не меў вялікага значэння, бо рэальная ўлада ў Менску была спачатку ў палякаў, а потым – у нямецкай адміністрацыі. Аднак ён апублікаваў тэкст Першай Устаўной граматы Народнага Сакратарыята і яго загад ад 22 лютага, у якім усе вайсковыя фарміраванні за выключэннем нямецкіх і польскіх (корпус Ю. Доўбар-Мусніцкага) абвяшчаліся беларускімі[2]. Цікава, што, аналізуючы гэтыя падзеі, В. Сукенніцкі чамусьці абмінуў Акт аб незалежнасці Літвы ад 16 лютага 1918 г. Трэба заўважыць, што ўсе дакументы, якія цытаваліся ў працы, былі перакладзены на англійскую мову і вельмі ўзбагацілі аповед, хоць і не мелі аўтарскіх каментароў. У адрозненне ад іх беларуская «дыпламатычная нота» да Найвышэйшага польскага камітэта (Naczelny Komitet Polski) ад 24 лютага за подпісам Я. Варонкі і Л. Зайца была пракаментавана аўтарам. Беларускія дзеячы абвінавачвалі польскі бок у захопе чужой маёмасці і прапанавалі дамовіцца аб добрасуседскіх адносінах, паставіўшы 24-гадзінны ўльтыматум. Сукенніцкі акрэсліў гэта здарэнне як «кур'ёзнае». Інфармацыю пра захоп немцамі будынка Народнага сакратарыята і зняцце беларускага сцяга ён суправадзіў цытатай з газеты «Белорусская земля» ад 1 сакавіка 1918 г., якая пісала пра заканчэнне «найпрыгажэйшай ідыліі беларускага ўраду, якая доўжылася пяць дзён»[3].

---

1 K. Gomółka, *Między Polską a Rosją. Białoruś w koncepcjach polskich ugrupowań politycznych 1918–1922*, Warszawa 1994, s. 23.

2 W. Sukiennicki, *East Central Europe..., s.* 766–768.

3 Ibidem, s. 768.

Афроим Моисеевич был коммунистом, вступив партию в 1943 г. Он имел постоянное партийное поручение, а именно отвечал за политинформации на Минском часовом заводе. Во время Шестидневной войны 1967 г. на Ближнем Востоке Афроим Моисеевич чувствовал себя крайне некомфортно, когда от него требовали разоблачать сионистскую «провокацию израильских агрессоров».

Карпачев не был диссидентом. Он был еврей, который принял правила советской власти. Несправедливость и зажим евреев, лицемерие советского государства в национальном вопросе его возмущали, но религиозной привязанности не было, в синагогу не ходил. В то же время все родные Афроима Моисеевича – дяди, тети, мать Аня (Эстер) – были похоронены на еврейском участке Московского кладбища в Минске, хотя надписи на надгробиях были исключительно на русском языке и, конечно, без магендавида[1].

Афроим Моисеевич не имел выраженных семитских черт, поэтому я допускаю, что в его присутствии незнакомые с ним люди могли вполне позволить себе антисемитские выпады. Как реагировал на это Карпачев неизвестно, но не сомневаюсь, что подобные выходки глубоко его ранили. Афроим Моисеевич не раз слышал, что евреи «воевали» в Ташкенте, а на фронте их не было[2]. Это было особенно обидно, поскольку все три брата Карпачевы Давид, Анатолий и Афроим, воевали в Красной Армии с начала войны, а Анатолий в 1944 г. пропал без вести на фронте.

Тема Холокоста и Минского гетто постоянно обсуждалась в семье. На день победы 9 мая Карпачевы всегда шли на «Яму»[3], а близкими друзьями семьи были Анна Красноперка[4] и Владимир Нехамкин[5]. При этом сам Карпачев

---

1 *Маген Давид* (звезда царя Давида, «щит Давида») – древний символ в форме шестиконечной звезды. С XIX в. считается главным еврейским символом, встречаются также в символике других государств.

2 Подробнее: А. Каганович. *Ташкентский фронт. Еврейские беженцы в советском тылу*. Москва 2023.

3 Мемориал «Яма» расположен на пересечении улиц Ратомской (теперь Мельникайте) и Заславльской. Ранее там находилась яма, где жители брали песок для строительных работ. Во время погрома в гетто 2 марта 1942 г. на Юбилейной площади и вокруг нее были убиты тысячи узников, тела которых сбрасывать в яму. Это был первый памятник жертвам Холокоста в СССР с надписью на идиш, составленной Хаимом Мальтинским, арестованным в 1951 г. по обвинению в космополитизме.

4 А. Д. Красноперка (1925–2000) – журналистка и писательница, узница Минского гетто, автор книги *Письма моей памяти* (Минск 1984).

5 В. Мехов (В. Л. Нехамкин) (1928–2017) – советский и белорусский журналист, прозаик, сценарист и переводчик. Работал в газетах «Красная смена», «Літаратура і мастацтва».

считал, что не стоит выпячиваться и демонстрировать свои национальные чувства. Не будем забывать, что свою карьеру Афроим Моисеевич начинал в ЦГАОР, который в 1938–1956 гг. входил в структуру НКВД-МВД, и Карпачев очень хорошо представлял, насколько далеко тянулись щупальца этого спрута.

За столом у Карпачевых на праздники собирались еврейские компании. Ася Исааковна хорошо готовила блюда еврейской кухни, которые помнила с детства – форшмак из сельди, гефилте фиш (фаршированная рыба), креплах[1] – треугольные пельмени, кугель (запеканка) из лапши, риса, свеклы или картофеля, ци́мес – сладкое овощное рагу, чаще всего из моркови. На десерт – бублики бейгл из отварного и затем запеченного теста и медовый пирог леках, а на Песах из мацы делали клёцки – кнейдлах, которые отваривают в бульоне. Дома у Карпачевых бывали коллеги-историки белорусы и русские, но доверительные отношения сложились только с Лазарем Роттом[2], Иосифом Гуревичем[3] и Давидом Мельцером[4]. Они обсуждали картину мира, события на Ближнем Востоке, впервые узнали от Карпачева о докладе Н. С. Хрущева на XX съезде КПСС о культе личности Сталина. Каждый из друзей регулярно слушал у себя дома зарубежные «голоса» (Немецкую волну, «Би-Би-Си», Радио «Свобода», Голос Америки).

Карпачев не оставил после себя научной монографии. И вовсе не потому, что, как считалось, был загружен сверх меры работой по руководству сектором феодализма. Скорее всего, потому, что написать историю Беларуси так, как он ее понимал, ему бы не дали. Но, конечно, издать такую книгу ученому хотелось и порукой этому рукопись, которая была им подготовлена, но не увидела свет. Тем не менее, список научных трудов доктора исторических наук Афроима Карпачева впечатляет. С ним можно познакомиться в Национальном архиве Республики Беларусь, куда в 1993 г. вдова ученого сдала личный архив исследователя на постоянное хранение[5]. Это наследие ждет продолжателя.

---

[1] Креплах символизирует трех патриархов еврейского народа: Авраама, Ицхака и Иакова.

[2] Л. А. Ротт (1920–2006) – доктор физ.-мат. наук, профессор Белорусского технологического института.

[3] И. Г. Гуревич (1929–2020) – сотрудник Института тепло- и массообмена АН БССР, доктор тех. наук, участник создания первых в СССР топливных элементов для космических аппаратов.

[4] Д. Б. Мельцер (1925–2022) – советский и белорусский историк, доктор ист. наук, профессор. С 1992 г. жил в США.

[5] А. М. Карпачев. Опись документов личного фонда (1939–1992). См.: НАРБ, ф. 311, оп. 5.

Подводя итог сказанному, можно заключить, что Карпачев принадлежит к белорусским историкам, родившимся до большевистского переворота 1917 г., но воспитанным и выученным советской властью, и не заходившим за «красные флажки», обозначенные режимом. Это обстоятельство сыграло главную роль при выборе сферы научных интересов – быть подальше от академической конъюнктуры. Афроим Моисеевич всегда имел собственную точку зрения, будь то общественное событие или научный спор. Недаром за глаза его называли «ребе». К своим выводам Карпачев приходил в результате глубокого изучения архивных источников на старобелорусском языке. Он предпочитал с цифрами в руках доказывать правоту своих взглядов в науке. Беда состояла в том, что в этих выводах власть имущие не нуждались. Более того, если выводы независимого ученого противоречили официальной концепции истории Беларуси, то виновного оставляли вне профессии.

А. М. Карпачев всю жизнь вынужден был соблюдать негласные правила советского режима для людей в науке – не подвергать сомнению основы существующего строя и его правомерность, следовать классовой теории развития общества. Труды Карпачева напрямую затрагивали основу СССР, а именно сферу национальных отношений. Партия требовала от историков подтверждения принятого и испытанного временем постулата о нерушимом единстве русского, украинского и белорусского народов. Афроим Моисеевич хорошо понимал, что ему отведена роль советского белорусского историка, который должен забыть о своих еврейских корнях и освещать историю Беларуси без участия евреев, чтобы не заслужить обвинения в еврейском буржуазном национализме. Все контакты с заграницей, включая переписку с коллегами из-за рубежа, знакомство с научной литературой, исключались. Изучение истории Беларуси в те годы выпадало из контекста всемирной истории. Имя Карпачева в советской историографии окружено уважением и почетом, тогда как все терзания и сомнения ученого оставались в тени. В этом Карпачев разделил судьбу советских историков, лишенных возможности высказывать независимые взгляды и суждения на основе собственных исследований.

ISSN 2424-5216

# БІЯГРАФІЯ НАВУКІ І НАВУКОЎЦА
# BIOGRAPHY OF SCIENCE AND SCIENTISTS

# Дыялогі
# Dialoques

*У гэтым нумары гадавіка публікуюцца тэксты інтэрв'ю з гісторыкамі, працы якіх значна ўзбагацілі гістарыяграфіі Беларусі, Польшчы і Ізраіля. Аляксандр Краўцэвіч, Алег Латышонак, Ніна Стужынская і Леанід Смілавіцкі ў размовах з рэдактарам А. Смаленчуком распавядаюць пра свае першыя крокі ў навуцы і пра тое, што вызначыла іх навуковы шлях. Інтэрв'ю запісваліся ў рамках праекта «Гісторыі гісторыкаў», ажыццяўленне якога стала магчымым дзякуючы падтрымцы Orsa-Romano Cultural and Educational Foundation Inc.*

## АЛЯКСАНДР КРАЎЦЭВІЧ: «МІСІЯ ГІСТОРЫКА – ГІСТАРЫЧНАЯ АСВЕТА ГРАМАДСТВА»

**АС:** *Алесь, як атрымалася, што ты стаў вядомым навукоўцам, а ў сваёй навуковай дзейнасці спалучыў археалогію з гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага?*

**АК:** У пэўным сэнсе гэта можна назваць збегам акалічнасцяў. У дзяцінстве марыў стаць марскім афіцэрам, і каб загартавацца пасля заканчэння васьмігадовай школы ў вёсцы Лупачы Мастоўскага раёну, я паступіў у Гарадзенскі тэхнікум фізічнай культуры. Але за тры гады вучобы пачаў разумець, што савецкая армія і флот зусім не падобныя на тую рамантыку, пра якую пісалі пісьменнікі-марыністы, у т. л. незаслужана забыты беларускамоўны аўтар Аляксандр Міронаў. У 1976 г., калі я скончыў тэхнікум з чырвоным дыпломам, паўстала пытанне, які будзе далейшы лёс. Мне тады было 17 гадоў, параіцца не было з кім. Бацькі мелі іншы жыццёвы вопыт. Мама, якая працавала настаўніцай пачатковых класаў, хацела, каб я паступаў у палітэхнічны тэхнікум і меў нейкую тэхнічную спецыяльнасць. Бацька працаваў у калгасе. Так часам бы-

вае, што ў часы перамен дзеці з бацькамі разыходзяцца ў арыентырах. Мусіў усё вырашаць сам. Мне прапанавалі паступаць у Дзяржаўны інстытут фізічнай культуры ў Маскве. А я падумаў: напампаваў ногі, бо займаўся спартовай хадой, а зараз трэба падумаць пра мазгі. І ўспомніў, што ў васьмігодцы мне вельмі падабалася гісторыя. Наш настаўнік гісторыі Міхаіл Пятровіч Мятлюк вельмі наглядна і зразумела тлумачыў складаныя рэчы. Я вырашыў паступіць на гістарычны факультэт у БДУ, у Менск.

У той першы прыезд у Менск горад зрабіў на мяне вялікае ўражанне сваімі памерамі. Я здаваў адзін экзамен, бо тэхнікум скончыў з чырвоным дыпломам. Гэта быў экзамен па гісторыі СССР. Трэба было здаць на «пяцёрку», каб пазбегнуць іншых экзаменаў, у т. л. па нямецкай мове, якую кепска ведаў. Мне пашчасціла атрымаць «пяцёрку», хоць, здавалася, на такую адзнаку не адказваў. Трохі запінаўся, не мог пераадолець хваляванне, настроіцца. Засталося ўражанне, што мне адзнаку «падцягнулі». Магчыма, паспрыяла тое, што тады фаварызавалі спорт, а я меў спецыяльную спартовую падрыхтоўку. Адчуваў, што на «пяцёрку» не адказаў, але атрымаў яе і быў прыняты.



Адразу адбылася размова з дэканам Іраідай Восіпаўнай Царук[1], сястрой Сяргея Прытыцкага. Яна распытвала пра грамадскую працу, якую мог бы выконваць. Я быў акрылены пяцёркай на экзамене і заявіў, што артыстычных ці арганізацыйных здольнасцяў не маю. Шчаслівы паехаў дахаты. Паведамленне аб залічэнні мне чамусьці не даслалі, але мы патэлефанавалі на гістфак і даведаліся, што залічаны.

У верасні 1976 г. пачалася вучоба. Вельмі добра памятаю сваю эйфарыю ад БДУ, ад сталіцы, памятаю адчуванне, што трапіў у храм навукі. Напачатку спалохаўся, што не пацягну, бо на першым курсе была этнаграфія, якую чытаў Міхась Фёдаравіч Піліпенка[2]. Ён ужываў спецыяльныя тэрміны, якіх я не разумеў. Але хутка боязь мінула. На экзамене па этнаграфіі атрымаў чацвёрку. Таксама адразу запісаўся ў спецгрупу па нямецкай мове. У выніку маю дадатковую спе-

[1] І. В. Царук (1928–2019) – савецкі і беларускі гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар. Займалася гісторыяй КПБ. На пасадзе дэкана гістфака БДУ працавала з 1973 да 1986 г.

[2] М. Ф. Піліпенка (1936 г. нар.) – беларускі этнограф, этнолаг і гісторык. Доктар гіст. навук, член-карэспандэнт НАН Беларусі. Працаваў на гістфаку БДУ з 1967 па 1991 г.

цыяльнасць: перакладчык з нямецкай мовы па спецыяльнасці «Гісторыя». Эйфарыя прайшла недзе праз паўгода. Тады ўжо зразумеў, што гістфак БДУ – гэта такая «савецкая кантора», дзе шмат нудоты і мала цікавых выкладчыкаў, а маё пачатковае рамантычнае ўяўленне вельмі недакладнае. Гэтае «адкрыццё» рабілі і мае аднакурснікі. Лягчэй яго перажылі дзяўчаты, большая іх частка знаходзіла, чым цікавым сябе заняць за межамі ўніверсітэту. Хлопцаў часцяком больш вабілі моцныя алкагольныя напоі. Так рэагавалі, між іншым, на «казённую» ідэалогію і бясконцае паўтарэнне, што мы вучымся на ідэалагічным факультэце. Мне не падабалася выразна негатыўнае стаўленне часткі студэнтаў да тых аднакурснікаў, хто стараўся вучыцца. Мяне гэта здзіўляе да гэтага часу. Да мяне тое не адносілася, бо, на жаль, пачаў свядома вучыцца толькі на чацвёртым курсе. Раней пераважна вучыўся падчас сесіі. Экзамены здаваў у асноўным на «выдатна», атрымліваў павышаную стыпендыю. Зараз вельмі шкадую, што не вельмі добра вучыўся на першых курсах, бо «белыя плямы» адукацыі даводзіцца запаўняць да гэтага часу. Праўда, некаторыя выкладчыкі ўжо на першым курсе прымусілі сур'ёзна вывучыць прадмет. Я вельмі ўдзячны, напрыклад, светлай памяці Валянціну Навумавічу Рабцэвічу[1], які ў нас выкладаў нумізматыку. Залік па нумізматыцы было цяжэй здаць, чым іншы экзамен. Мы гэтыя канспекты ведалі на памяць. Калі я ўжо працаваў як палявы археолаг, не было праблем з ідэнтыфікацыяй знойдзенай манеты. Неяк аўтаматычна атрымлівалася – гэта барацінка, гэта шасцігрошавік.

Вялікі «плюс» гістфака БДУ быў у тым, што сярэдні выпускнік меў адчуванне, што шмат чаго ў гісторыі не ведае. Я таксама тое адчуваў і думаю, што гэта было добра, бо давала імпульс да навуковай працы. Для параўнання заўважу, што шмат разоў сутыкаўся з выпускнікамі гістфака Гарадзенскага ўніверсітэту, якія, наадварот, былі перакананыя, што ў гісторыі ведаюць усё і далей не варта вучыцца. Гэта не датычыць маіх знаёмых сяброў-гісторыкаў. Пазней меў стасункі з выпускнікамі Маскоўскага і Ленінградскага ўніверсітэтаў, якіх там навучылі пісаць навуковыя працы, рабіць спасылкі, падбіраць літаратуру. Яны былі падрыхтаванымі да навуковых даследаванняў. Нас гэтаму не вучылі.

З трэцяга курса пачалася спецыялізацыя, то бок мы выбіралі кафедры. Наша група была падзеленая паміж кафедрай гісторыі БССР і кафедрай археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных дысцыплін. Усе намагаліся трапіць на кафедру гісторыі БССР, бо там было лягчэй пісаць курсавыя працы. Загадчыкам кафедры быў Аляксандр Пятровіч Ігнаценка[2], аўтар кнігі пра барацьбу

---

[1] В. Н. Рабцэвіч (1934–2008) – беларускі нумізмат, гісторык і археолаг. Доктар гіст. навук, прафесар. Вядучы навуковец-нумізмат краіны.

[2] А. П. Ігнаценка (1932–1998) – савецкі і беларускі гісторык. Даследаваў сацыяльна-эканамічную і палітычную гісторыю Беларусі другой паловы XVII–XVIII ст. Аўтар кнігі *Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией: Вторая половина XVII-XVIII в.* (Минск 1974). Доктар гіст. навук, прафесар.

беларусаў за ўз'яднанне з Расіяй. Ён часта прыплюшчваў вочы, таму атрымаў сярод студэнтаў мянушку Зоркі сокал. На сходзе, які ён вёў, высветлілася, што на кафедру гісторыі БССР запісалася больш за палову групы. Трэба было двух чалавек адправіць на кафедру археалогіі і этнаграфіі. У выніку засталіся толькі тыя, хто ўжо два гады пісаў курсавыя працы на кафедры А. П. Ігнаценкі. Я аказаўся сярод лішніх і быў вымушаны ісці на кафедру этнаграфіі і археалогіі. Я не планаваў гэтага, бо меў канфлікт з кіраўніком кафедры Эдуардам Міхайлавічам Загарульскім[1], які быў сакратаром партыйнай арганізацыі факультэта і меў да мяне сур'ёзныя прэтэнзіі (я быў камсамольцам, як і спрэс ўся моладзь у савецкія часы). Справа ў тым, што я аказаўся арганізатарам збору подпісаў у абарону аднакурсніка-камуніста, якога збіраліся адлічыць.

Гэтая гісторыя пачалася ў 1978 г. з пабытавага канфлікту. Аднакурснік М. , чалавек даволі грубы, ударыў дзяўчыну, а потым нахаміў дэкану факультэта. І. В. Царук выклікала сакратара партыйнай арганізацыі Э. М. Загарульскага, распавяла пра канфлікт, заявіла, што выганіць М. з універсітэту і фактычна загадала выключыць яго з камуністычнай партыі. У выніку яшчэ не было загаду рэктара аб адлічэнні М. , а яго ўжо выдалілі з усіх экзаменаў. Ён пачаў супраціўляцца і напісаў ліст у сваю абарону ад імя калектыва студэнтаў. Пасля гэтага да мяне падышоў сакратар партарганізацыі курса Валянцін Голубеў[2] і сказаў: «Тут М. ліст напісаў. Мы не можам падпісацца, таму што камуністы і звязаныя рашэннем партыйнага сходу аб яго выключэнні з партыі і з універсітэта за амаральныя паводзіны. Можа, ты зачытаеш ліст і прапануеш падпісаць? Да цябе прыслухаюцца». Я быў таксама абураны тым, што робяць з М. , хаця як чалавек ён мне не падабаўся. У перапынку паміж лекцыямі я выйшаў да мікрафона ў вялікай залі і сказаў: «Усе вы ведаеце, што робіцца з М. Яго пераследуюць і выганяюць з універсітэту. Пры гэтым ніхто нічога не гаворыць, чалавек нібы ёсць, нібы яго няма. Тут калектыўны ліст у яго абарону. Падпішыцеся, хто супраць пераследу»[3]. І я першы падпісаўся. Потым падпісаліся практычна ўсе аднакурснікі, прысутныя на лекцыі, – больш за 80 чалавек.

Справа скончылася тым, што ліст дайшоў да ЦК КПБ і да першага сакратара Пятра Машэрава, які загадаў пераглядзець рашэнні аб выключэнні, бо за чалавека заступіўся калектыў. Тады на факультэце нас пачалі змушаць адмовіцца ад сваіх подпісаў. Падпісвацца заклікаў я, таму з мяне і пачалі. Гэта рабілася дэманстратыўна. Кожны дзень пасля пачатку агульнакурсавой лек-

[1] Э. М. Загарульскі (1928 г. нар.) – савецкі і беларускі археолаг і гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар. Заснавальнік кафедры археалогіі і спецыяльных гістар. навук. Вывучаў перыяд Старажытнай Русі.

[2] В. Ф. Голубеў (1955 г. нар.) – беларускі гісторык і палітык. Доктар гіст. навук, прафесар. Спецыяліст па аграрнай гісторыі Беларусі XVI–XVIII стст. і гістарыяграфіі Вялікага Княства Літоўскага.

[3] Маналогі і дыялогі ў тэксце прыблізныя, мінула каля 45 гадоў.

цыі ў вялікай аўдыторыі ўваходзіла сакратарка факультэта і голасна выклікала: «Краўцэвіч, да Загарульскага!» Я «нага за нагу», апусціўшы галаву, спускаўся з галёркі пад спачувальныя позіркі аднакурснікаў. Эдуард Міхайлавіч пытаецца: «Вы почему пошли против решения партийного собрания? Вы комсомолец?» – «Да». – «Вы не понимаете взаимоотношений между партией и комсомолом, а у нас учатся люди, которые эти взаимоотношения понимают!». І я зразумеў – пагражае выключэнне з універсітэту. Адчуў сябе маленькай пясчынкай, якая трапіла ў агромністы сталёвы механізм, які раструшчыць цябе і не заўважыць. Гэта быў такі пераломны момант у жыцці. Свайго роду мая ініцыяцыя як асобы. І параіцца не было з кім, мусіў сам прымаць рашэнне. Сядзеў і думаў што рабіць. Разумеў, што калі адмоўлюся ад подпісу, то і іншыя гэта зробяць. Але як пасля буду сябе адчуваць? Уявіў на секунду такую сітуацыю – і стала агідна. Адчуў, якая будзе ганьба. Урэшце, махнуў рукой – што будзе, тое будзе! Выганяць, дык выганяць, краіна вялікая, паеду куды-небудзь на будоўлю ў Сібір. Ад свайго подпісу не адмоўлюся!

У выніку, за выключэннем адной асобы, ніхто не зняў свайго подпісу, нават дачка Загарульскага, якая вучылася з намі. Чаму? Бо нам занадта ўжо адкрыта і зневажальна дэманстравалі, што мы ніхто. Старэйшае пакаленне – І. Царук і Э. Загарульскі – людзі сталінскай і хрушчоўскай эпохі, калі калектыў дамінаваў, а чалавек не меў прыватнага жыцця. Мы яго ўжо мелі, хадзілі з доўгімі валасамі, ігнаравалі ідэалогію, слухалі «бітлоў». А нам давалі зразумець, што мы ніхто, і тое нас абурала. Тлумачальную запіску з мяне браў намеснік сакратара партарганізацыі, будучы першы міністр замежных спраў незалежнай Беларусі Пётр Кузьміч Краўчанка. Я напісаў, што «М. как загнаный волк, его травят…» Краўчанка абурыўся: «Какой загнанный волк? Кто его травит?» Тут я саступіў, змяніў фармулёўку. А яшчэ прыдумаў адказ Загарульскаму. На яго «Почему вы пошли против решения партийного собрания?» адказаў, што камсамольскую арганізацыю не інфармавалі пра рашэнне партыйнага сходу. Пасля ўжо адміністрацыя сабрала агульны сход і пачала распавядаць, які М. дрэнны тып. Я выступіў і сказаў, чаму мы супраць. Справа паступова заціхла. М. аднавілі, але да нас ён не вярнуўся, перайшоў, відаць, на завочнае аддзяленне.

Мне гэта гісторыя адгукалася да канца навучання. Кожны год у нас была грамадска-палітычная атэстацыя студэнтаў. Нават, калі ты станоўча здаеш сесію, цябе не пераводзяць на наступны курс, пакуль не пройдзеш камісію грамадска-палітычнай атэстацыі. Такія былі адгалоскі сталінскага калектывізму. І кожны раз Эдуард Міхайлавіч пытаўся: «Вы изменили своё отношение к делу М. ?» Я казаў: «Не», і мяне пераводзілі на наступны курс, бо ўсё ж быў старастам групы, сябрам зборнай факультэта па лёгкай атлетыцы, атрымліваў павышаную стыпендыю. Падставы мяне выключаць не было, але на пятым курсе падчас размеркавання, нягледзячы на запыт з Міністэрства культуры размеркаваць на працу ў рэстаўрацыю ў аддзел археалогіі, мне сказалі: «У Вас грешок, поедете в деревню!». І мяне размеркавалі настаўнікам у вясковую школу.

Мушу прызнаць, што Загарульскі нас добра вучыў. У прыватнасці, на кафедры археалогіі былі спецыяльныя заняткі, напрыклад, па этнагенезу славян, дзе кожны з нас прэзентаваў канцэпцыю пэўнага аўтара, якую потым абмяркоўвалі. Мне давялося прадстаўляць канцэпцыю Валянціна Сядова[1] (лёс склаўся так, што падчас аспірантуры быў з ім у адным аддзеле).

Таксама ён запрашаў выкладаць археолагаў з Інстытуту гісторыі Акадэміі навук. Да нас прыходзіў светлай памяці Аляксей Рыгоравіч Мітрафанаў[2], які навучыў маляваць археалагічны профіль і венцы керамікі, даваў практычныя веды, хоць быў ужо чалавекам слабога здароўя. Уладзімір Ксяндзоў[3] у нас чытаў курс археалогіі каменнага веку, Лідзія Іванаўна Цягака[4] чытала курс антрапалогіі. Узровень адукацыі на кафедры быў даволі высокі. Таксама засталося ўражанне, што Э. М. Загарульскі не цярпеў каля сябе яркіх, амбітных людзей. У прыватнасці, гэта датычыла Алега Трусава, які скончыў гістарычны факультэт у той год, калі я паступіў. Ён быў «ленінскі стыпендыят», ішоў першым па размеркаванні. Яго размеркавалі на кафедру археалогіі, але ў апошні момант Загарульскі ўзяў іншага. А. Трусаў пайшоў працаваць ў рэстаўрацыйныя майстэрні Міністэрства культуры і пачаў ствараць уласную школу. Я ўжо на трэцім курсе фактычна стаў «вучнем» гэтай школы.

Да гэтай гісторыі яшчэ вярнуся, а зараз закончу гісторыю нашых з прафесарам Загарульскім адносін. Прайшло паўтара дзясятка гадоў, я скончыў аспірантуру, абараніўся, і быў апанентам на абароне кандыдацкай дысертацыі Юрася Бохана[5] ў Акадэміі навук (1994). Гэта было маё першае апаніраванне, таму старанна падрыхтаваўся і, здаецца, добра выступіў. У перапынку перад галасаваннем да мяне падыйшоў Эдуард Міхайлавіч, прыабняў за плечы: «Ну, как дела, Саша?» Я зразумеў, што ён мне выбачыў *[смяецца]*.

---

1 В. В. Сядоў (1924–2004) – савецкі і расійскі археолаг. Доктар гіст. навук, прафесар, член-карэспандэнт РАН (1997), правадзейны член РАН (2003) і акадэмік АН Латвіі (1994). Стварыў тэорыю субстратнага паходжання беларусаў. Вынікамі ўздзеяння балцкага субстрату тлумачыў вытокі асаблівасцей (?) беларускай лінгваэтнічнай супольнасці, якая, на яго думку, аформілася ў VIII–XII стст.

2 А. Р. Мітрафанаў (1912–1988) – беларускі археолаг. Кандыдат гіст. навук; спецыяліст па жалезнаму веку.

3 У. П. Ксяндзоў (1951–2002) – беларускі археолаг. Кандыдат гіст. навук; займаўся даследаваннем помнікаў палеаліту і мезаліту на тэрыторыі беларускага Падняпроўя і басейна Заходняй Дзвіны.

4 Л. І. Цягака (1937–2015) – беларускі антраполаг. Доктар мед. навук; кандыдат гіст. навук, прафесар.

5 Ю. М. Бохан (1966–2017) – беларускі гісторык. Доктар гіст. навук, спецыяліст па ваеннай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

Але тады, у апошні год навучання на гістфаку (1981 г.), Загарульскі ледзь не сапсаваў мне навуковую кар'еру. На размеркаванні я ішоў восьмым сярод ста чалавек, меў чырвоны дыплом і мог выбіраць месца працы. Выбраў Смалявічы пад Менскам, каб было блізка ездзіць у бібліятэку. Алег Трусаў ужо ўцягнуў мяне ў археалогію. Я ўдзельнічаў у яго экспедыцыях. Гэта пачалося ў 1978 г.

**АС:** *То бок навука ў тваім жыцці з'явілася на трэцім курсе гістарычнага факультэта?*

**АК:** Так. Таксама Трусаў запрасіў да сябе маю аднакурсніцу Ніну Здановіч[1]. Потым да нас далучыліся Аляксандр Кушнярэвіч[2] і Генадзь Сагановіч[3] – выпускнікі гістфака Педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Алег Трусаў у той час сам вучыўся ў аспірантуры ў Ленінградзе ў Паўла Аляксандравіча Рапапорта[4], найлепшага спецыяліста па гісторыі і археалогіі архітэктуры Кіеўскай Русі.

Трусаў меў асаблівы метад навучання. Мы атрымалі спіс прыблізна на 200 кніг і артыкулаў, прачыталі іх і здавалі адмысловы залік. Таксама ездзілі з ім у экспедыцыі. Менавіта ён ўцягнуў мяне ў навуку, паставіўшы задачу паступіць у аспірантуру. Для гэтага быў патрэбны «чырвоны дыплом», інакш належала мінімум два гады адпрацаваць па размеркаванні. Каб яго атрымаць, трэба было абараніць дыпломную працу на «выдатна» і тое ж атрымаць на дзяржаўных экзаменах. Загарульскі як навуковы кіраўнік ацаніў мой дыплом на «чатыры». Я пісаў пра Гарадзенскую архітэктурную школу XII стагоддзя. Ён адзначыў адсутнасць аналітыкі і меў рацыю. Эдуард Міхайлавіч падыйшоў да дыпломнай працы як навуковец, а не так як гэта звычайна рабілася на гістфаку. Аднак ён не прыйшоў на абарону, а камісія мне паставіла «пяць».

Цяпер я разумею, што выпадак з М. падняў мой аўтарытэт на факультэце. Зараз прыгадваю, што выкладчыкі ставіліся да мяне вельмі добра. Толькі гэта дапамагло атрымаць «пяцёрку» на найбольш страшным экзамене па навуковаму камунізму. Замест падрыхтоўкі да яго паехаў у экспедыцыю ў Мазыр раз-

[1] Н. І. Здановіч (1959 г. нар.) – беларускі археолаг, спецыяліст па сярэднявечнай кераміцы.

[2] А. М. Кушнярэвіч (1958 г. нар.) – беларускі археолаг, гісторык архітэктуры, мастацтвазнаўца. Спецыяліст па дойлідству Беларусі XIV–XVI стст., які адным з першых сярод айчынных медыевістаў звярнуўся да даследавання архітэктуры Вялікага Княства Літоўскага. Доктар мастацтвазнаўства, кандыдат гіст. навук.

[3] Г. М. Сагановіч (1961 г. нар.) – беларускі гісторык, археолаг. Спецыяліст па ваеннай і палітычнай гісторыі Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага XV–XVII стст, па кавальскай справе Беларусі XIV–XVIII стст. па праблеме гістарычнай палітыкі і гісторыі гістарычнай навукі ў БССР. Доктар габілітаваны ў галіне гуманітарных навук па спецыяльнасці гісторыя. Заснавальнік і галоўны рэдактар часопіса «Беларускі гістарычны агляд».

[4] П. А. Рапапорт (1913–1988) – савецкі і расійскі гісторык архітэктуры, археолаг. Доктар гіст. навук. Аўтар шматлікіх прац па гісторыі старажытнарускай архітэктуры.

ам з Трусавым. А якая там падрыхтоўка да экзамену? У «полі» заўжды цяжэй вучыцца, чым у чытальнай зале. З раскопа вяртаешся стомлены. Я дрэнна падрыхтаваўся, але «пяцёрку» атрымаў, бо камісія ведала, што прэтэндую на дыплом з адзнакай.

Але была яшчэ адна праблема. Каб атрымаць гэты дыплом, трэба мець не больш за 25% «чацвёрак» з усёй колькасці ацэнак, а ў мяне была адна лішняя. Мне падказалі, што можна перасдаць экзамен з любога курса (былі выпадкі, калі асобным студэнтам дазвалялі пераздаць нават тры экзамены). Я дамовіўся на факультэце і выбраў экзамен з курса этнаграфіі Міхаіла Фёдаравіча Піліпенкі. Прыйшоў да яго, патлумачыў сітуацыю і запытаў, ці не згодзіцца ён яшчэ раз прыняць у мяне экзамен. Ён пагадзіўся, нават здзівіўся, што я атрымаў у яго «чацвёрку», паразмаўляў са мной на розныя тэмы, распытаў пра бацькоў і паставіў «пяцёрку». Дзякуючы шэрагу такіх выпадкаў і дабразычлівасці выкладчыкаў, я атрымаў чырвоны дыплом і пачаў думаць пра аспірантуру. З гэтым была праблема. Нават мой аднакурснік Міхаіл Стралец, поўны выдатнік ад першага да апошняга курсу, які зараз прафесар у Берасцейскім універсітэце, не здолеў паступіць у аспірантуру БДУ, хоць быў размеркаваны менавіта туды. Пазней я даведаўся, што яго не ўзялі з-за г. зв. «пятай графы».

Алег Трусаў параіў ехаць працаваць па размеркаванні і адначасна паступаць у завочную аспірантуру Інстытуту гісторыі Акадэміі навук. І я пайшоў у Інстытут. Там мне падказалі звярнуцца да намесніка дырэктара па навуковай працы. Падышоў да кабінета і пачуў, што за дзвярыма нешта актыўна абмяркоўвалася. Я пачакаў, але ніхто з кабінета не выходзіў, і рашыўся пагрукаць у дзверы. Запрасілі ўвайсці, і я ўбачыў трох чалавек, якія спынілі размову і глядзелі на мяне. Ужо пазней высветліў, што гэта былі намеснік дырэктара[1] Іван Ягоравіч Марчанка, загадчык аддзела па сувязям з сацыялістычнымі краінамі Васіль Сямёнавіч Талстой[2] (які размаўляў толькі па-беларуску) і загадчык аддзела археалогіі Леанід Давыдавіч Побаль.

Я запытаў пра магчымасць паступіць у завочную аспірантуру. Гаварыў па-беларуску (гэта быў 1981 г.), і гэта адразу зацікавіла. Васіль Сямёнавіч Талстой пачаў распытваць: «А вы адкуль?» – «З Мастоўскага раёна». – «Як ваша прозвішча?» – «Краўцэвіч». – «А як вёска называецца?» – «Лупачы». – «А ці не вашы продкі былі гаспадарамі гэтай вёскі? Ці не належалі да шляхты?» – «Не

---

1 І. Я. Марчанка (1923–1997) – беларускі і савецкі гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар, член-карэспандэнт АН Беларусі. Аўтар прац па гісторыі рабочага класа, калгаснага сялянства і культурнага будаўніцтва.

2 В. С. Талстой (1928–2009) – беларускі і савецкі гісторык. Кандыдат гіст. навук. Аўтар даследаванняў па праблемах замежных сувязяў, эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва БССР з Польскай Народнай Рэспублікай і іншымі сацыялістычнымі краінамі.

ведаю, наўрад ці. Я паходжу з сялян. Партызаны ў вайну спалілі царкву з усімі запісамі пра пачаткі майго роду». – «А чаму вы гаворыце па-беларуску?»... Хвілін пяць ён мяне распытваў. Я распавёў пра экспедыцыі з Алегам Трусавым, пра чырвоны дыплом ды інш. Тады Талстой павярнуўся да Побаля ды кажа: «Леанід Давыдавіч, вы ж маеце месца ў мэтавай аспірантуры ў Маскве?» Побаль паглядзеў на яго, потым на мяне і за тыя некалькі секундаў вырашыў мой далейшы лёс. Сказаў: «Мы яго возьмем. Ідзіце, пішыце заяву».

**АС:** *Як усё ўдала склалася!*

**АК:** Так. Я пайшоў у аддзел кадраў да загадчыцы Марыі Трыфанаўны Чарновай пісаць заяву і выпадкова падслухаў размову. Кіраўнік іншага аддзела, які таксама меў месца ў мэтавай аспірантуры ў Маскве, скардзіўся, што няма каго пасылаць. А Чарнова прыгадала яму, што прыходзіў Міхаіл Стралец, выпускнік БДУ з чырвоным дыпломам. А той у адказ: «Да, хороший парень, но еврей…». Я ўпершыню непасрэдна сутыкнуўся з савецкім антысемітызмам. Прычым загадчык аддзела шкадаваў, што адмовілі, але ведаў, што кандыдатура не пройдзе.

Марыя Трыфанаўна прыняла заяву, уладкавала мяне ў інтэрнат, надрукавала ўсе патрэбныя дакументы. А я ўрэшце запытаў яе, чаму ў аспірантуру пасылаюць мяне, у пэўным сэнсе чалавека з вуліцы? У той час у Інстытуце працавалі лабарантамі мае равеснікі-археолагі. Яна патлумачыла, што дырэктар Інстытута археалогіі ў Маскве акадэмік Рыбакоў[1] з гэтага года ўвёў правіла, што мэтавыя аспіранты паступаюць на агульных умовах на аснове конкурса. Гэта напалохала патэнцыйных кандыдатаў з Інстытута гісторыі. Бо раней кандыдаты, накіраваныя з саюзных рэспублік, ішлі без конкурсу, дастаткова было здаць экзамены на тройкі. А мне не было чаго губляць. Паехаў у Маскву, добра сдаў экзамены і паступіў па конкурсу. Гэтая маскоўская аспірантура была найлепшай навуковай школай у жыцці.

**АС:** *Хачу перапыніць аповед… Як атрымалася, што ўжо ў 1981 г. ты размаўляў па-беларуску? Калі і як адбылася гэта лінгвістычная рэвалюцыя?*

**АК:** Гэта сапраўды важнае пытанне. У 1978 г. у мяне адбылася сустрэча з Алегам Трусавым. Ён запрасіў на размову ў рэстаўрацыйныя майстэрні, што былі на вуліцы Багдановіча (у той час вуліца Максіма Горкага). Ён размаўляў са мной па-беларуску. Я спрабаваў адказваць таксама па-беларуску, усё ж закончыў беларускамоўную васьмігодку. Але атрымлівалася не вельмі добра, пасля пяці гадоў гарадскога жыцця. І толькі дзесьці праз два месяцы я з ім ужо гаварыў больш-менш свабодна. Мне дапамагла школа і вясковае дзяцінства. Але ва ўніверсітэце я надалей працягваў размаўляць па-расійску. Яшчэ не ха-

[1] Б. А. Рыбакоў (1908–2001) – савецкі і расійскі археолаг і гісторык. Акадэмік АН СССР і РАН. Даследчык славянскай культуры і гісторыі Кіеўскай Русі. Дырэктар Інстытута археалогіі АН СССР у 1956–1987 гг.

пала рашучасці. Цалкам перайшоў на беларускую мову толькі пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1981 г.

**АС:** *Ці былі падчас твайго навучання беларускамоўныя студэнты і выкладчыкі?*

**АК:** Адзіны студэнт, каторага я бачыў і чуў яшчэ на першым курсе, гэта быў Ігар Чарняўскі[1], пляменнік археолага Міхася Чарняўскага[2]. Тады ён вучыўся на чацвёртым курсе і заўсёды гаварыў па-беларуску. Па-беларуску ў нас выкладаў толькі Алег Антонавіч Лойка[3], бацька гісторыка Паўла Лойкі[4]. Ён чытаў «*Кароткі курс гісторыі беларускай літаратуры*». Да курса мы ставіліся лёгкадумна, бо залік атрымлівалі аўтаматычна. Але ён вельмі цікава расказваў, таму слухалі. Больш нам па-беларуску ні выкладаў ніхто.

Пасля размовы з А. Трусавым я пачаў наведваць майстэрні і ездзіць у археалагічныя экспедыцыі. Трусаў нас вучыў. Напрыклад, даставаў тоўстую папку, напоўненую чорна-белымі здымкамі фрагментаў муроўкі розных помнікаў, пачынаючы ад Полацкай Сафіі і канчаючы езуіцкімі касцёламі. Там было некалькі сотняў здымкаў без подпісаў. А мы павінны былі паводле тэхнікі кладкі з трох спроб вызначыць помнік. Трусаў называў з першай спробы. Так яго вучылі ў Піцеры, так ён вучыў нас.

**АС:** *Дзеля чаго ён усё гэта рабіў? Дзеля чаго збіраў вас?*

**АК:** Думаю, што ён імкнуўся стварыць уласную археалагічную школу. Можа, гэта рабілася насуперак Э. Загарульскаму. У выніку з гэтай школы выйшлі, апрача мяне, дактары гістарычных навук А. Кушнярэвіч і Г. Сагановіч. А ў Загарульскага на кафедры быў толькі адзін археолаг – доктар навук Аляксандр Егарэйчанка, які памёр у часы пандэміі кавіда.

А чаму я ўхапіўся за тую размову з Алегам Трусавым? Мне ўжо было 19 год і меў пачуццё, што не хапае чагосьці важнага ў жыцці. Цяпер разумею, што не хапала адчування «працы на ідэю». А Трусаў дапамог такую ідэю знайсці – працу для Беларусі. За гэта заўсёды буду яму ўдзячны. Як аказалася, на белару-

[1] І. М. Чарняўскі (1955 г. нар.) – беларускі археолаг архітэктуры. У 2008 г. стаў начальнікам упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

[2] М. М. Чарняўскі (1938–2013) – беларускі археолаг, гісторык, пісьменнік, грамадскі дзеяч. Кандыдат гіст. навук. Пераследаваўся КДБ, быў звольнены з АН БССР, у 1973–1974 гг. працаваў рознарабочым, потым вярнуўся да археалагічнай працы.

[3] А. А. Лойка (1931–2008) – беларускі паэт, пісьменнік і літаратуразнаўца. Доктар філалаг. навук, прафесар, член-карэспандэнт АН БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

[4] П. А. Лойка (1958–2010) – беларускі гісторык. Кандыдат гіст. навук. Даследаваў праблемы дзяржаўна-палітычнага развіцця Вялікага Княства Літоўскага ў XVI ст., аграрную гісторыю Беларусі XVI–XVIII стст.

скую ідэю можна працаваць бясконца. Ужо больш за сорак год прайшло, а яна па-ранейшаму дае напоўненасць жыццю.

**АС:** *Калі ты ехаў у Маскву, ці ты ўжо разумеў адметнасць беларускай гісторыі?*

**АК:** Разумеў. Канешне, нас не вучылі, што Беларусь была іншай дзяржавай, чым Расія ў мінулыя часы. Было Вялікае Княства Літоўскае, была Рэч Паспалітая, але «духоўна» мы нібыта заўсёды былі з расійцамі, так нас вучылі ва ўніверсітэце. Я пачаў думаць самастойна, займацца навукай і самаадукацыяй дзякуючы Алегу Трусаву.

Для паступлення ў аспірантуру трэба было падрыхтаваць рэферат па спецыяльнасці. У мяне не было часу яго пісаць, і я ўзяў сваю дыпломную працу пра Гарадзенскую архітэктурную школу XII стагоддзя. Гэта сыграла важную ролю. Рэцэнзентам быў вядомы спецыяліст па архітэктуры Уладзіміра-Суздальскай Русі Георгій Карлавіч Вагнер[1], этнічны немец, які быў рэпрэсаваны пры Сталіне і 14 гадоў правёў у лагеры. Яго абарона кандыдацкай дысертацыі ўжо пасля вызвалення скончылася тым, што адразу прысвоілі ступень доктара навук. Ён расшыфраваў дэкаратыўную сістэму Дзмітраўскага сабору ва Уладзіміры, а таксама царквы Пакрова на Нерлі. Вагнер даў станоўчы водгук на маю працу. Да гэтага часу памятаю яго заключную выснову: «В реферате отсутствует псевдоискусствоведческая беллетристика. Автор несомненно имеет способности к научной работе».

**АС:** *Ты раней казаў, што аспірантура ў Маскве аказалася тваёй найлепшай навуковай школай. У чым гэта праяўлялася?*

**АК:** Там быў вельмі высокі навуковы ўзровень, тады здавалася амаль недасяжны. Я трапіў у аддзел славяна-рускай археалогіі, якім кіравала Святлана Аляксандраўна Плетнёва[2]. Аддзел складаўся з адных «зорак». Там быў беларус Уладзіслаў Пятровіч Даркевіч[3], сын віцебскага мастака 1920-х гадоў Пятра Даркевіча. Да гэтага часу шкадую, што не загаварыў з ім па-беларуску. Ён быў вядомым спецыялістам па культуры Сярэдневечча ў Заходняй Еўропе. Там быў Валянцін Васільевіч Сядоў, Ірына Пятроўна Русанава[4], Леанід Ва-

---

[1] Г. К. Вагнер (1908–1995) – савецкі і расійскі мастацтвазнаўца, філасаф, гісторык мастацтва і архітэктуры. Доктар мастацтвазнаўства. Даследчык мастацтва Паўночна-Усходняй Русі XI–XIII стст.

[2] С. А. Плетнёва (1926–2008) – савецкі і расійскі археолаг і гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар. Спецыяліст па гісторыі качавых народаў Сярэднявечча. У 1974–1991 гг. – загадчык аддзела славяна-рускай археалогіі Інстытута археалогіі АН СССР.

[3] У. П. Даркевіч (1934–2016) – савецкі і расійскі археолаг. Доктар гіст. навук. Спецыяліст па народнай культуры Сярэднявечча, сувязямі сярэднявечнай Русі з Заходняй Еўропай, Візантыяй і арабскім светам.

[4] І. П. Русанава (1929–1998) – савецкі і расійскі археолаг-славіст. Доктар гіст. навук.

сільевіч Аляксееў[1], які мной апекаваўся, Расціслаў Леанідавіч Разэнфельдт[2], Даратэя Аляксееўна Беленькая[3]. Сакратаром аддзела быў Мікалай Андрэевіч Макараў. Цяпер ён акадэмік, дырэктар Інстытута археалогіі РАН.

Кожны чацвер я прыходзіў на навуковае пасяджэнне аддзела. Нехта выступаў з дакладам, які потым абмяркоўвалі. Гэта сапраўды была мая найлепшая школа. Яна адрознівалася высокім навуковым узроўнем і мінімумам ідэалогіі. Я выступаў толькі аднойчы, калі прадстаўляў сваю кандыдацкую дысертацыю. Аднойчы прыязджаў з дакладам Алег Трусаў.

Асобная гісторыя – сустрэчы з дырэктарам Інстытуту археалогіі АН СССР акадэмікам Барысам Аляксандравічам Рыбаковым. Дагэтуль не ведаю, чаму ён вырашыў быць маім навуковым кіраўніком. Меў ўжо больш за 70 гадоў, і я быў яго апошнім аспірантам. Калі прыйшоў прадставіцца, то адным з першых пытанняў было: «Владеете ли вы литературным белорусским языком?» – «Конечно, Борис Александрович». – «Но у вас нет белорусского акцента». Ён мне расказаў, што пісаў кандыдацкую дысертацыю пра радзімічаў. У выніку з'явілася кніга *Радзімічы*, якая выйшла ў 1932 г. на беларускай мове.

Рыбакоў меў настальгічна-рамантычнае стаўленне да нашай краіны. Калі я прыязджаў з Беларусі і прыходзіў да яго па нейкіх справах, заўсёды гучала пытанне: «Ну, как там Белоруссия?» Пазней Леанід Васільевіч Аляксееў распавядаў, што яшчэ да вайны Рыбакова не прынялі на працу ў аддзел археалогіі Інстытуту гісторыі Беларускай Акадэміі навук. У той час там працавалі знакамітыя Палікарповіч[4], Дубінскі[5], Ляўданскі[6]. Рыбакоў быў вымушаны вярнуцца ў Маскву, і гэта ўратавала яму жыццё. Беларускіх археолагаў праз некаторы час рэпрэсавалі, Дубінскага і Ляўданскага расстралялі як «ворагаў народа».

Барыс Рыбакоў – складаная фігура. Казалі, што ён бліскучы вучоны. Распавядалі, што калі быў кіраўніком аддзела славяна-рускай археалогіі, то па-

[1] Л. В. Аляксееў (1921–2008) – савецкі і расійскі археолаг. Доктар гіст. навук. Займаўся археалогіяй і сярэднявечнай гісторыяй Полацкай і Смаленскай земляў, кіраўнік шматгадовай экспедыцыі ў Мсціслаўлі.

[2] Р. Л. Разэнфельдт (1922–1989) – савецкі і расійскі археолаг. Кандыдат гіст. навук. Займаўся эпохай жалезнага веку і Сярэднявечча.

[3] Д. А. Беленькая (1932–1987) – савецкі і расійскі археолаг. Даследавала культуру Старажытнай Русі і гісторыю Масквы.

[4] К. М. Палікарповіч (1889–1963) – беларускі археолаг. Кандыдат гіст. навук. Вывучаў эпоху каменнага веку і бронзы. Адкрыў палеалітычныя стаянкі Бердыж і Юравічы.

[5] С. А. Дубінскі (1884–1937) – беларускі археолаг і гісторык. Вывучаў археалагічныя помнікі жалезнага веку і Сярэднявечча.

[6] А. М. Ляўданскі (1893–1937) – беларускі археолаг. Кандыдат гіст. навук. Адзін з арганізатараў сістэматычных археалагічных даследаванняў у Беларусі.

просту сыпаў ідэямі. Я спецыяльна вывучаў яго працы. Блізкі да геніяльнасці навуковец, які вырашыў зрабіць адміністрацыйную кар'еру. Кніга *Рамяство старажытнай Русі* – яго доктарская дысертацыя – мае выразны ідэалагічны аспект. Аўтар сцвярджаў, што пасля мангольскага нашэсця XIII ст. узровень рамяства не панізіўся. Гэтая праца стала штуршком для кар'еры. Б. Рыбакоў стаў дырэктарам Інстытута археалогіі РАН, атрымаў зорку Героя сацыялістычнай працы.

**АС:** *Атрымліваецца, што адначасова з навукай яго таксама вабіла адміністрацыйная кар'ера. Гэта зрэдзьчас спалучаецца.*

**АК:** Так, згодны. Я заўсёды меў праблему сустрэцца з ім як з навуковым кіраўніком. Даводзілася гадзіну і болей чакаць, калі дырэктар вызваліцца. Ён не быў бюракратам і звычайна сам запрашаў у кабінет. Першымі запрашаліся жанчыны, потым старэйшыя асобы, а я быў адным з апошніх. На першай сустрэчы ён мне сказаў, што лічыць аспіранта навукоўцам і разлічвае, што буду працаваць самастойна. Я пагадзіўся, хоць мне шмат што давялося пачынаць з нуля. Цяпер я разумею, што ён проста ашчаджаў свой час. Ён быў вельмі заняты як дырэктар, але працягваў пісаць навуковыя працы і цаніў кожную хвіліну. Меў сакратарку, якая рабіла тэхнічную працу, напрыклад, хадзіла ў бібліятэку, каб нешта ўдакладніць. Гэта быў час без інтэрнэту і кампутараў.

Адначасова Рыбакоў быў далёкі ад акадэмічнага дэмакратызму. Мяне, напрыклад, трохі разбэсціла магчымасць «злавіць» дзе-небудзь у калідоры вядомага навукоўца і прыставаць да яго з пытаннямі. А той цярпліва адказваў. Аднойчы паспрабаваў у калідоры спыніць Рыбакова, але ён на хаду, не павярнуўшы галавы, коратка кінуў: «Извините, я спешу!». Ён трымаўся неяк па-чыноўніцку. Размаўляў са мной 10–15 хвілін, і я адчуваў, што ўжо трэба ісці. Тым не менш, я многаму навучыўся ад нашых кантактаў. Напрыклад, аднойчы папрасіў яго дапамогі, каб атрымаць фінансаванне экспедыцыі ў Беларусі. Прынёс чарнавік ліста да Леаніда Побаля з фармулёўкай «*предлагаю выделить деньги…*» І пачуў ад Рыбакова: «Молодой человек, учитесь политесу. Мы там не можем командовать. Это союзная республика, мы можем только просить». Ён падпісаў ліст з іншай фармулёўкай, і грошы я атрымаў. Або неяк у размове я пачаў, па маладосці, кагосьці крытыкаваць і пачуў: «Думаете, у Вас не будет ошибок?» Памятаю да гэтага часу.

На ўсё жыццё запомнілася, як там адбываліся дыскусія. Аднойчы сышліся два непрымірымыя навуковыя антаганісты Валянцін Сядоў і Ірына Русанава. Усе ведалі, што яны не цярпяць адзін аднаго. І вось ідзе дыскусія між імі. Ціхім голасам нешта гаворыць і крытыкуе Сядоў. Потым, не падвышаючы голасу, роўненька прамаўляе Русанава. Ніводзін не жадае, як кажуць расійцы, «потерять лицо». А ў зале цішыня і такая напруга, што здаецца зараз бомба выбухне.

Таксама хачу прыгадаць фармальнае стаўленне да камуністычнай ідэалогіі. Напрыклад, справаздачна-выбарчы камсамольскі сход па выніках году пра-

цягваўся тры-чатыры хвіліны. Загадчыца аддзела Святлана Аляксандраўна Плятнёва часам папярэджвала: «Товарищи! У нас на следующем заседании будет присутствовать инструктор райкома партии. Будем соответствовать. Я призываю вас помнить, что мы всё же марксисты». І падчас пасяджэння амаль кожны ў свой выступ укручваў нешта з марксісцка-ленінскай дыялектыкі. Паўсміхаліся і разышліся. Калі ж я вярнуўся ў Менск, то быццам апынуўся ў запаведніку камунізма.

**АС:** *Ведаю, што падчас навучання ў Маскве ты сустракаўся з прафесарам Мікалаем Улашчыкам, які быў адной з найбольш значных постацей у беларускай гістарыяграфіі мінулага стагоддзя. Калі ласка, прыгадай свае сустрэчы з ім.*

**АК:** Сустрэча з Мікалаем Мікалаевічам Улашчыкам была адной з першых маіх задач у Маскве. Адрас я атрымаў ад Алега Трусава. Аказалася, мы знаходзіліся ў адным будынку. Толькі Інстытут гісторыі СССР, дзе ён працаваў, быў паверхам ніжэй. З Улашчыкам я сустракаўся шмат разоў. Быў на яго дакладзе ў Інстытуце гісторыі СССР, падчас якога зразумеў як надзвычай высока яго цанілі расійскія калегі. Некалькі разоў быў у яго дома. Мы шмат размаўлялі. Я адчуваў да яго вялікую пашану. Найбольш мяне ўражвала ў ім, а таксама ў постацях такіх інтэлігентаў як Міхась Чарняўскі, спалучэнне высокага інтэлекту і нейкай нашай вясковай беларускай мяккасці. Падчас размоў было адчуванне, што размаўляю з вясковым дзядзькам, хоць адначасна разумеў, што гэта інтэлектуал найвышэйшага ўзроўню.

Між іншым, Мікалай Мікалаевіч распавёў, што вельмі хацеў прачытаць курс лекцый на гістарычным факультэце БДУ. Ён прапанаваў адміністрацыі аўтарскі курс крыніцазнаўства гісторыі Беларусі, а яму адмаўлялі па самых розных прычынах. Напрыканцы прызнаўся, што хутка ўжо фізічна не здолее прыехаць. Пазней я даведаўся, што дзесьці ў 1970-х гг. была дасягнута папярэдняя дамоўленасць пра яго пераезд у Менск у Інстытут гісторыі Акадэміі навук. Аднак група акадэмічных гісторыкаў прыйшла да прэзідэнта Акадэміі з пратэстам супраць запрашэння «нацыяналіста Улашчыка». З пераездам нічога не атрымалася. Ён звяртаўся з просьбай пра аспіранта з Беларусі, якому мог бы перадаць частку сваіх ведаў. І ў гэтым адмовілі. Гэта была трагедыя чалавека, каторага фактычна адрэзалі ад радзімы. Ён вярнуўся дадому толькі пасля смерці, пахаваны на Чыжоўскіх могілках у Менску.

**АС:** *Твая першая публікацыя адбылася ў Маскве?*

**АК:** У тыя гады публікацыя была вялікай праблемай. Каб мець публікацыю ў часопісе «Савецкая археалогія» трэба было стаць у аспіранцкую чаргу. Людзі чакалі па дзесяць год, каб апублікаваць артыкул. Мая першая публікацыя была ў газеце «Літаратура і мастацтва» ў 1983 г. Гэта быў артыкул «*Якім ты быў, старадаўні Мір?*» пра мае раскопкі ў Міры і пра яго гісторыю. Мы якраз былі ў экспедыцыі ў Міры, і да нас завіталі госці святкаваць Дзень архео-

лага. Генадзь Сагановіч прывёз стос адмыслова купленых ім ЛіМаў. Гэта быў памятны і хвалюючы момант. Маю недзе фотаздымак Сагановіча, які трымае ЛіМы пад пахай…

Гэтая публікацыя была краязнаўчая і літаратурная. Усё ж «ЛіМ» спецыялізаваўся на мастацтве. А ў «Савецкай археалогіі» быў апублікаваны артыкул «Матэрыяльная культура Міра і Мірскага замка» ў сааўтарстве з Алегам Трусавым і Ігарам Чарняўскім. Яшчэ было некалькі публікацый у «Кратких сообщениях Института археологии», «Помніках гісторыі і культуры Беларусі». Публікацый хапіла, каб дысертацыю дапусцілі да абароны. Яшчэ раз адзначу, што мая прысутнасць на пасяджэннях аддзела кожны чацвер была найлепшай навуковай школай майго жыцця.

А Масква мне не спадабалася, і ў мяне ні на хвіліну не ўзнікала жадання там застацца. Кожны год я больш за паўгады адсутнічаў у аспірантуры, бо быў у экспедыцыях у Беларусі. Але ў Інстытуце гэта ўспрымалася цалкам нармальна. Толькі аднойчы загадчык аспірантуры Ігар Леанідавіч Кызласаў[1] сказаў: «Саша, информируйте меня, когда и куда Вы уезжаете. У мяне спрашивают, где аспирант, а я ничего не могу сказать» *[смяецца]*.

**АС:** *Як была вызначана тэма дысертацыйнага даследавання?*

**АК:** Алег Трусаў мне прапанаваў узяць нейкую катэгорыю матэрыяльнай культуры. Напрыклад, Сагановіч пісаў працу па кавальскіх вырабах, Ніна Здановіч – па кераміцы, Аляксандр Кушнярэвіч займаўся архітэктурай готыкі. Але Леанід Побаль настаяў, каб я даследаваў гарады і замкі Панямоння (удзячны яму за тое, бо праз гэтую тэму выйшаў на праблему стварэння Вялікага Княства Літоўскага). У Маскве тэму прынялі пасля ўзгаднення з беларускімі навукоўцамі. Барыс Рыбакоў выступіў на Навуковай радзе як мой навуковы кіраўнік і назваў тэму: «Гарады і замкі беларускага Панямоння XIV–XVII стст. Планіроўка, культурны слой». Дарэчы, менавіта ён падказаў выкарыстаць матэрыялы геалагічнага бурэння для вывучэння культурнага слою. Справа ў тым, што на старой тэрыторыі горада перад пачаткам будаўніцтва заўсёды бураць свідравіны і пазначаюць таўшчыню «насыпнога слоя чорнага колеру». Я зайшоў у геадэзічны інстытут у Гародні, набраў штук 200 вопісаў свідравінаў і склаў карты таўшчыні культурнага слою Гародні, Навагрудка, Ваўкавыска, Слоніма і інш.

Ужо падчас дысертацыйнага даследавання пачаў задумвацца пра адрозненні мангольскага нападу на старажытную Русь ад «літоўскай заваёвы» беларускіх земляў, пра якую пісалі савецкія падручнікі. Тады я шмат чытаў, бо ў Інстытуце была найлепшая бібліятэка па археалогіі ў Савецкім Саюзе. Чытаў па археалогіі Кіева і Вялікага Ноўгарада, іншых гарадоў. Паводле даследаванняў,

[1] І. Л. Кызласаў (1951 г. нар.) – савецкі і расійскі археолаг. Доктар гіст. навук. Займаецца археалогіяй Паўднёвай Сібіры і Цэнтральнай Азіі.

мангольскі напад быў рубяжом у гісторыі гарадоў Маскоўскай Русі і Украіны. Нават ужываліся тэрміны – дамангольскі і пасляманглольскі перыяды. Гарады былі моцна панішчаныя мангольскім нашэсцем. Археолагі паўсюдна знаходзілі чорную паласу зямлі і попелу з наканечнікамі мангольскіх стрэл і чалавечымі косткамі, якая раздзяляла слой дамангольскі і слой пасляманглольскі. А ў маіх ды іншых раскопках у Беларусі няма ніякіх слядоў заваёвы. Культурны слой не перарываецца. Ужо тады я атрымаў імпульс да вывучэння гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

Дарэчы, у той жа інстытуцкай бібліятэцы побач сядзелі калегі, аспіранты – выпускнікі Маскоўскага ўніверсітэта і чыталі працы Археалагічнай камісіі Інбелкульта. Часта да мяне звярталіся з просьбай нешта перакласці з беларускай. Гэта было так ганарова! Тлумачыў ім і думаў: калі праца добрая, яе прачытаюць на любой мове.

**АС:** *Як праходзіла абарона кандыдацкай дысертацыі? І чаму ты абараніўся толькі ў 1988 г.?*

**АК:** Скончыў аспірантуру з прадстаўленнем дысертацыі. Але была чарга, чакаў яшчэ чатыры гады, пакуль дойдзе да абароны. Беларускія археолагі тады абараняліся ў Вільні, Кіеве, Маскве, Ленінградзе. У БССР не было Навуковай рады па абароне дысертацый па археалогіі. Я абараняўся ў Маскве, у сваім Інстытуце.

Найбольш цяжка было прайсці праз абмеркаванне працы ў аддзеле. Сама абарона з'яўлялася ўжо больш фармальным актам. Маімі рэцэнзентамі былі Расціслаў Леанідавіч Разенфельдт і Даратэя Аляксееўна Беленькая. Яны вычыталі, выказалі заўвагі і рэкамендавалі да абароны. Апанентам прапанавалі загадчыка кафедры археалогіі Маскоўскага ўніверсітэта Данііла Аўдусіна[1]. А ён раптам адмовіўся, бо нібыта не меў часу. Гэта азначала, што нешта не так было з дысертацыяй. Адміністрацыя вярнула яе ў аддзел на паўторны разгляд. Потым я здагадаўся, што адной з прычын адмовы магло быць маё недакладнае цытаванне артыкула Міхася Ткачова[2] пра раскопкі ў Старым замку Гародні ў зборніку *Археологические открытия* за 1982 г. У Ткачова згадваўся «патайны ход», а я неяк аўтаматычна напісаў «падземны ход». Д. Аўдусін гэта заўважыў і падкрэсліў у працы. Гэта магло паўплываць на яго адмову. Можа, былі таксама іншыя моманты. З таго часу я стараюся вельмі скрупулёзна да такіх рэчаў ставіцца. Дысертацыю вярнулі ў аддзел на

1 Д. А. Аўдусін (1918–1994) – савецкі і расійскі археолаг. Доктар гіст. навук, прафесар. Даследчык гісторыі ўсходняга славянства і Старажытнай Русі. Аўтар падручнікаў па археалогіі.

2 М. А. Ткачоў (1942–1992) – беларускі археолаг і гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар. Вывучаў ваенна-абарончае дойлідства, матэрыяльную культуру і архітэктуру гарадоў Беларусі XI–XVIII стст.

паўторнае абмеркаванне, але мае рэцэнзенты абурыліся і заявілі, што сваіх высноў не зменяць.

Абарона адбылася, а апанентамі былі ўжо беларускія археолагі Георгі Васільевіч Штыхаў[1] і Міхась Аляксандравіч Ткачоў. Апошні на абароне зрабіў мне сюрпрыз. Я прачытаў рэцэнзіі апанентаў і падрыхтаваў адказы на заўвагі. А Ткачоў раптам пачаў казаць зусім не тое, пра што пісаў у рэцэнзіі. Ён вялікі імправізатар, такі літаратурны чалавек [смяецца]. Я ліхаманкава занатоўваў ягоны выступ, каб адказваць «па тэме». Усё ж аўдыторыя была сур'ёзная, слухалі і галасавалі лепшыя археолагі краіны *[смяецца]*.

Усё прайшло добра. Але і тады і пазней, мяне пераследавалі пытанні, ці атрымаецца з мяне навуковец? Ці здолею стаць самастойным даследчыкам і нешта новае ўнесці ў навуку? Разуменне і ўпэўненасць, што я магу нешта зрабіць у навуцы, прыйшлі даволі позна. Гэта ў мяне такі падыход да жыцця. Я ўвогуле ў археалогіі моцна сумняваўся. Сумняваўся ў метадах датавання рэчаў (маўляў, хто ведае, як там на самой справе было!?). Паверыць у іх дапамагла Ноўгарадская экспедыцыя, у якой для датавання актыўна выкарыстоўваўся метад дэндрахраналогіі. Гэта дапамагло пазней па аналогіі датаваць іншыя знаходкі на ўсходнеславянскай прасторы. Апрача таго, у Беларусі па маім перыядзе гісторыі былі такія грунтоўныя спецыялісты як Валерый Уладзіміравіч Шаблюк (светлай памяці)[2], Валянцін Енісеевіч Собаль[3] і Зянон Станіслававіч Пазняк[4].

**АС:** *Як адбывалася тваё вяртанне ў Менск? Як прынялі ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук?*

**АК:** У Маскве мне далі даведку, што я скончыў аспірантуру з прадстаўленнем дысертацыі і накіроўваюся на працу ў Інстытут гісторыі Акадэміі навук у Менск. А там я ўпершыню сутыкнуўся з вядомай нестыкоўкай савецкай сістэмы, а менавіта мяне не маглі ўзяць на працу, бо не меў прапіскі, і не маглі пасяліць і прапісаць, бо не меў працы. Дырэктар Інстытута Петрыкаў быў абавязаны прыняць мяне як маладога спецыяліста. А з інтэрнатам паўстала праблема. Я нават пайшоў на прыём да віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Івана

1 Г. В. Штыхаў (1927–2018) – беларускі археолаг і гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар. Навуковая праблематыка: археалогія і гісторыя Беларусі VI–XIII стст., гісторыя і археалогія Полацкай зямлі, вытокі беларускай народнасці.

2 В. У. Шаблюк (1953–1997) – беларускі археолаг і гісторык. Кандыдат гіст. навук. Даследаваў познесярэднявечныя і новачасныя паселішчы і мястэчкі.

3 В. Е. Собаль (1949 г. нар.) – беларускі археолаг. Кандыдат гіст. навук. Спецыяліст па матэрыяльнай культуры Беларусі часоў Вялікага Княства Літоўскага.

4 З. С. Пазняк (1944 г. нар.) – беларускі археолаг і гісторык, літаратар і мастак-фатограф, палітык. Кандыдат мастацтвазнаўства. Адзін з заснавальнікаў Беларускага народнага фронта і кіраўнік фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII склікання.

Якаўлевіча Навуменкі. Ён мяне прыняў, выслухаў і на заяве напісаў: «Лічу, што трэба даць інтэрнат». Але гэтая рэзалюцыя нічога не значыла. Ён там быў нейкім «вясельным генералам». Нарэшце дапамаглі сувязі па лініі прафсаюзнай арганізацыі, і я атрымаў «койкамесца» ў інтэрнаце на вул. Шырокай. Мяне ўзялі на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка ў аддзел археалогіі першабытнага грамадства. Я займаўся археалогіяй Сярэдневечча, але Леанід Побаль узяў да сябе.

**АС:** *Якія ўражанні пасля маскоўскай аспірантуры ад Інстытута гісторыі ў Менску?*

**АК:** Перажыў пэўнае расчараванне, бо ўзровень навукі тут не быў такі ж высокі. Наш Інстытут моцна адрозніваўся ад Інстытута археалогіі ў Маскве. Было адчуванне нейкай правінцыйнасці. Больш за палову супрацоўнікаў займаліся Кастрычніцкай рэвалюцыяй, Вялікай айчыннай вайной, партызанскімі мемуарамі, сувязямі з сацыялістычнымі краінамі і г. д. Мае найлепшыя ўражанні былі ад Міхаіла Міхайлавіча Чарняўскага і Зянона Станіслававіча Пазняка. Пра апошняга хачу сказаць асобна, бо мне давялося праводзіць з ім раскопкі Дамініканскага кляштара ў Менску каля Палаца рэспублікі. Алег Трусаў папрасіў, каб я падключыўся і дапамог у тых раскопках. Я адгукнуўся, і мы хіба з месяц працавалі разам, як кажуць археолагі, «у полі». Асабіста пераканаўся, што ён археолаг вельмі высокага ўзроўню. Напрыклад, мы неяк паспрачаліся пра храналогію знойдзеных пахаванняў. Ён сцвярджаў, што яны належаць да XVIII стагоддзя. А ў сутарэннях кляштара быў толькі пясок, не было культурнага слоя і матэрыялаў, па якіх можна было датаваць пахаванні. Я ж выказаў думку, што там маглі быць пахаваныя нямецкія афіцэры, бо ў 1944 г. там знаходзіўся нямецкі шпіталь. Усё вырашылася праз тыдзень, калі мы знайшлі спарахнелыя дошкі ад труны і на іх меднымі цвікамі выбітая дата – 1742 *[смяецца]*. Ён гэта зразумеў па нейкіх дробязях, па інтуіцыі. Для археолага яна мае вялікае значэнне. Пазняк гэта мае.

Ён вельмі інтэлігентна сябе паводзіў. Я памятаю, як прыходзілі людзі на экскурсіі, як ім было няёмка (гэта быў 1986 г.), што не ўмеюць па-беларуску. Пазняк нікога не змушаў, не папракаў, людзі проста саромеліся пры ім, што не ўмеюць гаварыць па-беларуску. Ад таго часу ма́ю вялікую пашану да яго. Быў сведкам, як ён узяў на раскоп хлопца, якога адусюль выгналі. І хлопец мог нешта зарабіць. І яшчэ шмат падобных выпадкаў было, калі Зянон Станіслававіч дапамагаў незнаёмым людзям. Гэта важная, але рэдкая ў палітыкаў рыса, менавіта ўвага да канкрэтнага чалавека.

Міхал Міхайлавіч Чарняўскі быў больш «класічным» беларусам. Знешне мяккі, а ўнутры нязломны. Меў характар сапраўднага беларускага інтэлігента. Пазняк усё ж мог быць больш жорсткім і вострым. А гэты жыў з усмешкай, але ніхто ніколі не мог яго зламаць. Яны былі падобныя з Улашчыкам. Той таксама знешне мяккі, але нязломны. Чарняўскага ўсе любілі. Як ужо казаў,

менавіта ён падштурхнуў мяне пісаць не толькі навуковыя працы, але таксама літаратурнае і папулярнае. Чарняўскі сам пісаў папулярныя кнігі пра каменны век: *Страла расамахі*, *Вогнепаклоннікі*. Гэта былі кнігі з малюнкамі для дзяцей. Па яго прыкладу я напісаў дзве кніжачкі – *Гродзенскі замак* і *Вялікі князь Вітаўт*. Выдавецтва «Юнацтва» выдала іх па ўзоры кніг Чарняўскага. Але і навукоўцам ён быў вельмі высокага ўзроўню.

Яшчэ хачу прыгадаць светлай памяці Паўла Лойку. Ён быў вельмі таленавіты і аднолькава добра пісаў навуковыя працы і літаратурныя тэксты. Таксама як яго аднакурснік Валодзя Емяльянчык[1]. Яны абодва рана ад нас пайшлі. Гэта вялікая страта для беларускай гістарыяграфіі. Вельмі цікавым чалавекам і навукоўцам высокага ўзроўню быў Георгій Васільевіч Штыхаў. У Маскве яго ставілі найвышэй з усіх беларускіх археолагаў. Яго працы і сёння захоўваюць высокую навуковую вартасць. Гэта быў археолаг ад прыроды, а яшчэ і выдатны аналітык. Я гэта ўжо пазней зразумеў. Калі прыйшла незалежнасць, ён пісаў вельмі добрыя школьныя падручнікі. Пасля абрання Лукашэнкі прэзідэнтам у 1994 г. і перамены гістарычнай палітыкі ён працягваў гэта рабіць, не паддаўся ціску.

**АС:** *Наколькі пашыраная была беларуская мова ў Інстытуце гісторыі ў тыя гады?*

**АК:** Па-беларуску заўсёды размаўляў Васіль Сямёнавіч Талстой. Часта размаўлялі Леанід Побаль ды многія іншыя археолагі. Мова жыла ў асноўным у прыватных кантактах. Я там хутка стаў «сваім». Таксама размаўляў выключна па-беларуску Міхал Міхайлавіч Чарняўскі, які быў такой светлай фігурай. Менавіта ён натхніў мяне пісаць тэксты. Пасля адной з экспедыцый я напісаў артыкул пра раскопкі ў Ашмянах ў такім літаратурна-рамантычным ключы ў газету «Голас радзімы». А Чарняўскі неяк потым сустрэў мяне ў калідоры і сказаў: «Прачытаў твой артыкул пра Ашмяны, ён напісаны прыгожа. Ты павінен пісаць». І гэта дало імпульс, прыйшло натхненне.

Я працаваў у Інстытуце гісторыі, але таксама быў звязаны з Алегам Трусавым, удзельнічаў у яго экспедыцыях. У 1987 г. ён запрасіў мяне на працу ў рэстаўрацыйныя майстэрні. Там значна вырас аб'ём раскопак, і Трусаў сабраў нас, яго вучняў, і прапанаваў перайсці да яго. Ён быў нашым настаўнікам, і я разам з Нінай Здановіч пайшлі да яго.

**АС:** *То бок вы Трусава ўспрымалі як свайго настаўніка?*

**АК:** Так, ён нас ад пачатку вучыў розным метадам раскопак, даваў літаратуру, быў сапраўдным настаўнікам. Генадзь Сагановіч не пайшоў, застаўся ў Акадэміі. Праз два гады я сам сышоў з майстэрняў, бо там на навуку проста не заставалася часу. Раскопкі працягваліся па паўгода, а потым яшчэ паўгода

[1] У. П. Емельянчык (1955–2003) – беларускі гісторык. Кандыдат гіст. навук. Даследаваў палітычную і ваенную гісторыю Беларусі XVIII ст., дачыненні Беларусі з Польшчай і Расіяй.

пісаліся справаздачы. З таго часу маю «алергію» да археалогіі. Як успомню гэту працу з раніцы да вечара… Я сышоў у адзін з першых рэстаўрацыйных кааператываў. Яго стварылі архітэктары, якія ў 1989 г. выйшлі з Інстытута рэстаўрацыі (былых Рэстаўрацыйных майстэрняў). Я сказаў: «Алег Анатольевіч, Вы нас звалі ў навуку, а навукі тут няма, таму я сыходжу».

**АС:** *І якая была рэакцыя?*

**АК:** Ён мне павысіў зарплату! Але я напісаў усе справаздачы і сышоў. Пайшоў да старшыні кааператыва Сяргея Георгіевіча Багласава і сказаў: «Вы робіце аб'екты і Вам патрэбна археалогія. Вы падаеце заяўку ў Інстытут, а ў іх свае планы. Вам давядзецца доўга чакаць. А я магу быць Вашым археолагам і толькі на Вас працаваць». Ён мяне узяў. Гэта была абсалютна самастойная праца. Але, каб перайсці з дзяржаўнай установы, дзе табе гарантавана зарплата, у кааператыў, дзе ты сам зарабляеш, трэба было пераадолець псіхалагічны бар'ер. Першыя паўгода я камплексаваў, ці змагу пракарміць сям'ю, бо дачка Вераніка была яшчэ малая – усяго два гады мела. Але праз паўгода, калі я атрымаў першыя грошы, то супакоіўся. Грошы былі добрыя. Я тры месяцы капаў, тры месяцы пісаў справаздачу, атрымліваў грошы на год і мог пісаць кнігі. Тады я ўжо зразумеў, што гэта самы важны занятак навукоўца.

А яшчэ зразумеў, што гісторык у сваім развіцці праходзіць толькі два этапы. Першы этап – гэта аспірантура і кандыдацкая дысертацыя, калі ён засвойвае «тэхналогію» сваёй навукі, вучыцца рабіць высновы, вывучае тэрміналёгію – авалодвае прафесіяй. І другі этап – калі ён вучыцца зразумела і проста гаварыць пра складаныя рэчы. Гэта вышэйшы этап, які я назіраў на прыкладзе вядомых вучоных, напрыклад, Б. Рыбакова, якога ў Маскоўскім універсітэце называлі «казачнік Андэрсан». І зараз гэта ўспамінаю, калі гляджу на гісторыкаў, якім ужо за 50 год, а яны ўпадаюць у пэўны снабізм, «узвышаюцца над натоўпам», стараюцца выкарыстоўваць незразумелыя тэрміны. Гэта тупіковы шлях, бо наша галоўная задача – гістарычная адукацыя грамадства.

**АС:** *Але ж навука развіваецца, адпаведна з'яўляюцца новыя тэрміны, і даследчыкі павінны іх засвойваць, каб размаўляць мовай сучаснай навукі.*

**АК:** Так, гэта ёсць, але мне ў гэтым бачыцца таксама снабізм некаторых навукоўцаў, дэманстрацыя ўласнай вышэйшасці над «натоўпам». А наша задача займацца гістарычнай асветай грамадства. Напісаць ці распавесці цікава і зразумела пра складаныя рэчы могуць значна менш даследчыкаў, чым тых, хто можа стварыць артыкул з выкарыстаннем спецыяльнай тэрміналогіі.

**АС:** *Якую ролю ў тваім станаўленні як навукоўца адыгралі кантакты з польскімі гісторыкамі? Ведаю, што падчас стажыроўкі ў Кракаве тваім навуковым кіраўніком быў вядомы даследчык Сярэднявечча прафесар Ежы Выразумскі*[1].

1 Е. Выразумскі (1930–2018) – польскі гісторык-медыевіст. Доктар габілітаваны, прафесар.

**АК:** Безумоўна, гэта быў важны перыяд майго сталення як навукоўца. Прафесар Ежы Выразумскі быў маім навуковым кіраўніком падчас стажыроўкі ў Кракаве ў 1996–1997 гг. Ён сапраўды вядомы даследчык Сярэднявечча. У адрозненні ад Рыбакова, я не меў праблемы з візітам да яго. Прафесар вырашаў ўсе «тэхнічныя» праблемы, прымаў справаздачу пра маю навуковую працу, але праз 10 хвілін размовы я бачыў, што яму ўжо нецікава, што ён вельмі заняты. Злавіў сябе на тым, што сам стаў такім. Калі нехта з маладых падыходзіць і пачынае энтузіястычна распавядаць пра рэчы, якія мы засвоілі гадоў дваццаць назад, становіцца нецікава. Цалкам іншым чалавекам быў наш агульны знаёмы прафесар Пётр Эберхард[1], які меў цікавасць да кожнага чалавека.

У Кракаве маім галоўным заданнем было напісанне доктарскай дысертацыі. Штодня хадзіў у Ягелонскую бібліятэку. Там былі тамы беларуска-літоўскіх летапісаў, выдадзеных М. Улашчыкам, з яго аўтографам па-беларуску «Ягелонцы ад удзячнага чытача». Можа, сядзеў на той лаве, дзе калісьці чытаў кнігі Улашчык.

**АС:** *Наколькі актыўнымі былі твае кантакты з польскімі навукоўцамі ў Кракаве?*

**АК:** Стажыроўка прадугледжвала ўваход у асяроддзе кракаўскіх гісторыкаў і вельмі паспрыяла гэтаму. Мы з польскімі калегамі кожны тыдзень збіраліся ў адной з кавярняў і шмат размаўлялі. Гэта былі часы палітычнай трансфармацыі ў Польшчы, у якой польскія гісторыкі прымалі актыўны ўдзел. Яны жылі з пачуццём, што будучыня краіны залежыць ад іх. Глядзеў на іх і зайздросціў.

**АС:** *Што ў тваім навуковым жыцці прыносіла найвялікшую радасць і задавальненне?*

**АК:** У навуцы, як і ў любой іншай справе, маем 90% чарнавой працы, а найвялікшае задавальненне – узяць у рукі сваю новую кнігу. Цяжкая праца скончаная, кніга пайшла ў друк. Недзе праз месяц выходзіць кніжка. Табе яе паказваюць, ты бярэш у рукі, пагладжваеш, нюхаеш, адчуваеш свежы пах тыпаграфскай фарбы…

Памятаю выпадак, звязаны з абаронай маёй доктарскай дысертацыі. Ішло пасяджэнне Навуковай рады ў Інстытуце гісторыі, на якім павінны былі прыняць рашэнне пра прыняцце яе да абароны. Абавязковай умовай была наяўнасць навуковай манаграфіі па тэме доктарскай. Аднак кніга (*Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага*[2]) яшчэ друкавалася ў выдавецтве «Беларуская навука». На пачатку пасяджэння кнігі яшчэ не было, але недзе праз гадзіну

[1] П. Эберхард (1935–2020) – польскі географ і даследчык дэмаграфічных працэсаў, у т. л. у Беларусі. Доктар габілітаваны, прафесар.

[2] А. Краўцэвіч, *Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага,* Мінск 1998. Кніга неаднаразова перавыдалася, [online] https://knihi.com/Ales_Kraucevic/Stvarennie_Vialikaha_Kniastva_Litouskaha_1997.html, [дата доступу: 11.06.2024].

скрынку з кнігамі прывезлі з выдавецтва. Можаш уявіць, у якой напрузе я яе чакаў. Не паспеўшы нават пагартаць, узяў некалькі асобнікаў і перадаў у прэзідыум Рады, які складаўся з дырэктара Інстытута гісторыі Міхаіла Паўлавіча Касцюка[1] (старшыня), сакратара Рады Валянціны Грыгор’евай[2] і намесніка дырэктара па навуковай працы Міхаіла Восіпавіча Біча[3]. Калі дайшлі да пытання пра абарону, Касцюк спытаўся, ці ёсць манаграфія. І Валянціна Яноўская перадала яму асобнік, прычым з такім выглядам, нібыта ён даўно ўжо ляжаў у папцы з маімі дакументамі да абароны. У выніку рашэнне было прынятае.

**АС:** *Як ты лічыш, ці можна казаць пра пэўную місію навукоўца-гуманітарыя?*

**АК:** Так, упэўнены. Місія гісторыка – гэта гістарычная асвета грамадства. Гісторыкі ў рознай ступені набліжаныя да рэалізацыі гэтай місіі тэхнічна. Найдалей знаходзяцца тыя, хто ў архівах ці ў зямлі як археолагі здабываюць інфармацыю. Наступны этап – апрацоўка матэрыялу і публікацыя спецыяльных прац. А ўжо фінальны этап асветы – гэта сінтэзы, падручнікі, навукова-папулярная літаратура, відэа- і аўдыёматэрыялы. І, натуральна, гэта асвета ў патрыятычным духу. Гісторык павінен служыць нацыі, але ён не можа свядома фальсіфікаваць гісторыю і гістарычныя факты. Служэнне нацыі палягае ў тым, што на ўсе падзеі, звязаныя з гісторыяй краіны, трэба глядзець з пазіцыі інтарэсаў свайго народу. Менавіта гэтага не хапае афіцыёзным гісторыкам Беларусі. Яны ацэньваюць наша мінулае з пункта гледжання Расійскай дзяржавы. Тут, на жаль, падсвядома прысутнічае тое, што я называю «сіндромам халопа».

**АС:** *Што ты лічыш найбольш важнымі ўмовамі паспяховай навуковай дзейнасці?*

**АК:** Першае – гэта добрая прафесійная адукацыя, засваенне навуковага інструментарыя. Па-другое, трэба мець пэўныя літаратурныя здольнасці. Як рэдактар ты гэта добра ведаеш... Таксама ў грамадстве павінен быць высокі прэстыж працы гісторыка. Напрыклад, у Польшчы адбываюцца агульныя з’езды гісторыкаў, на якіх з прывітальным словам выступаюць кіраўнікі дзяржавы. Палітыкі павінны шанаваць гісторыкаў і падтрымліваць у іх місіі, а не трактаваць іх як сваіх служак.

---

[1] М. П. Касцюк (1940–2019) – савецкі і беларускі гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар, член-карэспрандэнт НАН Беларусі. Вывучаў гісторыю калгаснага сялянства, рабочых і інтэлігенцыі, а таксама камуністычных рэпрэсій (*Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі*, 2000).

[2] В. В. Яноўская (Грыгор’ева) (1949 г. нар.) – беларускі гісторык. Кандыдат гіст. навук. Навуковая праблематыка: гістарыяграфія і гісторыя Беларусі XIX – пачатку XX ст.

[3] М. В. Біч (1937–1999) – беларускі гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар. Даследаваў гісторыю рабочага і сацыял-дэмакратычнага руху, беларускага нацыянальнага Адраджэння пачатку XX ст.

**АС:** *Пытанне пра ролю дзяржавы вельмі няпростае для нас. Як ты ацэньваеш перспектывы развіцця навук пра чалавека ў Беларусі?*

**АК:** Думаю, што перспектыва для развіцця ёсць, але не такая простая. Упэўнены, што Беларусь будзе свабоднай краінай. І нам давядзецца ачышчаць навуку ад кар'ерыстаў і кан'юнктуршчыкаў. Мы сёння перажываем пэўны «момант ісціны», бо стала зразумела, хто чаго варты. Навуковая прастора не знішчаная. Яна дэфармаваная і часова перамясцілася за межы Беларусі. Нам трэба навучыцца жыць без дзяржаўнай апекі і кантроля.

**АС:** Дзякуй за размову.

Гродна, 19 мая 2022 г.

ISSN 2424-5216

# АЛЕГ ЛАТЫШОНАК: «МЫ ЎСЁ ЯШЧЭ СТВАРАЕМ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ГІСТАРЫЯГРАФІЮ...»

**АС:** *Шаноўны Алег, як атрымалася, што ты стаў «вялікім» беларускім гісторыкам? Ведаю, што гэтая «вялікасць» звычайна тлумачыцца тваім высокім ростам – 2.03 метра. Але не маю сумненняў, што ў развіцці сучаснай беларускай гістарыяграфіі Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку і ты як адзін з яго найбольш вядомых прадстаўнікоў адыгралі важную ролю. А як пачынаўся твой жыццёвы і навуковы шлях?*

**АЛ:** Я нарадзіўся ў Эльблёнгу[1]. Мой бацька Юрка, дзед Кліменці і бабуля Ядзя паходзілі з даваеннай Віленшчыны, з-пад Шаркоўшчыны. У 1944 г. яны ўцяклі ад саветаў на захад. Немцы іх змясцілі ў працоўны лагер. У 1945 г. амерыканцы іх вызвалілі, і яны ехалі ў Амерыку. Недзе ў Францыі сям'ю спыніў нейкі савецкі палкоўнік і стаў крычаць: «Беларусы, вы куда едете? Возвращайтесь на родину!» Сям'я задумалася, бо нічога кепскага падчас вайны яны не зрабілі. Вырашылі вяртацца ў Беларусь. Дарэчы, такіх было даволі шмат. Але ў Чэхаславаччыне, калі пабачылі першых савецкіх салдат, то палова цягніка разбеглася. У Варшаве дзед пайшоў даведвацца пра магчымасці выезду ў Беларусь, а як вярнуўся, то распавёў пра размову з палякамі-чыгуначнікамі. Тыя, калі даведаліся, што дзед збіраецца ў Беларусь, запыталі: «А ваша сям'я дзе?» – «У Сібіры». – «І вам туды хочацца?» Дзяды і бацька перадумалі, селі ў першы ж цягнік і прыехалі ў Эльблёнг.

У маёй сям'і заўсёды была цікавасць да гісторыі. Трэба таксама адзначыць, што сям'я была вельмі патрыятычная, у такім бел-чырвона-белым колеры. Калісь дзед прыбег з лесу і кажа майму тату: «Слухай, сыночку, мусіць нашы ў лесе партызаняць». – «А што?» – «На камяні бел-чырвона-белы сцяг намаляваны» *[смяецца]*. Там так пазначылі турыстычны шлях. Памятаю дзеда заўсёды з кніжкай у руцэ. Нават запомніў два загалоўкі: *Роб Рой* Вальтэра Скота і *Россия под властью царей*[2]. Дзед гэта чытаў. Мой бацька хацеў стаць гісторыкам, але вырашыў, што ў чужой краіне трэба мець прафесію, з якой можна

[1] Эльблёнг – горад у Вармінска-Мазурскім ваяводстве. Быў портам на р. Эльблёнг, якая ўпадае ў Віслінскі заліў. Рака давала гораду доступ да Балтыйскага мора праз падуладны Расіі Балтыйскі праліў. Гістарычна прускі горад, цэнтр вобласці Памезанія, Эльблёнг нанова стаў часткай Польшчы пасля Другой сусветнай вайны. Польскае насельніцтва складалася пераважна з палякаў, пераселеных з СССР.

[2] Кніга выйшла з друку ў 1885 г. у Лондане. Яе аўтар – рэвалюцыянер-народнік С. М. Сцепняк-Краўчынскі (1851–1895). Пасля забойства шэфа расійскіх жандараў Мезенцава збег у Швейцарыю. Аўтар шэрагу кніг, у якіх выкрываў антынародную сутнасць самаўладдзя і праслаўляў рэвалюцыйны рух. Кніга *Расія пад уладай цароў* была перакладзены на іншыя мовы і неаднаразова перавыдавалася.

было б жыць. Быў перакананы, што беларусу ў Польшчы не быць гісторыкам. Ён стаў інжынерам, але гісторыяй заўсёды цікавіўся.

У нас пра гісторыю безупынна гаварылі, дыскутавалі, абмяркоўвалі са знаёмымі. Усё гэта, напэўна, стварала атмасферу цікавасці да гісторыі. А яшчэ нам трэба было вучыць патрыятычныя вершы. Помню, як мы з сястрой Тамаркай сядзім у сваім пакоі, а за сцяной – застолле. Мы ўжо ведаем, што зараз нас паклічуць чытаць патрыятычныя вершы па-беларуску. Памалу гэта ўваходзіць у кроў. Дарэчы, я вельмі любіў Максіма Багдановіча, і магу сцявярджаць, што, калі які-небудзь паэт ці пісьменнік і зрабіў на мяне ўплыў, то, напэўна, гэта Багдановіч.



**АС:** *У хаце была бібліятэка?*

**АЛ:** Так, бібліятэка была. Можна сказаць, што бібліятэка была сямейнай традыцыяй. Сям'я мела бібліятэку і ў доме пад Шаркоўшчынай. Яны калісьці купілі гаспадарку з бібліятэкай расійскай класікі, якая памяшчалася ў скрыні *[смяецца]*. Той бібліятэкі яны не забралі з сабой. Прывезлі толькі пару дакументаў і фотаздымкаў, але на новым месцы адразу пачала стварацца новая бібліятэка. Бацька купляў ўсё, што прыходзіла з Савецкага Саюза, бо такія магчымасці былі. Часам здаралася набыць даваенную кнігу.

Я спачатку больш цікавіўся біялогіяй і гадаваў усё, што можна было гадаваць. Вёў куток юнага натураліста ў школе, гадаваў марскіх свінак, хамячкоў і рыбак. Ужо ў пачатковай школе я размножыў трытонаў, што было маім вялікім дасягненнем. Спачатку нічога не атрымлівалася: то кот іх вылавіў, то самі паўцякалі і засохлі. Нарэшце я падыйшоў да справы як навуковец. У восьмым класе я ўзяў з бібліятэкі кнігу пра трытонаў і развёў іх. Было файна глядзець, як яны нараджаюцца, вылупляюцца з яечак. Я давёў іх да такога ўзросту, што яны маглі нават выходзіць на сушу. А потым адпусціў іх там, адкуль узяў. У ліцэі я марыў стаць генетыкам. Генетыка і зараз мяне крыху цікавіць, асабліва як дапаможная гістарычная навука, але гісторыю таксама вельмі любіў. Прачытаў усе кнігі, папулярных тады Кароля Бунша[1] і Антонія Голубева[2] ды шмат каго іншых.

---

1 Караль Бунш (Karol Bunsch, 1898–1987) – вядомы польскі пісьменнік, які пісаў на гістарычныя тэмы, а таксама перакладчык з англійскай і нямецкай моў. Сярод найбольш вядомых твораў *Powieści piastowskie* (1945–1964), а таксама трылогія, прысвечаная постаці Аляксандра Македонскага (1955–1967).

2 Антоні Голубеў (Antoni Gołubiew, 1907–1979) – польскі пісьменнік і публіцыст. Аўтар гістарычнай эпапеі *Bolesław Chrobry* (1947–1974).

**АС:** *Гэта польская гістарычная белетрыстыка?*

**АЛ:** Так, я чытаў усё польскае. Беларуская літаратура да нас не даходзіла. Караткевіча я прачытаў ужо дарослым. Вельмі палюбіў яго апавяданні *Барвяны шчыт* ды *Блакіт і золата дня*, перачытваю іх перыядычна, каб падняць настрой. А ў Польшчы была тады процьма выдатных пісьменнікаў, усіх не пералічыць. Вельмі запала мне ў сэрца кніжка Галіны Рудніцкай *Król Agis*[1] пра спробу выратаваць старажытную Спарту перад падзеннем. Вялікі ўплыў на мяне зрабіла цудоўная кніга *Przemija postać świata* Ганны Малеўскай[2] пра готаў, якіх разграміў імператар Юстыніян. Люблю жартаваць, што я па паходжанні гот, паколькі ля роднай вёскі маёй падляшскай бабулі Дуні знайшлі гоцкі могільнік. Таксама варта згадаць гісторыі пра музэйшчыка і дэтэктыва пана Самаходзіка аўтарства Збігнева Нянацкага[3]. Захапляўся таксама кнігамі Альфрэда Шклярскага[4] пра падарожжы і прыгоды Томка Вілімоўскага на ўсіх кантынентах.

У шостым класе я прачытаў *Сінухе егіпцяніна*. У той час у бібліятэцы я ўжо перачытаў усю літаратуру для моладзі, і бібліятэкарка дазволіла мне браць кнігі з паліцы для дарослых. Вельмі палюбіў Мікі Валтары і лічу, што ён моцна пакрыўджаны шведамі, бо не атрымаў Нобелеўскай прэміі. Магчыма толькі таму не атрымаў, што ён фін *[смяецца]*. Думаю, што ў швэдаў адносіны да фінаў такія, як у палякаў ці расійцаў да беларусаў. Моцна на мяне паўплывала напоўненая прыгодамі кніжка *Podróż do Matecumbe* Робэрта Льюіса Тэйлара[5]. Гэтую кніжку перачытваю, калі мне смутна. Дарэчы, дзядзька галоўнага героя быў канфедэратам. З таго часу я зацікавіўся гісторыяй грамадзянскай вайны ў Злучаных Штатах Амерыкі. Апошняму паспрыяла і тое, што шмат прачытаў твораў Уільяма Фолкнера, мусіць усё, што было перакладзенае на польскую мову. У свой час у маёй сястры быў хлопец, які быў такім самым як я фанатам Фолкнера. Мы з ім гаварылі пра фолкнераўскіх герояў, як пра сваіх старых знаёмых, у стылі «А помніш як…?» З таго часу мне блізкая гісторыя ЗША.

---

1 Галіна Рудніцка (Halina Rudnicka, 1909–1982) – польская пісьменніца, аўтарка трылогіі пра антычную Спарту і кніжак пра польскіх камуністаў.

2 Ганна Малеўская (Hanna Malewska, 1911–1983) – польская пісьменніца, у 1960–1973 гг. – галоўны рэдактар каталіцкага штомесячніка „Znak”.

3 Збігнеў Нянацкі (сапр. Zbigniew Tomasz Gawicki, 1929–1994) – польскі пісьменнік і журналіст. Найбольш вядомы кнігамі пра Пана Самаходзіка (напр., *Pan Samochodzik i templariusze*, 1966).

4 Альфрэд Шклярскі (Alfred Szklarski, 1912–1992) – польскі пісьменнік, які спецыялізаваўся на кнігах для моладзі пра падарожжы і прыгоды. Аўтар цыклу кніг пра Томка Вілімоўскага (напр., *Tomek w krainie kangurów*, 1957).

5 Робэрт Льюіс Тэйлар (Robert Lewis Taylor, 1912–1998) – амерыканскі пісьменнік, прызёр прэміі Пуліцэра ў галіне мастацкай літаратуры. Згаданая кніжка ў арыгінале мае загаловак A *Journey to Matecumbe*.

**АС:** *А гісторыя Эльблёнга?*

**АЛ:** А яе не было! *[Смяецца.]* Мы ж не ўспрымалі нямецкай гісторыі. Гэта быў горад адабраны ў немцаў і зраўняны з зямлёй падчас вайны. Цэнтр горада папросту не існаваў. Былі толькі руіны касцёла Святога Мікалая. Былі немцы і згінулі… Тым больш Эльблёнг да першага падзелу Рэчы Паспалітай належаў да Каралеўства Польскага і быў другім па багаццю горадам пасля Гданьска. Гэта быў буйны марскі порт, які абараняўся ад крыжакоў. Цяпер як гісторык разумею, што адбываецца падчас падобных дэмаграфічных перамен. Такі самы быў Беласток. Былі жыды і згінулі… Ніхто не ведае іх гісторыі, і ніхто не цікавіцца.

У нас дома ўвесь час гаварылася пра Шаркоўшчыну, пра роднае для дзядоў і бацькі Дубавое[1]. Жыццё ў Эльблёнгу было часовае, бо ўвесь час думалі пра вяртанне. Прычым упершыню бацька папрасіўся ў Беларусь у 1956 г. Ён спадзяваўся на перамены пасля смерці Сталіна. Прыехаў на размову ў савецкае консульства ў Гданьску. А там консул-грузін гаворыць: «Молодой человек, вы что с ума сошли? *[Смяецца.]* Дам вам визы, поедете и вернётесь». Так і было. Тата з мамай паехалі і вярнуліся. А другі раз ён прасіўся ў 1968 г., калі мы ўжо жылі ў Беластоку. Тады пасля арабска-ізраільскай вайны актыўна змагаліся з «сіяністамі». У Беластоку яўрэяў не было, то ўспомнілі пра беларусаў. Бацьку дапыталі наконт нацыяналізму і забралі мабілізацыйную картку. А ён быў паручнікам рэзерва і так моцна пакрыўдзіўся, што зноў папрасіўся ў Савецкі Саюз. Яму сказалі, што ў Беларусь яго не пусцяць. Прапанавалі паехаць у Сібір, каб адтуль гадоў праз дзесяць перабрацца ў Беларусь. Помню сямейную нараду па пытанні пераезду, на якой усе мелі права голасу. Я быў «за» пераезд, бо начытаўся кніг пра асваенне Сібіры і «рамантыку» вялікіх пабудоў *[смяецца]*. Але большасць выказалася за тое, каб застацца.

А я тады ўжо пачаў пісаць першую гістарычную кнігу, то бок «раман» пра вайну. Не атрымалася, бо не маю таленту да мастацкай літаратуры *[смяецца]*. Я яшчэ не думаў усур'ёз пра гісторыю, хоць вучыўся ў гуманітарным класе і вельмі яе любіў. У 1975 г., у трэцім класе ліцэя, я трапіў на ваяводскую алімпіяду па гісторыі і стаў адным з пераможцаў. Гэта гарантавала паступленне на гістарычны факультэт у любы ўніверсітэт. Нават экзамены не трэба было здаваць. Праз год я паехаў у Кракаў, каб быць як найдалей ад дому. Тады ўжо адчуваў, што Беласток – не зусім польскі горад. Памятаю, што бацька сказаў: «Сынку, я хацеў быць гісторыкам, цяпер ты можаш ім стаць. Помні, што хлеба з гэтага не будзе, але што можам для тваёй вучобы, тое зробім». Фактычна на маё навучанне ў Кракаве пайшла зарплата мамы.

**АС:** *Калі ты паступаў ва ўніверсітэт, то ўжо меў усведамленне, што ты беларус?*

---

[1] Вёска ў Шаркаўшчынскім раёне Віцебскай вобл.

**АЛ:** Яшчэ ў ліцэі часам сварыўся з бацькам, што натуральна ў маладых людзей. Я хацеў быць палякам, а мяне выхоўвалі беларусам. Не заўсёды мне гэта падабалася. Але ва ўніверсітэт прыйшоў ужо як беларус.

**АС:** *Не было канфліктаў з калегамі-палякамі?*

**АЛ:** Не. Толькі прыгадваю анекдатычную сітуацыю, калі ў сакратарыяце інстытута афармлялі мае паперы. Пытаюцца рытарычна: «Народовасць польска?» Я кажу: «Не, не польская, пшэпрашам» *[смяецца]*. – «А яка?» – «Бялоруска». – «Магу напісаць або польска, або інна». «Но то прошэ напісаць інна» *[смяецца]*. Тады трэба было нацыянальнасць указваць. На першых занятках аспірант правярае прысутнасць: «Пан Латышонак?» – «Так». – «Пан бялорусін? Я былэм в Менску і такіх відзялэм» *[смяецца]*. Ну так – бялорусін! На гістарычных студыях я быў адзіным непалякам на ўсе чатыры курсы. Але да мяне вельмі добра ставіліся.

**АС:** *Праваслаўная вера штосьці значыла для вашай сям'і?*

**АЛ:** Так, шмат значыла. Хаця толькі па мужчынскай лініі ўсе Латышонкі праваслаўныя. Мой дзед Кліменці быў з праваслаўнай сям'і. Яго бацька нават узначальваў камітэт пабудовы царквы ў Шаркоўшчыне і стаў царкоўным старастам. Тата не быў занадта веруючы, але часам думаю, што ён падпісаў сваю «дамову» з Богам *[смяецца]*. Калісьці ў часы акупацыі паліцэйскія ўзялі падводы ў вёсцы і забралі бацьку як фурмана. Ехалі лесам, і ў бацькі сцізорык упаў на зямлю, ён саскочыў у каляіну, каб падняць, а тут якраз – чарга з ручнога кулямёта. Партызаны атакавалі, а ён у каляіне ляжаў. Вось тады і сказаў Богу, што будзе ў царкву хадзіць *[смяецца]*. У царкву мы хадзілі кожную нядзелю.

**АС:** *У Эльблёнгу была праваслаўная царква?*

**АЛ:** Была. Мой бацька разам з украінскай сям'ёй Мельніцкіх–Мельнікавых стаў яе заснавальнікам. Гэтыя ўкраінцы былі моцныя праваслаўныя, са святарскага роду. Яны і бацька знайшлі капліцу на пратэстанцкіх могілках, і ўлады дазволілі заснаваць царкву.

**АС:** *Атрымліваецца, што вера вызначае нацыянальнасць?*

**АЛ:** Не зусім так. У Эльблёнгу праз нейкі час царкоўным старастам стала беларуска-каталічка, муж якой быў праваслаўным. Калі беларусы-каталікі пайшлі ў польскі касцёл і сталі палякамі, яна як беларуска стала наведваць разам з беларусамі праваслаўную царкву. Дарэчы, яе сын стаў праваслаўным святаром і служыць у Амерыцы, але спецыяльна прылятаў дадому, каб мне даць шлюб у Супраслі.

Адна мая бабуля, Ядвіга, была каталічка, а другая, Еўдакія, – баптыстка. Прычым і яна, і дзед Іван спярша перайшлі з праваслаўя ў пяцідзясятнікі. Калі яны пераехалі ў Беласток, дзе не было дома малітвы пяцідзясятнікаў, бабуля пайшла да баптыстаў. І там ёй спадабалася. А вось мая мама Вера не пайшла за бацькамі і засталася праваслаўнай. Так што з маёй верай не ўсё проста. З бабуляй-каталічкай я хадзіў у каталіцкі касцёл, яшчэ калі быў лацінскі абрад. Але

хрысцілі мяне, як і ўсіх Латышонкаў, у праваслаўнай царкве. У царкву хадзіў з бацькамі, а ў касцёл – з бабуляй. Потым, калі вырас, то ўжо сам суправаджаў яе ў касцёл, бо яна не была ў стане дайсці туды адна. А бабуля-баптыстка казала, што доўга жыве, бо мусіць нас у сапраўдную веру навярнуць *[смяецца]*.

У доме ўсе безупынна дыскутавалі на рэлігійныя тэмы, а я меў доўгі перыяд атэізму. Ён быў справакаваны якраз тым, што спачатку мы святкавалі Раство Хрыстова па-каталіцку для бабулі, а потым па-праваслаўнаму абраду – для ўсёй сям'і. І я ўжо ў 14 гадоў стаў атэістам, бо не мог зразумець, чаму Хрыстос двойчы нарадзіўся. Я думаю, што на маю беларускасць праваслаўе ніяк не паўплывала. Пераважала нацыянальная лінія.

**АС:** *Давай вернемся ў Ягелонскі ўніверсітэт ў 1976 г. Складана было там вучыцца?*

**АЛ:** Я закончыў універсітэт у 1980 г., бо нам скарацілі навучанне да чатырох гадоў, у якія ўпіхнулі пяцігадовую праграму. Вучыцца было даволі складана, але побач са мной былі незвычайныя людзі, якія сапраўды жылі гісторыяй. Толькі з майго курсу выйшла пяць прафесараў. Мы ўвесь час гаварылі пра гісторыю, чым бы ні займаліся. Важна і тое, што мелі вельмі добрых настаўнікаў, а найлепшым быў прафесар Юзаф Героўскі[1]. Гэта была Асоба. Найперш ён уражваў сваімі ведамі. Прафесар быў спецыялістам па гісторыі саскай эпохі ў Польшчы[2]. Я запісаўся на яго семінар, і ўсе мы, чалавек дваццаць, палюбілі прафесара. Ён меў лёгка-іранічны тон. На жаль, не маю літаратурнага таленту, каб распавесці пра яго. Падчас ваеннага становішча, калі я ўжо не вучыўся, ён стаў рэктарам універсітэту. Героўскі кіраваў без людскіх страт. Ён не дазваляў камуністам актыўна ўмешвацца ў акадэмічнае жыццё. Тое становішча ў Польшчы было намнога мякчэйшае, чым сёння ў Беларусі. Але ж і той час патрабаваў вялікай адвагі. Героўскі – гэта ўзор грамадзяніна, гісторыка і чалавека. Прычым ён не быў постаццю з помніка, а хутчэй належаў да тыпу сарматаў з той самай саскай эпохі, пра якую пісаў *[смяецца]*.

Але найперш мы сябравалі з аспірантамі і малодшымі выкладчыкамі. Часамі заседжваліся з імі ў піўных, але яны ведалі, што мы не падвядзем і да заняткаў будзем падрыхтаваны. Вельмі добра іх успамінаю. Усе сталі вядомымі

---

1 Юзаф Героўскі (Józef Andrzej Gierowski, 1922–2006) – польскі гісторык, прафесар, рэктар Ягелонскага ўніверсітэту (1981–1987). Аўтар 380 навуковых публікацый, у тым ліку некалькіх манаграфій. Напрыклад, *Między saskim absolutyzmem a złotą wolnością. Z dziejów wewnętrznych Rzeczypospolitej w latach 1712–1715* (1953) lub *Historia Włoch* (1986).

2 Гаворка ідзе пра першую палову XVIII ст, калі на чале Рэчы Паспалітай знаходзіліся каралі з саксонскай дынастыі Ветынаў Аўгуст II (1697–1733) і Аўгуст III (1733–1763).

гісторыкамі. Напрыклад, Чэслаў Бжоза[1], Анджэй Леан Сова[2], які тады займаўся XVIII стагоддзем, а пасля перайшоў на найноўшую гісторыю. Не ведаю, ці варта ўсіх называць... Пра наш курс казалі, што ён незвычайны. Наступны, які ішоў за намі, таксама быў вельмі добры, але менавіта мы задавалі тон. Нас прынялі на навучанне больш за сто чалавек. Частка пазней адпала, але з тых, хто застаўся, выйшла шмат выдатных людзей. Можа, гэта касмічная радыяцыя паўплывала?! *[Смяецца.]*

Таксама ў нас выкладаў прафесар Уладзіслаў Серчык[3]. Я хацеў запісацца на яго семінар па гісторыі Усходняй Еўропы, але ён не прыняў мяне, бо на маім курсе не вёў семінара. Потым быў перыяд, калі мне не хацелася вучыцца, і я з вялікім спазненнем вярнуўся ва ўніверсітэт пасля канікул *[смяецца]*. Вярнуўся і даведаўся, што мяне запісалі да прафесара Кульчыкоўскага[4], які вёў семінар з гістарычнай дэмаграфіі і статыстыкі Галіччыны, куды ўсе баяліся ісці. У выніку я напісаў магістарскую працу на 300 старонак! *[смяецца]*. Палову склалі табліцы, зробленыя па матэрыялах аўстрыйскай статыстыкі. Пісаць было не вельмі цікава, але працу я зрабіў і не шкадую. Гэты семінар дапамог зразумець хаця б тое, што хлусня дзеліцца на звычайную, нахабную і... статыстыку *[смяецца]*. Тым не менш, лічу дэмаграфію каралевай усёй гісторыі. Уважлівае вывучэнне дэмаграфічных працэсаў дапамагае зразумець прычыны шмат якіх з'яў, напрыклад апошніх балканскіх войн, ці грамадскіх перамен, напрыклад, чаму так пабольшала роля жанчын у грамадстве і якія гэта будзе мець наступствы.

**АС:** *Калі ты зацікавіўся гісторыяй Беларусі?*

**АЛ:** Падчас навучання я пачаў чытаць кніжкі па гісторыі Беларусі. У Ягелонскай бібліятэцы было шмат рарытэтаў, у тым ліку датычных беларускай мінуўшчыны. І я паступова пачаў думаць, што ўсё тое, што бацька гаварыў пра вельмі цікавую гісторыю Беларусі, можа, і праўда. У хаце, калі ён пачынаў каза-

---

1 Чэслаў Бжоза (Czesław Brzoza, 1947 г. нар.) – польскі гісторык, прафесар навук гуманістычных (2002). Даследчык найноўшай гісторыі Польшчы. Аўтар манаграфій *Reforma rolna w województwie krakowskim (1945–1948)* (1988), *Polityczna prasa krakowska 1918–1939* (1990) ды інш.

2 Анжэй Леан Сова (Andrzej Leon Sowa, 1946 г. нар.) – польскі гісторык, прафесар навук гуманістычных (2013). Даследчык гісторыі Рэчы Паспалітай XVIII ст. і гісторыі XIX ст., аўтар падручнікаў *Historii Polski 1918–1945* (2006) oraz *Historii politycznej Polski 1944–1991* (2011).

3 Уладзіслаў Серчык (Władysław Serczyk, 1935–2014) – польскі гісторык, прафесар, аўтар шматлікіх кніг, прысвечаных гісторыі Украіны і Расіі, у тым ліку падручніка *Historia Ukrainy* (1979, 1990, 2001, 2009).

4 Марыюш Кульчыкоўскі (Mariusz Kulczykowski, 1932–2018) – польскі гісторык, прафесар, аўтар манаграфіі *Andrychowski ośrodek płócienniczy w XVIII i XIX wieku* (1972).

ць пра «вялікую гісторыю», мы з сястрой пачыналі насмешліва дэкламаваць «Мой родны кут, як ты мне мілы…» *[смяецца]*. Я не верыў у бацькавы аповеды, верыў у падручнікі, у якіх не было Беларусі, не было змагання за Беларусь, ніякай «вялікай гісторыі» не было. Трохі можна было пра яе даведацца толькі з паэзіі. Тады якраз выйшла гісторыя Беларусі Марцэлі Космана[1]. Гэта была салідная кніга, але і яна не прываблівала да беларускай мінуўшчыны. Трапляліх таксама старыя выданні, якія нам ужо дазвалялі чытаць. Гэта былі працы розных вядомых гісторыкаў, у тым ліку пра Вялікае Княства Літоўскае. Паволі пачаў разумець, што была ў нас гісторыя, якую скралі *[смяецца]*. А ў 1980-я гг. да нас ужо даходзілі кнігі з Беларусі.

Памятаю, як нехта са студэнтаў запытаў мяне, як гэтае слова будзе па-беларуску, а я не ведаў. Напісаў тады дадому, і мне прыслалі ўсе школьныя падручнікі. Я ведаў мову, але граматыку толькі пасля гэтага вывучыў. Я ж ніколі не хадзіў у беларускую школу, нават не вывучаў мову яе як прадмет.

**АС:** *Твае студэнцкія гады прыйшліся на перыяд праўлення Эдварда Герка?*

**АЛ:** Так, тая эпоха сама па сабе цікавая, але гэта ўжо асобная тэма. Хоць памалу мы таксама пачалі цікавіцца палітыкай. Помню, думалі стварыць падпольную вызвольную арганізацыю *[смяецца]*. Нас трох было, планавалі прыняць чацвёртага, але ён напалохаўся, так што арганізацыі не стварылі. Але тады ўжо ў нас дзейнічаў Студэнцкі комітэт самапомачы (СКС) на чале з Браніславам Вільдштайнам[2]. Ён быў для мяне героем таго часу. Сярод нас былі і камуністы. З майго курсу выйшлі як будучы кіраўнік усяго польскага харцэрства, так і старшыня агульнапольскай камуністычнай студэнцкай арганізацыі.

**АС:** *Як ты сёння ацэньваеш тагачасны ўзровень адукацыі на гістарычным факультэце Ягелонскага ўніверсітэту?*

**АЛ:** Ён быў намнога вышэйшы, чым цяпер. Па-першае, на тыя студыі было вельмі цяжка трапіць, і там вучыліся найлепшыя. Тады вышэйшую адукацыю атрымлівала каля 7% выпускнікоў школ, а цяпер – больш за палову. Некаторыя сцвярджаюць, што тады ішлі на гісторыю толькі тыя, хто хацеў рабіць кар'еру ў камуністычнай краіне, але я не згодны. Мы ж ведаем прыклад прэзідэнта Камароўскага, які закончыў гістарычны факультэт, таксама там вучыўся прэм'ер Дональд Туск. У тыя часы на гісторыю ішлі тыя, хто ў тагачасных абставінах не мог займацца палітыкай, бо не хацеў служыць «камуне», але спадзяваўся прынамсі з гісторыі даведацца, як гэтую палітыку рабіць. Мне цяжка параўноўваць, як справа выглядае цяпер, бо не выкладаю ў Кракаве, але з таго, што сябры гавораць, то такой моладзі ўжо няма, альбо яе вельмі мала.

---

[1] Марцэлі Косман (Marceli Kosman, 1940–2023) – польскі гісторык, прафесар, аўтар падручніка *Historia Białorusi* (1979).

[2] Браніслаў Вільдштайн (Bronisław Wildstein, 1952 г. нар.) – дзеяч антыкамуністычнай апазіцыі, публіцыст, пісьменнік.

**АС:** *Наколькі камуністычная ідэалогія ўплывала на навучанне?*

**АЛ:** У мінімальнай ступені. Вядома, што гісторыя Польшчы пасля Другой сусветнай вайны была моцна ідэалагізаваная, але яна зусім не нагадвала гісторыю КПСС у Савецкім Саюзе. Лічу, што нас вучылі нармальна.

**АС:** *Была магчымасць чытаць антысавецкую літаратуру?*

**АЛ:** Так, але «падпольна». Тады яна ўжо хадзіла па руках. Мы мелі кантакт з «падпольшчыкамі». Да нас нават прыязджалі студэнты-апазіцыянеры з Ольштына, звязаныя са Студэнцкім камітэтам салідарнасці і з неафіцыйнымі часопісамі. Пры Эдварду Герку за гэта ў турму ўжо не саджалі, усё было напаўлегальна. А як мы скончылі, то ўжо быў перыяд «Салідарнасці», і ўсё памянялася.

**АС:** *Калі прыйшло жаданне займацца гісторыяй як навукай? Звычайна гэта адбываецца падчас навучання…*

**АЛ:** Я вельмі хацеў вярнуцца дадому ў Беласток і не думаў пра навуковую кар'еру ў Кракаве. Хоць ўсе былі перакананыя, што я застануся. Адзін сябра нават думаў, што я дзеля гэтага запісаўся на семінар прафесара Кульчыкоўскага, які быў дэканам і камуністам. Але я не застаўся, і ніхто не можа сказаць, што я змагаўся з дэмаграфіяй Галіцыі дзеля кар'еры *[смяецца]*. А ў Беластоку засталіся сябры і сям'я.

**АС:** *А што было ў Беластоку? Дзе ўладкаваўся на працу?*

**АЛ:** З працай былі праблемы. Урэшце мама знайшла мне працу ў Супраслі ў тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі. Я выкладаў гісторыю, а таксама сацыялогію, псіхалогію, арганізацыю працы і палітычныя навукі. Аднак доўга там не працаваў, бо было ўведзена ваеннае становішча, і мяне арыштавалі за падпольную дзейнасць.

**АС:** *А калі гэтая дзейнасць пачалася?*

**АЛ:** Адразу як вярнуўся. Наогул, мае палітычныя погляды сфарміраваліся ў студэнцкія гады. На атмасферу маіх студыяў вельмі паўплывала тое, што на першых ювеналіях, падчас свята студэнта быў забіты студэнт-апазіцыянер Станіслаў Пыяс. Следчая справа па пошуку забойцаў зацягнулася. І гэта пэўным ценем лягло на ўсе наступныя гады ва ўніверсітэце. Ювеналіі больш не былі такімі вясёлымі. Пасля забойства Пыяса была дэманстрацыя студэнтаў, якія зладзілі шэсце ў чорным аддзенні са свечкамі. Але ў палітыку мы яшчэ не пайшлі, хоць я нават думаў, каб запісацца ў той Студэнцкі камітэт самапомачы. Агульны настрой быў супраць улады, аднак, як я ўжо сказаў, і на маім курсе былі некаторыя ўпэўненыя камуністы. Нават я нейкі час лічыў, што ўсё ідзе добра. Толькі на студыях пачаў разумець, што «геркаўскі росквіт» можа марна скончыцца. Мы пра тое таксама дыскутавалі. Тым больш, што некаторыя выкладчыкі вельмі крытычна выказваліся.

**АС:** *Ты выкладаў у тэхнікуме і не думаў пра навуку?*

**АЛ:** Не, мне спадабалася думка, што буду настаўнікам. Мае вучні былі добрымі і паслухмянымі, не тое, што сённяшняя моладзь. Некаторыя былі

старэйшыя за мяне або ў маім узросце, адзін нават меў жонку і дзіця. Я ж яшчэ малады быў, хадзіў разам з імі на заняткі па каратэ і на баскетбол. Я іх добра ўспамінаю, і яны мяне таксама.

**АС:** *Ты быў арыштаваны ўжо як настаўнік?*

**АЛ:** Так, акурат перад атэстатам сталасці маіх вучняў, калі ўсе рыхтаваліся.

**АС:** *І колькі ты прасядзеў у турме?*

**АЛ:** Восем месяцаў.

**АС:** *Восем месяцаў… Як ты гэта вытрымаў?*

**АЛ:** Вытрымаў, бо ў нейкім сэнсе быў падрыхтаваны. Я ўсё жыццё быў дзесьці за домам. У дзяцінстве цяжка хварэў і два разы па восем месяцаў лекаваўся далёка ад дому. Як меў дзевяць гадоў, правёў восем месяцаў у санаторыі ў Цяпліцах Шлёнскіх-Здруй (Cieplice Śląskie-Zdrój) і пасля яшчэ раз – восем месяцаў. Гэта акурат на другім канцы Польшчы, і бацькоў бачыў толькі раз у месяц. Усё гэта прывучыла мяне да выжывання і прыстасоўвання да ўсіх магчымых варункаў.

Калі нас арыштавалі, я не думаў, што гэта надоўга. Разлічваў выйсці праз 48 гадзін. За сцяной сядзеў сябра, з якім мы вырашылі, што не будзем прызнаваць віны. Гэта падказаў рэцыдывіст, які сядзеў са мной. Ён даведаўся ад мяне, што падчасператрусу нічога ў мяне не знайшлі і параіў не прызнаваць сваёй віны. Я не прызнаў, і гэта вельмі палегчыла маю сітуацыю, бо калі ты не прызнаўся, то быў ужо добры для ўсіх і нават для турэмнай службы. Як не прызнаўся, то значыць будзеш *кірачь чай*[1] *і нічым не пераймацца [смяецца]*. І наглядчыкі ў такую камеру маглі ўжо не заглядаць.

Спачатку мы сядзелі з забойцамі. Нас пасадзілі з найгоршымі, каб зламаць. Але гэтыя крымінальныя лічылі сябе таксама ахвярамі камунізму і добра да нас ставіліся. Сітуацыя была абсалютна супрацьлеглая той, якая была ў савецкіх турмах. Да таго ж, гэта быў яшчэ арышт, і тыя забойцы ні ў чым не прызнаваліся. Са мной сядзеў нават трохразовы забойца. Я пра сябе падумаў, што ён забіваў дзеля рабунку, дык няўжо ж ён мяне заб'е дзеля зубной шчоткі? Так сябе супакойваў. Потым нас ужо трымалі разам паводле артыкулаў абвінавачвання. У камеры былі толькі «палітычныя». Мы «кіралі чай», займаліся літаратурнай творчасцю, шмат чыталі. У турэмнай бібліятэцы былі добрыя кнігі. Апрача таго пасля трох месяцаў арышту нам стала значна лягчэй, бо дазволілі перадаваць кнігі і ежу. Гэта быў 1982 год. А потым нас звольнілі, бо суд прызнаў нас невіноўнымі.

**АС:** *Суд прызнаў невіноўнымі?! І гэта падчас ваеннага становішча?*

**АЛ:** Так, бо пракуратура грунтавалася на паказаннях тых, каго зламалі. А яны на судзе адклікалі свае паказанні. Суд прыняў рашэнне, што калі няма

[1] *Чай* у польскім турэмным слэнгу – тое самае, што ў беларускім *чыфір* – высокаканцэнтраваная заварка гарбаты, якая дзейнічае лёгка ўзбуджальна. *Кірацць чай* значыць піць *чыфір*.

ні матэрыяльных доказаў, ні паказанняў пра злачынства, то значыць, невінаватыя. Цікава, што калі нас везлі на суд, то ўся турма глядзела і думала, што гэта за банда? Нас было дваццаць чалавек. Усе ў кайданках, кожнага пільнаваў міліцыянт са зброяй. Там быў цэлы ўзвод міліцыі! Турма думала, што гэта нейкая страшная банда *[смяецца]*. А як нас увялі ў судовую залу, а туды толькі бацькоў пусцілі, то такі ўзняўся плач...

**АС:** *Ты выйшаў з турмы ў канцы 1982 г. Ці меў праблемы з працаўладкаваннем?*

**АЛ:** У Беластоку не меў працы, таму вярнуўся ў Кракаў.

**АС:** *Няўжо там не звярнулі ўвагу на тваё турэмнае мінулае?*

**АЛ:** Звярнулі, але дазволілі працаваць у музеі, а пасля ва ўніверсітэце. У Музеі горада Кракава трапіў у аддзел змагання палякаў супраць акупацыі падчас Другой сусветнай вайны. Праз год мяне прынялі ва ўніверсітэт, і там я займаўся гісторыяй эміграцыі з Беларусі. Так атрымалася, што прафесар Анджэй Брожак[1] якраз шукаў спецыяліста па беларускай эміграцыі. Ён даследаваў эміграцыю палякаў у Злучаныя Штаты Амерыкі, але імкнуўся пашырыць даследаванні на беларусаў і ўкраінцаў. Хтосьці з маіх былых выкладчыкаў, якія з ім супрацоўнічалі, прапанаваў запрасіць на гэтую працу мяне.

**АС:** *У цябе была добрая англійская мова?*

**АЛ:** Так, я размаўляў вельмі добра. Мяне парэкамендавалі, бо прафесар не меў сваіх аспірантаў, таму што сам быў з Катовіц. Гэта быў Інстытут даследаванняў Палоніі. Таксама можна здзіўляцца, як такому як я дазволілі вывучаць эміграцыю! Зусім па-іншаму было, чым сёння ў Беларусі. Намеснік дырэктара Інстытута не хацеў мяне прымаць на працу, казаў, што мне не дадуць пашпарту і не пусцяць за мяжу. Але рэктарам быў Героўскі, які загадаў мяне прыняць.

Праца была файная. Я вучыў замежных студэнтаў польскай гісторыі, знаёміў з культурай Польшчы. У Інстытуце яны вучыліся на курсах польскай мовы, гісторыі і культуры год альбо два. Пераважна гэта былі маладыя палякі замежжа, якія па розных справах прыязджалі ў Польшчу. Некаторыя ехалі вучыцца, напрыклад, на медычныя студыі. Студэнтаў было шмат. Многія вывучылі польскую мову і культуру і вярталіся дадому. Таксама былі сапраўдныя замежнікі. Памятаю, што на зломе 1980-х і 1990-х гг. прыехалі студэнты з Паўднёвай Карэі. Пасля выступлення „Салідарнасці» ў свеце паўстала вялікая цікавасць да Польшчы. Карэйцы зразумелі, што пасля трансфармацыі ў Польшчы польская мова адкрывае новы рынак. Я з імі ўжо не працаваў, бо ў 1990 г. мяне паслалі ў Амерыку вывучаць беларускую эміграцыю.

---

1 Анджэй Брожак (Andrzej Brożek, 1933–1994) – польскі эканаміст і гісторык, прафесар (1988). З 1979 г. працаваў у Інстытуце даследаванняў Палоніі Ягелонскага ўніверсітэту.

Але яшчэ раней, у 1985 г., я першы раз паехаў у Лондан да айца Аляксандра Надсана[1]. Праз шмат гадоў, у 1999 г., атрымаў стыпендыю Ланцкароньскіх[2] і зноў пасяліўся ў а. Аляксандра. У Лондане сярод беларусаў я адчуваў сябе як дома. Пазнаёміўся з усімі лонданскімі беларусамі. Гэта былі вельмі файныя людзі. Айцец Надсан сам па сабе цікавая постаць. Сапраўдны святар, чалавек незвычайнай дабрыні, але й вялікіх ведаў. Лічу, што папа рымскі вельмі яго пакрыўдзіў, не прызначыўшы грэка-каталіцкім епіскапам у Беларусь. Быў там яшчэ айцец Кастусь Маскалік, які лічыў, што грэка-каталіцкая беларуская царква на чужыне павінна прыцягваць перш за ўсё рыма-католікаў, а не праваслаўных[3]. Я вельмі палюбіў спадара Янку Міхалюка[4], які тады шмат рабіў для ўсёй беларускай справы ў Вялікабрытаніі. А калі высветлілася, што спадарыня Лёля Міхалюк[5] сядзела за адной партай з маім бацькам у Шаркаўшчыне, то я там ужо адразу стаў «сваім» *[смяецца]*.

У 1990 г. я атрымаў стыпендыю фонда Івана Любачкі[6] і паехаў у Амэрыку на паўгода. А там даведаўся, што Вітаўт Кіпель[7] ужо напісаў пра беларускую эміграцыю ў Амерыцы. Дакладней, ён заканчваў працу над сваёй кнігай і даў

[1] Айцец Аляксандр Надсан (1926–2015) – беларускі грэка-каталіцкі святар, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы. Заснавальнік і кіраўнік бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лондане (1971). Старшыня Беларускага камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі ў Вялікабрытаніі (з 1989). Ганаровы доктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільня). Пераклаў з грэчаскай і царкоўнаславянскай моў на беларускую значную частку корпуса ўсходніх літургічных тэкстаў. Аўтар больш за 250 навуковых публікацый, кніг па гісторыі Беларусі і гісторыі беларускага хрысціянства XX ст, малітоўніка «Госпаду памолімся» (2002), які з'яўляецца афіцыйным тэкстам набажэнстваў Беларускай грэка-каталіцкай царквы. Вызначыў год выдання «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны (1522), а таксама расчытаў і ўвёў у навуковы ўжытак аль-кітабы беларускіх татараў.

[2] Польская акадэмія майстэрства (Polska Akademia Umiejętności) прызначае стыпендыі для навуковых даследаванняў у Рыме, Вене, Лондане ды іншых буйных навуковых цэнтрах Еўропы, [online] https://pau.krakow.pl/index.php/pl/dzialalnosc/stypendia-fundacji-lanckoronskich, [data dostepu: 28.05.2024].

[3] Кастусь Маскалік (1918–2010) – грэка-каталіцкі святар.

[4] Янка Міхалюк (1922–1995) – старшыня Згуртавання Беларусаў ў Вялікабрытаніі (1970–1995).

[5] Алена (Лёля) Міхалюк (1930–2022) – старшыня Згуртавання Беларусаў ў Вялікабрытаніі (1997–2013).

[6] Фонд імя Івана Любачкі (англ.: Ivan S. Lubachko Fund) – навуковая і грамадска-культурная арганізацыя беларускай эміграцыі ў ЗША.

[7] Вітаўт Кіпель (1927–2022) – беларускі грамадскі і культурны дзеяч у эміграцыі, гісторык. Аўтар кнігі *Беларусы ў ЗША* (Мінск 1993).

мне пачытаць. Я не вельмі шкадаваў, бо з 1987 г. пачаў займацца гісторыяй Станіслава Булак-Балаховіча. Замову на такую кнігу я атрымаў ад Пятра Багроўскага, які быў актыўным дзеячам сярод беларускіх студэнтаў і выступаў за аднаўленне Беларускага аб'яднання студэнтаў[1]. Ён мне сказаў: «Алег, хлопцам патрэбныя героі. Варта напісаць пра Булак-Балаховіча» *[смяецца]*.

У Амерыцы наведваў заняткі па англійскай мове, каб яе не забыць, бо там зрэдку па-англійску размаўляў. Калі стыпендыя закончылася, прыйшоў развітацца, а дамініканка, якая там са мной вучылася, запыталася: «Чаму ты развітваешся?» – Кажу: «На Бацькаўшчыну еду» (ужо не тлумачыў, што гэта за Бацькаўшчына). А яна кажа: «Але ты ў Амерыцы!» Я ў адказ: «Але ў маёй краіне будзе рэвалюцыя». Яна махнула рукой: «Мужчыны!..» *[смяецца]*.

**АС:** *Вярнуўся ў Кракаў?*

**АЛ:** Не, я меў наступную стажыроўку ў Менску. А праз тыдзень сапраўды выбухнула рэвалюцыя. Калі я прыехаў у Менск, там адбываліся першыя дэманстрацыі пад бел-чырвона-белымі сцягамі.

**АС:** *Ці ты сачыў за пераменамі ў Беларусі?*

**АЛ:** Я прымаў у іх удзел, можна так сказаць *[смяецца]*. Беларусь была для мяне адкрыццём на ўвесь свет… Мы ўжо душыліся на Беласточчыне, бо ўсё пра ўсіх ужо ведалі. Прайшлі яе пехатою падчас розных паходаў – *рэйдаў*, як мы іх называлі. А з пераменамі ў Беларусі быццам вырваліся на шырокі родны прастор. Ой, там шмат чаго адбывалася! Ужо на пачатку 1990-х гг. мы, беластоцкія, увайшлі ў кантакт з беларускімі палітыкамі, з Зянонам Пазьняком[2]. Безупынна ездзілі ў Беларусь на ўсе тыя соймы, кангрэсы, з'езды і дэманстрацыі. Падзеі ў Беларусі мелі вялікі ўплыў на мяне і на ўсіх нас, беластоцкіх. Мы адчулі, што гэта наша Бацькаўшчына і наш лёс.

**АС:** *Наконт лёсу… Слухаю цябе і думаю, што твой шлях у гістарычную навуку – гэта не столькі твая ініцыятыва, колькі наканаванне ці лёс. Ён цябе скіроўваў у навуку, а ты доўгі час супраціўляўся [смяецца].*

**АЛ:** Так, менавіта лёс. Мне быццам было наканавана стаць навукоўцам. Змалку ўсе разумелі, што я буду прафесарам, так казалі *[смяецца]*. Але свайго паклікання я доўга не разумеў.

**АС:** *Сапраўды, ты супраціўляўся з усіх сіл [смяецца]. Але ўрэшце здаўся.*

**АЛ:** Ну, а што было рабіць? *[Смяецца.]*

**АС:** *Якое значэнне для цябе мела даследаванне Булак-Балаховіча і яго войска? Моладзі быў патрэбны герой, і ты стварыў героя?*

---

1 Беларускае аб'яднанне студэнтаў (БАС) – беларуская арганізацыя студэнтаў у Польшчы, якая займаецца грамадска-культурнай, асветніцкай, выдавецкай і турыстычнай дзейнасцю. Заснавальніцкі сход адбыўся 14 красавіка 1988 г. у Варшаве.

2 Зянон Пазьняк (1944 г. нар.) – беларускі археолаг і гісторык, літаратар і мастак-фатограф, палітык. Кандыдат мастацтвазнаўства. Адзін з заснавальнікаў Беларускага народнага фронта і кіраўнік фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII склікання.

**АЛ:** Нейкім чынам – так, але найважнейшым для мяне ў той працы быў не Балаховіч, а яго жаўнеры[1]. Я паказаў, як шмат людзей змагаліся за Беларусь. У гістарыяграфіі пра гэта ж нічога не было. І я калісьці думаў, што не было ніякага змагання, што ўсё стварылі камуністы, але як пачаў займацца Балаховічам, то зразумеў, што гэта не так. Пра змаганне за Беларусь у часы Другой сусветнай вайны ўжо ведалі, бо прыходзіла літаратура з Захаду і жылі людзі, якія ўдзельнічалі ў той барацьбе. Але пра перыяд змагання за незалежнасць БНР пісалі трохі толькі Мікалай Сташкевіч[2] і Анатоль Грыцкевіч[3]. Думаю, што панарама тагачаснага змагання за Беларусь – гэта маё дасягненне. Для мяне таксама было важна зразумець, што за Беларусь змагаліся і жыццём плацілі тысячы людзей. Што датычыць Станіслава Булак-Балаховіча, то як гісторык разумею, што гэта быў авантурыст. Не пашанцавала ў адным, то заняўся нечым іншым, напрыклад, абаронай БНР. Ён герой у тым сэнсе, што быў вядомай постаццю ў гісторыі, але Балаховіч не быў героем змагання за Беларусь.

**АС:** *Ты сваю дысертацыю абараніў у 1995 г., маючы амаль 40 гадоў жыцця. Атрымаўся даволі позні старт у навуку…*

**АЛ:** Я вярнуўся ў Беласток і заняўся палітыкай. Гісторыю эміграцыі не дапісаў, бо памёр прафесар Брожак, дый яе ўжо напісаў Кіпель, але фактычна я кінуў гэтыя даследаванні яшчэ раней. Мусіў вярнуцца, бо быў кіраўніком Беларускага дэмакратычнага аб’яднання, адзінай палітычнай партыі нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Займаўся палітыкай, а гісторыю пісаў пры нагодзе. Працаваў у Музеі войска, дырэктарам якога быў мой сябра. Яму даносілі, што я не працую, толькі газеты чытаю, а ён не рэагаваў. *[смяецца]*. Якраз тады заканчваў сваю кнігу пра беларускіх жаўнераў.

**АС:** *Дысертацыю абараняў у Кракаве?*

**АЛ:** Не, у Торуні. Зноў лёс умяшаўся. *[смяецца]*. У Цэнтральным вайсковым архіве сустрэў сяброў, якіх ведаў з навуковых канферэнцый. Збігнеў Карпус[4] сказаў, што яго сябра Вальдэмар Рэзмер[5] павінен мець абароненага

---

1 Гаворка пра кнігу: O. Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923*, Białystok 1995. Таксама, гл.: [online] https://kamunikat.info/zhawnery-bnr-latyshonak-aleg, [дата доступу: 9.06.2024].

2 М. С. Сташкевіч (1938–2011) – савецкі і беларускі гісторык, даследчык гісторыі першых гадоў БССР. Доктар гіст. навук, прафесар.

3 А. П. Грыцкевіч (1929–2015) – савецкі і беларускі гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар (1987). Даследчык гісторыі Беларусі перыяду феадалізму, а таксама Слуцкага паўстання 1920 г.

4 Збігнеў Карпус (Zbigniew Karpus, 1954 г. нар.) – польскі гісторык вайсковай справы, прафесар, аўтар кнігі *Wschodni sojusznicy Polski w wojnie 1920 roku: oddziały wojskowe ukraińskie, rosyjskie, kozackie i białoruskie w Polsce w latach 1919-1920* (1999).

5 Вальдэмар Рэзмер (Waldemar Rezmer, 1949 г. нар.) – польскі гісторык вайсковай справы, прафесар, аўтар манаграфіі *Armia «Poznań» 1939* (1992).

кандыдата навук, каб атрымаць прафесарскі тытул. Адпаведна ён паклапаціўся б пра мяне. Мне стала цікава, бо Торуньскага асяродка я не ведаў. Пагадзіўся і абараніўся ў Торуні. Габілітацыю таксама ў Торуні зрабіў. У Кракаве пакрыўдзіліся, бо мог у кагосьці з кракаўскіх сяброў абараніцца *[смяецца]*, але я не шкадую. Пазнаёміўся і пасябраваў з вельмі цікавым торуньскім гістарычным асяродкам.

**АС:** *Чаму ў свае 40 год ты адыйшоў ад палітыкі і пайшоў нарэшце шляхам навукі?*

**АЛ:** Зразумеў, што тут ні да чаго дайсці немагчыма, не дадуць.

**АС:** *У дэмакратычнай краіне немагчыма?*

**АЛ:** Ай! *[смяецца]*. Але ж не беларускай *[смяецца]*.

**АС:** *У беларускай яшчэ больш немагчыма.*

**АЛ:** Я ведаю, таму і перастаў займацца. Пэўны ўплыў на гэтае рашэнне меў Юрка Туронак[1], наш ментар як у гісторыі, так і ў палітыцы. Юрка ў размове са мной сказаў: «Алег, даруй сабе ўжо, лепей гісторыяй займіся». Гэтая размова адбылася дзесьці ў 1993 г. Пасля яе я стварыў Беларускае гістарычнае таварыства (БГТ). Яго першым старшынёй стаў Антон Мірановіч[2], бо меў ужо абароненую кандыдацкую дысертацыю, а я быў толькі магістрам. Зараз БГТ мае восем прафесараў! Мы вельмі ўзмацніліся.

Тады я таксама адмовіўся быць старшынёй Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, але палітыка зноў мяне ўцягнула на некалькі гадоў у 1997 г. Шмат часу забраў у мяне Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь, а таксама стварэнне *Радыё Рацыя*. Фактычна зноў не мог займацца навукай. Для мяне як гісторыка было шчасцем, што не стаў намеснікам беластоцкага ваяводы. Хоць у горадзе некаторыя ўжо віталіся са мной «Дзень добры, пане Воеводо». Але тагачасная ваявода заўпарцілася і заявіла, што беларус стане намеснікам, толькі калі яна стане трупам. Якраз тады я здабыў той самы грант Фонда Ланкаронскіх і паехаў у Лондан да айца Надсана. У «Скарынінцы» я напісаў сваю частку *Гісторыі Беларусі*[3], суаўтарам якой быў Яўген Мірановіч[4].

---

[1] Юрка Туронак (Jerzy Turonek, 1929–2019) – польскі і беларускі гісторык, грамадскі дзяяч, аўтар *Białoruś pod okupacją niemiecką* (1989, 1993) ды інш.

[2] Антон Мірановіч (Antoni Mironowicz, 1959 г. нар.) – польскі гісторык, прафесар, беларускі грамадскі дзяяч. Аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі праваслаўнай царквы, напрыклад, *Kościół prawosławny w dziejach dawnej Rzeczypospolitej* (2001).

[3] O. Łatyszonek, E. Mironowicz. *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku*, Białystok 2002. Гл. таксама: [online] https://kamunikat.org/gistoryya-belarusi-adsyaredziny-xviii-st-i-da-nashaga-chasu-latyshonak-aleg-miranovich-yawgen, [дата доступу: 09.06.2024].

[4] Яўген Мірановіч (Eugeniusz Mironowicz, 1955 г. нар.) – польскі і беларускі гісторык, прафесар, беларускі грамадскі дзеяч. Аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі Бела-

Потым першае *Радыё Рацыя* заняпала. Адначасова новы рэктар Беластоцкага ўніверсітэта схаваў у шуфляду пастанову ўніверсітэцкага сената аб стварэнні Інстытута беларусістыкі. Папярэдні рэктар прафесар Адам Ямруз[1] здабыў на гэта вялікія сродкі ў сталіцы. Іх хапала на 40 працоўных месцаў у Інстытуце беларусістыкі з дадатковай літуаністыкай. Інстытут беларусістыкі і Інстытут усходнеславянскіх моў павінны былі стварыць Усходні калегіум, на ўзор створанага раней у Любліне. Усе планы парушыў адыход Ямруза. Ён паходзіў з Малапольшчы і лічыў сябе вучнем Ежы Гедройця, таму стварыў па яго прапанове Кафедру беларускай культуры, якую пасля таксама зліквідавалі. У рэшце рэшт судовы працэс над беластоцкай газетай «Ніва» паказаў, што ў барацьбе супраць нас выкарыстоўваліся не толькі дазволеныя законам, але і недазволеныя метады. Беларуская палітыка памерла, а я мог падрыхтаваць габілітацыйную дысертацыю[2].

**АС:** *Ці паўплывалі на тваю навуковую дзейнасць палітычныя перамены ў Беларусі, пра якія мы ўжо згадвалі? Ці яны змянілі твае ацэнкі постацяў беларускай гісторыі, напрыклад, Каліноўскага? Пытаюся пра яго, бо, здаецца, найбольш беларуска-беларускіх спрэчак вакол гісторыка Латышонка звязана якраз з тваімі ацэнкамі асобы Каліноўскага.*

**АЛ:** Я люблю правакаць дыскусіі, асабліва калі сам не перакананы або не ведаю. Цяпер ужо трохі гэтага асцерагаюся, але люблю. Калісьці напісаў пра Каліноўскага, што ён паляк. Я напісаў гэта, фактычна, нічога пра яго не ведаючы Як кій у мурашнік усадзіў… Некаторыя і праз 30 гадоў мяне дакараюць за гэта. *[смяецца]*. Не разумеюць, што чалавек можа памяняць погляды. Ведаю гісторыка, які казаў, што ведае пра свае памылкі, але ніколі не прызнаецца ў іх. Я не з такіх. Калі ведаю, што памыліўся, дык прызнаюся ў гэтым. Але наконт Каліноўскага апошнім часам я зноў засумняваўся, ці быў ён беларусам. Безумоўна, ён быў ліцвінам, што трэба разумець як рэгіянальны тып паляка. Да якой ступені гэтую ліцвінскасць можна лічыць тоесным беларускасці – справа надалей дыскусійная.

**АС:** *Тваё навуковае жыццё хоць і пачалося з пэўным спазненнем, але было і ёсць вельмі багатым на падзеі. Што ў гэтым жыцці было найвялікшым расчараваннем, а што прыносіла радасць і задавальненне?*

---

русі і беларусаў у Польшчы, напрыклад, кніг *Białorusini w Polsce 1944–1949* (1993) і *Wojna wszystkich ze wszystkimi. Białoruś 1941–1944* (2015).

1 Адам Ямруз (Adam Jamróz, 1945 г. нар.) – польскі юрыст і палітолаг, прафесар, першы рэктар Беластоцкага ўніверсітэта (1997–2002), сенатар, суддзя Канстытуцыйнага трыбуналу (2003–2012).

2 O. Łatyszonek. *Od Rusinów Białych do Białorusinów. U źródeł białoruskiej idei narodowej*, Białystok 2006. Гл.: [online] https://kamunikat.org/od-rusinow-bialych-do-bialorusinow-latyszonek-oleg, [дата доступу: 09.06.2024].

**АЛ:** *[пасля паузы]* Цяжка разважаць у такіх катэгорыях. Самае вялікае расчараванне – тое, што мы не здолелі стварыць сваёй Беларусі, і яе цяперашні крызіс. Гэта мая штодзённая роспач. На Беласточчыне найбольшым расчараваннем было тое, што нам не дазволілі стварыць Інстытут беларусістыкі ў Беластоцкім універсітэце. Калі я вяртаўся з Кракава ў 1991 г., то быў перакананы, што такі інстытут узнікне. Мне таксама прыкра, што не давялося выкладаць у беларускім універсітэце, мець беларускіх студэнтаў і навуковых выхаванцаў. І ведаю, што ўжо гэтага не будзе.

**АС:** *Што прыносіла радасць і задавальненне?*

**АЛ:** Радасць – гэта сям'я і сябры. Перажываў пэўную эйфарыю на рубяжы 1980–1990-х гг. Вельмі люблю даследаваць гісторыю. Кожны артыкул, які лічу добрым, дае мне задавальненне. Вялікая радасць рабіць адкрыцці і пісаць пра гэта. Я шчаслівы, што маю такое хобі – гісторыю Беларусі. Магу гэтым займацца, і за гэта мне яшчэ і плацяць.

**АС:** *Ці можна разважаць пра пэўную місію навукоўца?*

**АЛ:** Я калісьці меў пачуццё місіі, але ўжо пазбыўся яго. Раней думаў, што як даследчык маю місію данесці беларусам іх гісторыю. Першую навуковую працу пра жаўнераў БНР напісаў на палітычную замову. *[смяецца]*. Але цяпер я так не думаю. Цяпер я разумею, што мы, гісторыкі, вельмі мала можам, што наша праца мае невялікае значэнне ў палітычным вымярэнні барацьбы за незалежную Беларусь. Кожны павінен на сваім месцы рабіць як найболей, але я ўжо не маю веры, што народ збудуе такую Беларусь, якую я хачу. А калісьці меў веру і палітычна змагаўся, пісаў з надзеяй, што дам беларусам веды пра іх мінулае, і гэта нешта зменіць. Цяпер нават не лічу, што можна сапраўдную гісторыю Беларусі напісаць. Калі я з'язджаў вучыцца ў Кракаў, бацька сказаў мне «Едзь, сынку, і вучыся. Ты напішаш сапраўдную гісторыю Беларусі». Дык што ж значыць «сапраўдная» гісторыя Беларусі? Столькі пытанняў… Столькі недаследаванага… За што не возмешся, аказваецца, што было інакш, чым пішуць самыя вялікія мэтры гістарычнай навукі. Я пішу пра тое, што мне самому цікава, прычым не трымаюся адной тэмы. Кожная мая кніга тэматычна адрозніваецца ад папярэдніх, і так будзе надалей. Калі ж хопіць жыцця і сілы напісаць гісторыю Беларусі, то гэта будзе не нейкая «сапраўдная» гісторыя, а толькі мая.

**АС:** *Ты фактычна жывеш і працуеш у межах дзвюх гістарыяграфічных традыцый –польскай і беларускай. Паспрабуй іх параўнаць. Чым адрозніваюцца сёння польская і беларуская гістарыяграфіі?*

**АЛ:** Перш за ўсё, гэтыя гістарыяграфіі знаходзяцца на розных этапах развіцця. Калі беларусы вяртаюць памяць пра шляхту, палякі прыгадваюць незайздросны лёс прыгоннага мужыка. Пра беларускую гістарыяграфію наогул цяжка гаварыць, ці яна існуе. Ёсць беларускія гісторыкі, але ці ёсць гістарыяграфія, не ўпэўнены. Мы ж нават не ведаем, хто напісаў першы нарыс гісто-

рыі Беларусі на беларускай мове ў выдадзеным у 1863 г. школьным падручніку *Расказы на белорусском наречии*. Лічу гэта ганьбай для ўсіх нас – беларускіх гісторыкаў. Польская гістарыяграфія заўсёды была наперадзе, калі размова пра метадалогію. Тое самае, дарэчы, можна сказаць і пра ўкраінскую. Украінцы, дзякуючы Гарварду[1] і Альберцкаму ўніверсітэту[2], вельмі прасунулі наперад сваю гістарычную навуку. У беларусаў такога асяродка на Захадзе няма, таму першае, што можна сказаць пра беларускую гістарыяграфію, – што яна метадалагічна адсталая. Праўда, апошнім часам і польская гістарычная навука мае з гэтым праблемы. Маю на ўвазе тое, што новыя метадалагічныя падыходы прапануюць не гісторыкі, а, напрыклад філосафы і сацыёлагі, што надзвычай цікава.

Мы ўсё яшчэ ствараем нацыянальную гістарыяграфію, а гэта значыць, што знаходзімся недзе паміж XIX і XX стагоддзямі. У выніку тыя маладыя даследчыкі, якія без ведання гісторыі Беларусі вучацца на Захадзе і пераймаюць новыя метадалогіі, без падмурка нацыянальнай гісторыі таксама не здолеюць нічога разумнага зрабіць. Дарэчы, нешта падобнае адбываецца і з літоўскімі маладымі гісторыкамі, якія вучацца на Захадзе і не ведаюць, напрыклад, польскай мовы. Для мяне гісторык Вялікага Княства Літоўскага, які не ведае польскай мовы, гэта нешта, проста вартае жалю.

Беларусам яшчэ шмат чаго трэба зрабіць. Я разумею, што не можна апярэдзіць час. Калі ў нас адсутнічае фактаграфічны падмурак, то што мы можам сказаць свету? Якія новыя даследчыя метадалогіі мы можам прапанаваць? Я заўсёды разумеў, што мы павінны займацца фактаграфіяй. Не будзем яе ведаць, нічога новага не створым.

**АС:** *Але ж гэта ўсё яшчэ этап пазітывізму?*

**АЛ:** На жаль. У нармальнай дзяржаве за гэтыя 30 гадоў вельмі шмат можна было б зрабіць. Але беларускія гісторыкі пераследуюцца і шукаюць паратунку за мяжою. Што тут скажаш…

**АС:** *Дзякуй, Алег, за цікавую размову. Можа, варта падумаць пра ўласныя ўспаміны?*

**АЛ:** Але ж я ўжо нічога не помню. *[смяецца]*. Я не вёў дзённік, з памяці ўжо не напішу, а калі пайду ў архівы, то гэта ўжо будуць не ўспаміны. Ды яшчэ столькі задуманых кніжак! Пакуль мне цікавей даследаваць, чым успамінаць…

Беласток, 15 верасня 2023 г.

---

1 Украінскі навуковы інстытут Гарвардскага ўніверсітэта (*Ukrainian Research Institute at Harvard University*). Быў заснаваны ў 1973 г.

2 Канадскі інстытут украінскіх доследаў пры Альберцкім універсітэце ў Эдмонтон (*Canadian Institute of Ukrainian Studies*). Быў заснаваны ў 1976 г.

ISSN 2424-5216

# НІНА СТУЖЫНСКАЯ: «ПОВЯЗЬ ЧАСОЎ НІКОЛІ НЕ ПЕРАРЫВАЕЦЦА...»

**АС:** *Спадарыня Ніна, Вы – вядомая даследчыца антысавецкага супраціву першых гадоў існавання БССР. А як пачынаўся ваш шлях у навуку? Як атрымалася, што вы сталі гісторыкам? Чаго больш у гэтым: выпадковасці ці наканаванасці?*

**НС:** Безумоўна, выпадковасць мела месца. Напрыклад, маё дзяцінства прайшло ў Казахстане, у казахскім ауле, які называўся Сёмы аул. А вось прычыны, па якіх туды трапілі мае бацькі, я змагла асэнсаваць толькі тады, калі стала прафесійным гісторыкам. Бацькі паехалі ў Казахстан на хвалі засваення цалінных зямель, у 1957 г. Я нарадзілася ў канцы 1955 г. і засталася з бабуляй у вёсцы Глінная Слабада Калінкавіцкага раёна (цяпер Рэчыцкі раён), а праз год бацькі мяне забралі ў Казахстан. Мама распавядала, што калі яны прыехалі, а ёй быў 21 год на той момант, то жылі ў сям'і казахаў. І, канешне, атрымалі культурны шок, бо гэта была абсалютна іншая традыцыя сямейнага і хатняга жыцця. Казахі – вельмі гасцінныя людзі, але ўявіце, што жылі яны ў зямлянцы з самана, які складаўся з гліны, саломы і кізяка (засушанага навозу).

Сёмы аул быў падзелены на тры часткі. У адной жылі казахі, для якіх спаконвеку гэта была родная зямля. У другой – былыя ссыльныя ці іх нашчадкі. Пераважна гэта былі немцы, украінцы, палякі і беларусы, хто ў розныя часы трапіў туды з еўрапейскай часткі колішняй Расійскай, а потым Савецкай імперыі. А яшчэ быў раён, шчыльна забудаваны баракамі. Я не адразу тады ўцяміла, што барак можа быць домам. Пазней, калі пачала вывучаць гісторыю сталінскіх рэпрэсій, то зразумела, што ў тых бараках размяшчалі людзей, якіх выпускалі з Экібастузлага[1] на вольнае пасяленне. Ім не дазвалялася вяртацца ў еўрапейскую частку. На працягу сваёй прафесійнай кар'еры я сустракала людзей, якія былі ў тым лагеры, і ў нас, не паверыце, былі агульныя ўспаміны. Яны добра ведалі Сёмы аул і часам мелі настальгію па тых часах. Я нават у Беларусі сустракала тых, хто ўдзельнічаў у паўстанні[2] ў Экібастузскім лагеры. Іх

---

1 Экібастузскі лагер (Дальні лагер ці Асобны лагерь № 11) быў створаны ў 1952 г. на базе шостага аддзялення Пясчанага лагера з цэнтрам ў пасёлку Экібастуз Паўладарскай вобл. Праіснаваў да мая 1954 г., потым ізноў стаў аддзяленнем Песчанага лагера.

2 Гаворка ідзе пра падзеі, якія называюць «Экібастузскай забастоўкай». Вечарам 22 студзеня 1952 г. зняволеныя 1-га лагаддзялення пачалі ламаць плот вакол барака ўзмоцненага рэжыму, у якім катавалі зняволеных. Наглядчыкі схаваліся, але з вуглавых вежаў лагера быў адкрыты кулямётны агонь па зоне, якая нават не ведала пра гэтыя падзеі. 24 студзеня зняволеныя абвясцілі забастоўку-галадоўку. Яны патрабавалі перагляду спраў і змякчэння рэжыму ўтрымання, суда над віноўнікамі расстрэлу ды інш. Падобна, што гэта была апошняя масавая галадоўку ў сталінскім ГУЛАГу. Яе за-



лёс быў звязаны з антысавецкай партызанкай, у якой змагаліся іх бацькі.

**АС:** *А што было з Вашай нацыянальнай ідэнтыфікацыяй? Кім вы сябе адчувалі ў гэтым «вавілоне» розных народаў?*

**НС:** Памятаю, што пра сваю беларускую нацыянальнасць даведалася у першым класе, калі мне было 6 гадоў. Я прыйшла запісвацца ў школьную бібліятэку. Казашка, якая там працавала, запаўняла маю анкету і запыталася пра нацыянальнасць. Я разгубілася. Яна пытаецца: «Руская?» Я адказала, што ўдакладню ў мамы. Пабегла праз увесь аул да нашага дома. Мама вырашыла пытанне: «Мы беларусы». Я вярнулася і кажу цётцы: «Я беларуска». Гэта ўрэзалася ў памяць, можа, таму, што я заўсёды адчувала сваю нацыянальную прыналежнасць.

Калі мяне прывезлі з Гліннай Слабады, я размаўляла на мясцовай гаворцы, «па-глінянску». Тады нашай сям'і далі пакойчык у інтэрнаце, і ўвесь дом прыходзіў мяне паслухаць. Усе лічылі, што я размаўляю па-беларуску *[смяецца]*, хаця гэта быў такі мясцовы дыялект. Дарэчы, у Малых і Вялікіх Аўцюках, якія часам называюць «беларускім Габрава», вяскоўцы окалі: «пОйшоў», «казОў», «гнОў» (пра карову). А ў суседнім Замосці (13 км ад Гліннай Слабады), адкуль паходзіла мая маці, наогул не лічылі глінянцаў беларусамі і ставіліся да іх з пэўнай пагардай. Мы з Валянцінай Лебедзевай[1] спрабавалі знайсці прычыны гэтых моўных асаблівасцяў, але не атрымалася нешта канкрэтнае высветліць. Памятаю, як прыйшла прадставіцца віцэ-прэзідэнту Акадэміі навук Івану Навуменку, а ён, паслухаўшы мяне, гаворыць: «Вы не беларусы». Віцэ-прэзідэнт яшчэ аспірантам вывучаў у нашых трох вёсках (Вялікія і Малыя Аўтюкі і Глінная-Слабада) мясцовыя гаворкі і ўжо тады звярнуў увагу на адрозненне гаворкі глінянцаў ад літаратурнай беларускай мовы і моўнага асяроддзя навокал. Ёсць розныя версіі паходжання глінянцаў. Нехта сцвярджае, што туды прыйшоў «раскол» з Расіі, так тлумачыў і І. Навуменка. Мы ж з Валянцінай Лебедзевай гэту версію адкінулі адразу. Іншыя тлумачаць асаблівасці ўплывам украінскай мовы. Памятаю, як мой дзед Павел Севярын (Севярын –

кончылі вечарам 26 студзеня. Улады абяцалі прысласць камісіі з Караганды, Алма-Аты і Масквы, каб разабрацца ў трагічных падзеях.

[1] В. М. Мятліцкая (Лебедзева) (1955–2022) – беларускі гісторык, вядучая даследчыца жыцця і творчасці М. Доўнар-Запольскага, даследчыца гісторыі Гомеля і Гомельшчыны. Працавала ў Гомельскім універсітэце.

гэта маё дзявочае прозвішча) казаў, што яго сям'я прыйшла з захаду. А калі я трапіла ў Пінск, то даведалася пра цэлую калонію тамтэйшых Севярынаў. Дзед яшчэ намагаўся распавесці мне пра паход С. Булак-Булаховіча, «пра бандытаў». Генерал дзейнічаў якраз у тых мясцінах, ствараў сялянскі полк. Але ж у мяне розуму не хапіла яго паслухаць. Усе ж, як дурныя, вучылі гісторыю КПСС. А дзед быў прыгожы і разумны мужчына, служыў пры царскай стаўцы ў Магілёве.

**АС:** *Разумею, што гэтыя размовы з дзедам адбываліся ўжо пазней.*

**НС:** Так, у часы майго студэнцтва.

**АС:** *Давайце вернемся ў Казахстан, у Вашу школу...*

**НС:** Сярэдняя школа № 33 была адметная сярод гарадскіх сярэдніх установаў. Калектыў настаўнікаў складаўся ў асноўным з былых рэпрэсаваных, якіх было нямала ў Казахстане. Я вельмі ўдзячная ім за добрую школьную падрыхтоўку. У той час Сёмы аул стаўся пасёлкам Ленінскім і ўвайшоў у межы Паўладара, хоць быў на левым беразе Іртыша. Настаўнікамі былі ў асноўным высланыя ў 1930–1940-я гады немцы з Паволжа і Закаўказзя. Апошнія лічыліся «арыстакратамі» нават у замкнёнай суполцы аула. Матэматыку выкладаў Вільгельм Эмануілавіч Кромер, нямецкую мову – Цыцылія Іванаўна Кромер. Выдатным хімікам была Эльфрыда Адольфаўна Кремер. Захоўваю добрую і ўдзячную памяць пра іх. Немцы давалі добры прыклад захоўвання сваёй ідэнтычнасці. Некаторыя старэйшыя наогул не размаўлялі па-расійску. Я гэта ведаю, бо наш дом суседнічаў з нямецкімі. Раніцай разам выганялі кароў у стэп. Добрыя гаспадары, яны таксама мелі падвор'е і, дарэчы, жылі небагата, як усе мы. Але гаспадаркі і сем'і ў іх былі ўзорныя. У тых сціплых умовах яны стараліся даць дзецям разнастайную адукацыю. Дзеці, як правіла, хадзілі ў музычную школу. Дамы і падворкі былі чыстымі, упрыгожанымі кветачкамі. Немцы жылі замкнёна. У мяне ў класе было шмат сяброў-немцаў. З імі можна было сябраваць, але шлюбы ў іх былі толькі паміж сваімі. Канешне, мы не ведалі ўсяго, што яны перажылі, і як там апынуліся. Але мая школьная сяброўка Света неяк распавядала пра сваю маму, якая доўга хавала нямецкую нацыянальнасць, двойчы выходзіла замуж і змяняла прозвішча, бо калісьці была асуджана па нейкім страшным крымінальным артыкуле і працавала на лесапавале.

У нацыянальным плане наша школа была вельмі адметная. Разам са мною навучаліся дзеці карэйцаў, чачэнцаў, немцаў, крымскіх татар, усіх тых, каго рэпрэсіі закінулі ў казахскі стэп. З таго часу я заўсёды пазітыўна стаўлюся да розных нацыянальнасцяў і культур. Я добра вучылася. На агульных сходах мяне заўсёды ставілі ў прыклад іншым. Асабліва добра было з матэматыкай. Маё паступленне на гістарычны факультэт у пэўным сэнсе было выпадковым.

**АС:** *А як гісторыя выкладалася ў школе?*

**НС:** Памятаю, што настаўнік быў нікчэмны, былы партыйны функцыянер, які ўвесь час распавядаў пра «лінію партыі». У мяне быў асаблівы інтарэс

зразумець, што вакол адбываецца. У 16 гадоў я планавала паступіць на юрыдычны факультэт і марыла працаваць следчым, лавіць злачынцаў, але ўсё атрымалася па-іншаму, дзякуй Богу. Пасля заканчэння школы паехала і паступіла ва ўніверсітэт у Карагандзе. Гэта каля 400 км ад Паўладара, што па мерках Казахстана даволі блізка. Гэты ўніверсітэт паўстаў з педагагічнага інстытута, што было характэрна для таго часу[1]. Караганда – гэта буйны прамысловы і шахцёрскі цэнтр. Я паехала туды, бо нашы нямецкія суседзі далі адрас цёткі Фрыды, якая жыла ў пасёлку Міхайлаўка. Дарэчы, той пасёлак заснавалі ссыльныя немцы з Паволжа. Прыехала паступаць, а там вялізны конкурс на юрыдычны факультэт. Даведалася пра мясцовую чыноўную і партыйную «мафію», чые дзеці павінны былі вучыцца на юрыстаў. Зразумела, што шанцаў паступіць не маю, і падала дакументы на гісторыю.

**АС:** *Вы не выбралі матэматыку?*

**НС:** Не. Дарэчы, Вільгельм Эмануілавіч быў моцна расчараваны. Памятаю, што падчас навучання казаў: «Я ніколі не верыў, прабачце, у жаночыя мазгі, але Ніна мацнейшая». Ён падцягваў майго суседа нямецкага хлопчыка Віктара Гембуха да выдатніка, але я заўсёды яго абыходзіла. Настаўнік казаў, што маю неардынарнае мысленне. А тут раптам гісторыя. Ён пакрыўдзіўся і нават не хацеў глядзець у мой бок.

**АС:** *Можна зразумець, бо гэта ж савецкая гісторыя, а ваш настаўнік, відаць, добра разумеў яе ідэалагічную сутнасць. Што ўразіла ў першы студэнцкі год?*

**НС:** Здаецца, найбольш уразіў нацыянальны аспект. Я яшчэ дома адчувала пэўны канфлікт паміж расійскамоўным насельнітцвам Сёмага аула («белымі», як называлі нас казахі) і казахамі. Ён распальваўся канкрэтнымі людзьмі, і за ім стаялі пэўныя колы і пэўныя інтарэсы. Напрыклад, я не атрымала залаты медаль за школьнае навучанне, бо нехта распусціў чуткі, што нібыта выказвала пагарду да вялікага казахскага народа. На медаль цягнулі дзяўчынку-казашку, з якой я сябравала. Дзеці, не разумелі канфліктаў на нацыянальнай глебе.

**АС:** *Што гэта за канфлікт?*

**НС:** У нашым ауле былі людзі, зацікаўленыя ў распальванні варожасці. Некаторыя з іх адкрыта маркіраваліся як нацыяналісты. Гэта быў 1972 г., у газетах пісалі пра «процветающий интернационализм» і «общность советских людей», а на самой справе «міна» нацыянальнага канфлікта была ўжо закладзена. Думаю, што яе закладалі таксама людзі, якія прайшлі праз сталінскія лагеры і мелі моцнае пачуццё крыўды на ўладу. Тое самае назірала ў Карагандзе. Пазней зразумела, што паступіла ва ўніверсітэт толькі дзякуючы таму,

[1] Карагандзінскі дзяржаўны ўніверсітэт быў створаны ў 1972 г. пастановай ЦК КП Казахстана і Савета Міністраў КазССР.

што пашчасціла здаваць экзамены расійскамоўным выкладчыкам. Ужо тады адчуваўся выразны падзел. У нас была як расійскамоўная група, так і група казахаў, але заняткі былі агульнымі, па-руску. І толькі спецкурсы выкладаліся для казахскай групы на роднай мове. Казахская мова была дыскрымінавана. Некаторыя з г. зв. вялікаросаў правакавалі канфлікт, выказваючы пагарду да мясцовых людзей. Не памятаю, каб гэта рабілі немцы, беларусы, украінцы ці эстонцы. Апошнія часам распавядалі сямейныя гісторыі і адкрыта абураліся савецкай уладай, якая знішчала іх сем'і і народы. Мой аднакурснік эстонец Валера Лаане, старэйшы ў групе (яму было 25 год), галасна абвінačваў СССР у гібелі паловы эстонцаў.

На першым курсе нас спачатку пасялілі ў вялікай зале. Сярод нас былі чатыры казашкі і чатыры расійскамоўныя дзяўчыны: дзве немкі паходжаннем, адна малдаванка і я. На першы погляд усё было мірна і спакойна, але аднойчы падчас нейкай пабытовай спрэчкі мы пачулі ад аднакурсніцы-казашкі: «Вас сюды ніхто не клікаў, а вашыя заводы нікому не патрэбныя. Вы сапсавалі нашу зямлю. Мы і надалей вандравалі б па сваіх стэпах. Вам тут няма чаго рабіць». Ішоў 1973 г., і гэта казала студэнтка, чые бацькі былі школьнымі настаўнікамі. Нацыянальныя ці нацыяналістычныя памкненні найперш абудзіліся ў прадстаўнікоў казахскай «сярэдняй інтэлігенцыі» і іх дзяцей. Казахскага настаўніка нельга параўнаць з беларускім суперлаяльным да ўлады школьным работнікам.

У такой атмасферы было няпроста вучыцца. Да таго ж, я трапіла ў спіс «неблаганадзейных», бо на нейкім сходзе абурылася тым, што нас абавязалі набыць спартовыя касцюмы на першамайскую дэманстрацыю. Для нашага бюджэту гэта быў вялізны цяжар. Мяне залічылі ў «пратэстоўцы», і я палічыла за лепшае забраць дакументы і з'ехаць з Караганды. На наступны год я ўладкавалася на гістарычным факультэце у Беларускім дзяржаўным ўніверсітэце, які тады насіў імя Леніна. Канешне, было страшнавата. Прыехала ў абсалютна незнаёмы горад. Але на маім шляху трапіліся добрыя людзі. Прыйшла да дэкана Іраіды Восіпаўны Царук. Яна як асцярожны чалавек параіла спачатку звярнуцца ў Міністэрства вышэйшай адукацыі. Але перад гэтым я наведала прарэктара па вучэбнай частцы. Той паглядзеў на мяне, на мой акадэмічны ліст і сказаў: «Няма чаго беларускай дзяўчынцы рабіць у гэтых казахскіх стэпах. Ідзі ў Міністэрства, а я ім патэлефаную. Яны падпішуць заяву, і будзеш у нас вучыцца». Так яно і сталася.

**АС:** *Ці ўдзельнічалі бацькі ў Вашым «беларускім выбары»?*

**НС:** Мае бацькі – гэта звычайныя вясковыя людзі, якія былі вырваны са свайго асяродку. Паехалі на заробкі, бо вярбоўшчыкі тады добра працавалі. Мы з мамай вырашылі, што калі я застануся ў Менску, то і сям'я вернецца ў Беларусь.

**АС:** *Якія былі ўражанні ад гістарычнага факультэту ў Менску?*

**НС:** Я прыйшла на другі курс, і мне трэба было дасдаваць шмат прадметаў, якія вывучаліся на першым. Студэнты спачатку насцярожана глядзелі на мяне, на госця з-за Урала. І там я таксама заўважыла пэўны падзел. Былі дзяўчаты з сямей міністраў і чальцоў ЦК КПБ, якія трымаліся трохі паасобку. Па-беларуску размаўляў толькі наш агульны знаёмы Мікола Нікалаеў[1]. Міністэрскія дзеці крывілі губы і казалі: «Ну вот, снова этот ненормальный язык». Мікола і да мяне падыходзіў, але потым страціў цікавасць. Я яго моўна не падтрымала, бо папросту не ведала беларускай мовы, калі б ён узяўся мяне вучыць, – іншая справа.

У першым семестры на другім курсе мяне вучыў Лаўрэнці Абецадарскі[2]. Мне пра яго хлопцы шмат распавялі яшчэ калі ў верасні нас вывезлі ў калгас «на бульбу». Абецэдарскі падняў мяне ўжо на першай лекцыі: «Якое галоўнае пытанне кожнай рэвалюцыі?» Я знянацку пацiснула плячыма, а ён закрычаў: «Паглядзіце на яе! Яна паціскае плячыма! Гэта гісторык!?» І панеслася: «Хто такая? Адкуль?» Кажу: «Я перавялася з Казахстана, з Караганды». – «А, ну сядай. Тут дурняў хапае ...»

Дарэчы, я здавала яму экзамен па гісторыі Беларусі за першы курс, і менавіта тады атрымала адзіную «тройку» за ўсе гады навучання. Абецадарскі выкладаў вельмі схематычна. Стараўся закласці ў нашы галовы пэўны прасавецкі і прарасійскі канструкт. А яшчэ прымушаў даслоўна завучваць выразы і не дадаваць у іх свае думкі і словы. Ён запытаў мяне пра галоўны сэнс Новай эканамічнай палітыкі ў СССР. Я пра ўсё распавяла, але не сказала таго, што ён паўтараў на лекцыі пра «смычку рабочых і сялян». Атрымала толькі «тройку». Потым я перасдавала гэты курс, каб атрымаць дыплом з адзнакай.

З іншых выкладчыкаў хачу згадаць Давіда Барысавіча Мельцэра[3], з якім нават пасябравала. Ён чытаў курс гісторыі заходніх славян і быў вельмі цёплым і прыемным чалавекам. Памятаю Льва Міхайлавіча Шнеерсона[4] з катэгорыі старых прафесараў, узровень якіх быў недасягальны для пакалення выкладчы-

[1] М. В. Нікалаеў (1955 г. нар.) – беларускі і расійскі гісторык, спецыяліст па гісторыі кніжнай культуры. Доктар філалаг. навук. Адзін з заснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, а таксама Беларускага грамадска-культурнага аб'яднання ў Пецярбургу. Працуе загадчыкам аддзела рэдкай кнігі ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы.

[2] Л. С. Абецадарскі (1916–1975) – савецкі і беларускі гісторык. Доктар гіст. навук. Аўтар прац па гісторыі Беларусі другой паловы XVI–XVII стст., руска-беларускіх адносін, антыфеадальнай барацьбы народных мас. Быў вядомым савецкім ідэолагам на «гістарычным фронце».

[3] Д. Б. Мельцэр (1925–2022) – савецкі і беларускі гісторык-славіст. Доктар гіст. навук, прафесар.

[4] Л. М. Шнеерсон (1910–1999) – савецкі і беларускі гісторык-германіст. Доктар гіст. навук, прафесар, дэкан гістарычнага факультэта БДУ, загадчык кафедры новай і найноўшай гісторыі БДУ.

каў 1990-х гг. Калі Шнеерсон ішоў па калідоры, то ўсе з пашанай расступаліся. Узгадваю таксама прафесара Рыгора Маркавіча Трухнова[1], які запомніў мяне на абароне дыпломнай працы. Кіраўніком дыплома быў Пётр Кузьміч Краўчанка. У тыя гады ён чытаў у нас спецкурс па г. зв. палітычнаму бандытызму. Ён прыносіў са спецсховішчаў стос такіх забароненых у тыя часы выданняў, як напрыклад, кнігі генерала Дзянікіна. Па яго падказцы я ўзяла тэму «палітычнага бандытызму» ў Беларусі. Праца атрымалася добрая, бо ў конкурсе дыпломных праектаў яна атрымала першую ўзнагароду. Праўда, на абароне былі вострыя спрэчкі.

**АС:** *Як жа Вы працавалі над такой тэмай у савецкі час? Гэта ж табуіраваная тэма.*

**НС:** Не трэба думаць, што ў тыя часы не было навуковай літаратуры. Па-першае, была дысертацыя Аляксея Ісаевіча Сідарэнкі[2] *Классовая борьба в белорусской деревне в первый год восстановительного периода (1921)*, абароненая ім у 1950 г. Да гэтага часу не разумею, як яе прапусціла цэнзура. Гісторык паказаў, што ўся Беларусь была ахоплена сялянскімі паўстаннямі. Праца захоўвалася ў бібліятэцы ўніверсітэта. Там якраз працавала жонка Краўчанкі (між іншым, яна паходзіць з роду Стужынскіх), якая дапамагала падабраць літаратуру для маёй дыпломнай працы. Таксама у той час з'явіліся грунтоўныя даследаванні Вадзіма Круталевіча[3]. Яны мелі непазбежныя ў той час ідэалагічныя абмежаванні, але абапіраліся на багатую базу крыніц. Апрача таго, я працавала ў Цэнтральным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і знайшла цікавыя дакументы.

Дыпломную працу я абараніла на «выдатна». Гэта адыграда сваю ролю на дзяржаўным экзамене па гісторыі КПСС, да якога я кепска была падрыхтавана. Добра запамінаю толькі тое, у чым ёсць логіка, а там яе не было. Ніяк не магла адрозніць матэрыялаў аднаго з'езда ад другога. Хаця ў Карагандзе быў выдатны выкладчык па гісторыі КПСС, і мяне яго курс зацікавіў. А вось у БДУ такога не аказалася. Дарэчы, у Карагандзе палітэканомію выкладаў спецыяліст, які крытычна ставіўся да савецкай эканомікі. Там наогул было значна больш свабоднай думкі, чым у Менску.

**АС:** *Няўжо ў Казахскай ССР было больш свабоды, чым у Беларускай?*

**НС:** Думаю, што там сапраўды было больш свабоды. Своеасаблівая фронда ішла зверху ад першага сакратара Камуністычнай партыі Казахстана Д. Кунаева. Казахам пашчасціла на партыйнага кіраўніка. Дзякуючы яму быў пэўны

---

1 Р. М. Трухноў (1908–1986) – савецкі і беларускі гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар.

2 А. І. Сідарэнка (1914–1980) – савецкі і беларускі гісторык, дэкан гістарычнага факультэта БДУ (1953–1955).

3 В. А. Круталевіч (1922–2006) – савецкі і беларускі гісторык. Доктар юрыд. навук, прафесар.

лібералізм у грамадскім і культурным жыцці. Памятаю, маладая казашка выкладала ў нас гісторыю Казахстана, і мы павінны былі зразумець, што Казахстан – гэта «пуп зямлі», што менавіта тут жылі і жывуць найлепшыя людзі, што нам пашчасціла апынуцца ў Казахстане. Масква дазваляла такую «вольнасць», бо баялася выбуху нацыяналізма. А ў Беларусі я чытала падручнік аўтарства Абецадарскага і не бачыла розніцы паміж расійскай і беларускай гісторыяй. Складвала пачуццё, што ў беларусаў наогул не было свайго мінулага.

**АС:** *Вы закончылі гістарычны факультэт на «выдатна» і атрымалі накіраванне ў аспірантуру?*

**НС:** Так, але аспірантура была для «міністэрскіх дзяцей». Са мной, напрыклад, вучылася Галя Петрыкава, дачка дырэктара Інстытута гісторыі Акадэміі навук Пятра Ціханавіча Петрыкава. Яна збіралася ў аспірантуру, а такім, як я, там не было месца. І я паехала настаўніцай у вёску Пекары Маладзечанскага раёну. Але там не аказалася стаўкі настаўніка, і ў раённым аддзеле адукацыі для мяне таксама нічога не знайшлі. Я вярнулася ў Менск і пайшла ў Міністэрства адукацыі, бо спадзявалася атрымаць «вольную». Але намеснік міністра патэлефанаваў у Маладзечна, і стаўка для мяне знайшлася. Давялося яшчэ і нямецкую мову выкладаць. У выніку раённы аддзел адукацыі пачаў мне помсціць бясконцымі праверкамі, якія я неяк вытрымала. Праз год райкам камсамола прапанаваў мне працу на пасадзе сакратара камсамольскай арганізацыі ў адной з прафесійна-тэхнічнай вучэльняў Маладзечна. Я пагадзілася. Дзеля гэтага давялося ўступаць ў КПСС. Кандыдатам у чальцы КПСС я стала на партыйным сходзе калгаснікаў, дзе палова партыйцаў былі ў той незабыўны вечар п'янымі. У вучэльні я працавала сакратаром, але таксама выкладала гісторыю. Адпрацавала свае тры гады, вярнулася ў Менск і паступіла ў аспірантуру Інстытута гісторыі Акадэміі навук. Я адчувала сябе здольнай да выкладчыцкай і навуковай працы. У той аспірантуры былі выбітныя людзі. Памятаю Алеся Беляцкага[1], Віктара Ганчара[2] і яго жонку Зінаіду, Паўла Лойку[3] і Валянціна Голубева[4]. Тая аспірантура дала выдатных навукоўцаў розных спецыяльнасцяў, а яшчэ – вядомых палітыкаў і грамадскіх дзеячаў.

**АС:** *Хто быў Вашым навуковым кіраўніком?*

---

[1] А. В. Бяляцкі (1962 г. нар.) – беларускі праваабаронца, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна». Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру за 2022 г.

[2] В. І. Ганчар (1958–1999) – кандыдат юрыд. навук, дацэнт, беларускі палітык. Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарам і правядзенню рэферендумаў (1996). Дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Рэспублікі Беларусь (1990–1996).

[3] П. А. Лойка (1958–2010) – беларускі гісторык. Кандыдат гіст. навук, дацэнт, аўтар і складальнік школьных падручнікаў.

[4] В. Ф. Голубеў (1955 г. нар.) – беларускі гісторык. Доктар гіст. навук. Дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Рэспублікі Беларусь (1990–1996).

**НС:** Мне пашчасціла. Кіраўніком навуковай працы быў акадэмік Іларыён Мяфодзьевіч Ігнаценка[1]. Я вельмі ўдзячная гэтаму чалавеку і думаю, калі б выконвала яго жыццёвыя парады, лепш бы склалася мая навуковая кар'ера. Ён быў рэаліст і сапраўдны беларус, хоць і не беларускамоўны. Ён да мяне вельмі добра ставіўся. Магчыма, сваю ролю адыграла і тое, што мы з ім землякі. Пад яго кіраўніцтвам я напісала дысертацыю «*Савецкая гістарыяграфія Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі*».

Памятую, што даследчыцкая праца ўнесла пэўнае безладдзе ў маю галаву. Паміж працамі 1920-х гг. і пазнейшай савецкай літаратурай назіраўся глыбокі дысананс. «Творцы Кастрычніка» пісалі, напрыклад пра ваенны пераварот, а ў часы «развітога сацыялізму» навукоўцы ўслаўлялі «Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю». Калегі паралілі: «Не звяртай увагі, што тады напісана. Глядзі апошнія публікацыі па гэтай тэме, інакш абароны ў цябе не будзе». Потым пэўны час лічыла, што напісала нікому не цікавую працу, але зараз думаю, што ёсць патрэба наноў прааналізаваць літаратуру і апублікаваныя крыніцы пра рэвалюцыю (пераварот) і Грамадзянскую вайну. Добра памятаю, як напісала першы артыкул і прынесла яго ў рэдакцыю часопіса «Весці Акадэміі навук», а рэдактарка пачытала, запытала, хто мой кіраўнік, і параіла спачатку яму паказаць, бо ў спасылках зашмат яўрэйскіх імёнаў (?!). Я з маім казахстанскім выхаваннем і не заўважыла, якой нацыянальнасці былі тыя аўтары. Быццам трапіла пад халодны душ і зразумела наяўнасць цэнзуры.

**АС:** *Гэта першая публікацыя была нейкім расчараваннем?*

**НС:** Хутчэй перажыла каласальнае здзіўленне. Я ведаю, што ў тыя гады ў інстытутах і ўніверсітэтах быў прыхаваны антысемітызм. Калі-нікалі гартаю сваю працу і думаю, што найбольшай увагі там заслугоўвае першая частка, менавіта аналіз літаратуры 1920-1930-х гг., якая пісалася «па гарачых слядах». Там было шмат эмоцый і менш фальшавання гісторыі. У той літаратуры было шмат тэзісаў, якія разыходзіліся з ідэалогіяй позняга СССР.

**АС:** *А калі Вы адчулі розніцу паміж навукай і ідэалогіяй?*

**НС:** Калі ўжо выходзіла на абарону. Дарэчы, я абаранялася ў Кіеве, у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Украінскай ССР. У Менску тады не было Навуковай рады па абароне прац па гістарыяграфіі. І я, няшчасненькая, цягалася ў Кіеў можа пяць раз на год, пачынаючы з вясны 1985 г. Было складана, бо была ўжо цяжарная сынам. Сутыкнулася там з карупцыяй, з патрабаваннем нейкіх падарункаў. Мне яшчэ пашчасціла, што Міхаіл Гарбачоў тады ўвёў «сухі закон». І была яшчэ адна вельмі непрыгожая гісторыя. Я скончыла аспірантуру ў 1984 г. Ніякага размеркавання не было. Дырэктар Інстытута гісторыі Петрыкаў напісаў ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны,

[1] І. М. Ігнаценка (1919–2002) – савецкі і беларускі гісторык. Доктар гіст. навук, прафесар, акадэмік АН БССР.

але ніхто мяне не браў. Два месяцы боўталася без працы. Нарэшце патэлефанавала Пятру Краўчанку, які быў ужо сакратаром Менскага гаркама партыі. Ён запытаў, дзе хачу працаваць. Я назвала Інстытут гісторыі Акадэміі навук. Я вярнулася ў Інстытут, але, можа, і дарэмна. У маёй гісторыі меў месца харасмэнт. Сёння я ўжо магу ацаніць тое, што тады адбывалася і не толькі са мною. Фігуранты той непрыгожай гісторыі сышлі ў лепшы свет. Думаю, не варта варушыць тыя ўспаміны.

**АС:** *Як прайшла абарона?*

**НС:** Перад абаронай і падчас яе мяне моцна падтрымлівалі ўкраінцы. Першы апанент быў з Украіны. Прафесар Юрый Маркавіч Гамрэцкі[1] напісаў вельмі станоўчую рэцэнзію. Другім апанентам быў Мікалай Стэфанавіч Сташкевіч[2]. Украінцы, калі чыталі яго рэцэнзію, адзначылі, што гэты вельмі асцярожны чалавек, што ён страхуецца. Справа тычылася аналізу прац Усевалада Ігнатоўскага і Зміцера Жылуновіча. Гэта ж быў час перад г. зв. перабудовай. Ужо адчувалася пэўная палітычная адліга, і я актыўна карысталася працамі былых «ворагаў народу». Сташкевіча напалохала мая смеласць. Мая сястра, якая прыехала на абарону з Масквы, дзе вучылася і закончыла аспірантуру МГУ, таксама запытала, чаму далі такога баязлівага рэцэнзента? Я магла адказаць толькі тое, што на яго кандыдатуры настаяў акадэмік Ігнаценка. Я паспяхова абаранілася, і маю дыплом кандыдата навук Акадэміі навук Украіны. А на новым працоўным месцы нават трохі разгубілася. Душа не ляжала пісаць планавыя тэксты. Потым, калі патрапіла ў аддзел ваеннай гісторыі, адразу ўзяла тэму Грамадзянскай вайны, абароны БНР і антысавецкіх паўстанняў 1920-х гг. У гэтай праблематыцы мне было лягчэй арыентавацца.

**АС:** *Чым для Вас быў 1990 г. з яго палітычнымі пераменамі? Што змянілася ў Вашым жыцці і ў працы?*

**НС:** Адбыліся кардынальныя перамены. Ужо завіравала грамадскае і палітычнае жыццё. Я выбрала для сябе Беларускую сялянскую партыю, якой кіраваў Яўген Лугін. Зараз яго мала хто памятае, але тады гэта партыя была адна з найвялікшых. Я ўбачыла пэўныя паралелі з колішняй Беларускай сялянскай партыяй «Зялёнага дуба», у якую ў свой час уступілі героі маіх першых артыкулаў, сялянскія верхаводы паўстанцтва. Але галоўнае тое, што ў мяне абудзілася пазіцыя грамадзянкі і беларускі.

Тут выпадае прыгадаць, што мяне двойчы звальнялі з Інстытута гісторыі. Першы раз – як пачалася хваля беларусізацыі, і ў парламенце засядалі нашы хлопцы Валянцін Голубеў і Зянон Пазняк. Намеснік дырэктара, светлай па-

---

1 Ю. М. Гамрэцкі (1930–2003) – савецкі і ўкраінскі гісторык, даследчык Кастрычніцкага перавароту 1917 г. і расійскай бальшавіцкай інтэрвенцыі супраць Украіны.

2 М. С. Сташкевіч (1938–2011) – савецкі і беларускі гісторык, даследчык гісторыі першых гадоў БССР. Доктар гіст. навук, прафесар.

Па-другое, «именной Высочайший Указ» аб надзяленні І. Рубана зямельнымі ўладаннямі выдаў імператар Павел І (1754–1801), а не яго папярэдніца. Тым не менш сцвярджэнне пра тое, нібыта Станіслававова падаравала менавіта Кацярына ІІ (1729–1796), пазней некалькі разоў сустракалася ў іншых дакументах. Таму магчыма, што так яно і было, аднак юрыдычна перадача была зацверджана ўжо пасля яе смерці. Тым больш што літаральна на два месяцы раней, 16 лютага 1797 г., яшчэ адна частка былой Гродзенскай эканоміі, Аўгустоўскі ключ, была «пожалована» генералу Маўрыцыю О'Брыену дэ Ласі (1737–1820), удзельніку штурму варшаўскай Прагі, і там сітуацыя падаецца вельмі падобнай. За што расійскі чыноўнік атрымаў гэты сапраўды «каралеўскі» падарунак, можна толькі здагадвацца. Як бы там ні было, 26 студзеня 1814 г. І. Рубан прадаў маёнтак Ксаверыю Друцкаму-Любецкаму, а сам перабраўся ў горад Нежын Чарнігаўскай губерні, адкуль, верагодна, і паходзіў[1].

Старажытны княжацкі род Друцкіх-Любецкіх з'яўляўся адгалінаваннем князёў Друцкіх, якія здаўна мелі двары на Валыні ды Палессі. У ранніх сваіх пакаленнях яго прадстаўнікі былі праваслаўнымі і толькі пазней перайшлі ў каталіцтва[2]. Прыкладна ў той жа час, калі І. Рубану быў падараваны Станіслававоўскі ключ, Францішак Друцкі-Любецкі (1741–1802), маршалак Пінскага павета, набыў у князёў Сапег маёнтак Чарлёна, паклаўшы гэтым самым пачатак буйных уладанняў свайго роду ўжо на Гродзеншчыне[3].

Яго сын, Францішак Ксаверый Друцкі-Любецкі – малодшы (1778–1846) спалучаў халодны разлік з патрыятызмам: удзельнік італьянскага паходу Аляксандра Суворава ды вайны 1812 г., падчас якой ён ваяваў на баку Расіі, прадвадзіцель (маршалак) дваранства Гродзенскай губерні і гродзенскі губернатар (1813, 1816), ён асабліва праславіўся, стаўшы міністрам фінансаў Каралеўства Польскага[4]. Менавіта Францішак Ксаверый склаў першапачатковы план Аўгустоўскага канала ды значна павялічыў экспарт польскіх тавараў у Расійскую імперыю[5]. Дзякуючы шлюбу ў 1805 г. са сваёй пляменніцай Марыяй Сцыпіён дэль Кампа (1793–1876), дачкой лідскага старасты, ён замацаваў за

[1] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, спр. 1958. Дело об установлении принадлежности имения Станиславово, расположенном в Гродненском уезде, действительному тайному советнику Рубану и его внуку Змиеву Александру. 1820–1821, арк. 1, 5; ibidem, ф. 96, воп. 1, спр. 1234. Инвентарное расписание им. Станиславово Гродненского уезда. 1845, арк. 108.

[2] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т., Т.* 3. Мінск 1996, с. 296.

[3] С. Донских, *Щучин: локальная история в контексте региональных процессов*, Минск 2019, с. 109.

[4] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т.*, Т. 3, с. 296.

[5] А. Чернякевич, И. Трусов, *«Новый Свет» и окрестности*, Минск 2009, с. 8.

сям'ёй абшырныя землі так званага Шчучынскага графства, а згандляваўшыся з І. Рубанам, вярнуў частку былой каралеўскай эканоміі ў рукі польскіх арыстакратаў. Па некаторых звестках, Ф. К. Друцкі-Любецкі набыў маёнтак Станіславова яшчэ ў 1812 г. на грошы са спадчыны пасля свайго бацькі, у той час, як канчатковыя разлікі былі здзейснены толькі праз пяць гадоў[1]. Па іроніі лёсу ўвесну 1831 г. у маёнтку міністра Каралеўства Польскага размясцілася вялікая партыя перасыльных польскіх ваеннапалонных, усяго каля 250 чалавек, ахвяр падаўлення паўстання, якое сам Францішак Ксаверый не падтрымаў[2].

За ўвесь час свайго існавання вонкава Станіславова змянілася не вельмі моцна. Як выглядала рэзідэнцыя ў канцы XVIII ст., добра бачна на мапе гродзенскага губернскага архітэктара А. Тодта, а выгляд сядзібы з сярэдзіны XIX ст. вядомы нам дзякуючы малюнку Напалеона Орды (1807–1883)[3].

Акрамя таго, захавалася некалькі фотаздымкаў першай чвэрці мінулага стагоддзя. Гэтага нельга сказаць пра ўнутраны выгляд палаца. Праўда, у адрозненне ад таго ж Аўгустова, у нас няма ні малюнкаў, ні здымкаў інтэр'ераў Станіславова. Дакладней, калі яны нават і існуюць, дык усё яшчэ чакаюць свайго даследчыка. Аднак мы ўсе ж маем магчымасць патрапіць унутр сядзібы ды нават пашпацыраваць уздоўж яе, дзякуючы дакументу, які носіць назву *Апісанне мэблі ды розных рухомых рэчаў у палацы Станіслаўоўскім князёў Любецкіх* і быў складзены 4 ліпеня 1838 г.

На першым паверсе разам з пярэдняй ды абедзеннай заламі агулам было дзесяць пакояў. У пярэдняй стаялі два вялікія сталы; адзін маляваны шлабан; малыя камоды ды шафка з дзвюма дзверцамі ды замком, пафарбаваная ў чырвоны, яшчэ адна старая камода з трыма шуфлядамі ды з высоўным бюро, з тайнікамі, са столікам для пісання і бронзавай падкладкаю. У абедзеннай зале знаходзім некалькі вялікіх шаф з замкамі, бюро з купалам ды люстрам, дзве шафкі з альхі, пафарбаваныя ў чырвонае, з плеценымі дзверцамі ды фіранкамі. Сцены былі ўпрыгожаны старасвецкімі аркушамі ў раме, выявамі ландшафтаў за шклом ды яшчэ некалькімі палотнамі, намаляванымі маслам. Выйшаўшы з перадпакою налева, трапляем у першы пакой, дзе стаялі альховы маляваны

---

1 С. Донских, *Щучин…*, с. 119.

2 А. Радзюк, *Чалавек за кратамі: гарадзенскія турмы і вязні ў XIX ст.* [w:] Гарадзенскі палімпсест, Мінск 2011, с. 302.

3 *Karta Odgraniczająca Miasto Grodno z Wygodami od Majętnościów Stanislawowa i Augustowa oraz od Gruntów Jurydycznych Skarbowych i innych na mocy ukazu Izby Skarbowej Litewskiej w roku 1797 dnia 22 augusta wyszłego sporzadzona i kopcami oraz liniami geometrycznie przezemnie Adama Todta komornika Grodzieńskiego wyprowadzona* [w:] T. Korzon, *Wewnętrzne dzieje Polski za Stanisława Augusta (1764–1794)*, Tom II, Kraków – Warszawa 1897.

круглы стол з дзвюма шуфлядамі, вялікі музычны гадзіннік з люстрам, абкладзены мармурам, камода, вялікае люстра ў аправе ды барометр, які паказваў перамены надвор'я. Тут таксама сцены ўпрыгожвалі дванаццаць выяў ландшафтаў у пазалочаных рамах пад шклом.

Наступныя пакоі адрозніваліся колерам. Другі, для баўлення часу (*pokój bawialny*), быў пафарбаваны ў канарэечны колер. У ім меліся камода, бюро, дамскі туалет са столікам ды пятнаццаць малюнкаў на сценах. Трэці, белы, служыў у якасці спальні. Тут размясціліся дзве камоды, шафа, канапа, вялікае люстра ў раме. Пакой упрыгожвалі чатыры ландшафты маляваныя маслам. Чацвёрты, малы пакойчык за бакавымі дзвярыма, таксама пафарбаваны белай фарбай, займалі канторка, шафа ды люстра. У зале для адпачынку нічога не было. Затое ў вуглавым пакойчыку з гардэробам стаялі шыфаньерка, тапчан ды вялікая шафа. Далей ішлі яшчэ два пакоі, у якіх нічога не было, акрамя двух вялікіх вагаў для гадзінніка ды сам гадзіннік. У зале на другім паверсе захоўваліся медны ды жалезны посуд, некалькі куфраў з адзеннем. Заканчваўся спіс пералікам зброі, якую захоўвалі ў палацы: пісталеты, карабіны, ружжы – усяго каля двух дзясяткаў агульным коштам на чатыры тысячы рублёў[1]. Цяжка пазбавіцца ад уражання, што палацам на гэты момант амаль не карысталіся, і ён быў, хутчэй за ўсё, у занядбаным стане. І сапраўды, ягоны гаспадар Францішак Ксаверый у той час рабіў кар'еру ў Пецярбурзе, а таму да Станіславова наведваўся, мабыць, зрэдку. У 1857 г., паводле завяшчання Марыі са Сцыпіёнаў, удавы Ф. К. Друцкага-Любецкага, маёнтак Станіславова перайшоў ва ўладанне яе сыноў: Іосіфа (Юзафа) Габрыеля Густава (1817–1880) ды Аляксандра Медарда Друцкага-Любецкага (1827–1908)[2]. Іосіф пражыў большую частку жыцця ў Францыі, не пакінуўшы пасля сябе нашчадкаў, а Аляксандр падчас Студзеньскага паўстання 1863 г. не праявіў дастатковай лаяльнасці да ўлады, і ўся маёмасць роду ледзь не патрапіла пад секвестр. Ад канфіскацыі маёнтак ўратавалі сямейныя хітрыкі ды, мабыць, сувязі ў высокіх кабінетах[3].

У красавіку 1896 г. у выніку судовага рашэння аб падзеле маёмасці гаспадаром Станіславова стаў малодшы сын князя Аляксандра – Уладзіслаў (1864–1913)[4]. З фігурай апошняга ў Гродне лічыліся. Выпускнік Дэрпцкага ўніверсітэта, князь Уладзіслаў з'яўляўся адным з лідараў мясцовага польскага

---

1 Rkps., Biblioteka XX. Czartoryskich w Krakowie, sygn. 13134 (справа не пранумеравана).

2 Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (далей ДАГВ), ф. 512, воп. 1, спр. 116. Дело о проведении парцелляции имения Станиславув Гожской гмины. 1926–1936, арк. 13.

3 С. Донских, *Щучин...*, с. 122–123.

4 НГАБ у Гродне, ф. 94, воп. 1, спр. 48. Дело об установлении опеки над имуществом и малолетними детьми кн. Друцкого-Любецкого Владислава Александровича. 1913–1915, арк. 52.



*Станіслававова на малюнку Напалеона Орды. Сярэдзіна XIX ст.*

асяродка. Невыпадкова, што ў маёнтку Станіслававова вясной 1906 г. адбываліся пасяджэнні камітэта польскіх выбаршчыкаў у Першую Дзяржаўную думу, а яшчэ праз год ужо сам князь быў абраны гарадскім галавою[1]. Добры знаёмы Элізы Ажэшкі, якая наведвалася да яго ў палац, ён уваходзіў у аргкамітэт па святкаванні творчага юбілею пісьменніцы. Лад жыцця князь вёў самы стрыманы, больш цікавіўся гаспадаркай, лясамі і фінансавымі справамі. Дарэчы, ён з'яўляўся заснавальнікам і першым старшынём Таварыства аўтамабілістаў Каралеўства Польскага. Паводле ўспамінаў сучаснікаў, У. Друцкі-Любецкі меў вялікі чырвоны аўтамабіль, вельмі дрэнны зрок і шафёра-палешука, якога па панскім капрызе ўсе называлі Полем. Гэты Поль падчас выездаў звычайна сядзеў побач з гаспадаром, і, калі той вёў аўтамабіль, што ён любіў рабіць, Поль у апошні момант паспяваў ухапіцца за руль, аб'язджаючы перашкоду[2]. У дадатак да іншых уладанняў, якія ён атрымаў у спадчыну, князь Уладзіслаў Друцкі-Любецкі набыў маёнтак Тэрэсін за пяцьдзясят вёрст ад Варшавы, куды асабліва любіў прыязджаць адпачываць ад спраў. «У мяне іх дастаткова ў Шчучыне!» – казаў князь, маючы на ўвазе свае вялізныя ўладанні ў Беларусі. Апошнія гады свайго жыцця ён наведваўся ў Станіслававова зрэдку, раз на два месяцы[3].

Князь Уладзіслаў Друцкі-Любецкі трагічна загінуў 21 красавіка 1913 г. Яго знайшлі застрэленым у лесе побач з ягоным палацам у Тэрэсіне. Падазрэнне амаль адразу пала на сябра ды дзелавога партнёра князя, уладальніка маёнтка

---

1 А. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях 1864 – люты 1917 г.* Санкт-Пецярбург 2004, с. 152; Helena z Jaczynowskich Roth, *Czasy, miejsca, ludzie. Wspomnienia z kresów wschodnich*, Kraków 2009, s. 86–87; *Выборы в I–IV Государственные думы Российской империи (Воспоминания современников. Материалы и документы)*, Москва 2008, с. 305–306.

2 Helena z Jaczynowskich Roth, *Czasy, miejsca, ludzie…*, 111–112.

3 *Таинственное убийство князя Друцкого-Любецкого*, «Наше утро» 1913, 14 апреля, № 84, с. 3.

Масаляны пад Гродна 33-гадовага Яна Біспінга (1880–1941). Іх блізкім адносінам спрыяла яшчэ і тое, што іх жонкі з'яўляліся стрыечнымі сёстрамі. Сярод іншага, як пазней высветлілася, падчас іх апошняй сустрэчы гаворка магла ісці пра магчымы продаж Станіслава вайсковым уладам пад будаўніцтва крэпасці[1].

1 мая 1913 года на старонках газеты *The New York Times* з'явілася паведамленне пад гучным загалоўкам: «Арыстакрат абвінавачваецца ў забойстве: барон Біспінг, багаты землеўладальнік, падазраецца ў смерці прынца Любецкага!»[2] Не адставала і мясцовая прэса. Гродзенская газета *Наше утро* прыгадала напаўзабытыя чуткі нібыта пра блізкія адносіны паміж удавою забітага ды ягоным імаверным забойцам. Быццам бы пасля пахавання Э. Ажэшкі іх бачылі ўдваіх шпацыруючымі па аддаленых алеях на могілках, а пазней сустракалі ў наваколлі блізкай вёскі Капліца. «Зразумела, – з кепска прыхаваным сарказмам адзначала газета, – усе гэтыя плёткі нічога не даказваюць. Сяброўства паміж кроўнымі сем'ямі зусім зразумелае[3]. Праўда, хутка высветлілася, што падчас пахавання польскай пісьменніцы Я. Біспінга ў Гродне наогул не было.

Тое, што выклікала цікавасць у далёкай Амерыцы, прывяло мясцовыя вышэйшыя колы ў сапраўдны шок. Следства цягнулася амаль год. Я. Біспінга таксама абвінавацілі ў падробцы вэкселя князя на некалькі соцень тысяч рублёў, якія, нібыта, былі выстаўлены для дачы хабару расійскім чыноўнікам з мэтай выгаднай замены гродзенскіх уладанняў, якія планавалася аддаць пад будаўніцтва фартоў[4]. Нарэшце 13 чэрвеня 1914 г. прагучаў прысуд – пазбаўленне ўсіх правоў і прывілеяў, канфіскацыя маёмасці і чатыры гады арыштанцкіх рот. Невядома, што было б далей, аднак праз некалькі месяцаў пачалася Першая сусветная вайна, Я. Біспінг быў выпушчаны пад заклад, а пра забойства князя У. Друцкага-Любецкага забыліся. Грамадству ўжо стала не да яго.

### *Узорная гаспадарка*

Трывалы падмурак сямейнага бізнесу Друцкіх-Любецкіх заклаў ужо першы з прадстаўнікоў роду, які гаспадарыў у Станіславове, князь Францішак Ксаверый – малодшы, які асабліва вялікую ўвагу надаваў развіццю прамысловасці

---

[1] Ibidem 1913, 5 мая, № 101, с. 3.

[2] Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, Rankraščiu skyrius (Vilnius) (Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук, Вільня), ф. 155, спр. 406/1, арк. 1–14.

[3] *Таинственное убийство князя Друцкого-Любецкого*, «Наше утро» 1913, 11 апреля, № 81, с. 2; Ibidem 1913, 12 апреля, № 82, с. 1; Ibidem 1913, 13 апреля, № 83, с. 3; Ibidem 1913, 14 апреля, № 84, с. 3.

[4] Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі імя Урублеўскіх Літоўскай Акадэміі навук, ф. 155, спр. 406/1, арк. 22, 31, 47; *Тересинская драма*, «Наше утро» 1914, 12 апреля, № 80–86.

і гандлю[1]. Яшчэ ў маі 1822 г. быў распрацаваны праект па добраўпарадкаванні маёнтка з улікам наяўных працоўных рук, якасці глебы ды перспектыўных рынкаў[2]. Непасрэдна самім фальваркам у розны час кіравалі Габрыэль Тамашэўскі[3], Вербушч[4], Марцін (па іншых звестках – Міхал) Кандратовіч, Эдуард Ігнацьевіч Засуліч[5].

З другой паловы XIX ст. і ажно да пачатку XX ст. адміністратарам уладанняў Друцкіх-Любецкіх з'яўляўся Казімір Адамавіч Коцель (1862–1909), якога сябры паміж сабою жартам называлі «кацялок». Вось як узгадвала адміністратара Станіслававова Алена Ячыноўская, чый бацька, вядомы ў Гродне адвакат, сябраваў з Уладзіславам Друцкім-Любецкім: «Гэта быў прыстойны, элегантны мужчына з прыцягальнымі манерамі і, як падаецца, вельмі задаволены сваім знешнім выглядам, пра які, дарэчы, ён вельмі клапаціўся… Пры гэтым быў выдатным адміністратарам, аграномам па адукацыі. Любецкі яго вельмі цаніў ды любіў, атачаючы амаль братняй апекаю падчас ягонай цяжкай хваробы, злаякаснай анеміі (здаецца, зараз яе называюць белакроўем)»[6]. Казімір Коцель жыў у Станіслававе. Ужо напярэдадні Першай сусветнай вайны адміністратарам гродзенскіх уладанняў Друцкіх-Любецкіх стаў дваранін Іван Уладзіслававіч Жукоўскі[7].

Па стане на 1845 г. маёнтак Станіслававова ўключаў фальварак ды сем вёсак: Пржэсёлка (сённяшняя Пярэселка ў межах горада), Заржыца (зараз гарадскі раён Зарыца), Жылічы, Славічы, Кашэўнікі, Пілюкі ды Бірулічы, агульным памерам у 5549 моргаў ды 197 прэнтаў. Бліжэй за ўсіх ад маёнтка, усяго на адлегласці ў дзве вярсты, знаходзілася вёска Пржэсёлка. У свой час кароль перадаў гэта ўрочышча ў пажыццёвае ўладанне нейкаму Студзінскаму, які ў су-

1 С. Донских, *Щучин…*, с. 109, 111–112.

2 Rkps., *Biblioteka XX. Czartoryskich w Krakowie*, sygn. 13133 (справа не пранумаравана).

3 ЛДГА, ф. 598, воп. 1, спр. 551. Квитанция Габриэля Томашевского, бывшего эконома имения Станиславово. 1814 г.

4 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 1, спр. 2802. Дело об повторной отдаче в рекруты Панова Ивана управляющим имения Станиславово. 1822, арк. 1.

5 Ibidem, ф. 287, воп. 1, спр. 63. Дело об оценке земель имения Станиславово Гродненского уезда, отчужденных под строительстово С. -Петербургско-Варшавской железной дороги. 1862–1864, арк. 2, 7.

6 Helena z Jaczynowskich Roth, *Czasy, miejsca, ludzie…*, 110–111; G. Błaszczyk, *Dorpatczycy. Polscy studenci na Uniwersytecie Dorpackim w latach 1802–1918 i ich losy. Słownik biograficzny.* T. II. FNCE, 2022, s. 222.

7 НГАБ у Гродне, ф. 8, воп. 2, спр. 2086. Дело о разрешении кн. Марии Друцкой-Любецкой построить гофмановскую печь на кирпичном заводе в им. Станиславово Гродненского уезда. 1914, арк. 11–12.

вязі з тым, што землі тут былі пясчаныя ды непрыдатныя да земляробства, саступіў яго Урачынскаму. Пасля смерці апошняга Пржэсёлка апынулася пад кіраваннем дзяржаўнай казны, аднак дваровае ўпраўленне эканоміі Станіслава ўпарта адстойвала свае правы на яе[1].

Згодна з інвентаром, гаспадарскі двор складаўся ўласна з палаца, двух флігеляў, дома эканома, кароўніка, стайні з экіпажняй, хлява, амбара, аўчарні танкарунных авечак, вазоўні ды памяшкання для малацілак. Больш за палову маёнтка складалі ворыўныя землі, астатняя частка была адведзена пад сенакосы ды выганы. Акрамя таго, амаль 2 тысячы моргаў з уладанняў Друцкіх-Любецкіх прыходзілася на лясы. Сама сядзіба Станіславова налічвала 7 моргаў 280 прэнтаў. Праўда, пры гэтым князь меў адразу некалькі судовых спраў – з горадам, казной, плябаніяй, Гурскімі ды Рубіновічам – адносна правоў на тыя ці іншыя надзелы[2]. На землях маёнтка вырошчвалі авёс, жыта, пшаніцу, бульбу, ячмень, грэчку, рэпу. З буйной скаціны тут трымалі з паўсотні кароў, столькі ж коней ды завод па авечкагадоўлі амаль на семсот галоў[3]. Акрамя таго, пры маёнтку працавалі цагельны і вапнавы заводы, ветраны млын, мелася два дамы памежнай аховы ды адзін – лясной стражы, быў закладзены сад. Гадавы даход Станіславова на сярэдзіну XIX ст. складаў 1800 рублёў серабром[4].

Сам палац знаходзіўся «пры паштовым тракце са сталічнага горада Санкт-Пецярбурга ў горад Варшаву, на адлегласці ў адну вярсту ад губернскага горада Гродна»[5]. Паўсталая ў пачатку 1860-х гадоў лінія Санкт-Пецярбург – Варшава не толькі заняла частку былога Станіславоўскага ключа, але і моцна змяніла папярэдні лад жыцця маёнтка. Ён згубіў свае сенакосы ды ворыўныя землі ўздоўж Гараднічанкі, сяляне з навакольных вёсак, што адпрацоўвалі паншчыну, мелі праблему з даездам, а ў падвалах карчмы «Раскоша», дзе яны размяшчаліся падчас працы ў фальварку, зараз увесь час стаяла вада[6]. Але ж тут чарговы раз праявілася адна надзвычайная якасць гаспада-

1 Ibidem, ф. 2, воп. 36, спр. 1043. Дело об установлении кн. Друцким-Любецким прав на владение урочищем Пржесиолкой Гродненского уезда. 1841–1842, арк. 15–16 адв.

2 Ibidem, ф. 96, воп. 1, спр. 1234. Инвентарное расписание им. Станиславово Гродненского уезда. 1845, арк. 1–4 адв.; А. Федорук, *Старинные усадьбы…*, с. 379.

3 Ibidem, спр. 1234. Инвентарное расписание им. Станиславово Гродненского уезда. 1845, арк. 32–38, 60–65.

4 Ibidem, арк. 32–38; А. Федорук, *Старинные усадьбы…*, с. 379.

5 НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1234. Инвентарное расписание им. Станиславово Гродненского уезда. 1845, арк. 2.

6 НГАБ у Гродне, ф. 287, воп. 1, спр. 63. Дело об оценке земель имения Станиславово Гродненского уезда, отчужденных под строительстово С. -Петербургско-Варшавской железной дороги. 1862–1864, арк. 1–2, 7–12 адв.

роў Станіслававова. Амаль кожны выклік часу, кожнае выпрабаванне яны так ці інакш накіроўвалі на сваю карысць. Гэтак атрымалася і з чыгункай. Акрамя грашовай кампенсацыі за панесеныя страты пры яе будоўлі адміністрацыя маёнтка вельмі хутка здолела атрымаць сталы прыбытак з яе суседства. Перш за ўсе яна прапанавала месца на сваім абшары для рэзервуара з вадою для абслугоўвання воданапорнай вежы, без якой было немагчыма ўявіць працу цягнікоў[1]. Акрамя таго, будаўніцтва чыгуначнага вакзала значна наблізіла цэнтр гарадскога жыцця да самога фальварка, які ўжо перастаў лічыцца нейкай аддаленай ускраінай Гродна, а сама чыгунка значна паскорыла развіццё ўласнай прамысловай гаспадаркі, якая існавала ў Станіслававове.

Наступная лакальная катастрофа мела месца ў 1885 г., калі ў Гродне адбыўся вялікі пажар, падчас якога згарэла літаральна палова будынкаў горада. Іх трэба было адбудоўваць. У гэтых умовах цагельны завод Станіслававова, які меўся пры фальварку яшчэ з часоў Рэчы Паспалітай, зараз запрацаваў напоўніцу[2]. Друцкія-Любецкія часта звярталіся да ўлад з прашэннямі, звязанымі з удасканаленнем і пашырэннем вытворчасці: пабудовы мураванага памяшкання для лакамабіля, новых печаў, заводскіх труб, драўляных навесаў для сушкі цэглы. На 1900 г. пры маёнтку меліся ўжо тры цагельныя заводы, на якіх было занята больш за сто чалавек ды выраблялася да 5,5 мільёнаў цаглін штогод[3]. Тады ж упраўляючы маёнткам І. Жукоўскі падпісаў дамову аб перадачы ў арэнду адной са станіслававоўскіх цагельняў па дарозе да вёскі Дзевятоўка мясцовым купцам Элі Аронавічу Бадылькесу ды Шліоме-Ліпе Гіршовічу Яноўскаму[4]. Акрамя таго, у 1895 г. каля чыгункі непадалёк ад гродзенскага вакзала была заснавана кафлярня. Праз пару гадоў да Станіслававова падышла вузкакалейка, што вельмі спрасціла працэс дастаўкі прадукцыі ў Гродна і іншыя мясцовасці[5].

Акрамя цагельняў Друцкія-Любецкія заснавалі таксама тарфяны завод, прадпрыемства па вырабе коламазі, а яшчэ ў 1822 г. каля фальварка Друцк былі знойдзены запасы бурага вугалю, якія, аднак, так і засталіся нераспра-

---

1 Ibidem, арк. 15 адв.

2 А. Вашкевіч, *Як будавалі Гродна. Цагельні і кафлярні Гродна* [online], https://harodnia.com/be/uczora/rasijskaja-impieryja/427-jak-budavali-hrodna [дата доступу: 12.03.2023]

3 А. Вашкевіч, *На гродзенскім бруку. Вандроўка па фабрыках і прадпрыемствах старога Гродна,* Гродна 2012, с. 52.

4 НГАБ у Гродне, ф. 8, воп. 2, спр. 2086. Дело о разрешении кн. Марии Друцкой-Любецкой построить гофмановскую печь на кирпичном заводе в им. Станиславово Гродненского уезда. 1914, арк. 8.

5 А. Вашкевіч, *Як будавалі Гродна...*

цаванымі[1]. У дадатак да ўсяго ў канцы XIX ст. маёнтак атрымаў манаполію на вываз «нечыстотаў» з горада. Аднак цяжка было пазбегнуць антысанітарыі ды смуроду падчас асенізатарскіх прац. У 1890 г. галоўны паверany князя Казімір Коцель звярнуўся да мясцовых улад з прашэннем аб заснаванні завода па вырабе спецыяльнага парашку з торфу для нейтралізацыі гарадскіх «нечыстотаў»[2]. Напрыклад, за арэнду прыбірання гною з канюшань гарадскога пажарнага абозу ды гарадскіх плошчаў маёнтак заплаціў у 1901 г. – 75 руб., у 1902 – 100 руб., а ў 1903 г. – ужо 170 руб.[3] Праўда, у выніку манаполія Станіслававa ў гэткай спецыфічнай галіне ў рэшце рэшт прывяла да «асенізатарскага сваволля» ды галоснай крытыкі з боку гарадскіх улад[4].

Пры Уладзіславе Друцкім-Любецкім упраўленне маёнткам актыўна гандлявала надзеламі, прадаючы іх у тым ліку мясцовым сялянам ды цэлым вёскам. Частка ўладанняў аказалася занята дарогай, якую правялі ў 1883 і пашырылі ў 1900 г. З мэтай стварыць прыгарадны пасёлак князь выдзеліў з маёнтка Станіслававa два ўчасткі зямлі, якія разбіў на асобныя пляцы і выставіў на продаж. Да таго ж вялікі зямельны ўчастак Станіслававa саступіла вайсковым уладам пад казармы[5]. У выніку за апошняе перадваеннае дзесяцігоддзе памер землеўладання маёнтка паменшыўся з 1922 да 1500 дзесяцін (каля 1630 га)[6]. Яшчэ адзін пляц пры Станіслававоўскай вуліцы з боку прывакзальнай плошчы адміністрацыя маёнтка перадала ў арэнду гораду пад велатрэк для вучняў мясцовых гімназій[7]. Да таго ж побач са спартыўнай пляцоўкай, якраз паміж маёнткам ды кафлярнай, была закладзена алея з рамантычнай назвай Алея кахан-

---

[1] ДАГВ, ф. 89, воп. 1, спр. 63. Дело о проведении парцелляции имения Станиславово Вертелишской гмины. 1922–1924, арк. 6.

[2] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 17, спр. 1793. Дело по прошению главного поверенного князя Друцкого-Любецкого Александра Ксаверьевича о разрешении ему построить в имении Станиславово торфяной завод. 1890, арк. 8, 8 адв.

[3] Ibidem.

[4] НГАБ у Гродне, ф. 125, воп. 1, спр. 54. Дело об уборке навоза с городских площадей и конюшен. 1903–1907, арк. 1.

[5] НГАБ у Гродне, ф. 24, воп. 3, спр. 3887. Дело по сообщению нотариуса Гродненского окружного суда о переходе имения Понемунь Романа Урсын-Немцевича к князю Друцкому-Любецкому. 1905–1911, арк. 47 зв; Ibidem, ф. 94, воп. 1, спр. 48. Дело об установлении опеки над имуществом и малолетними детьми кн. Друцкого-Любецкого Владислава Александровича. 1913–1915, арк. 103 адв.–104.

[6] Ibidem, Дело по сообщению нотариуса Гродненского окружного суда о переходе имения Понемунь Романа Урсын-Немцевича к князю Друцкому-Любецкому. 1905–1911, арк. 7.

[7] Ibidem, ф. 125, воп. 1, спр. 86. Дело об отводе участка городской земли под устройство спортивной площадки для учебных заведений 1914. 1905–1911, арк. 6.

ня. На жаль, спартыўнай пляцоўцы не было наканавана надоўга захавацца на гарадской мапе. Ужо ў сярэдзіне 1912 г. князь Ул. Друцкі-Любецкі вырашыў не працягваць кантракт з горадам, атрымаўшы больш выгадную прапанову – пракласці праз трэк чыгунную трубу, каб з яе дапамогай пераліваць з цыстэрн на суседні рэктыфікацыйны завод спірт[1].

На пачатак ХХ ст. ва ўладанні маёнтка Станіслявова ўваходзілі: фальваркі Друцк, Пышкі, хутар Зарыца з ляснымі ўрочышчамі Пышкі, Баля, Зарыца, Герэйце, Куколе, карчомным пляцам пры вёсцы Зарыца, выганам пры карчомным пляцы, два цагельныя заводы, а таксама дваццаць пяць пляцаў у самім горадзе па вуліцах Палацкай ды Падольнай. Да таго ж далучаліся ўладанні на левым беразе Нёмана – урочышчы Кашэўнікі, Горы, Славічы ды Суковічы[2]. У маёнтку прымянялася сістэма земляробства, заснаваная на васямнаццаціпольным севазвароце, а акрамя мясцовай рагатай жывёлы разводзіліся сіментальскія каровы (парода, выведзеная ў Швейцарыі)[3]. Меліся два фруктовыя сады: на 200 ды 150 дрэваў. Яшчэ каля 86 дзесяцін зямлі было аддадзена ў арэнду розным асобам пад пасадку бульбы, агародніны ды клубніц, што агулам прыносіла каля 5,5 тысяч рублёў прыбытку кожны год[4].

Нават набліжэнне вайны першапачаткова толькі павялічыла агульны прыбытак. Сярод архіўных дакументаў ёсць адзін за подпісам каменданта Гродзенскай крэпасці генерала Міхаіла Кайгародава (1853–1918). Гэта хадайніцтва перад Гродзенскім губернскім праўленнем не чыніць ніякіх перашкод для цагельняў Друцкіх-Любецкіх, паколькі яны пастаўляюць сваю прадукцыю для крэпасці. У выніку напярэдадні Першай сусветнай вайны гадавы даход ад прадпрыемстваў складаў каля 50 тысяч рублёў[5].

### *Жыхары маёнтка*

Па стане на 1813 г. пры маёнтку Станіслявова Івана Рубана налічвалася ўсяго чатыры дваровыя чалавекі[6]. Тут жылі: Радзівон, сын Сцяпанаў, 50 гадоў,

[1] «Наше утро» 1912, 18 июня, № 23, с. 3.

[2] *НГАБ у Гродне*, ф. 24, воп. 3, спр. 3887. Дело по сообщению нотариуса Гродненского окружного суда о переходе имения Понемунь Романа Урсын-Немцевича к князю Друцкому-Любецкому. 1905–1911, арк. 57.

[3] А. Федорук, *Старинные усадьбы…*, с. 384.

[4] НГАБ у Гродне, ф. 94, воп. 1, спр. 48. Дело об установлении опеки над имуществом и малолетними детьми кн. Друцкого-Любецкого Владислава Александровича. 1913–1915, арк. 59

[5] А. Федорук, *Старинные усадьбы…*, с. 384.

[6] НГАБ у Гродне, ф. 24, воп. 7, спр. 25. Алфавитная книга… околиц с указанием владельцев. 1811, 1813, 1814, арк. 27–27 адв.

Аляксандр, сын Івана, 43 гады, з чатырохгадовым сынам, Іван, сын Фёдара, 15 гадоў. Аднак усе яны пазней былі пераведзены ў Нежын, дзе іх прыпісалі да ўладанняў жонкі І. Рубана[1]. Былы гаспадар Станіславова саступаў Ф. К. Друцкаму-Любецкаму толькі некаторыя прадметы мэблі (камоды з чырвонага дрэва), а з сялян – повара, узяўшы ўзамен «коляску варшавской работы» ды «сироту малолетнюю девочку Евдокию»[2]. Францішку Ксаверыю прыйшлося перасяляць сюды з маёнтка Пышкі дваровых Кандрата Якімовіча з двума сынамі. Акрамя іх пры самім маёнтку жыў цівун Казімір Марцінавіч Шобаль (Собаль?) – вольны, 33 гады, з жонкаю Разаліяй, 29 гадоў, сынамі Вікенціем, Францам, Іосіфам ды дочкамі Мар'янкай ды Анэляй[3].

Па стане на 1845 г. маёнтак Станіславова налічваў ужо 551 душу, у тым ліку 16 чалавек – дваровых[4]. «Інвентар…» дакладна пералічвае сем'і дваровых маёнтка: Фелікса ды Анэлю Максімчыкаў, Пятра ды Францішку Касмоўскіх, Яна ды Вікторыю Вітовічаў, Пятра ды Разалію Собаляў, Кшыштафа ды Стэфанію Вішнеўскіх, Іосіфа ды Магдаліну Дубок, Станіслава ды Ганну Ванішэўскіх, Яна Залеўскага, Андрэя Якімчыка, Кандрата Урбіка, Гелену Пракопчыкаву, Разалію Шостак[5]. Вельмі драматычны лёс склаўся ў сям'і Шостак. Паводле 8-га перапісу, што праходзіў у сярэдзіне 1830-х гадоў, да маёнтка князя К. Друцкага-Любецкага быў запісаны «вольны» Казімір Марцінавіч Шостак з жонкай Разаліяй, з сынам Вікенціем ды дзвюма дочкамі – Ганнай ды Тэафіліяй[6]. Тамсама, мяркуючы па ўсім, жыў і яго брат, Міхаіл Марцінавіч Шостак, 26 гадоў, які, аднак, быў аднесены да дваровых[7]. У 1846 г. Міхаіл памёр, пакінуўшы пасля сябе тры дачкі – Мар'яну, Юлію, Тэафілію – і сына Івана,

---

1 Ibidem, ф. 1, воп. 1, спр. 918. Переписка с Черниговским гражданским губернатором по вопросу представления статским советником Рубаном ревизских сказок. 1817, арк. 1–2 адв.; Ibidem, ф. 24, воп. 7, спр. 30. Ревизские сказки крестьян и дворовых людей помещичьих имений Гродненского уезда. 1834, арк. 145 адв., 146.

2 ЛДГА, ф. 598, воп. 1, спр. 549. Купчая на маёнтак Станіславова. 1814 г., арк. 1.

3 НГАБ у Гродне, ф. 24, воп. 7, спр. 30. Ревизские сказки крестьян и дворовых людей помещичьих имений Гродненского уезда. 1834, арк. 145 адв., 146.

4 Ibidem, ф. 96, воп. 1, спр. 1234. Инвентарное расписание им. Станиславово Гродненского уезда. 1845, арк. 4.

5 Ibidem, арк. 71 – 73 адв.

6 НГАБ у Гродне, ф. 24, воп. 12, спр. 386. Ревизская сказка о вольных людях, поселившихся на землях владельческих и записанных по 8-й переписи при имениях тех владельцев, арк. 26 адв. – 27.

7 Ibidem, воп. 7, спр. 37. Добавочные ревизские сказки имений Гродненского уезда. 1827, арк. 401 адв.

які ў 1855 г. атрымаў вольную[1]. Аднак усяго праз некалькі гадоў удава Міхаіла Францішка Шостак была вымушана звярнуцца да гарадзенскага губернатара Івана Шпеера з просьбаю аднесці яе падчас чарговага перапісу да свабодных сялян, паколькі яна аказалася запісанай у стан прыгонных памешчыка Друцкага-Любецкага[2]. Акрамя Шостакаў пры маёнтку Станіслававова жылі дваровыя Кандрат Якаўлевіч Якімовіч, пераведзены пазней у Зарыцу, Мікалай Іванавіч Крэчанюк, аддадзены ў рэкруты ў 1845 г., Андрэй Іванавіч Якімюк, Станіслаў Міхайлавіч Ванішэўскі ды Кандрат Аляксеевіч Гурбік. Мяркуючы па ўсім, аднак, тры апошнія памерлі ў 1849 г. падчас эпідэміі халеры[3] (паводле іншых звестак, Гурбік памёр раней, у 1832 г.)[4].

На 1858 г. у памешчыкаў Іосіфа ды Аляксандра Друцкіх-Любецкіх аказалася агулам 311 мужчынскіх ды 377 жаночых прыгонных душ[5]. Працоўны дзень у маёнтку з красавіка па верасень пачынаўся ад шасці ранку, а ў астатні час – на гадзіну пазней і цягнуўся ажно «да прыцемкаў». Калі селянін заканчваў сваю працу раней, дык адпускаўся з залікам яму рабочага дня. Гаспадары маёнтка таксама мелі права браць сялян на службу з выплатаю: мужчынам – 5,50 рублёў срэбрам у год, жанчынам – 3 рублі. Калі ж эканомія адпраўляла кагосьці разам з таварамі па Нёмане ў Кёнігсберг, дык выплачвала адразу ажно 20 рублёў ды яшчэ забяспечвала яму ўтрыманне. Іншым абавязкам прыгонных быў барацьба з пажарамі і нясенне службы ў начных патрулях. Тыя, хто прыязджаў у маёнтак на паншчыну, сяліліся ў карчме «Раскоша», якая была недалёка ад палаца. Усяго ж у станіслававоўскіх уладаннях налічвалася ажно дзевяць корчмаў – па адной у кожнай вёсцы ды яшчэ каля перапраў праз Нёман. Уладальнікі маёнтка забаранялі сялянам пад пагрозай штрафу набываць гарэлку ў іншых піцейных месцах. Сяляне, заўважаныя ў «худым», неслі пакаранне ад самой эканоміі «хатнімі сродкамі», а ў больш паважных выпадках аддаваліся на «выпраўленне» ў паліцыю[6]. Не менш цяжкімі аказаліся ўмовы працы на прадпрыемствах Друцкіх-Любецкіх. У пачатку XX ст. цэглу ўжо рабілі пры дапамозе спецыяльнага прэса, аднак астатнія дзеянні патрабавалі вялікай фізіч-

---

[1] Ibidem, воп. 7, спр. 70. Ревизские сказки крестьян помещичьих имений Гродненского уезда. 1850, 1851, арк. 179 адв., 180.

[2] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 5, спр. 2030. Дело об установлении права на свободу от крепостной зависимости крестьянкой Шестоковой Францишкой. 1858, арк. 1 – 1 адв.

[3] Ibidem, ф. 24, воп. 7, спр. 70. Ревизские сказки крестьян помещичьих имений Гродненского уезда. 1850, 1851, арк. 179 адв., 180.

[4] Ibidem, спр. 91. Ревизские сказки Гродненского уезда. 1858, арк. 605 адв.

[5] Ibidem, арк. 604.

[6] НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, спр. 1234. Инвентарное расписание им. Станиславово Гродненского уезда. 1845, арк. 32–38, 60–65.

най сілы. Таму здзіўляе той факт, што разам з мужчынамі на працягу дзесяці гадзін у суткі на фабрыцы працавала некалькі жанчын[1]. Нічога дзіўнага, што падчас першай расійскай рэвалюцыі рабочыя на фабрыках Станіслава адзначыліся масавымі забастоўкамі[2].

Паводле дадзеных губернскага даведніка, на пачатак XX ст. у маёнтку Станіслава налічвалася 104 жыхары[3]. Яны перыядычна траплялі на старонкі судовых спраў, прычым з самай рознай нагоды. Напрыклад, яшчэ ў 1833 г. мясцовыя ўлады разглядалі справу пра спробу вырабу фальшывых манет мясцовым кавалём Ашуркам[4]. Іншым разам у самы разгар паўстання вясной 1863 г. вартаўнік гродзенскага гарнізоннага батальёна ў падвале побач з палацам знайшоў паляўнічую стрэльбу. Што праўда, справе не далі далейшага ходу, і гаспадар зброі так і не быў устаноўлены[5]. Яшчэ праз некалькі гадоў мясцовая мяшчанка ўдава Цывя Кальмановіч звярнулася ў паліцыю са скаргаю на аканома маёнтка, які нібыта забіў яе карову, але дабіцца справядлівага прысуду так і не здолела[6]. Іншым разам, 20 лістапада 1884 г., сялян Шаркоўскага ды Кучынскага адміністратар маёнтка Станіслава Гасцінскі паслаў па сена ў Пышкі. Была моцная завіруха, і дарогу занесла снегам. Ад'ехаўшы на некаторую адлегласць ад Станіслава, сяляне раздзяліліся. Кучынскі рушыў уздоўж каляіны, а Шаркоўскі, жадаючы адшукаць больш кароткі шлях, паехаў у напрамку да Гродна. Кучынскі праз нейкі час вярнуўся ў маёнтак, а Шаркоўскі згубіўся. Ягонае цела знайшлі каля дарогі непадалёк ад цагельні Дзевятоўкі[7].

### *«Рухомае ды нерухомае…»*

23–30 красавіка 1913 г., гэта значыць усяго праз некалькі дзён пасля гібелі князя У. Друцкага-Любецкага, быў складзены вопіс рэчаў у яго радавым маёнтку Станіслава. Пачынаецца ён з пераліку капіталаў, што захоўваліся

---

1 А. Вашкевіч, *Як будавалі Гродна…*

2 *Революционное движение в Белоруссии, июнь 1907 – февраль 1917 г.: документы и материалы*, Минск 1987, с. 239, 240.

3 *Указатель населённым местностям Гродненской губернии*, Гродно 1905, с. 17.

4 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 19, спр. 447. Дело об делании фальшивой монеты в имении Станиславово князя Любецкого кузнецом Ашуркою. 1833, арк. 2 – 3 адв.

5 Ibidem, воп. 34, спр. 243. Дело об обнаружении ружья в имении Станиславово Гродненского уезда. 1863, арк. 6.

6 Ibidem, воп. 27, спр. 2242. Дело по жалобе жительницы Гродно Калманович на захват у неё коровы экономом имения Станиславово. 1868, арк. 4 – 4 адв.

7 Ibidem, воп. 17, спр. 604, арк. 269.

ў Станіславова: кніжкі Гродзенскага аддзялення дзяржаўнага банка, на рахунку якога знаходзілася 72 тысячы 500 руб., ды яшчэ 893 руб. наяўнымі. У незгаральнай шафе князя захоўваліся аблігацыі Гродзенскага сельскагаспадарчага таварыства на агульную суму 6 тысяч 300 рублёў, акцыі Таварыства друскеніцкіх мінеральных вод на 40 тысяч, вэксаляў ад розных асоб больш чым на 20 тысяч, грашовыя кнігі бухгалтарскага ўліку[1]. Верагодней за ўсё, гаворка ішла пра кабінет князя. Далей ішлі мэбля, посуд і г. д. з вялікай залы, у маёнтку ўсяго налічылі: адзін сейф (незгаральная шафа), чатыры звычайныя драўляныя шафы – дзве вялікія ды дзве малыя, ясеневае бюро, канторка, тры пісьмовыя сталы, шэсць венскіх стулаў, адно крэсла на вінтах, два маленькія дубовыя столікі, прэс для капіроўкі папер з шафкаю, сасновая этажэрка, тры лямпы, тэлефон з 25 правадамі (кошт 25 руб.), скрыня для лістоў, насценны гадзіннік, барометр, мапа Заходняга краю, атэстат скакавога таварыства ў рамцы, раяль фабрыкі Малецкага ды яшчэ адзін – канцэртны (за 150 ды 200 руб.), мпіянола «Metrostyle» ды п’есы да яго, усяго 134 штукі, 45 стулаў «Зальногр» пад чырвонае дрэва з пляценнем, гэткая ж канапа – пад чырвонае дрэва з пляценнем, два букавыя столікі, рассоўны круглы абедзенны стол на адной ножцы, французскія чатыры высоўныя столікі, буфет пад ясень, стары сценны гадзіннік з адной гірай ды маятнікам у шафе пад шклом, вісячая чыгунная лямпа з каўпаком і такая ж медная, з каўпаком, лямпа-бензінка, ртутны барометр «Расціні», дзесяць карцін у рамах без акрэсленага сюжэта. Да гэтага – партрэт імператара Паўла I, масла, партрэт імператара Аляксандра I, акварэль, партрэт імператара Мікалая I, акварэль, ды яшчэ пяць карцін у авальных рамах.

Наступныя рэчы, верагодней за ўсё, захоўваліся ў гасцінай ды суседніх з ёй пакоях: чучала савы, паднос Фражэ з драўляным дном, жасцяны паднос, кафейная машына Фражэ, шэсць нажоў з сярэбранымі ручкамі, столькі ж відэльцаў, сталовых і чайных лыжак (усё – 12-й пробы, з меткаю *E.S.*), салонка з лыжачкай белага металу, пяць лыжачак для кавы Фражэ, шэсць нажоў для садавіны той жа фірмы, пяць сталовых нажоў той жа фірмы, па шэсць набораў відэльцаў ды лыжак, супоўніца ды коўш Фражэ, два люстра, яшчэ адзін круглы стол пад чырвонае дрэва ды адзін – пад гульню ў карты, тры мяккія канапы, два плюшавыя крэслы пад арэх, пяць сабель у ножнах, чатыры шпагі ды дзве рапіры, адзін кінжал, дзве старадаўнія стрэльбы, два панцыры, тры пары рагоў, драўляная камода, старадаўні гадзіннік з рэпецітарам, млын-забаўка, два дзясяткі малюнкаў жывёл на дрэве, дзве вазы для кветак, яшчэ адна вісячая лямпа, стойка для палак (?), дзве шафы для кніг, тры дубовыя і адзін

[1] НГАБ у Гродне, ф. 94, воп. 1, спр. 48. Дело об установлении опеки над имуществом и малолетними детьми кн. Друцкого-Любецкого Владислава Александровича. 1913–1915, арк. 44–45 адв.

пісьмовы стол, канапа, два крэслы ды шэсць стулаў дубовых, абцягнутых скурай, этажэрка з анцікам, скрыня для сталовага срэбра; 16 групавых здымкаў у рамах, двайная медная лямпа, яшчэ адзін круглы столік ды бюро, дамскі пісьмовы столік пад чырвонае дрэва, лямпа, драўляны белы ложак, столік, тры стулы, стол для рэчаў, пісьмовы белы столік, люстра без рамы, круглы стол, медная лямпа, яшчэ адзін стол для гульні ў карты, канапа, чатыры мяккія стулы, шэсць паліраваных крэслаў ды адно мяккае, пюпітр для часопісаў, яшчэ тры столікі, друкарка «Ундэрвунд», медны падсвечнік, званок (відавочна, для выкліку слуг), жаночая фігурка, пяць пар шарсцяных парцьер, драўляны ложак пад арэх, начны столік з этажэркаю, камода, люстра, умывальнік, тры старадаўнія дываны, яшчэ этажэрка, два медныя падсвечнікі, ікона Маці Божай Вастрабрамскай, тры мапы, просты буфет пад арэх, сталовы сервіз на 12 асоб, гадзіннік з маятнікам у шафе.

У вопіс трапілі таксама пакой прыслугі ды кухня: жалезны ложак з матрацам, старая камода, старая простая лямпа, старая шафа, пакаёвы ляднік, дзве шафы, старая канапа, стары пісьмовы стол, розныя віны ў бутэльках – усяго 72, тры пары кісейных фіранак, ламбрэкен на вокнах – тры, трынаццаць рондаляў чырвонай медзі, крышкі, медныя лісты. Апошнімі ў спісе ішлі асабістыя рэчы князя Уладзіслава: «залаты ланцужок для музычнага гадзінніка, залатая шпілька для гальштука, рэвальвер «Маўзер» без чахла, дзве пячаткі князя ды тэатральны бінокль»[1].

Падчас перапісу маёмасці ў 1913 г. сам пляц быў ацэнены прыкладна ў 60 тысяч рублёў. У дакументах ён пазначаны як «гасподскі каменны дом, крыты гонтам, з мезанінам». Далей ішлі два жылыя дамы, крытыя гонтам, каменны дом для майстэрні, крыты дахоўкай, дамы для рабочых, служачых, майстэрні, хлявы ды інш. Агулам налічылі 35 будынкаў[2]. Акрамя таго, пры маёнтку знаходзіўся жывы інвентар: два коні на выезд, 60 – «абозных», для працы на фабрыках ды ў полі, 59 кароў, 1 бык[3].

## *«Мір хацінам, вайна палацам…»*

Пасля выканання ўсіх фармальнасцей, 8 жніўня 1913 г., роўна праз месяц пасля смерці свайго мужа, княгіня Марыя Іаана Здзіславаўна з Замойскіх Друцкая-Любецкая (1868–1939) уступіла ў правы па кіраванні маёмасцямі Станіслававa[4]. Княгіня Марыя не саступаючы мужчынам з роду Друцкіх-Лю-

---

1 Ibidem, арк. 46–48 адв.

2 Ibidem, арк. 53 адв. – 54, 58 адв.

3 Ibidem, арк. 48 адв.

4 *НГАБ у Гродне,* ф. 2, воп. 30, спр. 2569. Дело о разрешении опекунам малолетних Друцких-Любецких получить 72 500 руб… 1913, арк. 1–10; Ibidem, ф. 2, воп. 30,

бецкіх актыўна займалася прадпрымальніцтвам ды спраўна кіравала гаспадаркай[1]. Акрамя ўласна фальварка з цагельнымі заводамі ды кафлярняй, ёй належалі маёнтак Чарлёна з вінакурным заводам ды цагельняй, маёнтак Панямунь Гродзенскай губерні, маёнтак Шчучын з лесапільным заводам ды фанернай фабрыкай у Віленскай губерні, маёнтак Пагост-Загародскі з лесапільным заводам у Мінскай губерні, маёнтак Ужвенты ў Ковенскай губерні ды маёнтак Пушча Лейпунская ў Сувалкаўскай губерні[2].

Як аказалася, на маёнтак Станіславова быў налічаны доўг памерам 3,5 тыс. руб. на карысць Гродзенскага аддзялення дзяржбанка па вэксальным крэдыце. Акрамя таго, уся маёмасць князя Уладзіслава была абцяжарана дадаткова даўгамі: дзяржбанку – 120 тыс., Мікалаю Сулеўскаму – 15 тыс., Вільгельміне Зындрам-Касцялкоўскай – 1,5 тыс., Гродзенскаму сельскагаспадарчаму таварыству – 2 тыс., банкірскай канторы Г. Вавельберга ў Варшаве – каля 80 тыс., камерцыйнаму банку ў Варшаве – 25 тыс., Ядвізе Петрашкевіч – 40 тыс., графу Казіміру Ронікеру – 5 тыс., Яну Біспінгу – 50 тыс. Усяго доўг князя Друцкага-Любецкага складаў 337 490 руб.[3]

Акрамя самой удавы апекунамі дзяцей князя – Марыі (1890–1943), Яна (1898–1990), Тэрэсы (1898–?) ды Яніны (1900–1978) – былі прызначаны Уладзіслаў Пуслоўскі ды камер-юнкер Высачайшага двара Уладзімір Іларыёнавіч Ленскі[4]. 1 лістапада 1915 г. гродзенскі віцэ-губернатар зацвердзіў распараджэнне мясцовай дваранскай апекі адносна таго, каб грошы, якія былі атрыманы ад вайсковага ведамаства за землі маёнткаў Панямунь, Друцк ды Станіславова, занятыя пад будоўлю крэпасці (усяго – 118 дзесяцін), былі пе-

спр. 2585. Дело по ходатайству опекуна кн. Друцких-Любецких… 1914, арк. 1 адв.; Ibidem, ф. 2, воп. 30, спр. 2622. Дело об уплате денег наследникам Друцкого-Любецкого. 1915–1916, арк. 59 – 59 адв.

1 НГАБ у Гродне, ф. 8, воп. 2, спр. 2079. Праект пабудовы княгіняй Марыяй Друцкай-Любецкай гофманаўскай печы, навесу для сушкі сырца, летняга барака для рабочых цагельні ў Станіславове. 1914.

2 Ibidem, воп. 2, спр. 2086. Дело о разрешении кн. Марии Друцкой-Любецкой построить гофмановскую печь на кирпичном заводе в им. Станиславово Гродненского уезда. 1914, арк. 11–12.

3 НГАБ у Гродне, ф. 94, воп. 1, спр. 48. Дело об установлении опеки над имуществом и малолетними детьми кн. Друцкого-Любецкого Владислава Александровича. 1913–1915, арк. 59.

4 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 30, спр. 2569. Дело о разрешении опекунам малолетних Друцких-Любецких получить 72 500 руб… 1913, арк. 1–10; Ibidem, ф. 2, воп. 30, спр. 2585. Дело по ходатайству опекуна кн. Друцких-Любецких… 1914, арк. 1 адв.; Ibidem, ф. 2, воп. 30, спр. 2622. Дело об уплате денег наследникам Друцкого-Любецкого. 1915–1916, арк. 59–59 адв.

ралічаны на рахунак дэпазіту губернскага праўлення да моманту паўналецця нашчадкаў забітага князя. Уся сума мела складаць больш за 400 тыс. руб.[1] Па іроніі лёсу, аднак, гродзенская крэпасць, якая павінна была паўстаць на гэтых абшарах, канчаткова так і не была пабудавана і ўжо больш як месяц знаходзілася ў руках ворага. Што тычыцца саміх грошай, дык ведаючы лёс Расійскай імперыі, мабыць, гэта была ці не найгоршая інвестыцыя Друцкіх-Любецкіх, бо амаль уся гэта сума аказалася пераведзенай у паперы ваеннай пазыкі. Праўда, дзякуючы таму, што княгіня аплаціла з уласных сродкаў увесь доўг, які пакінуў пасля сябе яе муж, дваранская апека дазволіла ёй атрымаць каля 200 тыс. руб. авансу[2].

Першая сусветная вайна была адносна літасцівай да Станіслава. Яшчэ ў кастрычніку 1914 г. тут нават спыняліся некалькі вялікіх князёў імператарскай дынастыі: Кірыл Уладзіміравіч (1876–1938) і Андрэй Уладзіміравіч (1879–1956) – стрыечныя браты Мікалая II, Дзмітрый Паўлавіч (1891–1942), якія пазней прымаў удзел у змове супраць Рыгора Распуціна (1869–1916), – а таксама адмірал Аляксандр Міхайлавіч (1866–1933), блізкі сябар Мікалая II, і граф Адам Замойскі[3]. Вайна хутка наблізілася да Станіслава. На пачатку мая 1915 г. гродзенскі спраўнік М. Бюфанаў у сваім рапарце даносіў: «У тры гадзіны дня з варожага аэраплана над маёнткам Станіслава Гродзенскага ўезда было скінута дзве бомбы, з якіх першая трапіла ў двор гэтага маёнтка, а другая – недалёка ад самога будынка. Абедзве бомбы разарваліся, аднак ад выбухаў ніякай шкоды ні людзям, ні маёмасці не было, толькі засталося некалькі ямін у зямлі, мяркуючы па чым бомбы былі не вялікімі» [4]. Тады ж на тэрыторыі маёнтка будучы вынаходнік тэлебачання Уладзімір Зварыкін арганізаваў працу тэлеграфнай станцыі Гродзенскай крэпасці. Пазней расквартараваныя ў палацы казакі знішчылі частку паркетнай падлогі, спаліўшы яе ў печы[5].

Ад моманту свайго з'яўлення сядзіба Станіслава наўпрост уплывала на жыццё горада, і пры гэтым яна заставалася па-за яго межамі. Першымі на гэту

1 Ibidem, спр. 2622. Дело об уплате денег наследникам Друцкого-Любецкого. 1915–1916, арк. 7–7 адв., 23.

2 Ibidem, арк. 60.

3 *Военный дневник великого князя Андрея Владимировича Романова*. Вступление, подготовка текста, публикация и примечания к. и. н. *В. М. Хрусталева* и *В. М. Осина*, „Октябрь» 1998, № 4 [online], http://militera.lib.ru/db/romanov_av/01.html [дата доступу: 12.03.2024]; В. Черепица, *Город-крепость Гродно в годы Первой мировой войны*, Гродно 2005, с. 113.

4 В. Черепица, *Город-крепость Гродно…*, с. 82.

5 R. Aftanazy, *Dzieje rezydencji na dawnych kresach…*, s. 133.

праблему звярнулі ўвагу нямецкія акупацыйныя ўлады. У выніку Станіслаўова на кароткі час увайшло ў склад Гродна, а мясцовыя жыхары прынялі ўдзел у выбарах гродзенскага самаўрада[1].

А потым надышоў час рэвалюцый. Міхал Станіслаў Касакоўскі (1883–1962), польскі палітычны дзеяч, які завітаў сюды па дарозе з Вільні да Варшавы ў пачатку студзеня 1919 г., атрымаў ад тагачаснага адміністратара маёнтка пана Вялічкі тры «скарбы»: дрэва для абагрэву, салому для начлегу ды… самавар, а таксама месца ў адной з афіцын, дзе яшчэ нядаўна стаялі нямецкія жаўнеры[2]. Праз некалькі месяцаў, у канцы красавіка, у чаканні падыходу рэгулярнай польскай арміі ў Станіслаўове забарыкадаваўся штурмавы атрад Польскай вайсковай арганізацыі[3]. А ўжо ў ліпені 1920 г. Станіслаўова стала месцам зацятых баёў паміж польскімі і савецкімі часткамі.

Пагорак каля палаца абаранялі польскія курсанты школы падафіцэраў, батальён Слуцкага стралковага палка ды танкавы ўзвод. Першая атака савецкай кавалерыі ранкам 19 ліпеня 1920 г. трапіла пад абстрэл польскіх танкаў, якія знаходзіліся на чыгуначных платформах. Несучы цяжкія страты, савецкія кавалерысты адступілі. Аднак бальшавікі, рухаючыся ўздоўж Нёмана, пачалі прарывацца да гарадскіх мастоў, адразаючы шляхі адступлення. Польскі танкавы ўзвод пакінуў Станіслаўова, каб паспець прабіць сабе дарогу ўздоўж гарадскіх вуліц, ужо занятых савецкай кавалерыяй[4].

Улетку – увосень 1920 г. двор закінутага палаца стаў месцам масавых расстрэлаў. «Штодня сцены аднаго з дамоў у канцы вуліцы Станіслаўоўскай, – пісаў «Dziennik Białostocki», – запырсканыя свежай крывёю, нагадваючы пра чарговыя ахвяры ідэі камунізму. А ахвяр гэтых была немалая колькасць: кожны дзень па дзесяць –пятнаццаць чалавек заставалася ляжаць каля парога крывавага дома». 30 верасня 1920 г., пасля таго як Гродна зноў было занята польскімі войскамі, на Станіслаўоўскім полі была праведзена эксгумацыя парэштаў. Следчая камісія знайшла некалькі магіл, дзе ляжалі расстраляныя бальшавікамі мясцовыя жыхары[5].

…Свет мяняўся на вачах. Ранейшы грамадскі ўклад быў разбураны, затое на палітычнай мапе з’явіліся новыя дзяржавы. Сярод эліт адроджанай Польшчы памяць аб нядаўнім забойстве князя У. Друцкага-Любецкага была яшчэ

[1] *Горадня 1916 г. на старонках Дзённіка ротмістра Курта Кламрота*, [online] https://harodnia.com/be/uczora/rasijskaja-impieryja/623-goradnya-1916-g-na-staronkakh-dzjonnika-rotmistra-kurta-klamrota [дата доступу: 12.03.2024].

[2] Archiwum Polskiej Akademii Nauk. *Diariusz S. M. Kossakowskiego*, t. IV, 1919 r, s. 23.

[3] *Jednodniówka Koła Związku P. O. W.* Grodno 1936, s. 28.

[4] M. Piwoszczuk, *1 Pułk czołgów 1918–1920*. Napoleon V, 2015, s. 52–59.

[5] А. Чернякевич, И. Трусов, *«Новый Свет» и окрестности…*, с. 9.

вельмі свежая, але зараз на тое, што здарылася, глядзелі зусім інакш. Казалі, быццам яго забілі па загадзе вялікага князя Мікалая Мікалаевіча як замяшанага ў фінансавых махінацыях, а наёмнага забойцу, каб замяць справу, даслалі з Пецярбурга. З'явіліся плёткі аб нейкіх «рамантычных» адносінах нябожчыка з маці ці сястрой аднаго з яго слуг. Дайшло да таго, што, спасылаючыся на сеанс медыума, сцвярджалі, што дух нябожчыка адкрыў таямніцу цэлай змовы: яго забілі яўрэі, якія хацелі атрымаць рэдкі асобнік Талмуда!

І ўсё ж апеляцыйны суд у Варшаве ў 1926 г. прызнаў Я. Біспінга вінаватым у забойстве ў стане афекту і пакінуў у зняволенні. Аднак 5 мая 1928 г. Вярхоўны суд адмяніў папярэдняе рашэнне, і Ян Біспінг быў цалкам апраўданы. Засталося без адказу толькі адно пытанне: хто на самой справе забіў уладальніка Станіславава. Але цяпер гэта ўжо не так важна, бо справядлівасць перамагла, а незаслужана абвінавачаны былы сябар ахвяры цалкам ачысціў сваё імя. У выніку справа аб забойстве князя Друцкага стала адным з найдаўжэйшых працэсаў на тэрыторыі былога Каралеўства Польскага. Яна і сёння застаецца нераскрытай[1].

## *У межах горада*

Адразу пасля вайны сядзіба ў Станіславове стаяла закінутай, з выбітымі вокнамі, паламанай падлогай, аднак сам маёнтак працягваў жыццё. Што праўда, яго памеры скараціліся да 377 га, з якіх 225 га складала ворная зямля, 45 га – сады ды агароды, 42 га былі пад будоўляй ды фабрыкамі, 26 га займалі пашы, а 18 – дарогі ды пусташы. Яшчэ 21 га быў перададзены вайсковым уладам. З будынкаў у фальварку, акрамя палаца, меліся: шэсць «чваракаў мураваных», адзін – «драўляны,» два мураваныя ды два драўляныя жылыя дамы, дзве мураваныя аборы, стайня, стадола, крама, кузня ды стэльмашня[2].

Паводле перапісу 1921 г., у маёнтку пражывала 368 чалавек, з якіх 362 пазначылі сабе палякамі і толькі 6 – беларусамі[3]. У самой сядзібе жылі і працавалі 44 чалавекі. З жывога інвентару тут меліся 32 кані, 9 кароў, 10 свіней. Яшчэ 10 коней працавалі пры фабрыках. Акрамя таго, дворская служба трымала 25 кароў ды 20 свінняў. З прамысловых прадпрыемстваў да Станіславова належалі дзве цагельні ды кафлярня, на якіх былі заняты 60 рабочых, якія жылі тут разам з сем'ямі. А ўжо ў канцы мая 1929 г. пачала працаваць яшчэ адна цагельня каля Станіславова, на якую адразу было ўладкавана каля двух-

1 L. Okęt, *Proces Bispinga,* Warszawa 1926.

2 ДАГВ, ф. 89. воп. 1. спр. 63. Дело о проведении парцелляции имения Станиславово Вертелишской гмины. 1922–1924, арк. 3, 3 адв.

3 *Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej: opracowany na podstawie wyników pierwszego powszechnego spisu ludności z dn. 30 września 1921 r. i innych źródeł urzędowych.*, t. 5, Województwo Białostockie 1924, s. 42.

сот чалавек, што вельмі добра паўплывала на ўзровень беспрацоўя ў горадзе. Дадаткова цагельні карысталася сваім уласным чыгуначным транспартам. І ўжо зусім красамоўным выглядае факт, што пры зруйнаваным палацы гаспадарка мела чатыры трактары[1].

Маёнтак усё больш нагадваў сучаснае аграпрамысловае прадпрыемства. Напрыклад, тут былі закладзены прамысловыя плантацыі рэвеня і спаржы, існаваў выдатны гадавальнік саджанцаў пладовых дрэў, які нават выдаваў уласны каталог на 135 гатункаў яблынь («Антонаўка», «Цытрынаўка», «Пепін літоўскі», «Каштэля», «Цітоўка» і інш.), 72 гатункі груш («Бергамот восенскі», «Прынцэса Марыяна», «Фаварытка» ды інш.) і некалькі гатункаў малін, парэчак, агрэсту[2].



*Станіслававова. 1928 г.*

І ўсё ж найбольшай каштоўнасцю Станіслававова па-ранейшаму заставалася зямля, усе тыя абшары, якія некалі А. Тызенгаўз далучыў да Гродзенскай эканоміі і якія зараз усяляк абмяжоўвалі далейшую разбудову горада. Аднак гэтым разам і сам фальварак, апынуўшыся ў межах Польскай дзяржавы, трапляў пад прымусовую парцэляцыю, падзел паміж больш дробнымі ўладальнікамі, што ў сваю чаргу прымушала адміністрацыю маёнтка ісці на чарговыя хітрыкі, але ўжо з польскай уладаю[3]. Сітуацыя заблытвалася яшчэ больш дзякуючы таму, што папярэдняе рашэнне нямецкіх улад адносна пераносу гарадской мяжы было скасавана, і спатрэбілася яшчэ дзесяцігоддзе, перш чым гэтыя абшары зноў далучыліся да Гродна.

Яшчэ ў 1922 г. Таварыства дзяржаўных чыноўнікаў у Гродне звярнулася да ўлад з просьбаю аб выдзяленні ім часткі ўладанняў Друцкіх-Любецкіх для пабудовы г. зв. «калоніі» – квартала прыватных дамоў[4]. Адначасова з аналагічнай ініцыятывай выступіла таварыства мясцовых ветэранаў вайны супраць бальшавікоў, якое хутка пабудавала некалькі камяніц побач з габрэйскімі

1 ДАГВ, ф. 17, воп. 1, спр. 201, арк. 41; Ibidem, ф. 89, воп. 1, спр. 63. Дело о проведении парцелляции имения Станиславово Вертелишской гмины. 1922–1924, арк. 3, 3 адв.

2 А. Федорук, *Старинные усадьбы…*, с. 384.

3 ДАГВ, ф. 89, воп. 1, спр. 63. Дело о проведении парцелляции имения Станиславово Вертелишской гмины. 1922–1924, арк. 12.

4 Ibidem, арк. 1.

могілкамі. Да іх далучыліся працаўнікі мясцовай пошты. Так на мапе Гродна з'явіўся гарадскі квартал, які атрымаў неафіцыйную назву Залатая горка (сёння гэта частка г. зв. Новага Свету). Сама ж адміністрацыя Станіслававова актыўна гандлявала зямельнымі надзеламі, усяляк рэкламуючы карысныя інвестыцыі ў нерухомасць[1].

Апошнім уладальнікам Станіслававова стаў сын Марыі і Уладзіслава – Ян Марыя Друцкі-Любецкі. Сучаснікі ўзгадвалі Я. М. Друцкага-Любецкага як глыбока рэлігійнага, адкрытага да атачэння чалавека, вялікага аматара прыроды (сярод іншага ён займаўся пчалярствам). Ён атрымаў адукацыю ў школе бенедыкцінцаў у Ампефорсе (Англія), вучыўся ў гімназіі ў Пецярбургзе і ў Варшаўскім універсітэце. Ян Марыя Друцкі-Любецкі ахвяраваў айцу Максіміліяну Кольбэ, будучаму каталіцкаму святому, тэрыторыю пад кляштар францысканцаў у Тэрэсіне. Князь з'яўляўся сябрам Таварыства прыхільнікаў Гродна, аднак пры гэтым большасць часу праводзіў у маёнтку Тэрэсін пад Варшавай, дзе некалі загінуў ягоны бацька[2]. Акрамя Станіслававова, уладанні князёў Друцкіх-Любецкіх у наваколлі Гродна ўключалі ў сабе фальваркі Друцк, Пышкі ды Панямунь[3].

Яшчэ ў 1924 г. Я. М. Друцкі-Любецкі падпісаў дамову, па якой у выпадку далучэння маёнткаў Станіслававова да Гродна князь абяцаў саступіць на карысць горада частку сваіх уладанняў. Справа ў тым, што гэткае вяртанне ў межы горада значна павышала кошты на зямлі, але мела і адмоўныя наступствы. Напрыклад, магістрат прыняў пастанову атрымаць ад гаспадароў маёнтка падатак на карысць горада. Праўда, узамен ён прапанаваў працягнуць дамову на асенізатарскія працы ў горадзе ды паабяцаў «прыцягнуць да адказнасці нелегальныя асенізатарскія прадпрыемствы»[4]. Пачалася своеасаблівая гульня паміж гродзенскім самаўрадам і гаспадарамі Станіслававова, у якой кожны з бакоў намагаўся абыграць іншы. У рэшце рэшт на пасяджэнні гарадской рады 6 ліпеня 1933 г. было зацверджана рашэнне ўключыць у межы Гродна вёску Солы, фальваркі Панямунь, Рубанаўку, маёнтак Астравок, маёнтак Станіслававова, лес Пышкі, увесь маёнтак Аўгустова ды Фолюш[5]. Аднак канчат-

---

[1] *Parcelacja terenów budowlanych majątku Stanisławów w Grodnie*. Grodno 1923, s. 6–8.

[2] *Ziemianie polscy XX wieku*. Część 3. Wydawnictwo DiG, 1992, s. 104; А. Чарнякевіч, *Памяць пра Гродна. Матэрыялы да біяграфічнага слоўніка постацей міжваеннага горада 1919–1939 гг.* Гродна 2015, с. 97; M. Bartoszewski, R.A. *Soczewka Niepokalanów*, Niepokalanów 2016, s. 33.

[3] ДАГВ, ф. 89, воп. 1, спр. 63. Дело о проведении парцелляции имения Станиславово Вертелишской гмины. 1922–1924, арк. 4.

[4] ДАГВ, ф. 46, воп. 1, спр. 2, арк. 10.

[5] Ibidem, спр. 281, арк. 192 адв. – 193.

кова Станіслававова ўвайшло ў склад г. Гродна толькі праз два гады[1]. Праўда, не паспеўшы вярнуць сабе частку былых уладанняў, горад амаль адразу іх зноў страціў. У канцы 1937 г. гарадская рада была вымушана зацвердзіць рашэнне беластоцкага ваяводы аб нацыяналізацыі зямельнага надзелу па вуліцы 11 лістапада памерам каля чвэрці гектара, які раней належаў маёнтку, а зараз перадаваўся… вайсковым уладам пад казармы! Узамен жа Гродна атрымаў кампенсацыю ў 1469 злотых[2].

Затое зараз можна было планаваць развіццё горада на далёкую перспектыву. Невыпадкова яшчэ на пачатак 1927 г. магістрат зацвердзіў рашэнне аб пераносе старых фарных могілак на далучаную тэрыторыю маёнтка Станіслававова[3]. Аднак прайшло дзесяць гадоў, а справа могілак так і не зварухнулася з мёртвай кропкі. Спярша гэтаму перашкаджала пытанне аб фармальным далучэнні абшара маёнтка да горада, а пазней – падатак, які павінна было заплаціць гарадское самакіраванне ў дзяржаўны бюджэт[4]. У 1936 г. гарадская рада ў чарговы раз разглядала пытанне аб пераносе могілак з вуліцы Ерусалімскай на вуліцу Скідзельскую і прыйшла да высновы, што новыя могілкі павінны мець парафіяльны характар, гэта значыць – рэлігійны, а не гмінны і свецкі, інакш яны б каштавалі гораду да 150 тыс. злотых падатку! Была нават створана асобная камісія для арганізацыі месца пад хрысціянскія могілкі[5]. У выніку здзейсніць планы па пераносе гарадскіх могілак атрымалася ўжо толькі ў савецкі час.

Іншым нявырашаным пытаннем стала пабудова футбольнага стадыёна. Менавіта з такой прапановай выступіла яўрэйскае спартыўнае таварыства «Макабі», плануючы атрымаць ад горада тэрыторыю былога велатрэка. Замест гэтага на сваім пасяджэнні вясной 1927 г. магістрат зацвердзіў рашэнне перадаць таварыству «Макабі» пад стадыён пляцоўку каля кафлярні Станіслававова за чыгункай, а былы велатрэк захаваць для ўрадавага Камітэта фізічнага выхавання[6]. Стадыён, праўда, так і не паўстаў, але гэты кавалак уладанняў Станіслававова паклаў пачатак існаванню гродзенскага заапарка[7].

---

1 Т. Казак, *Дакументы магістрата г. Гродна 1919–1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці* [w:] Гарадзенскі палімпсест: зборнік матэрыялаў II Міжнароднай навуковай канферэнцыі, лістапад 2009 г., г. Гродна, пад рэдакцыяй А. Ф. Смаленчука, Н. У. Сліж, Гародня 2009, с. 363.

2 ДАГВ, ф. 46, воп. 1, спр. 285, арк. 8 адв. – 9.

3 Ibidem, спр. 10, арк. 27.

4 Ibidem, спр. 283, арк. 5 – 5 адв.; тамсама, спр. 284, арк. 85.

5 Ibidem, спр. 285, арк. 52 – 52 адв.

6 Ibidem, спр. 3, арк. 31 – 31 адв.

7 Ibidem, спр. 285, арк. 140 адв., 144 адв. – 145.

У міжваенны час генеральным адміністратарам маёмасці ды кіраўніком фабрык Друцкіх-Любецкіх, як афіцыйна гучала пасада, з'яўляўся Ежы Цытаржынскі (1890–1941). Не існавала, як падаецца, ніводнай ініцыятывы і ніводнай грамадскай справы ў Гродне і наваколлі, якая б адбылася без яго ўдзелу. Нязменны сябра мясцовага самаўрада на працягу ўсіх дваццаці гадоў, Е. Цытаржынскі з'яўляўся сябрам камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922), Таварыства сяброў навук (Towarzystwo Przyjaciół Nauk) (1923), камісіі, якая мела сваім заданнем абарону статусу Гродна як «горада, не выдзеленага з павета» (1927), аргкамітэта Таварыства загарадных участкаў, камітэта Музея прыроды ў Гродне (1930), Камітэта па пабудове заапарка (Komitet ogrodu przyrodniczego) (1930), праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага таварыства апекі над мастацтвам, культурай і прыроднымі каштоўнасцямі «Лехія» (1930), тапанімічнай камісіі, тэатральнай камісіі ды шмат чаго яшчэ. Сярод іншага Е. Цытаржынскі неаднаразова выступаў з ініцыятывай знайсці і адбудаваць у горадзе свідравіну з мінеральнай вадой, якую выкарыстоўвалі нямецкія ўлады падчас Першай сусветнай вайны, ён з'яўляўся аўтарам кніжкі, прысвечанай аднаўленню папуляцыі нёманскіх баброў («Czarny bóbr z Łunny pod Grodnem», 1929 г.)[1]. Яму мроілася для горада слава другіх Друскенік, а можа і яшчэ большая. Аднак хутка і гэта старонка гісторыі маёнтка перагарнулася.

## *«Каралеўскі саўгас»*

Раніцай 15 верасня 1939 г. жыхароў Станіславова падняла паліцыя і ўсім загадала капаць акопы супраць нямецкіх войскаў, што імкліва набліжаліся. «Трэба было абараняцца, і ўсё Станіславова паднялося, – узгадваў пазней Ежы Кежкоўскі, які тады яшчэ малым хлопцам жыў тут разам з маці, – нават я ўзяў рыдлёўку і [...] пайшоў дапамагаць. [...] Потым да нас у дапамогу прыгналі жыхароў вёскі Падкрыжакі. І калі капалі, адзін мужык з той вёскі знаёмаму казаў, што польскі ўрад уцёк. Я спалохаўся, кінуў рыдлёўку і думаю: што гэта робіцца – усе паўцякалі! [...] Менавіта тады ўжо пайшлі чуткі, што прыйдуць у Гродна саветы. [...] Я выйшаў неяк на вуліцу і ўбачыў польскую ўзброеную кавалерыю, за імі – конная і зенітная артылерыя. Былі і лётчыкі. Каля нас яны спыніліся, папрасілі паесці. Людзі ім дапамаглі, вынеслі малако і хлеб. Былі ў нас у Станіслававе і тыя, хто прытрымліваўся камуністычных поглядаў. І хтосьці з іх стрэліў побач з польскімі салдатамі. Выйшаў тады з машыны капітан і сказаў: «Што вы тут бальшавікоў чакаеце? Як вам не сорамна!». Людзі сталі абурацца. Два сяржанты падбеглі да аднаго барака, а там жылі самыя-самыя заўзятыя польскія патрыёты. Праверылі дакументы і папрасілі прабачэння. Пасля паручнік выйшаў і сказаў капітану, што трэба ехаць. Салда-

[1] А. Чарнякевіч, *Памяць пра Гродна…*, с. 268.

ты адступілі да Літвы. Тым часам нашы загартаваныя жанчыны сталі думаць, хто ж стрэліў у афіцэраў. Яны набралі палак і грабель і пайшлі ў адзін дом, у якім, па чутках, збіраліся мясцовыя камуністы. Там аказаліся чатыры чалавекі. Як высветлілася, яны падгаварылі аднаго дурня, Сямёна, каб той стрэліў у бок салдат. Казалі яму: «Ты, Сямён, стрэльні, а яны ўсе ўцякуць і тады мы назбіраем шмат трафеяў». Ён так і зрабіў, а пасля спалохаўся і ўцёк»[1].

Друцкія-Любецкія валодалі Станіславовам сто дваццаць пяць гадоў. Сярод прадстаўнікоў гэтага княжацкага роду былі дзяржаўныя дзеячы, мецэнаты і прадпрымальнікі, аднак іх сусвет, як міфічную Атлантыду, раптам, у адно імгненне, паглынула бездань. Князь Ян, якога вайна заспела далёка ад маёнтка, паспеў з'ехаць у эміграцыю і Станіслава больш не пабачыў[2]. Ягоная маці, Марыя-Ёанна з Замойскіх Друцкая-Любецкая, удава князя Уладзіслава, памерла ў Гродне 25 верасня 1939 г., усяго праз некалькі дзён, як у горад увайшлі савецкія часткі, і была пахавана на фарных могілках. У метрыцы прычынай яе смерці названа «ўвяданне ад старасці»[3]. Былы адміністратар маёнтка Ежы Цытаржынскі быў затрыманы органамі НКУС як «сацыяльна небяспечны элемент» і пазней памёр у турме[4]. Загінуў у савецкай вязніцы і Ян Біспінг, уяўны забойца князя Уладзіслава.

Застаўся толькі палац на пагорку. Паводле савецкай «Даведкі аб стане былога памешчыцкага маёнтка Станіслава», тут знаходзіліся былы дом памешчыка на дваццаць пакояў, два дамы для адміністрацыі па шэсць-сем пакояў ды сельскагаспадарчыя пабудовы: дзве стайні, дзве фермы, вялікі свінарнік, дзве адрыны, свіран. Акрамя таго, у маёнтку меліся дзве цагельні, фабрыка кафлі, кішарня для кіслай капусты, трактар «Дэрнінг», сапсаваны, дзесяць вулляў з пчоламі, два вуллі без пчол[5]. У выніку ў лютым 1940 г. тут паўстаў першы ў Гродзенскім раёне саўгас, ці, як ён афіцыйна называўся, «молочно-овощное советское хозяйство Станиславово»[6]. Вось толькі застаўшыся без старых гаспадароў, накрытыя новым дахам хлявы працякалі, жывёлы стаялі ў гноі і брудзе, і, каб падаіць кароў, даводзілася іх выцягваць на вяроўцы за

[1] Е. Кежкоўскі, *Карэнных гродзенцаў амаль не засталося* [w:] Р. Кулевіч, *Горад адзін, успаміны розныя: Гродна 1930–40-х вачыма жыхароў*, Гродна 2018, с. 12–13.

[2] M. Bartoszewski, R.A. *Soczewka Niepokalanów…*, s. 36.

[3] НГАБ у Гродне, ф. 259, воп. 5, спр. 18. Фарный костёл, записи о смерти. 1931–1940, арк. 195 адв.

[4] А. Чарнякевіч, *Памяць пра Гродна…*, с. 268.

[5] *Государственный архив общественных объединений Гродненской области*, ф. 6195, воп. 1, спр. 603, арк. 17, 27, 28.

[6] *Біяграфіі гарадзенскіх вуліц. Ад Фартоў да Каложы*, укладальнікі: А. Вашкевіч, В. Саяпін, І. Трусаў, А. Чарнякевіч, Я. Лялевіч, І. Лапеха, Гродна 2012, с. 364.

рогі. Прызначаны кіраўніком саўгаса Дубоўскі, паводле данясенняў агентаў НКУС, выкарыстоўваў пасаду ва ўласных інтарэсах[1].

Але пасля ўсё стала яшчэ горш. Падчас нямецкай акупацыі ў палацы замест саўгаса размясціўся арбайтсамт (arbeitsamt) – бюро па ўліку і размеркаванні працоўнай сілы. Менавіта тут складаліся спісы людзей для вывазу на працу ў Нямеччыну. Паводле нямецкага даследчыка Фелікса Акермана, г. зв. остарбайтары з Гродна выкарыстоўваліся найперш у сельскай гаспадарцы Усходняй Прусіі ды абаронных прадпрыемствах Кёнігсберга. Агулам за час акупацыі было вывезена каля паўтары тысячы чалавек[2].

Летам 1944 г., рыхтуючыся да савецкага наступу, немцы наладзілі на вышынях каля Станіслава знешнюю лінію абароны Гродна. Увечары 15 ліпеня да горада з поўначы прарвалася 6-я гвардзейская кавалерыйская дывізія корпуса генерала М. Аслікоўскага (1900–1971). Чатыры эскадроны 25-га кавалерыйскага палка ў цемры, пераадольваючы зацяты супраціў ворага, выйшлі да Гараднічанкі. Следам у наступ пайшла пяхота. Пасля артылерыйскай падрыхтоўкі Станіславова атакаваў полк пад камандаваннем падпалкоўніка А. Булаўкі. Бой працягваўся чатыры гадзіны, аднак самім маёнткам удалося авалодаць толькі пасля таго як рота аўтаматчыкаў абышла яго з флангаў[3]. І да гэтага часу зямля вакол палаца захоўвае аскепкі снарадаў, кулі ды гільзы.

Амаль адразу пасля прыходу Чырвонай арміі мясцовыя ўлады звярнуліся ў Саўнаркам БССР з просьбай перадаць землі былога маёнтка ў распараджэнне горада. Просьбу тлумачылі тым, што ў выпадку замацавання гэтых тэрыторый за саўгасам, Гродна не будзе мець магчымасці пашырацца. Акрамя таго, існаваў шэраг мясцовых арганізацый, якім была патрэбна зямельная плошча для ўласнай прыгараднай гаспадаркі[4]. У выніку было прынята кампраміснае рашэнне. Горад атрымаў частку зямель, а сам саўгас на аснове пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР 17 студзеня 1951 г. быў перададзены ў падпарадкаванне толькі што створанаму Гродзенскаму сельскагаспадарчаму інстытуту як вучэбна-досведная гаспадарка[5].

---

1 M. Wierzbicki, *Polacy i białorusini w zaborze sowieckim. Stosunki polsko-białoruksie na ziemiach północno-wschodnich II RP pod okupacją sowiecką 1939–1941*, Warszawa 2000, s. 353.

2 Ф. Акерман, *Гісторыя Гародні 1919–1991: нацыяналізацыя, вынішчэньне і савэтызацыя сярэдняэўрапейскага места*, Смаленск 2021, с. 238.

3 А. Чернякевич, И. Трусов, *«Новый Свет» и окрестности…*, с. 10.

4 *Гродненщина накануне и в годы Великой Отечественной войны (1939–1945) (По документам гродненских архивов)*, Гродно 2005, с. 423–424.

5 ДАГВ, ф. 957. Научная опись фонда учебного хозяйства «Принеманский» Гродненского сельскохозяйственного института, дер. Путришки, арк. 2–3; *История аграрной*

Першым кіраўніком вучгаса быў прызначаны Аляксандр Худчанка, аднак ужо хутка ў падуладнай яму ўстанове выявіўся шэраг праблем: спазненні рабочых на працу мелі сістэматычны характар, а самі студэнты прагульвалі заняткі ды наогул не з'яўляліся на выкананне нарада[1]. А ўжо ў верасні 1952 г. дырэктар інстытута вынес некалькім супрацоўнікам гаспадаркі «строгую вымову з апошнім папярэджваннем». Яе тэкст варты таго, каб тут яго працытаваць: «На працягу доўгага часу работнікі вучгаса ветэрынарны лекар тав. Каламоец, механік вучгаса тав. Кунтыш, санітар тав. Салавей яўляліся на працу ў п'яным выглядзе; адзначаліся выпадкі, калі тав. Каламоец і тав. Салавей, выязджаючы на ўчастак па аглядзе жывёлы, заязджалі на хутар, дзе п'янствавалі. Сістэматычная выпіўка прывяла да нездавальняючай работы на вытворчасці. Па віне тав. Каламойца і тав. Салаўя ў цялят з'явіўся лішай, ветэрынарная дапамога аказваецца жывёлам несвоечасова [...]. У свінарніках і на жывёльным двары [...] несвоечасова прыбіраецца гной ад жывёлы, у памяшканні шмат павуціння і бруду [...] Трактары працуюць вельмі дрэнна, сельгасмашыны і прылады ўтрымліваюцца няправільна. Яны не хаваюцца ў пустым падстрэшку, а раскіданыя па сядзібе [...] Дагэтуль працоўныя з падпарадкавання механіка не пераведзены на здзельную працу, існуе падзёншчына, якая прыводзіць да нізкай прадукцыйнасці працы»[2]. Яшчэ праз месяц да гэтага дадалася спроба крадзяжу, калі заатэхнік вучгаса спрабаваў «пры здачы мяса ад прырэзанай каровы рэстарану «Нёман»" украсці дзесяць кілаграм мяса[3].

Наступным кіраўніком Станіслававова стаў С. Шарупіч[4]. Каб засцерагчы вучгас ад хвалі крадзяжоў, ён увёў сістэму пропускаў, усталяваў сталую ахову ды забараніў мясцовым жыхарам браць ваду на ферме. Акрамя гэтага, дзеля агульнага падняцця дысцыпліны былі адменены танцы ў мясцовым клубе, якія звычайна заканчваліся бойкамі, праведзены ўлік незаконных кватарантаў, што пражывалі на плошчах вучгаса[5]. Не заставаліся без працы і кафедры сельгасінстытута, якія мясціліся ў былым маёнтку. Сярод іншага яны займаліся пытаннем жывёлагадоўлі ва ўмовах нізкіх тэмператур у зімовы перыяд, вывучалі

*науки Беларуси (XIX–начало XXI в.)*. В 2 частях. Часть 2, гл. ред. В. Г. Гусаков, Минск 2017, с. 95, 97

1 ДАГВ, ф. 957, воп. 1, спр. 77. Приказы и выписки из приказов Гродненского сельхозинститута. 1952, арк. 4, 6.

2 Ibidem, арк. 11.

3 Ibidem, арк. 14.

4 ДАГВ, ф. 957, воп. 1. спр. 101. Приказы и выписки из приказов Гродненского сельхозинститута. 1952, арк. 1.

5 Ibidem, спр. 115. Распоряжения и выписки из приказов по учхозу «Станиславово»... 1955, арк. 3, 26, 27, 29.

эфектыўнасць адкорму свіней на мясцовых кармах і агратэхнічныя прыёмы апрацоўкі кукурузы ў Гродзенскай вобл.[1]. Вопіс жывёлы, якая мелася пры вучгасе Станіслававa ў 1954 г., не можа пакінуць абыякавым. Сярод іншых у ім узгадваюцца каровы: Бярозка, Ласка, Малодка, Галка, Вісіня, Зорка, Пестра, Пярэкста, Ланя, Балярына, Стрэлка, Цыганка, Рагуля, Асока, Шалуня, Галубка, Зара, Луна. Аднак больш за ўсё ўражвае імя каровы… Акула, якая нарадзілася яшчэ ў 1940 г.

XX з'езд КПСС (1956) Станіслававa сустрэў з дэбеторскай запазычанасцю ў некалькі тысяч рублёў ды клопатамі па арганізацыі абласной сельскагаспадарчай выставы. Адначасова чарговыя ведамасныя змены прывялі да таго, што вучгас застаўся без цэменту[2]. Быццам бы гэтага не было дастаткова, у выніку «наватарства» аднаго з выкладчыкаў інстытута, які паспрабаваў удасканаліць сістэму аўтаматыкі воданапорнай вежы, восенню 1956 г. гаспадарка на некалькі дзён наогул засталася… без вады[3].

Першапачаткова «Станіслававa» з'яўлялася сельскагаспадарчым прадпрыемствам малочна-агародніцкага накірунку, аднак пазней змяніла свой профіль на малочна-мясны. Акрамя таго, вучгас атрымаў у сваё падпарадкаванне калгас «Гастэла» ды ўчасткі зямлі індывідуальнай гаспадаркі «Сакрэт». Гаспадарка дзялілася на некалькі аддзяленняў: Грандзічы, Батароўка, Друцк, Забагонікі, Зарыца, Казловічы, Лапенкі, Астравок, Русота, Сіўкава, Табола, Цэнтральнае і Эйсманты.

*Невядомая асоба на фоне палаца. 1960 г. З архіва І. С. Моць*

Прыкметнай асобай сярод кіраўнікоў вучгаса стаў Аляксандр Іосіфавіч Дубко (1938–2001). Сам ён паходзіў з Віцебшчыны, але скончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут і ўладакаваўся на працу ў вучгас спачатку ў якасці агранома і ўпраўляючага аддзяленнем вучэбнай гаспадаркі «Грандзічы». У 1963 г. ён быў прызначаны яго дырэктарам і кіраваў наступныя тры гады. Пазней А. Дубко ўзначаліць калгас «Прагрэс», у со-

[1] Ibidem, спр. 133. Рабочие программы по выполнению научно-исследовательской работы сотрудников института. 1972–1975, арк. 17–20, 21–25; 36–40.

[2] Ibidem, спр. 127. Постановления исполкома Гродненского областного Совета… 1956, арк. 3. 7, 13, 19, 22.

[3] Ibidem, арк. 25.

рак чатыры гады атрымае званне Героя сацыялістычнай працы, стане старшынём Гродзенскага абласнога савета і аблвыканкама[1].

Сам былы маёнтак жыў жыццём звычайнай савецкай гаспадаркі: рапартаваў пра выкананне планавых паказчыкаў і змагаўся з гаспадарчай нядбайнасцю, такой як «неякаснае правядзенне інвентарызацыі асноўных сродкаў»[2]. А яшчэ спрабаваў вырашыць невырашальную праблему харчавання сваіх работнікаў, якія былі вымушаны купляць бульбу ды іншую гародніну ў краме[3]. У 1968 г., праз дзвесце гадоў пасля стварэння ключа Станіслававова, вучгас змяніў сваю назву на «Прынёманскі», быццам жадаючы канчаткова пазбавіцца спадчыны літоўскага падскарбія, а кіраўніцтва вучгаса пераехала ў вёску Путрышкі[4]. У 1955 г., да стагоддзя з дня нараджэння Івана Мічурына (1855–1935) у двары былой сядзібы была ўсталявана скульптура вядомага селекцыянера[5]. Тады ж амаль цалкам была зменена ўнутраная планіроўка палаца. У ім надбудавалі другі паверх, замуравалі лесвіцу, а замест галоўнай залы зрабілі аўдыторыі для студэнтаў. У былой тэатральнай зале ад дэкаратыўных роспісаў з выявамі міфічных герояў і ляпніны не засталося і следу. Толькі ў вестыбюлі адносна добра захаваліся дзве старадаўнія печы з прыгожай карычневай кафляй.

Цягам наступных дзесяцігоддзяў Станіслававова канчаткова згубілася сярод новапаўсталых гарадскіх спальных кварталаў, якія ўсё цясней падыходзілі да былой сядзібы. І ўсе ж былы палац варты таго, каб сюды завітаць. Звонку, з боку парку, на паўкруглым эркеры яшчэ і зараз можна пабачыць манаграму яго першага ўладальніка – тры літары, сплеценыя разам пад каронай: SAR – скарочанае ад Stanislaus Augustus Rex…

1 *Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Гродзенскага раёна*, Мінск 1993, с. 394.

2 ДАГВ, ф. 957, воп. 1, спр. 478. Переписка учхоза с вышестоящими организациями по основной деятельности. 1987, арк. 1–2; 7; 12.

3 Ibidem, арк. 15.

4 ДАГВ, ф. 957. Научная опись фонда учебного хозяйства «Принеманский» Гродненского сельскохозяйственного института, дер. Путришки. арк. 2–3.

5 Ю. Саяпин, *50 гродненских улиц. Прогулка во времени*, Гродно 2015, с. 297.

ISSN 2424-5216

# ВОЛЬНАЯ ТРЫБУНА
# FREE TRIBUNE

## Незаўважаныя юбілеі

## УСЁ ПАЧАЛОСЯ З ГЁТЭ, АБО ДАРОГА ДАЎЖЫНЁЙ У СОРАК ГАДОЎ

Апошнім часам у развіцці беларускай культуры, навукі і асветы ўсё больш відавочным становіцца значэнне асобы. Той інстытуцыйны крызіс, які сёння перажываюць гуманітарныя і сацыяльныя навукі ды ўся сфера культуры, яшчэ раз яскрава паказаў, што цэнтральным элементам усякага развіцця з'яўляецца творца. Звычайна гэтае слова найбольш датычыць пісьменнікаў і паэтаў, мастакоў і музыкантаў, журналістаў і рэжысёраў, гісторыкаў і філосафаў. Трохі ў ценю трымаюцца рэдактары, сцэнарысты і перакладчыкі. Апошнім часам мне пашчасціла быць на прэзентацыях кніг і на сустрэчах, галоўнымі героямі якіх былі перакладчыкі паэзіі і прозы Кацярына Мацееўская, Ганна Янкута, Юлія Цімафеева, Сяргей Шупа, Андрэй Хадановіч і Лявон Баршчэўскі. На гэтых спатканнях быў відавочным той вялізны ўнёсак ва ўзбагачэнне беларускай культуры, які робяць менавіта аўтары перакладаў.



Вясной гэтага году амаль незаўважна прамінула 40-годдзе першай публікацыі Лявона Баршэўскага. Варта прыгадаць, што ўвесну 1984 г. у наваполацкай газеце «Химик» Уладзімір Арлоў надрукаваў пераклады вершаў Ёгана Вольфганга Гётэ, зробленыя Лявонам Баршчэўскім. З гэтай нагоды Л. Баршчэўскі пагадзіўся адказаць на некалькі пытанняў рэдактара Аляксандра Смаленчука.

**АС:** *Спадар Лявон, як атрымалася, што Вы сталі найбольш вядомым беларускім перакладчыкам? Прынамсі, у маім уяўленні. Гэта збег пэўных акалічнасцяў ці наканаванне? Можа, хтосьці паслужыў жыццёвым прыкладам?*

**ЛБ:** Сцверджанне пра «найбольш вядомага перакладчыка» – бадай, перабольшанне. Майго імя няма сярод лаўрэатаў адзінай перакладчыцкай прэміі Беларусі, прэміі імя Карласа Шэрмана (хоць я заўсёды імкнуся саступаць дарогу маладзейшым). Калі, напрыклад, Зміцер Колас, Андрэй Хадановіч,

Якуб Лапатка або Уладзімір Скарынкін маюць за сваю перакладчыцкую дзейнасць узнагароды розных еўрапейскіх дзяржаў, то мяне ў гэтым пачэсным спісе няма. Той жа Андрэй Хадановіч або Сяргей Шупа маюць вельмі сур'ёзны даробак у галіне мастацкага перакладу – асабліва ў апошнія гады. Захапляюся падзвіжніцкай працай маладога яшчэ Яўгена Папакуля, які пераклаў са стараісландскай на беларускую тры тамы «класічнай» скандынаўскай Эды, а яшчэ адзін том – «некласічнай». Агулам больш за 1150 старонак гэтых няпростых для перакладчыка тэкстаў выйшлі на працягу апошніх трох гадоў! Вельмі таленавітыя паэтычныя і празаічныя пераклады робяць Ганна Янкута, Кацярына Мацieўская, Марыя Мартысевіч, Юля Цімафеева, Ігар Крэбс – усіх і не пералічыш!

Аднак лічыць сябе прафесійным перакладчыкам я маю падставы. На карысць гэтага могуць сведчыць мая філалагічная адукацыя (я – германіст і кандыдат навук у гэтай галіне ведаў) і мой ужо немалы практычны досвед. Першыя мае вучнёўскія спробы перакладаць замежную паэзію адносяцца недзе да 1971 года, калі я вучыўся ў сёмым класе. Я ўжо, бадай, не склаў бы поўную бібліяграфію маіх перакладаў, але магу ўпэўнена сцвярджаць, што станам на 25 красавіка 2024 года выйшлі 52 асобныя кніжныя выданні ў маім перакладзе, а ў 30-ці такіх выданнях мой удзел быў па-сапраўднаму істотны. Пяць гатовых кніжных пазіцый чакаюць магчымасці быць апублікаванымі. Але, напрыклад, пэўныя газетныя, часопісныя публікацыі цяпер было б няпроста ўзгадаць.

Усё, што я сказаў вышэй, датычыць перакладчыкаў, якія, дзякуй Богу, жывыя і яшчэ працуюць у нашым перакладзе – хто больш, хто менш актыўна. Аднак я хацеў бы назваць сапраўдных карыфеяў беларускага мастацкага перакладу, якіх ужо няма сярод нас. Гэта найперш Юрка Гаўрук, Язэп Семяжон, Аляксей Зарыцкі, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Анатоль Клышка, Карлас Шэрман, Алесь Разанаў, Рыгор Барадулін, Васіль Сёмуха, Валянцін Рабкевіч… Трое апошніх сталі сапраўднымі настаўнікамі для мяне. Магу адназначна сказаць, што без іх я, наогул, не адбыўся б як перакладчык! Як не адбыўся б і без прыватных выдаўцоў Зміцера Коласа і Уладзіміра Сіўчыкава, бо пасля 1996 года беларускія дзяржаўныя выдавецтвы маіх перакладаў у кніжным выглядзе ўжо не публікавалі! Зрэшты, не толькі маіх…

Чаму я пачаў займацца мастацкім, а пазней – не толькі мастацкім, але таксама навуковым і навукова-папулярным перакладам? Проста мне пры маёй схільнасці да вывучэння розных моў і звязанай з гэтым заўсёднай цікавасці да «замежнай» літаратуры гэта было і ёсць цікава. Калі я нешта перакладаў у школьныя і студэнцкія гады, я і ў галаве не меў, што гэта калі-небудзь будзе публікавацца. Але ў канцы 1984 года сталася так, што Сяржук Сокалаў-Воюш прапанаваў завезці мае пераклады ў Менск (я тады жыў у Наваполацку) і паказаць іх Васілю Сёмуху. Той, дарэчы, досыць жорстка іх пакрытыкаваў, але заахвоціў мяне займацца гэтай справай і надалей. А калі мы пазнаёміліся пер-

санальна, прапанаваў мне самастойна падрыхтаваць зборнік выбранай паэзіі Бертальта Брэхта. Гэтая кніжка і стала маёй першай: выйшла напярэдадні майго трыццацігоддзя, у студзені 1988 года. У канцы гэтай «дыстанцыі» пакуль што – «Іліяда» Гамера, першы том якой толькі што выйшаў з друку.

**АС:** *Адным з галоўных выдаўцоў вашых перакладаў доўгі час быў Зміцер Колас. Як пачалося гэтае супрацоўніцтва? Наколькі важным яно было для вашай творчасці як перакладчыка?*

**ЛБ:** Мы, пакаленне тых, хто прыйшоў у беларускі пераклад у 1980-я гады, гадаваліся «пад зоркай» Васіля Сёмухі. Гэты карыфей нашага перакладу працаваў тады ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», і ў яго кабінеце, а таксама побач, у «курылцы», мы перасякаліся, размаўлялі пра літаратуру, пераклады і не толькі. Актыўнымі ўдзельнікамі тых размоў былі таксама св. пам. Рыгор Барадулін, Валянцін Рабкевіч – усе яны сталі для нас галоўнымі настаўнікамі. Там я пазнаёміўся з Сяргеем Шупам, Зміцерам Коласам, Алесем Істоміным, старэйшымі за нас Уладзімірам Папковічам, Феліксам Баторыным і іншымі. З 1990 г. мы са Зміцерам Коласам працавалі ў Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры, дзе я быў намеснікам дырэктара, а ён – загадчыкам выдавецкага аддзела. Там мы пачалі актыўна супрацоўнічаць: рыхтавалі хрэстаматыі па сусветнай літаратуры і пераклады кніг літаратурнай класікі. У 1998 г. улады закрылі Цэнтр, а разам з ім – і выдавецкі аддзел. Я да 2003 г. заставаўся намеснікам дырэктара гуманітарнага ліцэя, які зачынілі ўжо тады. Пасля 2005 г., калі Зміцер Колас стаў прыватным выдаўцом, наша з ім супрацоўніцтва умацоўвалася з году ў год, і асабліва пасля 2011 г. У выніку, калі толькі лічыць перакладзеныя мной самастойна кнігі, у яго выйшлі 43 з 53. Пры гэтым я не лічу выдадзеныя таксама ім зборнікі, хрэстаматыі, вучэбныя дапаможнікі, дзе я быў укладальнікам, аўтарам або суаўтарам.

**АС:** *Спадар Лявон, калі і як беларуская культура ўвайшла ў Вашае жыццё?*

**ЛБ:** Мае бацькі і дзяды не мелі вышэйшай адукацыі і не мелі дачынення да мастацкай творчасці або да навукі. Але яны ўва ўсім мяне падтрымлівалі. На жаль, маці пайшла з жыцця ў 1977, а бацька – у 1983 годзе. Мяне падтрымліваў і старэйшы брат Вадзім. Мы з ім былі адзінымі ў сям'і, хто атрымаў вышэйшую адукацыю. Маці мая была чыстакроўная руская, родам з Забайкалля, бацька – не менш чыстакроўным беларусам, родам з Дрысеншчыны. У сям'і я змалку чуў і чыстую рускую мову і беларускую, у яе «народным» варыянце. Бацька, аднак, любіў чытаць па-беларуску і ведаў на памяць некаторыя вершы нашых класікаў, часам дома іх дэкламаваў. У сваю чаргу, беларуская літаратурная мова зацікавіла мяне, як я толькі пачаў вывучаць яе ў пачатковай школе. Дарэчы, магу сказаць, што ў школе мне пашанцавала з настаўніцамі як нямецкай (Ніна Абрамаўна Конюхава), гэтак і беларускай (Клаўдзія Рыгораўна Плавінская, Валянціна Рыгораўна Селязнёва) моваў. Я ўдзячны ім за добрае стаўленне да мяне.

Пазней, у студэнцкія гады, я належаў да факультэцкай «агітбрыгады» тагачаснага Менскага інстытута замежных моваў і падчас нашых выступаў у аддаленых вёсках Меншчыны выконваў ролю вядучага і свядома (а можа, нават падсвядома?) рабіў гэта па-беларуску. Да менскага асяродка беларускай інтэлігенцыі я пэўным чынам далучыўся, калі ў сярэдзіне 1980-х вучыўся ў вочнай аспірантуры. Тады пазнаёміўся з Анатолем Сідарэвічам, Алесем Бяляцкім, Вінцуком Вячоркам. Сяргеем Шупам, Алесем Жлуткам, Уладзімірам Ягоўдзікам; урэшце – з Васілём Сёмухам, Валянцінам Рабкевічам…

Хто мяне з імі пазнаёміў персанальна? Рэч у тым, што перад знаёмствам з менскімі асяродкамі я належаў да нашых, наваполацкага і полацкага, асяродкаў. Там вырашальную ролю адыгрывалі Уладзімір Арлоў, згаданы вышэй Сяржук Сокалаў-Воюш, Вінцэсь Мудроў, Ірына Жарнасек, Якуб Лапатка, Навум Гальпяровіч, Алег Мінкін (да яго пераезду ў Брэст, а потым у Вільню); крыху пазней таксама Валянціна Аксак, Іна Снарская, Алесь Аркуш, Лера Сом… Фармальна наш літаратурны асяродак гуртаваўся вакол літаб'яднання з назвай «Крыніцы», на чале якога стаяў не хто іншы, як Уладзімір Арлоў, а само літаб'яднанне існавала пры рускамоўнай гарадской газеце «Химик». Вось жа, некаторыя са згаданых асоб і перакінулі мне «масток» да менскага асяродку, а галоўнае – вельмі моцна падтрымлівалі мае тагачасныя заняткі перакладамі на беларускую мову. Зрэшты, і я заахвочваў Лапатку перакладаць з іспанскай, англійскай, балгарскай, фінскай моў; Арлова – з украінскай і рускай; Мудрова – з албанскай; Мінкіна, Жарнасек і Гальпяровіча – з польскай. Прэцэдэнтаў, каб у літаб'яднанні пры раённай або гарадской газеце ў той час столькі людзей займалася перакладамі, я папросту не ведаю.

**АС:** *Што Вы лічыце найбольш важным у сваёй творчасці перакладчыка? Што сёння можна лічыць галоўнай крыніцай творчасці ў галіне беларускай культуры?*

**ЛБ:** Адкажу коратка: рабіць тое, што важна для беларускай культуры і мовы, тут і цяпер. Не можам дазволіць, каб іх знішчылі ці зноў маргіналізавалі. Часы нашы вельмі няпростыя, але нават пры ўсім гэтым мы маем больш магчымасцяў, чым мелі нашы папярэднікі ў 30-х і нават у 20-х гадах мінулага стагоддзя. Вось жа, узгадайма, што і ў познесавецкія часы існавала поўная дзяржаўная манаполія на друк і вельмі жорсткая ідэалагічная цэнзура. Для сённяшняй эфектыўнай працы творчай асобы, аднак, патрэбныя не толькі ўласнае натхненне, але і пачуццё абавязку, з чаго вынікае неабходнасць быць не толькі творчым, а і, як ніколі раней, працавітым!

**АС:** *Дзякуй, спадар Лявон! Спадзяюся, што да наступнага юбілею спіс вашых перакладаў стане яшчэ даўжэйшым.*

Інтэрвью вёў Аляксандр Смалянчук

## *Пераклады кніг, зробленыя Лявонам Баршчэўскім*

### *а) перакладзеныя цалкам і апублікаваныя*

1. Б. Брэхт, *На шалях праўды*: выбраная лірыка. Мінск: Мастацкая літаратура, 1988.
2. Н. Ленау, *Зірні ў паток*. Мінск: Мастацкая літаратура, 1992.
3. Г. Бёль, *Більярд а палове дзясятай*: раман, апавяданні. Мінск: Мастацкая літаратура, 1993.
4. Ф. Кафка, *Прысуд*: апавяданні і мініяцюры. Мінск: Мастацкая літаратура, 1996.
5. А. Ліндгрэн, *Усе нашы дзеці з Булербю*. Вільня: [б. в.], 2000.
6. Р. Лінднэр, *Гісторыкі і ўлада*. СПб.: Неўскі праспект, 2003 (2-е выд., 2005).
7. Б. К'яры, *Штодзённасць за лініяй фронту*. СПб.: Неўскі праспект, 2005 (2-е выд., 2008).
8. І. Кант, *Пралегомены да любой будучай метафізікі*. Мінск: Зміцер Колас, 2006.
9. С. Выспяньскі, *Вяселле, Варшавянка*. Мінск: Зміцер Колас, 2014.
10. *І боль, і прыгажосць*. Выбраныя творы паэтаў Еўропы і Амерыкі ў перакладах Лявона Баршчэўскага. Мінск: Зміцер Колас, 2016.
11. Сапфо, *Песні*. Мінск: Зміцер Колас, 2016.
12. Ф. Петрарка, *Выбраныя песні з „Канцаньерэ"*.Мінск: Зміцер Колас, 2016.
13. Ф. Гёльдэрлін, *Выбраная паэзія*. Мінск: Зміцер Колас, 2016.
14. Я. Врхліцкі, *Выбраная паэзія*. Мінск: Зміцер Колас, 2017.
15. К. Кавафіс, *Выбранае*. Мінск: Зміцер Колас, 2017.
16. Эўрыпід, *Медэя*. Мінск: Зміцер Колас, 2018.
17. Ю. Славацкі, *Баладына*. Мінск: Зміцер Колас, 2018.
18. У. Саба, *Выбраныя вершы*. Мінск: Зміцер Колас, 2018.
19. Ду Фу. *Выбраная лірыка*. Мінск: Зміцер Колас, 2019.
20. Э. Кітэльсен, *Выбраная лірыка*. Мінск: Зміцер Колас, 2019.
21. Анакрэон, *Песні і фрагменты*. Мінск: Зміцер Колас, 2019.
22. Гунар Экелёф, *Выбраная лірыка*. Мінск: Зміцер Колас, 2019.
23. Архілох, *Вершы і фрагменты*. Мінск: Зміцер Колас, 2019.
24. Бабур, *Выбраныя творы*. Мінск: Зміцер Колас, 2020.
25. Стэйн Стэйнар, *Выбраная паэзія*. Мінск: Зміцер Колас, 2020.
26. Назым Хікмет, *Выбраная паэзія*. Мінск: Зміцер Колас, 2020.
27. Ф. Кафка, *Выбраныя творы*. Том 1. «Працэс»: раман. Мінск: Зміцер Колас, 2020.
28. Ф. Кафка, *Выбраныя творы*. Том 2. «Ператварэнне»: апавяданні. Мінск: Зміцер Колас, 2020.
29. Аль-Бухтуры, *Выбраная паэзія*. Мінск: Зміцер Колас, 2021.
30. М. Цвятаева, *Выбраная лірыка*. Мінск: Зміцер Колас, 2021.
31. Ф. Кафка, *Замак*: раман. Мінск: Зміцер Колас, 2022.
32. Ф. Кафка, *Зніклы Восем сшыткаў in octavo*: раман. Мінск: Зміцер Колас, 2022.
33. Г. Ахтэрберг, *Выбраная лірыка*. Мінск: Зміцер Колас, 2022.
34. Нагапет Кучак, *Выбраныя айрэны*. Мінск: Зміцер Колас, 2022.
35. Н. Закс, *Выбраная лірыка*. Мінск: Зміцер Колас, 2022.

36. Р. Кэмпбел, *Выбраная паэзія*. Мінск: Зміцер Колас, 2022.
37. С. Квазімада, *Выбраная паэзія*. Мінск: Зміцер Колас, 2022.
38. М. К. Сарбеўскі, *Выбраная паэзія*. Мінск: Зміцер Колас, 2023.
39. Г. Лоўсан, *Паэзія аўстралійскіх абшараў*. Мінск: Зміцер Колас, 2023.
40. Н. Ленау, *Выбраная паэзія*. Мінск: Зміцер Колас, 2023.
41. Б. Брэхт, *Выбраныя вершы*. Мінск: Зміцер Колас, 2023.
42. Г. Гегель, *Вучэнне пра паняцце і Філасофская энцыклапедыя*. Мінск: Зміцер Колас, 2023.
43. Платон, *Філеб*. Мінск: Зміцер Колас, 2023.
44. Арыстотэль, *Паэтыка*. Мінск: Зміцер Колас, 2023.
45. У. Шэкспір, *Макбет*. Мінск: Зміцер Колас, 2023.
46. Ф. В. Ё. Шэлінг, *Філасофскія даследаванні пра сутнасць чалавечай свабоды*. Мінск: Энцыклапедыкс, 2023.
47. Э. Гусэрль, *Філасофія як дакладная навука*. Мінск: Энцыклапедыкс, 2023.
48. Ё. Г. Фіхтэ, *Пра паняцце навукавучэння або так званай філасофіі. Першыя ўводзіны ў навукавучэнне*. Мінск: Энцыклапедыкс, 2023.
49. Ф. Ніцшэ, *Ecce homo*. Мінск: Энцыклапедыкс, 2024.
50. Х. Артэга-і-Гасэт, *Эцюды пра любоў і каханне*. Мінск: Энцыклапедыкс, 2024.
51. Б. Расэл, *Мастацтва філасофствавання*. Мінск: Энцыклапедыкс, 2024.
52. Гамер, *Іліяда*. Т. I (песні I–XII). Мінск: Энцыклапедыкс, 2024.
53. Гамер, *Іліяда*. Т. II (песні XIII–XXIV). Мінск: Энцыклапедыкс, 2024.
54. Гамер, Іліяда (песні I-XXIV), Варшава: Połackija łabirynty, 2024.

***б) асобныя творы значнага аб'ёму, апублікаваныя ў зборніках і часопісах***

55. Эсхіл, *Прыкуты Праметэй* (разам з *Антыгонай* Сафокла). Мінск: БГАКЦ, 1993.
56. Ф. Шылер, *Выбраныя творы* (Пераклад *Дон Карласа*). Мінск: Мастацкая літаратура, 1993,
57. *Пры зачыненых дзвярах*: драматычныя творы. Пераклад твораў С. Бэкета (*Не-я*), Ф. Дзюрэнмата (*Партрэт планеты*), В. Гавела (*Свята ў садзе*). Мінск: Мастацкая літаратура, 1995.
58. Ё. В. Гётэ, *Выбраныя творы* (пераклад *Пакутаў маладога Вертэра*). Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999.
59. *Качка-дзівачка. Анталогія польскай паэзіі XIX-XX ст. для дзяцей*. (Пераклад 31 верша М. Канапніцкай, У. Бэлзы, К. Макушыньскага, Ю. Чаховіча, Я. Паразіньскай, М. Каўнацкай, М. Самазванец, Э. Шэльбург-Зарэмбінай, Я. Бжэхвы, Г. Янушэўскай, Я. Твардоўскага, Е. Л. Керна, Ё. Кульмовай, В. Хатомскай, Ё. Папузіньскай, Д. Вавілавай, Т. Томсі, Д. Гельнер і 5 вершаў невядомых аўтараў). Мінск: Радыёла-плюс, 2006.
60. Я. Івашкевіч, *Панны з Вілька* (пераклад аднайменнай навелы). Мінск: Зміцер Колас, 2006.
61. С. Мрожак, *Выбраныя творы* (пераклад *Танга*). Мінск: Радыёла-плюс, 2008.
62. Ч. Мілаш, *Выратаванне* (пераклады *Маральнага трактата* і *Паэтычнага трактата*). Мінск: Логвінаў, 2011.

63. Э. А. По, *Маска чорнай смерці* (пераклад *Тамерлана*). Мінск: Кнігазбор, 2011.
64. Г. Мастоўская-Радзівіл, *Здань у Малым Замку,* «Дзеяслоў», 2012, № 23.
65. С. Пшыбышэўскі, *Снег,* «Дзеяслоў», 2015, № 75.
66. П. дэ Рансар, *Выбранае*. (Разам з Н. Мацяш і Зм. Коласам). Мінск: Зміцер Колас, 2016.
67. Ё.В. Гётэ, *Выбраная паэзія*. (Разам В. Сёмухам). Мінск: Зміцер Колас, 2016.
68. Дж. Кітс, *Выбранае*. (Разам з Р. Барадуліным, І. Крэбсам, Г. Янкутай, К. Мацібўскай). Мінск: Зміцер Колас, 2017.
69. Т. Транстромер, *Пад вольным небам*: выбраныя вершы. (Разам з У. Арловым, А. Башарымавай, А. Хадановічам). Мінск: Зміцер Колас, 2017.
70. Я. Каханоўскі, *Выбранае*. (Разам з А. Хадановічам). Мінск: Зміцер Колас, 2017.
71. К. Гамсун, *Голад*. (Пераклад аднайменнага рамана). Мінск: А. Янушкевіч, 2017.
72. Х. Р. Хіменэс, *Выбраная лірыка*. (Разам з Р. Барадуліным, Я. Лапаткам). Мінск: Зміцер Колас, 2017.
73. Х. Н. Бялік, *Выбраная паэзія*. (Разам з Р. Барадуліным). Мінск: Зміцер Колас, 2017.
74. М. Эмінэску, *Выбраная паэзія*. (Разам з Р. Барадуліным і К. Коракс). Мінск: Зміцер Колас, 2017.
75. Г. Тракль, *Выбраная лірыка*. (Разам з В. Сёмухам). Мінск: Зміцер Колас, 2018.
76. Б. Шоў, *Пігмаліён*. (Разам з У. Палупанавым). Мінск: Зміцер Колас, 2018.
77. Ў. Блэйк, *Выбранае*. (Разам з У. Лянкевічам, Г. Янкутай, І. Паўловіч). Мінск: Зміцер Колас, 2019.
78. Т. Вянцлава, *Выбраныя вершы*. (Разам з А. Хадановічам, А. Разанавым, А. Мінкіным, В. Вячоркам). Мн.: Мінск: Зміцер Колас, 2019.
79. Энхедуанна, *Сакральная паэзія*. (Разам з Ю. Цімафеевай). Мінск: Зміцер Колас, 2019.
80. Дж. Леапардзі, *Выбраныя песні*. (Разам з А. Данільчык). Мінск: Зміцер Колас, 2020.
81. *Старагрэцкая драматургія*. (Пераклад *Прыкутага Праметэя* і *Персаў* Эсхіла, *Эдыпа-цара* Сафокла, *Жабаў* і *Люсістраты* Арыстафана, *Адлюдніка* Менандра). Мінск: Зміцер Колас, 2020.
82. Цін Уевіч, *Выбраная паэзія*. (Разам з С. Шупам). Мінск: Зміцер Колас, 2020.
83. *Румынскія казкі* (Аўтары: Іон Крангэ, Петрэ Іспірэску). (Разам са Зм. Коласам). Мінск: Зміцер Колас, 2021.
84. П. Верлен, *Выбраная лірыка*. (Разам з А. Хадановічам, Л. Дранько-Майсюком). Мінск: Зміцер Колас, 2022.

***в) перакладзеныя, але не апублікаваныя***

85. Жан-Батыст Мальер, *Скнара*.
86. Т. Бароўскі, *Запрашаем спадарства пад газ, Людзі, якія ішлі*.
87. Г. Краль, *Паспець перад Госпадам Богам*.
88. Л. Вітгенштайн, *Логіка-філасофскі трактат*. Пасляслоўе Б. Расэла.
89. Р. Інгардэн, *Пра пераклады*.

ISSN 2424-5216

# БЕЛАРУСКАЯ «KULTURA»

Увосень 1998 г. у Менску адбылася важная падзея ў культурным жыцці Беларусі, якая да гэтага часу не атрымала належнай ацэнкі. Гаворка пра нумар часопіса «Фрагмэнты» (рэдактар Ігар Бабкоў), які быў падрыхтаваны сумесна з рэдакцыяй польскага парыжскага часопіса «Культура» часопіса «Культура»[1]. «Фрагмэнты», заснаваныя ў 1996 г. Ігарам Бабковым і Валерыем Булгакавым, пераважна асвятлялі пытанні філасофіі, культуралогіі і літаратуры. У рэдакцыі працавалі вядомыя беларускія інтэлектуалы Уладзімір Абушэнка, Валянцін Акудовіч, Алесь Анціпенка, Ігар Бабкоў, Максім Жбанкоў і Сяргей Санько. Усяго выйшла 11 нумароў, апошні з іх – у 2006 г. Польская «Культура» пачала выходзіць яшчэ ў 1947 г. і паступова стала найбольш уплывовым польскім перыядычным выданнем на эміграцыі. Гэты штомесячнік на працягу доўгага часу істотна ўплываў на думкі і свядомасць польскай інтэлектуальнай эліты і адыграў значную ролю ў дэмакратычных пераменах у Польшчы і іншых краінах Цэнтральна-Усходняй Еўропы. У значнай ступені гэта была заслуга яго рэдактара Ежы Гедройца (1906–2000), які стаў легендарнай постаццю ў гісторыі пасляваеннай Польшчы.

За вялікі інтэлектуальны ўнёсак у пашырэнне дэмакратыі ў посткамуністычных краінах Беларускі калегіум у 1998 г. прысвоіў яму ступень доктара *honoris causa*. 18 чэрвеня таго ж году дыплом быў уручаны паслу Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь сп. Марыюшу Мацкевічу на адкрыцці выставы, арганізаванай Польскім інстытутам культуры ў Менску. Урачыстасць адбылася ў прысутнасці паслоў іншых дзяржаў, а таксама прадстаўнікоў беларускай культуры і навукі. Адзначаючы ролю асобы Ежы Гедройца, сп. Марыюш Мацкевіч заўважыў, што рэдактар Гедройц усё сваё доўгае жыццё прысвяціў свабодзе Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны. Менавіта ён ў канцы 1940-х асмеліўся на старонках свайго выдання апублікаваць тэзы, які неадназначна былі ўспрынятыя ў колах польскай эміграцыі, але якія добра зразумелыя дзеячам Украіны, Польшчы і Беларусі»[2]. Пасол меў на ўвазе прынцыповую пазіцыю «Культуры» ў справе падтрымкі незалежніцкіх імкненняў Літвы, Беларусі і Украіны і недатыкальнасці іх пасляваенных межаў.

На наступны дзень у зале Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, дзе была размешчана выстава, заснавальнікі Беларускага калегіума зладзілі навуковую канферэнцыю *Парыжская «Культура» і беларускі культурны кантэкст*. У ёй удзельнічалі гісторыкі Анатоль Грыцкевіч, Адам Мальдзіс і Алег Дзярновіч, філосафы Ігар Бабкоў і Алесь Анціпенка. Адным з вынікаў супрацы

[1] «Фрагмэнты», 1998, № 2–3. [online: https://knihi.com/storage/frahmenty/frahmenty5.htm], [дата доступу: 8.07.2024].

[2] А. Анціпенка, «Культура» ў Менску, «Фрагмэнты», 1998, № 2–3.

стаў нумар «Фрагмэнтаў», падрыхтаваны сумесна з часопісам «Культура». Гэты эпізод засведчыў прыярытэты беларускіх інтэлектуалаў, якія толькі на шляху свабоды і дэмакратыі бачылі магчымасці развіцця нацыянальнай культуры і шукалі падтрымкі з боку тых, хто гэта не толькі разумеў, але ўласнай дзейнасцю прычыніўся да пашырэння ідэалаў свабоднага грамадства.

У мінулым годзе неяк незаўважна прайшло 25-годдзе выдання сумеснага нумара «Фрагмэнтаў» і «Культуры». Хоць са спазненнем, але варта нагадаць яго змест, пачынаючы ад кароткай прадмовы рэдактара Ігара Бабкова. Таксама хочацца прыгадаць тэкст *Беларускай дэкларацыі свабоды*, актуальнасць якой толькі ўзрасла ў наступныя гады.

## *Ад рэдактара*

*Маё цела часова спынілася на правым беразе, але душа, вядома, імкнулася на левы, праплываючы праз Отэль дэ Віль, па-над Сенай, праз Новы мост, праз вузкія вулачкі Лацінскага кварталу, далей, праз бульвар Сэн-Жэрмэн, на Сэн-Мішэль, дзе сярод тлуму студэнтаў, у канглямэраце танных крамак і незьлічоных кнігарняў, маленькіх кінатэатраў з рэтраспэктывамі – сярод усяго гэтага дыхалася чамусьці лягчэй, можа таму, што Люксэмбурскі сад быў зусім побач, а можа таму, што Шапэн усё яшчэ гучаў, і Ежы Гедройц, чалавек-легенда, чымсьці падобны да Борхэса, стаяў перад вачыма...*

*Я ведаў, што ён нарадзіўся ў Менску, што ягоная «Культура» стварыла цэлую эпоху ў польскай пасьляваеннай гісторыі, што гэты сьціплы месячнік здолеў стацца самасьвядомасьцю нацыі, што на ягоных старонках словы Беларусь, Украіна, Літва прамаўляліся з такой незалежнай інтанацыяй, пра якую ў тагачасных Менску, Кіеве, Вільні баяліся й думаць. Седзячы ў электрычцы па дарозе ў Мэзон-Ляфіт, я прыгадваў разуменьне і прыязьнь маіх польскіх сяброў і раптам усьвядоміў, што гэтым разуменьнем і гэтай прыязьню (узаемнай) мы абавязаны Ежы Гедройцу. Гэта ён прысьніў (уявіў, прыдумаў) нас, з глыбіняў свайго часу. І таму, што б мы ні рабілі (і што б мы ні зьбіраліся рабіць) – дыскутаваць пра дэкадэнцыю ў Пазнані ці пра Сярэднюю Эўропу ў Менску, пра Босьнію ў Сэйнах ці пра культурныя часопісы ў Казімежы Дольным – мы знаходзім побач з сабой Ежы Гедройца, мудрага старога чалавека... з Парыжу.*

*Мы сядзелі ў ягоным габінэце, я распавядаў пра апошнія падзеі ў Менску, ён слухаў зь цікавасьцяй, але й з пэўнай дыстанцыяй, з дыстанцыяй, пра якую мы ўсе марым, і раптам даставаў з шуфляды машынапіс пачатку стагодзьдзя, пра беларускія карані Міцкевічавых «Дзядоў», і пачынаў гаварыць адтуль, зь дзевятнаццатага стагодзьдзя, пераходзіў на апошнюю кніжку Бжэзінскага, пра будучыню Эўропы, і гаварыў ужо аднекуль з будучыні, ён перасоўваўся па часе і прасторы лёгка й нязмушана, я ледзь пасьпяваў за ім...*

*...і раптам нарэшце ўцяміў, што таямніца Ежы Гедройца (адна зь ягоных таямніц) – у Менску, у гэтым прывідным горадзе, які ператварае ў прывід усіх*

***нас, у якім, каб застацца, ты вымушаны няспынна ўяўляць, прыдумляць – краіну, традыцыю, мову, сэнс жыцьця, сябе й астатніх. Так, як гэта рабіў Ежы Гедройц, стары мудры чалавек ... зь Менску.***

### ***Зьмест***



### ***Беларуская Дэклярацыя Свабоды***

***У выніку двух стагодзьдзяў «каляніяльнага разьвіцьця» Беларусь амаль што згубіла смак свабоды і страціла сваё мейсца ў супольнасьці вольных эўрапейскіх народаў. На працягу трох апошніх гадоў незалежная Беларусь набывала вядомасьць у сьвеце як краіна з дыктатарскім рэжымам у цэнтры Эўропы. На сёньня беларускае грамадзтва дасягнула моманту, калі канфармізм, калектыўнае рабства, таталітарная ідэалёгія й несвабода навязваюцца бальшыні ў якасьці ўсьвядомленага выбару дзеля выжываньня.***

***«Скуты розум» спрабуе паставіць пад кантроль усе свабодныя інтэлектуальныя, культурныя і сацыльна-эканамічныя ініцыятывы, «Аднамерны чалавек» у Беларусі пагражае каштоўнасьцям эўрапейскай дэмакратыі і культуры. Агульнавядома, што Беларусь ператварылася ў краіну-выклік для шэрагу эўрапейскіх структураў, палітычных постацяў і ўсіх праваабарончых арганізацыяў.***

***У гэтых абставінах мы, група беларускіх інтэлектуалаў, людзей мастацтва і культуры, заяўляем пра свой фундамэнтальны выбар на карысьць:***

*– свабоднай крэатыўнасьці і вольнага мысьленьня;*

*– інтэлектуальнага й культурнага нон-канфармізму;*

*– абароны асноўных каштоўнасьцяў эўрапейскай культуры й цывілізацыі зь іхным вызначальным пасланьнем: СВАБОДА*

*У цяперашняй сытуацыі мы ня маем іншых сродкаў у абароне й сьцьвярджэньні гэтых прынцыпаў, апрача нашай рашучасьці, прагі свабоды й веры ў вольную маніфэстацыю і выражэньне чалавечае стваральнасьці. У нашым змаганьні за свабоду ў Беларусі й дзеля Беларусі мы глыбока верым у стваральную й дэмакратычную будучыню нашай краіны ў супольнай Эўропе.*

*Мы зьвяртаемся да інтэлектуалаў і людзей культуры й мастацтва ўсіх эўрапейкіх краінаў з заклікам заманіфэставаць сваю падтрымку Дэкларацыі і паставіць свае подпісы за – і ў імя – беларускай і эўрапейскай свабоды.*

Менск, студзень 1998

З польскага боку *Беларускую дэкларацыю свабоды* падпісалі: Ежы Гедройц, Чэслаў Мілаш, Анджэй Вайда, Віслава Шымборска, Вольга Такарчук, Рышард Крыніцкі, Эва Вуйцяк, Тадэвуш Янішэўскі, Юдыта Вахоўска, Эгон Наганоўскі, Януш Сталярскі, Марцін Кеншыцкі, Лех Рачак, Адам Бароўскі, Юлюш Тышка, Яцэк Ваховскі, Януш Майхэрэк, Войцех Валыньскі, Малгажата Дзявульска, Пётр Сомэр, Войцах Сікора, Густаў Гэрлінг, Ізабэла Цывіньска[1].

З тэкстамі «Фрагмэнтаў» = «Kultury» можна пазнаёміцца на сайце *Абдзіраловіч*[2], які выступае як адкрытая прастора беларускага мыслення, месца працы з ідэямі, як сеціва інтэлектуальнай камунікацыі па-над мовамі, культурнымі традыцыямі, дзяржаўнымі і цывілізацыйнымі межамі.

[1] Беларуская дэкларацыя свабоды, «Фрагменты», 1998, № 2–3. online: https://knihi.com/storage/frahmenty/5svaboda.htm, [дата доступу: 8.07.2024].

[2] online: https://abdziralovic.com/, [дата доступу: 9.07.2024].

ISSN 2424-5216

# УСПАМІНЫ ПРА НАСТАЎНІКА І СЯБРА. ДА 95-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЮРЫЯ ТУРОНКА (1929–2019)

У маі 2024 г. беларускія гісторыкі правялі ў Варшаве вечарыну, прысвечаную памяці даследчыка і грамадскага дзеяча Юрыя Туронка (1929–2019), якому ў гэтым годзе магло бы споўніцца 95 гадоў. Удзельнікі вечарыны дзяліліся ўспамінамі і разважалі пра ролю гэтага чалавека ў гістарычных даследаваннях, а таксама ў беларускім культурніцкім руху. Безумоўна, асоба Юрыя Туронка з'яўляецца адной з найбольш важных як у разгортванні беларускага руху ў Польшчы, так і ў развіцці нацыянальнай гістарыяграфіі. Да таго ж яна была пэўным сімвалам сувязі паміж рознымі эпохамі беларускага руху. Яго бацька Бранілаў Туронак быў адным з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза ў Віленскім універсітэце, рэдактарам беларускай хадэцкай газеты «Krynica». Маці, Марыя Рэшаць, была сястрой беларускага дзеяча – ксяндза Язэпа Рэшаця.



*Ю. Туронак.*
*Фотаздымак Н. Гардзіенкі*

Мая асабістая сустрэча з Юрыем Туронкам, дакладней, з яго творчасцю адбылася ў 1993 г., калі ў менскай Акадэмкнізе набыў яго вядомую працу *Беларусь пад нямецкай акупацыяй*. У тыя гады я працаваў настаўнікам у сярэдняй школе ў Гародні і быў завочным аспірантам у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. На пачатку 1990-х гг. беларуская гістарычная навука з цяжкасцю развітвалася з савецкімі ідэалагічна-гістарычнымі штампамі, якімі былі прасякнутыя нават акадэмічныя даследа-

ванні падзей XX стагоддзя і найбольш Другой сусветнай вайны, якая ў СССР атрымала назву *Вялікай айчыннай вайны савецкага народу*. Кніга Юрыя Туронка прапанавала іншы погляд, заснаваны на аналізе архіўных дакументаў і прагавораны беларусам, які не наведваў савецкай школы, а яго беларушчына вырастала на глебе сямейнай традыцыі. Гэта была адна з першых навуковых спроб сказаць праўду пра лёс Беларусі 1941–1944 гг., заціснутай паміж дзвюма таталітарнымі сістэмамі – гітлераўскай і сталінскай. Кніга на доўгі час стала настольнай, а ў наступны прыезд у Менск я набыў яшчэ некалькі асобнікаў, каб падараваць сябрам і калегам.

Потым былі іншыя кнігі Ю. Туронка, з якіх для мяне найбольш каштоўнай была (і застаецца) праца пра Вацлава Іваноўскага, якой ён фактычна вярнуў у беларускую гістарычную памяць напаўзабытую постаць аднаго з пачынальнікаў беларускага Адраджэння. Гэта кніга паспрыяла перасэнсаванню многіх важных падзей нацыянальнага Адраджэння.

Пазней з Юрыем Туронкам мы абмяркоўвалі маю кнігу *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–люты 1917 г.*, (2001, 2-выд. 2004), якая выклікала яго цікавасць. Таксама абмяркоўвалі вынікі маіх экспедыцый па вуснай гісторыі, якія пацвярджалі многія палажэнні кнігі *Беларусь пад нямецкай акупацыяй*. На жаль, такіх сустрэч было зусім не шмат, але тыя размовы засталіся ў памяці не толькі таму, што суразмоўцам быў выдатны знаўца беларускага руху ў XX ст. Моцнае ўражанне рабіла сама асоба Юрыя Туронка, грунтоўнасць яго ведаў і жаданне імі падзяліцца.

У беларускую гістарыягрыяграфію ён увайшоў як аўтар кніг *Беларускае школьніцтва на Беласточчыне* (1976), *Беларусь пад нямецкай акупацыяй* (шэсць выданняў: 1993–2007), *Беларуская кніга ў Другой Рэчы Паспалітай* (2000), *Беларуская кніга пад нямецкім кантролем* (2002), *Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі* (1992, 2007), *Людзі СБМ* (2006), *Мадэрная гісторыя Беларусі* (2006) і шматлікіх артыкулаў, а таксама як кіраўнік нефармальнай школы беларусазнаўчых даследаванняў.

Пасля той майскай вечарыны ў Варшаве я прапанаваў яе ўдзельнікам падзяліцца ўспамінамі пра Юрыя Туронка на старонках часопіса «Homo Historicus». На гэтую прапанову адгукнуліся доктар габілітаваны, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Юрый Грыбоўскі і кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка[1].

Д-р гіст. навук Аляксандр Смалянчук

[1] Хачу падзяліцца спасылкай на тэкст Лены Глагоўскай *Юры Туронак і яго нефармальная «школа» беларусазнаўчых даследаванняў*, апублікаваны ў часопісе «Беларускі гістарычны агляд» (2020, т. 27, сш. 1–2, с. 177–188). [online] https://www.belhistory.eu/archives/4613, [доступ: 18.06.2024]. Таксама варты ўвагі фільм *Носьбіты культуры. Юры Туронак / Nosiciele kultury. Jerzy Turonek (2014)*, у якім можна ўбачыць і пачуць самога даследчыка. Гл.: [online] https://www.youtube.com/watch?v=c39b1-92-I0, [доступ: 18.06.2024].

# ЖМЕНЯ ЎСПАМІНАЎ ПРА НАСТАЎНІКА І СЯБРА

***Юрый Грыбоўскі***

Кожны малады даследчык, які распачынае навуковы шлях, мае настаўніка, што дапамагае вызначыцца з накірункам даследаванняў і натхняе ўласным прыкладам здабывання навуковых ведаў і жыццёвага досведу. У маім жыцці ролю такога настаўніка адыграў польска-беларускі гісторык і грамадскі дзеяч Юрый Туронак. Я заўжды буду вельмі ўдзячны лёсу за тое, што ён даў мне магчымасць пазнаёміцца з гэтым чалавекам. Апошнім часам усё часцей у думках вяртаюся ў той сакавіцкі дзень 2003 г., калі ўпершыню наведаў сп. Юрыя ў яго ўтульнай варшаўскай кватэры. З таго часу даводзілася бываць у гэтым месцы незлічоную колькасць разоў. Наша знаёмства вытрымала выпрабаванне часам і спынілася толькі пасля смерці выбітнага даследчыка ў студзені 2019 г.

У маёй памяці назаўсёды застануцца размовы са сп. Туронкам. Скажу шчыра, калі я прыходзіў да яго, дык не хацеў адтуль сыходзіць. Мы маглі гутарыць гадзінамі. Размовы з ім былі сапраўдным творчым святам і асалодай. Суразмоўца захапляў сваёй бязмежнай адкрытасцю і шчырым жаданнем дапамагчы ў творчых пошуках. Ён ніколі не шкадаваў парад і ахвотна дзяліўся ўласным навуковым і жыццёвым досведам, а досвед меў велізарны. Без перабольшання адзначу, што кантакты з Туронкам зрабілі на мяне вялікае ўражанне і дапамаглі вызначыцца з асноўнымі накірункамі навуковай дзейнасці, якім намагаюся захоўваць адданасць дасюль. Менавіта яму я абавязаны тым, што як навуковец заняўся тэмай беларускага незалежніцкага руху падчас Другой сусветнай вайны. Менавіта ён зацікавіў мяне даследаваннем жыцця і дзейнасці такіх дзеячаў, як Кастусь Езавітаў, Радаслаў Астроўскі, Мікалай Шчорс, Ян Ермачэнка, Васіль Захарка. Ганаруся, што меў магчымасць абмяркоўваць з ім свае публікацыі. Даследчык не толькі не шкадаваў пахвалы, але таксама дзяліўся сваімі крытычнымі заўвагамі, за якія яму ўдзячны па сённяшні дзень. Здаралася, што ў нечым мы не пагаджаліся, але гэта толькі загартоўвала мяне навукова і заахвочвала да далейшых пошукаў. У душу запалі словы, сказаныя на пахаванні сп. Юрыя адным з прысутных, вядомым гісторыкам і журналістам Яўгенам Вапам, які адзначыў, што скончыў два факультэты: адзін ва ўніверсітэце, а другі – на кватэры сп. Туронка. Цалкам падпісваюся пад гэтымі словамі, паколькі нябожчык адыграў у маім жыцці аналагічную ролю.

Сп. Юрый імпанаваў мне сваёй адвагай займацца супярэчлівымі і нярэдка «палітычна непажаданымі» тэмамі. З упэўненасцю магу сказаць, што гэты чалавек навучыў мяне крытычнаму падыходу да якой-колечы гістарычнай крыніцы і імкненню да разбурэння ўсталяваных міфаў, незалежна ад таго, які яны мелі радавод – савецкі ці антысавецкі. Памятаю яго словы напярэдадні выхаду з друку маёй манаграфіі пра беларускі незалежніцкі рух і польска-беларускія ўзаемадачыненні падчас Другой сусветнай вайны і пасля яе. Ён тады

сказаў: «Калі тваю кнігу будуць крытыкаваць і адны, і другія – і палякі, і беларусы, – дык гэта будзе азначаць, што ты добра выканаў сваю працу як даследчык». З таго часу намагаюся прытрымлівацца гэтага прынцыпу.

Я быў далёка не адзінай асобай, якой сп. Юрый дапамагаў сваімі каштоўнымі парадамі альбо матэрыяламі. Ужо нават не прыгадаю, колькі сваіх аднагодкаў я пазнаёміў са сп. Туронкам. Кожны раз ён цешыўся новым кантактам і сардэчна па-сяброўску прымаў усіх у сваёй кватэры на вуліцы Тамка. Не ведаю выпадку, калі б даследчык адмовіў некаму ў дапамозе. З майго пункту гледжання Юрый Туронак з'яўляецца не толькі дасканалым прыкладам таленавітага даследчыка складаных гістарычных праблем, але перадусім прыкладам чалавека вялікага сэрца. У размовах з ім ніколі не адчувалася дыстанцыі, якая звычайна ўласціва адносінам паміж вядомым даследчыкам і маладым навукоўцам. Ён заўсёды ставіўся з разуменнем і павагай да суразмоўцы, нават калі той быў нікому не вядомым маладзёнам, які знаходзіўся на пачатку свайго навуковага шляху. З перспектывы часу без ваганняў магу сказаць, што сп. Юрый быў не толькі маім Настаўнікам, але таксама старэйшым сябрам. Толькі сябры могуць быць такімі шчырымі і адданымі, так хвалявацца за мае паражэнні і ганарыцца маімі поспехамі, як гэта рабіў сп. Туронак.

З упэўненасцю сцвярджаю, што Туронак не проста пакінуў значны след у беларускай гістарычнай навуцы, але таксама стварыў нефармальную гістарыяграфічную школу. Яго мара аб тым, каб «заразіць» цікавасцю да малавядомых і супярэчлівых старонак гісторыі беларускага нацыянальнага руху, у значнай ступені здзейснілася. Я перакананы, гэты погляд падзяляюць многія. Маё пакаленне гісторыкаў выхавалася на яго працах. Не магу забыць, якой цікавасцю карысталася яго найбольш вядомая манаграфія *Беларусь пад нямецкай акупацыяй*. Яскрава сведчаць аб гэтым шматлікія перавыданні дадзенай кнігі як па-польску, так і па-беларуску. Будучы студэнтам гістфака БДУ ў другой палове 1990-х гг. мне і маім калегам даводзілася чакаць у чарзе, каб зрабіць адбітак гэтай манаграфіі. Не меншую сенсацыю выклікалі і наступныя публікацыі Туронка. Памятаю, як цешыліся айчынныя даследчыкі XX ст., калі даведаліся, што на пачатку 2000-х гг. пабачылі свет усе яго працы пад адной вокладкай у выглядзе зборніка *Мадэрная гісторыя Беларусі*. Гэта кніга дасюль з'яўляецца абавязковай для кожнага даследчыка, які займаецца грамадска-палітычнай ці рэлігійнай гісторыяй Беларусі мінулага стагоддзя.

Калі б сп. Туронак жыў, сёлета яму споўнілася б 95 гадоў. З гэтай нагоды ў Варшаве адбылася вечарына яго памяці, падчас якой сябры і сваякі дзяліліся сваімі ўспамінамі пра выбітнага беларуса. Цешыць тое, што памяць пра яго жыве сярод польскіх беларусаў і прыхільнікаў Беларусі. Шкада толькі, што на бацькаўшчыне імя даследчыка па-ранейшаму чакае належнага ўшанавання. Хочацца верыць, што прыйдзе час, калі яго імя будзе насіць нейкая беларуская навукова-даследчая ўстанова. Юрый Туронак гэтага заслугоўвае!

# УСПАМІНЫ ПРА ГІСТОРЫКА

***Наталля Гардзіенка***

Маё навучанне на гістарычным факультэце БДУ прыпала на час, калі імя Юрыя Туронка ўжо было вядомае амаль кожнаму прыстойнаму студэнту, а на яго кнігу *Беларусь пад нямецкай акупацыяй* палявалі, каб набыць ці хоць бы капіяваць. Нават я, якая была занураная ў беларускую гісторыю XVIII ст., чытала гэту працу і была ўражаная яе радыкальнай адрознасцю ад усяго таго, што дагэтуль пісалася пра вайну ў падручніках і тэкстах савецкіх гісторыкаў. У той час я нават не ўяўляла, што не проста пазнаёмлюся з аўтарам, але буду мець з ім бадай сяброўскія стасункі.

Асабіста мы пазнаёміліся перад каталіцкімі Калядамі 2001 г. Тады мой муж Алег Гардзіенка дапамагаў Юрыю Туронку ў выданьні працы *Беларуская кніга пад нямецкім кантролем*, і мы прыехалі ў Варшаву на некалькі дзён, каб паказаць аўтару макет будучай кнігі. У хаце сп. Юрыя і яго жонкі, сп. Зіны, мы пачуваліся надзвычай утульна. Нібыта не было амаль паўвекавой розніцы ва ўзросце. Не адчувалася і дыстанцыі «мэтр – неафіт», якая звычайна ўзнікала пры кантактах са старэйшымі гісторыкамі ў Беларусі. Сп. Юрый успрымаў нас бадай як роўных і цікавых суразмоўцаў, як калегаў. Ён быў просты ў размовах і звычках, абаяльны і інтэлігентны. Любіў накрываць на стол і жартаваў, што ў іншым жыцці пайшоў бы працаваць афіцыянтам. Сяброўскасць гэтага вядомага гісторыка здзівіла і захапіла мяне ад самага знаёмства. А яшчэ мяне ўразіла, з якой ахайнасцю Юрый Туронак працаваў з тэкстам сваёй кнігі, як дбаў пра мову і празрыстасць фармулёвак, пра дакладнасць звестак. Потым я неаднаразова мела магчымасць сутыкацца з гэтым у супрацы са сп. Юрыем, але тады, у першы раз, я была зачараваная.

Да падрыхтоўкі да выдання згаданай працы Юрыя Туронка я не мела дачынення, гэтым займаўся Алег Гардзіенка. У той час я жыла сваім XVIII стагоддзем і ўласнай дысертацыяй. Аднак постаць, стыль працы і стасункаў сп. Юрыя сапраўды зацікавілі мяне. Праз пару месяцаў я прыехала ў Варшаву на міжнародную школу для гісторыкаў амаль на пяць тыдняў і атрымала магчымасць бліжэй пазнаёміцца з мэтрам. З ініцыятывы газеты «Наша Ніва» наважылася прапанаваць Юрыю Туронку даць мне інтэрв'ю. Нагодай было выданне той самай манаграфіі *Беларуская кніга пад нямецкім кантролем*. Сп. Юрый з ахвотаю пагадзіўся пісьмова адказаць на пытанні і зрабіў гэта досыць аператыўна, так што ў часе майго побыту ў Варшаве тэкст быў не толькі падрыхтаваны, але і надрукаваны, а газета з інтэрв'ю была прывезена з Менску і ўручана аўтару.

У згаданай размове адным з пытанняў было тое, як ацэньваць дзейнасць беларускага нацыянальнага актыву ў часы нямецкай акупацыі, ці варта лічыць яе здрадай і калабарацыяй. Адказ на гэта пытанне быў важны асабіста для мяне,

я намацвала падставы для фармулявання ўласнай пазіцыі, таму меркаванне Юрыя Туронка было асабліва важным. Адказ гісторыка быў літаральна наступны:

*Калябарацыяй звычайна называюць супрацоўніцтва з ворагам на шкоду сваёй дзяржаве і народу. Пры такім разуменьні калябарацыя ня можа быць апраўданай, яна караецца як здрада радзіме. Асноўнай мэтай беларускіх нацыянальных дзеячаў было стварэнне прадпасылак для аднаўленьня ў спрыяльны момант ліквідаванай бальшавікамі сваёй дзяржаўнасці. Першачарговай задачай лічылася развіцьцё нацыянальнай самасвядомасці народа, арганізацыя беларускай адміністрацыі і войска. Такія памкненні былі непрымальныя для Савецкага Саюза, яны ігнараваліся ягонымі саюзнікамі ЗША і Вялікай Брытаніяй, а таксама польскім эміграцыйным урадам, зацікаўленым у аднаўленьні Рыжскай дамовы і падзелу Беларусі. Спробы нацыянальных дзеячаў аднавіць незалежную дзяржаву, якая павінна была забяспечыць інтарэсы беларускага народа ніяк нельга лічыць калябарацыяй у вышэйакрэсленым сэнсе. Іх адносіны да Нямеччыны можна трактаваць як нармальнае супрацоўніцтва ў галіне палітыкі. Такое супрацоўніцтва было ж прымальным для СССР у 1939–1941 гг., калі яно адпавядала інтарэсам саветаў.*

Гэтая ацэнка сапраўды паўплывала на мой прафесійны светапогляд у наступныя дзесяцігоддзі, калі асноўным фокусам уласных даследаванняў стала гісторыя беларускай эміграцыі пасля Другой сусветнай вайны. І я была ўдзячная Юрыю Туронку за тое, што ён даў падмурак маім уласным перакананням. Нездарма здымак гэтага гісторыка цягам дзесяцігоддзяў упрыгожваў нашую кніжную шафу.

У наступныя гады ў кожнае сваё наведванне Варшавы я абавязкова завітвала ў гасцінную кватэру Туронкаў на вуліцы Тамка, дзе ў таварыстве Туронкаў пачувалася як «свая». Мы абменьваліся меркаваннямі і кнігамі. Я прывозіла сп. Юрыю менскія кніжныя навінкі, ён падказваў і дарыў карысныя кнігі для маіх эміграцыязнаўчых працаў. Старэйшы калега шчыра цікавіўся маімі даследаваннямі, публікацыямі, у падрыхтоўцы якіх я брала ўдзел. Нашыя кантакты на некаторы час прыпыніла яго хвароба, якая моцна абмежавала яго працоўныя і камунікацыйныя магчымасці.

У 2015 г. кантакты, найперш лістоўныя, аднавіліся на новай глебе. Я пачала працаваць у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва як спецыялістка па фондах замежных беларусаў і прапанавала сп. Юрыю працягнуць распачатую яшчэ ад сярэдзіны 1980-х справу перадачы ім уласных дакументаў у гэтае сховішча. У адказ атрымала такі ліст:

*Варшава, 12.01.2015*

*Дарагая і паважаная Наталля!*

*Дзякую за святочныя віншаванні. Рад, што некалькігадовы перапынак кончыўся і кантакт з Вамі працягваецца. А так вельмі мне ён надакучыў, так за многа Вам і Алегу ўдзячны, аб чым варта было бы напісаць шырэй. Заўсёды жадаем Вам усяго найлепшага.*

*На вялікі жаль, маё становішча не папраўляецца, і пасля кнігі ўспамінаў нічога не напісаў. Пішу толькі двума пальцамі, таму і почырк такі няскладны. А колькі ўсяго можна было б напісаць… Учора памёр пісьменнік Konwicki, які сказаў, што яго творчыя магчымасці закончыліся з яго 70-годдзем, а мне ўжо 85! Застаецца парадкаваць свае паперы, у сувязі з чым Ваша прапанова вельмі да рэчы і на часе.*

*Ужо падрыхтаваў крыху матэрыялаў у Ваш архіў. Неяк іх вышлю і буду чакаць весткі, ці гэта тое, што трэба. Пазней будзе больш. А што рабіць са здымкамі – іх назбіралася нямала? І таксама з касетамі – маю іх некалькі?*

*Калісь, яшчэ за часоў Сурмач*[1]*, пасылаў у БДАМЛМ нямала розных публікацый. Даслалі мне даволі аб'ёмісты каталог-справаздачу атрыманых перадач. Пры нагодзе вышлю яго Вам.*

*Прывітанне Алегу і ўсяго найлепшага ўсім Вам і ад маёй Зіны таксама. Без яе я ўжо не існаваў бы.*

*Юры Туронак*

Гэтак аднавілася ліставанне, а таксама час ад часу асабістыя кантакты-адведзіны. З дзясятак лістоў за колькі гадоў, нягледзячы на складанасці з пісаннем, утрымлівалі і бягучыя нататкі пра парадкаванне і перадачу ў БДАМЛМ матэрыялаў са збораў гісторыка, і тлумачэнне наконт тых ці іншых архіўных рарытэтаў, і рэакцыі на перасланыя кніжныя навінкі. Прыкладам, у адным з наступным лістоў сп. Юрый пісаў: «Дзякую за кнігу *Рада БНР*, якая, несумненна, патрабавала нямала часу. Здаецца, гэта ўнікальная распрацоўка праблемы, якой не можа пахваліцца польская ці літоўская эміграцыя». Заўсёды было асабліва прыемна атрымоўваць водгукі на нашыя выданні ад такіх зацікаўленых чытачоў як Юрый Туронак. Гэта натхняла на далейшую працу.

У лістах сп. Юрый акуратна апісваў усё тое, што ён перадаваў у архіў. Звычайна, матэрыялы былі раскладзеныя па тэчках, кожная з якіх адмыслова падпісаная. Гэта сапраўдная мара архівіста. Сярод скіраванага на захаванне былі асабістыя дакументы і асабліва багатае і змястоўнае шматмоўнае (беларуская, расійская, польская, англійская і нямецкая мовы) ліставанне, машынапісы працаў, сабраныя матэрыялы для даследаванняў і не толькі. Былі цікавосткі, пра якія я адмыслова прасіла гісторыка распавесці. Прыкладам, у архіве даследчыка захаваліся некалькі выпускаў невядомага мне, відавочна, самвыдатаўскага перыёдыка пад назвай «Новая наша ніва» (1979). У адказ на мае пытанні пра гэты архіўны рарытэт гісторык напісаў:

---

[1] Ганна Сурмач (1947 г. нар.) – беларуская грамадская дзеячка, гісторык. З 1982 па 1993 г. узначальвала Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі (зараз Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва). Жыве ў ЗША, уваходзіць у склад прэзідыума Рады БНР (*заўвага рэд.*).

*Новую Н[ашу] Ніву прывёз з Мінска тады (у 1979) незнаёмы хлопец, якому, відаць, сказалі, маючы на ўвазе мае публікацыі, што мне можна было давяраць. Часопіс меўся быць антыкамуністычны, нелегальны. Хутка хлопец звязаўся з польскім і замежнымі ВНУ, не думаў вяртацца ў Беларусь і ўмаляў мяне знішчыць перададзены мне часопіс.*

*У тым жа канвэрце павінна яшчэ быць паштоўка незнаёмай варшавянкі, якая вярнулася з Мінска і перадала мне свае і маіх мінскіх сяброў рэкамендацыі не звязвацца з гэтым хлопцам з увагі на яго сувязі з вашымі органамі. Запахла правакацыяй. Яго прозвішча перадам толькі пры сустрэчы. Справа ў тым, што я пагадзіўся з яго просьбай знішчыць ННН і ён спакойна чакаў развалу камунізма. Але ННН перахавалася ў папцы, якая ў Вас.*

Гэтак насуперак абставінам захаваўся той малавядомы прыклад беларускага самвыдату, які яшчэ, напэўна, дачакаецца сваіх даследчыкаў. Таксама сярод папераў Юрыя Туронка была атрыманая з архіваў спецслужбаў копія данясення пра яго прыезд у Менск у 1950-х гг., падпісаная агентам Буранам, а таксама развагі гісторыка наконт асобы гэтага «таемнага добразычліўца». Гэтыя матэрыялы аўтар прасіў прытрымаць да пэўнага часу. Так яны і засталіся неапублікаваныя.

Часам у лістах Юрый Туронак прасіў удакладніць некаторыя звесткі пра аўтараў ці выданні, якія яму былі цікавыя. Нягледзячы на праблемы са здароўем, ён яшчэ намагаўся працаваць. У апошні год перад сыходам збіраў матэрыялы пра беларускага дзеяча Васіля Лукашыка. Пры апошнім спатканні ўвесну 2018 г. я перадала яму копіі справы гэтага дзеяча, на якую выпадкова натрапіла ў шведскім архіве. Жаданне інтэлектуальнай працы не знікала, хоць звесткі пра здароўе ад ліста да ліста рабіліся больш сумнымі. Апошняе пасланне прыйшло ў другой палове 2018 г., і ў ім Юрый Туронак «на ўсялякі выпадак» паведамляў пра апошнюю падрыхтаваную ім перадачу дакументаў для БДАМЛМ. Яна была прывезеная ў Менск ужо пасля сыходу гісторыка. У выніку нашага «архіўнага супрацоўніцтва» ў апошнія гады жыцця Юрыя Туронка ягоны фонд у менскім архіве ўзбагаціўся амаль на 2 тысячы дакументаў. Цяпер гэты архіў цалкам апрацаваны і даступны для навукоўцаў. Хочацца спадзявацца, што з часам ён будзе падставай для новага асэнсавання даробку даследчыка.

Мне асабіста знаёмства і рэгулярныя спатканні з Юрыем Туронкам далі магчымасць зведаць аднаго з тых нешматлікіх беларусаў, на якіх я намагалася і намагаюся арыентавацца ў сваёй прафесійнай працы і ў звычайным жыцці. Дзякуй Вам, сп. Юрый!

ISSN 2424-5216

# ДАКУМЕНТ
# DOCUMENT

## СПАДАРЫНІ З МУРУ

### *Канстанцыя Скірмунт і Юзэфа Кужанецкая ва ўспамінах Рамана Скірмунта*

Нарыс Рамана Скірмунта пра стрыечную сястру Канстанцыю Скірмунт (1851–1934) і яе сяброўку Юзэфу Кужанецкую працягвае традыцыйную для часопіса праблематыку, звязаную з краёвай ідэяй першай трэці XX ст. Праўда, у гэтым выпадку маем дакумент, аўтар якога ўжо развітаўся з тым фарматам краёвай канцэпцыі, у выпрацоўцы якога трыццаць год таму прымаў самы актыўны ўдзел. Тэрміны краёвасць або краёвая ідэя нават не фігуруюць у гэтым тэксце, хоць Р. Скірмунт шмат увагі адводзіць стаўленню сястры да нацыянальных працэсаў, а таксама яе крытычнаму стаўленню да палітыкі Польскай дзяржавы адносна нацыянальных меншасцяў. У намаляваным ім партрэце К. Скірмунт фігуруе пераважна як «аўтарка розных прац па гісторыі Літвы і шматлікіх разважанняў наконт мінулага і сучасных праблем усходніх земляў Рэчы Паспалітай Польскай», а таксама як актыўная змагарка супраць русіфікацыі ва ўсіх яе праявах, грамадская дзяячка і арганізатар дабрачынных акцый дзеля падтрымкі тайных польскіх школ і каталіцкага Касцёла і, нарэшце, як прыхільніца эмансіпацыі.

Нарыс быў апублікаваны ў дзевяці нумарах віленскай газеты „Słowo“ [1] (рэдактар Станіслаў Мацкевіч). Яго тэкст важны як крыніца для даследаванняў біяграфіі Канстанцыі Скірмунт, гісторыі змагання супольнасці літоўскіх і беларускіх палякаў супраць палітыкі русіфікацыі, а таксама гісторыі краёвай ідэі на этапе, калі ўжо не было шансаў захаваць адзінства Беларуска-Літоўскага краю і стварыць краёвую нацыю палітычнага кшталту. Ва ўмовах распаду Расійскай імперыі і з’яўлення ў былым *Северо-Западном крае* новых нацыянальных дзяржаў большасць колішніх

[1] R. Skirmuntt, *Panie z Muru*, „Słowo“. 1934, Nr 125, 10 maja; Nr 126, 11 maja; Nr 127, 12 maja; Nr 128, 13 maja; Nr 130, 15 maja; Nr 131, 16 maja; Nr 132, 17 maja; Nr 133, 18 maja; Nr 134, 19 maja.

краёўцаў далучыліся да працэсу адраджэння Польскай дзяржавы. Адным з іх быў Раман Скірмунт, які ў 1917–1918 гг. актыўна ўдзельнічаў у беларускім руху і змагаўся за суверэнітэт Беларускай Народнай Рэспублікі. У міжваенны час той ранейшы Беларуска-Літоўскі край, інтарэсы якога ён адстойваў, зменшыўся да памераў Палесся. Канстанцыя Скірмунт у адрозненне ад яго і большасці былых краёўцаў да канца жыцця захоўвала вернасць краёвай ідэі і ў міжваенны перыяд змагалася супраць польскай палітыкі асіміляцыі і абараняла працы нацыянальных меншасцяў.

На пачатку XX ст. яна была актыўным прадстаўніком краёвага лагера, хоць у адрозненне ад большасці краёўцаў да карэннага насельніцтва як асновы «нацыі літвінаў» адносіла толькі літоўцаў, палякаў і беларусаў, адмаўляючыся залічваць да іх габрэяў і рускіх. К. Скірмунт падтрымлівала літоўскі нацыянальны рух і мела кантакты з большасцю яго галоўных актывістаў. Аднначасова яна змагалася з радыкальнымі праявамі нацыяналізму ў літоўскім і польскім рухах. У 1910 г. разам з Марыянам Здзяхоўскім спрабавала прывезці літоўскую дэлегацыю на Грунвальдскія ўрачыстасці ў Кракаў. У 1911–1912 гг. удзельнічала ў кампаніі па стварэнні літоўскай кафедры ў Ягелонскім універсітэце. К. Скірмунт пратэставала супраць далучэння Віленшчыны да Польшчы і лічыла, што Вільня павінна быць літоўскай. У гэтым яна бачыла ключ да польска-літоўскага паразумення. Літоўцы вельмі станоўча ацэньвалі яе дзейнасць. Універсітэт Вітаўта Вялікага ў Коўне ўзнагародзіў яе тытулам ганаровага доктара.



*Канстанцыя Скірмунт.*
*З матэрыялаў інтэрнету*

Трэба згадаць гістарычныя працы Канстанцыі Скірмунт, прысвечаныя пачатку гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. У 1886 г. у Кракаве выйшла з друку яе першая кніга *Dzieje Litwy opowiedziane w zarysie*. Аўтарка даволі крытычна ацаніла дзейнасць караля Ягайлы і ўплывы Польскага каралеўства на Літву. Затое станоўчую ацэнку атрымала дзейнасць вялікага князя Вітаўта. У наступныя гады яна падрыхтавала яшчэ тры кнігі: *Z najstarszych czasów plemienia litewskiego* (Кракаў 1892; другое выданне мела назву *Nad Niemnem i nad Bałtykiem u zarania dziejów*, Варшава 1897), *Podania. Czasy przed-Mindogowe. Dzieje starożytnych Prus* (Варшава 1903) і *Mindog król Litwy* (Варшава 1909). Кнігі карысталіся папулярнасцю. Усе яны былі перакладзеныя на літоўскую мову, а першая з іх выкарыстоўвалася як падручнік у літоўскіх школах.

Канстанцыя Скірмунт таксама была вядомай публіцысткай. Найчасцей пісала пад псеўданімам *Futurus*. Яе тэксты, напісаныя ў рамках краёвай ідэалогіі, найчасцей друкаваліся на старонках такіх выданняў як „Kurier Litewski", „Przegląd Wileński" і „Kurier Wileński", „Vilniaus Żynios". У 1907 г. яна апублікавала падборку сваіх тэкстаў у зборніку *Kartki polityczne ze spraw krajowych poruszonych w prasie 1905–1907 r.* (Варшава). Пазней ужо пад сваім іменем выдала брашуру *Kartki krajowe w dalszym ciągu kartek politycznych. II. Reminiscencje z prasy wileńskiej 1906–1913* (Вільня 1913). У незалежнай Польскай дзяржаве ў 1925 г. выдала зборнік *Idea jagiellońska a polityka kresowa* (Вільня). Ягелонскую ідэю К. Скірмунт разумела перадусім як ідэю аб'яднання народаў былой Рэчы Паспалітай. Польшча, – пісала яна, – павінна адмовіцца ад нацыяналістычнага самахвальства, зразумець душу народаў, з якімі жыла спрадвеку, дапамагчы ім у іх сучасным развіцці і разам з імі будаваць на ўсходзе абарончы мур веры і цывілізацыі». К. Скірмунт сцвярджала, што Польшча нічога не дасягне, пакуль не ўбачыць замест крэсаў краіны і народы[1].

Нарыс Р. Скірмунта сведчыць пра яго супрацоўніцтва з сястрой, удзел у яе шматлікіх ініцыятывах. Таксама відавочна, што аўтар карыстаўся яе дзённікам або нататнікам. Магчыма пасля смерці сястры ў студзені 1934 г. яе архіў апынуўся ў Парэччы, і Р. Скірмунт мог ім карыстацца. Шматлікія цытаты з яе артыкулаў таксама сведчаць пра наяўнасць у бібліятэцы Парэцкага маёнтка асноўных публіцыстычных твораў Канстанцыі Скірмунт.

Разважаючы над духоўнымі вытокамі яе рознабаковай дзейнасці, аўтар нарыса адзначыў вялікі ўплыў на фарміраванне асобы сястры з боку маці. На яго думку, сэнсам жыцця Алены Скірмунт было служэнне бліжнім і Айчыне, пашырэнне ідэалаў хрысціянства, увасабленне пэўных ідэалаў у пластычным мастацтве. Пры гэтым сям'я ўспрымалася як пэўны абавязак. Таксама важнай постаццю ў жыцці Канстанцыі Скірмунт была яе сяброўка Юзэфа Кужанецкая, з якой яны разам жылі ў пінскім палацы Скірмунтаў, у г. зв. «Муры». Характарызуючы грамадскую дзейнасць жанчын, аўтар прыгадаў, што яе пачатак прыйшоўся на найбольш неспрыяльны для польскай супольнасці час. Мясцовае чынавенства называла гэтых дзвюх жанчын «праклятымі польскімі патрыёткамі». Пры гэтым у свядомасці Канстанцыі Скірмунт польскі патрыятызм заўсёды спалучаўся з замілаваннем да гістарычнай Літвы. Паводле слоў Скірмунта, у душы сястры гучаў «голас Літвы».

Да найбольш значных сюжэтаў нарыса належаць дзейнасць К. Скірмунт і Ю. Кужанецкай, звязаная з Каталіцкім таварыствам дабрачыннасці (1904);

[1] „Polska [...] musi wyrzec się nacjonalistycznego samouwielbienia, zrozumieć dusze narodów, z któremi przeżyła wieki, pomóc w ich nowożytnej rozwojowej pracy i razem z niemi budować na wschodzie wał obronny wiary i cywilizacji. [...] Polska nie dojdzie do niczego, póki nie zobaczy zamiast kresów – krajów i narodów" (*Idea jagiellońska a polityka kresowa*).

іх спроба паставіць жанчыну на чале пінскага Таварыства ўзаемнага крэдыту; удзел у арганізацыі тайнага польскамоўнага навучання ў часы Расійскай імперыі, а таксама падрыхтоўка выдання *Lementaru*[1] на мове палешукоў; выданне кніг К. Скірмунт па гісторыі Літвы і яе публіцыстыка. Шмат месца ў нарысе заняла гісторыя абароны ад знішчэння касцёла айцоў бенедыктынаў у Гарадзішчы пад Пінскам. Раман Скірмунт не прызнаўся, што сам меў непасрэднае дачыненне да гэтай барацьбы, якая нечакана для многіх скончылася поспехам. Галоўным чыннікам перамогі ён лічыў масавы характар руху абаронцаў касцёла. У выніку той быў адрамантаваны і аднавіў сваю дзейнасць у 1914 г. Падрабязны аповед пра гэтую гісторыю сведчыць пра важнасць праблематыкі веравызнання і лёсу каталіцкага Касцёла як для Канстанцыі Скірмунт, так і для аўтара нарыса. Тэма стасункаў «краёвай» публіцысткі і каталіцкага касцёла ўключала таксама іншыя сюжэты. Так, аўтар прыгадаў, што Канстанцыя Скірмунт разам з суперыёрам ордэна езуітаў прычынілася да адкрыцця ў Пінску польскай гімназіі ў 1919 г., падтрымлівала добрыя стасункі з беларускім ксяндзом Абрантовічам, арганізоўвала петыцыі ў падтрымку кандыдатуры Зыгмунта Лазінскага на пасаду Пінскага біскупа ды інш.

У пэўны момант, чытаючы гэты нарыс, злавіў сябе на жаданні паспрачацца з аўтарам. Па-першае, публіцыстыка К. Скірмунт сведчыць, што галоўнай тэмай яе дзейнасці заставалася краёвая ідэя. Як ужо адзначалася, яна была адной з найбольш яркіх дзеячак краёвасці на пачатку XX ст. і належала да нешматлікага асяродку аўтараў, што захавалі вернасць гэтай ідэі і ў міжваенны час. Пэўнага тлумачэння патрабавала вядомае прызнанне сястры: *Gente Lithuana, natione Lithuana*. Р. Скірмунт характарызаваў яе дзейнасць, цытаваў артыкулы і даводзіў чытачу, што прамоўленая ёю формула самаідэнтыфікацыі, а таксама нацыянальная (краёвая) пазіцыя месціцца ў рамках польскай гістарычнай і культурнай традыцыі. Паводле аўтара, галоўнай мэтай сястры было супрацьдзеянне русіфікацыі гістарычнай Літвы. Яна нібыта лічыла, што польская ідэя на землях былога Вялікага Княства Літоўскага не мела шансаў у змаганні з русіфікацыяй, таму выступала за абуджэнне ў народзе беларускай свядомасці і ўмацаванне літоўскай. «У тыя часы, – заўважыў аўтар, – гэта была слушная пазіцыя». І патлумачыў яе: «Знайсці адпаведную дарогу ў завірусе праблем гісторыі і сучаснасці было цяжкай задачай. Чым ёсць і як фармуецца нацыянальнае пачуццё? На яго ўплываюць розныя чыннікі. Перш за ўсё гэта выхаванне. Таксама важным падмуркам з'яўляецца паходжанне, традыцыя і асяродак, у якім жывем, які гэтае пачуццё ўзмацняе або знішчае. Інстынкт самазахавання нацыі патрабуе выразных рысаў і яскравых фарбаў. І гэтыя рысы відавочны ў нацый, якія жывуць згуртаванай масай і маюць уласную дзяржаву.

[1] Гл. А. Смалянчук, Раман Скірмунт (1868 – 1939). Жыццяпіс грамадзяніна Краю, Мінск 2018; Поліський буквар – «Русинський лементар», [online] https://zarichchia.blogspot.com/2015/11/blog-post_15.html, [дата доступу: 10.07.2024].

Але пэўныя адхіленні ад гэтага непазбежны, калі ў складзе дзяржавы знаходзяцца розныя плямёны з адметнымі народнымі мовамі, якія жывуць паасобку. Ці ж гэта добра, калі інтэлігенцыя, што мае агульнае паходжанне з людам, хоць апошні і прамаўляе інакш, адрываецца ад яго як ад іншай нацыі? Ці не лепей, захоўваючы адзінства, спрыяць ягонай культурнай эвалюцыі, якую на працягу стагоддзяў прайшла сама інтэлігенцыя?»

Апошні сказ у вышэйцытаваным фрагменце даводзіць, што мэтаю краёўцаў было пашырэнне польскасці сярод беларусаў і літоўцаў, іх паланізацыя ці самапаланізацыя. Зноў хочацца запярэчыць паважанаму аўтару. Факты падтрымкі К. Скірмунт беларускай культурніцкай дзейнасці дастаткова вядомыя, асабліва ў міжваенны перыяд. І відавочна, што за імі не мог хавацца намер паланізацыі. Для публіцысткі беларуская культура была каштоўнасцю сама па сабе. К. Скірмунт бачыла вялікі патэнцыял яе развіцця і лічыла важным чыннікам станаўлення нацыі. Згаданую вышэй формулу самаідэнтыфікацыі сястры аўтар тлумачыў пэўным непаразуменнем: «Канстанцыя Скірмунт любіла простыя адказы на складаныя пытанні. «Мае продкі, – казала яна, – былі літоўцамі („Litwinami“). Міцкевіч быў літоўцам („Litwinem“), мая маці была літоўкай („Litwinką“), і я такая ж!» Яна не магла зразумець, што значэнне гэтага слова ў мінулым адрознівалася ад сучаснага». Падобна, што ў гэтай сітуацыі ўжо сам Р. Скірмунт спрабаваў знайсці «просты» адказ на складанае пытанне. Гэтыя думкі ён выказаў у 1934 г., калі ў яго свядомасці ўжо адбылося перасэнсаванне мінулага і ўласнай дзейнасці, абумоўленае палітычнымі пераменамі.

Аўтар сцвярджаў, што менавіта «младалітвіны» перакрэслілі традыцыі адзінства Літвы і Польшчы, што іх дзейнасць супярэчыла духу творчасці Адама Міцкевіча і той жа Канстанцыі Скірмунт. Ён прыводзіў цытаты з яе артыкулаў, у якіх публіцыстка падкрэслівала значэнне польскай культуры, што паяднала народы ў адной дзяржаве, прызнавала іх роўнасць і вольнасць, несла людзям грамадзянскія правы і г. д. У яго трактоўцы літвінка К. Скірмунт заставалася дзеячкай выключна польскага руху. Адначасна аўтар нарыса прызнаваў, што публіцыстыка сястры, якая пагаджалася на перадачу Вільні літоўцам, «павялічвала капітал этычных рэсурсаў чалавечнасці». Скірмунт таксама адзначыў яе прыхільнасць да «ягелонскай ідэі» як ідэі польска-беларуска-літоўскай дзяржаўнасці на прынцыпах федэралізму. Ён сцвярджаў, што сястра верыла ў поспех літоўскага Адраджэння і непакоілася пра лёс Беларусі. Паводле аўтара нарыса, «яна меркавала, што ведае чалавека, здольнага да яе [Беларусі. – *А. С.* ] адбудовы і не магла зразумець ягоных сумневаў і стрыманасці». Падобна, што тут аўтар меў на ўвазе самога сябе. Сястра вельмі падтрымлівала яго дзейнасць у беларускім руху, і гэтая падтрымка сведчыла пра сур'ёзнасць беларускіх амбіцый Рамана Скірмунта.

Вынікі перамоў у Рызе перакрэслілі спадзевы на рэалізацыю «ягелонскай ідэі». Стаўленне Канстанцыі Скірмунт да Рыжскага міру 1921 г., на думку

аўтара нарыса, яскрава пацвердзіла яе любоў да Польшчы, якая «вырасла на глебе ўсходніх земляў». Адмова польскай дэлегацыі ад гэтых земляў, «зробленая легкадумна і з усмешкай пагарды», абурыла яе да глыбіні душы: «Яна не валодала землямі на страчаным усходзе. Прычыны яе гневу мелі ідэйны характар. Яна любіла белага Арла ў саюзе з Пагоняй. Арол, які адляцеў, адарваўся, кінуў яе [Пагоню. – *А. С.* ] як ахвяру гіенам, здрадзіў свайму высокаму гістарычнаму прызначэнню. Гэты ўчынак выклікаў жах. Яго ўзмацняла пачуццё, што большасць беларускага люду і добрая жменя [людзей – *А. С.* ] польскага паходжання траплялі пад уплыў сучаснага бальшавіцкага паганства з такім небяспечным змяшаннем паняццяў, якога свет не бачыў».

Скірмунт таксама прыгадаў яе спробы паўплываць на дзяржаўную палітыку ў адносінах да Літвы. Пасля Рыжскага міру яна была ўпэўнена ў неабходнасці нармалізацыі польска-літоўскіх адносін і спрабавала палепшыць іх стан, выкарыстоўваючы сваяцкія сувязі. К. Скірмунт неаднаразова звярталася да тагачаснага міністра замежных спраў і свайго стрыечнага брата Канстанціна Скірмунта з лістамі, у якіх абараняла літоўскую пазіцыю ў пытанні пра прыналежнасць Вільні. Аднак ён адстойваў іншае меркаванне. Нарэшце, яна не вытрымала: „Гэта не Скірмунт – літвін, гэта Твардоўскі з Познані!»[1] Пры гэтым, – як заўважыў аўтар, – яе голас грымеў як удар молата ў кузні, які суправаджаецца шыпеннем іскр, якія падаюць у ваду. У гэтым аповедзе сімпатыі аўтара разышліся. Ён захапляўся сястрой, якая захоўвала вернасць «ягелонскай ідэі», але таксама разумеў і падзяляў пазіцыю Канстанціна Скірмунта. Адносна гэтай пазіцыі ён заўважыў, што літоўскія памкненні апынуліся ў супярэчнасці з польскімі дзяржаўнымі інтарэсамі.

Нарыс «Спадарыні з Муру» фактычна з'яўляецца адзіным вядомым тэкстам Рамана Скірмунта міжваеннага часу, у якім закраналася «беларускае пытанне». Але і ў гэтым выпадку аўтар пазбягаў нават намёкаў на ўласнае дачыненне да беларускага руху. Ён выказваў пэўныя думкі толькі ў сувязі з дачыненнем Канстанцыі Скірмунт да беларускага Адраджэння і характару польска-беларускіх адносін. Так, напрыклад, ён прывёў меркаванне славутай публіцысткі наконт гістарычнай місіі Польшчы на ўсходзе, якая, між іншым, уключала абуджэнне сярод «беларускай масы» нацыянальнай самасвядомасці, падтрымку развіцця беларускай культуры і, нарэшце, пераўтварэнне беларусаў у саюзнікаў Польшчы. Паводле яе меркавання, поспех можа мець толькі палітыка, прасякнутая «духам Евангелія». Р. Скірмунт, які раней неаднаразова пісаў пра важнасць евангельскіх ісцін у палітычным жыцці, у гэтым тэксце крытычна выказаўся наконт эфектыўнасці падобнай палітыкі ў нацыянальным пытанні. «Гістарычны вопыт, – пісаў ён, – сведчыць, што нацыі добра памятаюць толькі крыўды, а пачуццё ўдзячнасці кароткачасовае. Яны не

[1] Маці Канстанціна Скірмунта была з сям'і Твардоўскіх.

любяць далгоў удзячнасці». Маючы на ўвазе геапалітычнае становішча беларускай зямлі, ён таксама заўважыў, што працэс кансалідацыі нацыі залежыць ад знешніх уплываў, ад моцы і тыпу бліжэйшых асяродкаў культуры. Магчыма, прыгадваючы ўласны вопыт беларускай палітычнай дзейнасці, Скірмунт таксама адзначыў адсутнасць адзінай формулы для вырашэння нацыянальнага пытання. Ён сцвярджаў, што ў розных сітуацыях магчымы розныя шляхі яго вырашэння.

Апавядаючы пра апошнія гады жыцця сястры, азмрочаныя цяжкай хваробай, глухатой і адзінотай, ён пісаў пра яе мужнасць у пакутах, настойлівасць у намерах, незалежнасць у думках і гарачае сэрца ў дачыненні да людзей. А вось адносна ідэй, якімі жыла і кіравалася Канстанцыя Скірмунт, аўтар нарыса працытаваў словы Фрыдрыха Ніцшэ пра аднаго з нямецкіх філосафаў: «Думкі яго састарэлі, але жыццё застанецца ўзорам на стагоддзі». Магчыма, гэты нарыс быў не толькі данінай памяці любімай сястры, славутай публіцысткі і колішняй аднадумцы па краёвым руху, але адначасна пэўным сімвалічным развітаннем Рамана Скірмунта з ідэямі краёвасці ў іх першапачатковым вымярэнні. У адрозненне ад Канстанцыі Скірмунт ён прыняў і пагадзіўся з існаваннем нацыянальных дзяржаў. І менавіта Польшча ўспрымалася ім як дзяржава, якая была найбліжэй да колішніх надзей прыхільнікаў краёвасці.

Нарыс публікуецца на польскай мове з захаваннем усіх асаблівасцяў арфаграфіі і пунктуацыі арыгінала. Праўкі датычылі толькі памылак друку.

Аляксандр Смалянчук

### *Panie z Muru*

Znicz – na wyżynach lub w gajach świętych ogień wiecznie na ołtarzu płonący jest dobrym obrazem duszy, rwącej się ku wyżynam doskonałości. Nasz glob ojczyzną jej nie jest. Anteusz w zatknięciu z ziemią moc czerpał, ona ją traci, ona tylko w krainie idei bytuje i nie ogląda jej oko ziemskie i nie dotknie jej dłoń ludzka. Tęsknić za nią, tkwiąc w nizinach, dążyć do niej czynnie – to los i piękne zadanie losu ludzkiego. Z ołtarza ku górze rwie płomień Znicza, lecz nie połączy się błyskawica z wyżynami Niebios, co z ziemi powstało. Naprawdę tchnie obraz człowieka, którego tylko w tęcze i barwy jasne stroimy. Kształt ludzki cień rzuca. Nie zaćmi cień własny duszy podniosłej.

Znicz, dusza ożywiona miłością Boga, bliźnich – niezłomnie do wyżyn doskonałości dążąca. Wszakże, gdy porównamy umysł, który wyrósł na glebie nauki chrześcijańskiej i trwał przez całe życie, pod każdym względem, ściśle w jej obrębie, do światła gorejącego przed ołtarzem Pańskim, porównanie będzie ściślejszym. Taka była umysłowość Konstancji Skirmuntt, autorki prac różnych o dziejach Litwy, jako też licznych rozważeń o dziejach przeszłości i zagadnieniach chwili bieżącej ziem wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej.

Kto w nią wpoił zasady, którym wierność niezłomną zachowała do końca życia? Matka, Helena za Skirmunttów, ongi właścicielka obszernych dóbr Kołodeńskich na Polesiu, postradanych za udział w powstaniu [18]63 roku, osoba obdarzona wielkimi zdolnościami artystycznymi i głębokim poczuciem obowiązków obywatelskich. Prawdziwa matrona polska? To pięknie określenie zastosowane do niej, nie byłoby odpowiednim. Wzór cnót domowych rozumiemy pod nim, widzimy w niej niewiasty pięknym obowiązkom dnia powszedniego oddaną, w zarządzie domu sprawną, w wychowaniu dzieci czujną, w dobroczynnościach niestrudzoną, a zdolną do godnego przedstawicielstwa domu na zewnątrz. Cnoty te pewno nie były jej obce. Wszakże inne nęcili zorze duszę niespokojna niepokojem apostolskim. Służyć bliźnim i ojczyźnie, pociągnąć społeczeństwo ku ideałom chrześcijańskim, – myśl piękną w sztuce plastycznej ucieleśniać – ku takiej prace rwał się jej umysł. Łamało się jej życie w rozterce poczucia obowiązku i przyrodzonej skłonności. Nurt życia, z którym wszyscy płyniemy w niepomyślne, ją porwał obroty. Zamęczcie, macierzyństwo, praca pani domu nic nie były dla niej marzeniem, jeno spełnieniem obowiązku. Z gorącym uczuciem rzuciła się w wir wypadków [18]63 roku, – przyprawiły jej one o klęsce, sterały jej zdrowie. Po upadku powstania od dzieci i domu oderwana powędrowała szlakiem wygnańczym w głąb Rosji.

Urodzona w roku 1851 w Kołodnem z ojca Kazimierza i matki Heleny za Skirmunttów dwunastoletnia Konstancja pozostała z resztą rodzeństwa pod opieką babki (ze stromy matki) Hortensji z Ordów Skirmunttowej. Dobra to była opiekunka i wychowawczynią, o niej w całej pełni zastosować można wyżej wspomniane określenie – prawdziwa matrona polska. Dla tych dwu osób zachowała Konstancja Skirmuntt szczególną pamięć, pełną czci i miłości do zgonu. Przede wszystkim dla matki. Pamięć matczynego serca wielkiego i umysłu niepospolitego były jej życia pochodnią. Stałe obcowanie z nią przerwały wypadki roku [18]63. Ów rok fatalny, jak w pięćdziesiąt lat później traktat ryski, katastrofalne miał skutki dla wielu domów ziemiańskich. W ich liczbie znalazła się rodzina Kołodeńska. Majątek został prawowitym właścicielom odebrany, starożytny dwór rozgrabiony. Oni sami rozproszeni po świecie, chwilowo prawie bez środków do życia.

Pod opieką babki wyjechała Konstancją z dwojgiem rodzeństwa do Kalisza, gdzie miała się kształcić w polskim pensjonacie prywatnym, posiadającym w owym czasie dobrą sławę. W kilka lat potem, po ukończeniu go, ta część rodziny Kołodeńskiej osiadła w Albrechtowie pod Pińskiem, majętności dziada Konstancji po ojcu. Nie do smaku przypadło jej to życie na wsi, ona roiła o studiach uniwersyteckich, do których dostęp był w owych czasach zamknięty. To upośledzenie praw rodzaju żeńskiego wywołało w młodocianym umyśle bunt niezmierny. Echa jego znaleźć można w notatkach z lat owych, w wierszy z roku 1869 powiada:

Im hardsza myśl – tym niewoli bliżej,
Im wyższe żądze – tym ku ziemi niżej
Człowiek człowieka przygniata,
Depcze mu jego promienne nadzieje,
Aż w sercu gorącym, gorąco zatleje
Wstręt do praw ludzkich i światu.

Wiersz ten pełny serdecznej goryczy, zaopatrzyła w ostatnich latach w dopisek *Żale osiemnastoletniej dziewczyny z powodu zamkniętych wtedy dla kobiet podwoi uniwersytetu*. Może w tych słowach zbyt szczupłe zakreśla granice wyrazom buntu, był to może krzyk duszy w ogóle źle dostosowanej do norm powszedniego życia. W każdym razie zagadnienie emancypacji kobiet rozpalało jej umysł w ciągu lat wielu. Gorliwym a wiernym jego bojownikiem pozostała do końca.

Tymczasem rodzice jej po manifeście Wierzbołowskim cesarza Aleksandra II zostali zwolnieni z wygnania w końcu lat sześćdziesiątych ubiegłego wieku, wszakże bez prawa powrotu do kraju rodzinnego. Osiedli wtedy w Krymie we własności ziemskiej pod Bałakławą, oddanej Kazimierzowi przez ojca jego. Przy słabym w owych czasach rozwoju kolejnictwa w Rosji podróż do Krymu była związana za stratą czasu, niewygodami i trudnościami, o jakich obecne młode pokolenie już pojęcia nie mają. Z odległości więcej tysiąca kilometrów, jaka dzieliła Polesie od Krymu, przebywało się setki pocztą konną. Drogi te, jak powiada znany w swym czasie pisarz rosyjski ks. Wiaziemski, miał w swej opiece Bóg rosyjski – mówi on:

Boh uchabow, Boh miatielej,
Boh prosiołocznych dorog,
Boh noczlegow biez postielej –
Wot on, wot on, ruskij Boh.

Młoda panna jeszcze niedoświadczona puszczając się sama w daleką drogę do rodziców, przebywała ją pomyślnie. Nad wiek poważnej, beztroską wesołość lat młodych była obcą, dojrzała przedwcześnie po nieszczęsnych przejściach [18]63 roku. Wszakże pogoda i moc ducha były jej zawsze właściwe, czerpała jej w bezgranicznej ufności w Opatrzność. Mocna była w wierze i zawody życia nigdy jej nie zachwiały.

Odwiedziny u rodziców służyli za wyższą szkołę dla jej umysłu, mistrzowska była dla niej niepospolita dusza matki. Panie czyniły konno daleki wycieczki w stepy i góry Krymskie. Mickiewicza sonety służyły im za przewodnika. Zawsze idealistycznie nastawiony umysł młodej panny spragniony był pouczeń starszej towarzyszki, zasobnej w doświadczenie życiowe. O służbie Bogu, ojczyźnie, społeczeństwu rozmawiały panie, płynąc śród stepowego suchego oceanu, pogrążonego w ciszę słoneczną, która wieszcza pobudziła do wykrzyku: „A taka cisza, że bym usłyszał głos z Litwy. Jedziemy, nikt nie woła“[1]. Wszakże i na wybrzeże Krymskim

[1] Аўтар працытаваў радкі з санета Адама Міцкевіча *Stepy Akermańskie* (1826). online https://genius.com/Adam-mickiewicz-stepy-akermanskie-annotated, [дата досту-

brzmiał w jej duszy głos Litwy. Matkę pobudzała do pracy rzeźbiarskiej. Niech odtworzy bohaterów z dawno minionej doby dziejów ojczystych. Owocem wymiany myśli między matką a córką były piękne popiersia Mendoga i Gedymina.

Konstancja Skirmuntt już w młodych latach nakreśliła sobie jako zadanie życia opracowanie dziejów Litwy. Odtąd w miarę sił i możności nie szczędzi trudu nad zbieraniem wiadomości potrzebnych do tej pracy, odwiedza w kraju i za granicą archiwa miast, które mogły jej dostarczyć źródłowych wiadomości z historii Litwy. Owocem badań wstępnych był podręcznik szkolny tych dziejów, napisany w latach siedemdziesiątych ubiegłego wieku[1].

Niedługo już miała czerpać natchnienie w obcowaniu z matką. Zdrowie jej nadwątlone w nieszczęsnych wypadkach wygnaniem, mocno podupadło. Zabiegi lekarskie nie pomagały, w roku 1874 zakończyła pełny ciężkich doświadczeń żywot w dalekim Amelie-les-bains pod Pirenejami, jeszcze w sile wieku. Młoda panna zapisuje po tej dotkliwej stracie w notatniku następujące myśli: „Gdy będziesz mogła umiłować cierpienie – będziesz miała w życiu tylko to, co umiłujesz. Nie wystarcza ci ludzi, człowieku! Boga ci trzeba, z Którego łona wyszedłeś jako wolny, a wrócisz jako miłość“. I po śmieci matki ciążyły troski pielęgniarskie na Konstancji Skirmuntt jeszcze przez lat wiele. Dawna jej wychowawczynią babka Hortensja potrzebowała opieki, będąc już w wieku podeszłym. Zabiegom około jej zdrowia i dobrobytu oddawała się wnuczka z całym poświęceniem.

Tu nastręcza się uwadze ciekawe zagadnienie o przeciwieństwie, jakie czasem powstaje między obowiązkiem powszednim a impetem twórczym myśli. Umysł wybitny bywa skłonny do poniewierania pierwszych. Poczucie siły ducha własnego przesłania mu widok na potrzeby i prawa bliźnich, łatwo je zapomina, depcze czasem bezwzględnie. I świat na to spogląda pobłażliwie, o ile owoc twórczości umysłowej wydatny bywa. Podobne wyrównanie poniewierki obowiązków wobec bliźnich zasługą własną jest rzadkim. Poniewierając je, człowiek łatwiej zdoła żyć życiem własnym, ale wynik jego prawdziwie wielkim być musi, jeśli ma uniknąć wyroki „winien“. Sztuka życia wymaga godzenia tych przeciwieństw, choć wierność obowiązkom czasem grobem myśli pięknej bywa.

Konstancja Skirmuntt w początkach lat osiemdziesiątych ub. wieku zamieszkała na stałe z babką swoja w jej dworku murowanym w śródmieściu Pińska. Jedyny to był w mieście gmach murowany pochodzący, obok kościołów starożytnych, z czasów przedrozbiorowych Rzeczypospolitej. Jako taki nazywano go krótko

ну: 20.05.2024]. (Аўтар працытаваў радкі з верша *Stepy Akermańskie* (1826) з цыкла *Крымскія санеты* Адама Міцкевіча) «Крымскія санеты» Міцкевіча – гэта шэдэўр сусветнай літаратуры, гэткі як «Гамлет» Шэкспіра, таму можна спасылку на анлайн не падаваць.

[1] У якасці падручніка выкарыстоўвалася кніга *Dzieje Litwy opowiedziane w zarysie* (Kraków 1886).

